Фундатары часопіса:
сумеснае беларуска–германскае прадпрыемства *BELWEST*,
кампанія "АРТ МАРК",
кампаніі "Лізінг–сэрвіс", "Віткамлізінг", "Прамлізінг", "Тэхналізінг",
акцыянернае таварыства "Рубон",
Моніка Банькоўскі–Цюліг (Швейцарыя),
Інстытут Дэмакратыі ва Усходняй Еўропе (IDEE) у Варшаве (Польшча)

ГІСТАРЫЧНЫ
НАВУКОВА-ПАПУЛЯРНЫ
ЧАСОПІС



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Беларусь, 210026 г.Віцебск, а/с №34
тэл.: (0212) 372-737



Часопіс выдаецца з 1995 года.
Усяго выйшла чатыры нумары.

# ЗМЕСТ

# Віцебскі сшытак



# Тэма нумара: Віцебшчына на мяжы XIX і XX стагоддзяў



Віцебск. Смаленская вуліца. Здымак пачатку XX ст.

*Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ*

# ГІСТОРЫК З ВІЦЕБСКА

## (жыццяпіс Аляксея Сапунова)

Аляксей Парфенавіч Сапуноў нарадзіўся 15 сакавіка 1852 г. у мястэчку Усвяты, якое паводле тагачаснага адміністрацыйнага дзялення належала да Суражскага павета Віцебскай губерні і з'яўлялася прыватнай уласнасцю сапраўднага стацкага саветніка і кавалера Аляксандра Міхайлавіча Пацёмкіна. Адно з самых старажытных паселішчаў Віцебскай губерні, вядомае па летапісных крыніцах з 1020 г., мястэчка маляўніча раскінулася на берагах возера Усвята і рэчкі Усвячы. Знаходзілася яно на паштовым тракце, які злучаў Віцебск з Вялікімі Лукамі. У 1772 г. імператрыцай Кацярынай II мястэчка было "пожаловано" генерал-пракурору князю Аляксандру Вяземскаму і з таго часу шмат разоў пераходзіла з рук у рукі саноўных расійскіх вяльможаў.

Найбольш распаўсюджаным заняткам мужчынскага насельніцтва Усвятаў быў старадаўні рачны промысел — сплаў вялікіх лодак з ільном, ільняным семем і хлебам, а таксама веснавы гон ракой Усвячай плытоў з бярвеннямі і дрывамі да Суража. Яшчэ з канца XVIII ст. ў мястэчку дзейнічала палатняная фабрыка генерал-маёршы Праскоўі Зубавай — прадпрыемства па тых часах досыць вялікае і заможнае (у 1823 г. на ім працавала 62 прыгонных селяніна) (1). Як адзначаў у сваіх нататках сярэдзіны XIX ст. генерал-маёр генеральнага штаба расійскай арміі Міхаіл Без-Карніловіч, ва Усвятах жылі таксама і гарбары, што займаліся вырабам скур, якія потым прадавалі падчас мясцовых кірмашоў (кірмашы ў мястэчку наладжваліся тры разы на год: на Купалле, Спаса і 26 верасня ў дзень Св.Івана) (2).

Аляксей Сапуноў нарадзіўся ў сям'і небагатага купца і сялянкі. "Бацька мой — купец 3-й гільдыі, маці — сялянка м.Усвяты Наталля Казлова. Продкі мае — і па бацьку, і па маці — сяляне і толькі дзед (па бацьку) выкупіўся на волю ў канцы 50-х гадоў. Выдатных людзей у родзе не было," — пісаў Сапуноў наконт свайго паходжання ў лісце, накіраваным ім у Пецярбург 25 лютага 1913 г. ў адказ на запыт вядомага гісторыка літаратуры Сямёна Афанасевіча Венгерава, укладальніка шматтомнага "Крытыка-біяграфічнага слоўніка рускіх пісьменнікаў і вучоных" (3). Магчыма, менавіта гэты запыт славутага расійскага бібліёграфа падштурхнуў віцебскага гісторыка больш шчыльна прыступіцца да вывучэння гісторыі свайго роду, да складання ўласнага радаводнага дрэва. Аднак, нягледзячы на ўсе намаганні, Аляксею Парфенавічу не ўдалося тады сабраць шмат звестак пра сваіх продкаў. Архіў Усвяцкай эканоміі, куды гісторык звярнуўся праз свайго родзіча жыхара Усвятаў Міхаіла Сапегіна і дзе спадзяваўся знайсці дакументы пра прыгонных сялянаў мястэчка, да пачатку XX ст. быў ужо амаль цалкам знішчаны некалькімі папярэднімі пажарамі (4). Таму аднавіць свой радавод "па мячы" Сапунову ўдалося толькі да асобы прадзеда Івана Сапунова, а "па кудзелі" і таго менш — дзеда Трафіма Казлова. Грунтуючыся на звестках сямейнага падання, Сапуноў у запісах свайго прыватнага архіва адзначыў, што сапраўднае прозвішча ягонага прадзеда з боку бацькі было не Сапуноў, а Палякоў, і што быў ён не карэнным насельнікам Усвятаў, а прыхаднем з Духаўшчыны — павятовага места суседняй Смаленскай губерні. Чалавек гэты ўвесь час соп, за што атрымаў ад сучаснікаў мянушку Сапун, якая пазней сталася прозвішчам ягоных нашчадкаў.

Іван Сапуноў (Палякоў) меў чатырох сыноў — Данілу, Уласа, Барыса і Фрола, больш падрабязныя звесткі пра якіх мне пашчасціла адшукаць у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў інвентары маёнтка Усвяты за 1846 г. (5). Маёнтак Усвяты апроч аднайменнага мястэчка ўключаў у сябе тады яшчэ 8 фальваркаў і 69 вёсак, і ў згаданы архіўны дакумент былі ўпісаны пасямейныя спісы прыгонных сялянаў памешчыка А.Пацёмкіна з паказаннем узросту кожнай асобы. Апрацоўка гэтай надзвычай важнай архіўнай крыніцы дала магчымасць значна пашырыць асабовы склад укладзенага Сапуновым уласнага радаводнага дрэва, а таксама ўдакладніць або вызначыць увогуле не вядомыя раней даты нараджэння асобных персаналіяў.

Хмяльніцкая Людміла Уладзіміраўна, дырэктар музея Марка Шагала. Займаецца вывучэннем біяграфіі і творчасці Марка Шагала, а таксама пытанняў гісторыі Віцебшчыны да першай чвэрці XX ст. Аўтар шэрагу артыкулаў у навуковых і навукова-папулярных выданнях.




Аднак дакумент гэты не толькі ліквідаваў старыя пытанні, але і прымусіў паставіць новыя. У спісе сялянаў мястэчка Усвяты знаходзім звесткі пра вялікія патрыярхальныя сем'і (што ўключалі ў свой склад і сем'і ўжо дарослых дзяцей) толькі трох сыноў Івана Сапунова: Уласа, Барыса ды Фрола. Дамы ўсіх трох братоў стаялі недалёка адзін ад аднаго на "вуліцы каля рынку" (6). Аднак ніякіх звестак пра чацвёртага брата – Данілу Іванавіча Сапунова, дзеда Аляксея Парфенавіча, інвентар Усвятаў не ўтрымлівае. Магчыма, Даніла Сапуноў не трапіў у спіс прыгонных сялянаў мястэчка таму, што ў той час ужо выкупіўся на волю. Праўда, гэтыя звесткі не надта стасуюцца з дадзенымі самога А.П.Сапунова ("дзед (...) выкупіўся на волю ў канцы 50-х гадоў"), аднак архіўныя дакументы – рэч упартая, і ў дадзеным выпадку, відаць, больш веры выпадае даць усё ж ім.

Як бы тое ні было, Даніла Сапуноў меў трох сыноў – Парфена, Васіля і Сцяпана – і дзвюх дачок – Наталлю і Марфу. Прафесійным заняткам гэтага пакалення роду стаў гарбарны промысел. У "Ведамасці заводам і фабрыкам Віцебскай губерні" за 1866 г. сустракаем звесткі пра гарбарныя заводы, адчыненыя ў мястэчку Усвяты купцамі 2-й гільдыі братамі Сапуновымі "Парфенціем і Васілём", а таксама селянінам-уласнікам Захарам Сапуновым (сынам Уласа) (7).

Прадпрыемства бацькі Аляксея Парфенавіча было невялікае (різлічанае ўсяго на двух рабочых) і размяшчалася, хутчэй за ўсё, у тым жа доме, дзе жыла сям'я. Уражанні дзяцінства пакінулі глыбокі след у душы Аляксея. Паводле ўспамінаў Мікалая Багародзкага, Сапуноў на працягу ўсяго свайго далейшага жыцця любіў пасыпаць дарожкі ў сваім садзе пахучай дубовай карой (якая, як вядома,




Радавод А.П.Сапунова "па мячы"

выкарыстоўваецца ў працэсе вырабу скур). Пры гэтым ён заўсёды казаў сваім гасцям, што гэты пах яму родны і надта для яго здаровы (8).

Пра сваю маці Наталлю Трафімаўну Сапуноў захаваў самыя цёплыя ўспаміны. Да канца жыцця ён зберагаў у сваім працоўным кабінеце два яе партрэты (9). Маці Аляксея Парфенавіча паходзіла з роду ўсвяцкіх сялянаў Казловых. Пра яе бацьку вядома няшмат. Трафім Ціханавіч Казлоў памёр, пакінуўшы пяцёра дзяцей, рана, у жніўні 1831 г. на 35-м годзе жыцця падчас першай у Расійскай імперыі эпідэміі халеры, якая яшчэ ў траўні месяцы пачала сваё смяротнае шэсце па паселішчах Віцебскай губерні. Жонка Трафіма Ксенія Сцяпанаўна памерла ў сакавіку 1866 г. ва ўзросце 66-ці гадоў (10).

Вялікай заможнасцю сям'я ўсвяцкага купца Парфена Сапунова не вылучалася. Аднак бацька будучага гісторыка, па трапнай адзнацы У.К.Стукаліча, быў чалавекам, які цаніў "карысць адукацыі" і змог даць сваім дзецям добрае выхаванне (11). Пра лёс дзвюх дачок Парфена Сапунова – Агаф'і і Феадоры – зараз не вядома нічога. Няшмат звестак захавалася і пра ягонага старэйшага сына Івана, які загінуў на Каўказе, трапіўшы ў правал пры ўзыходжанні на гару Машук (12). Затое малодшы сын Пётр (прынамсі, як і сярэдні Аляксей) атрымаў універсітэцкую адукацыю, пасля чаго пэўны час працаваў выкладчыкам геаграфіі і прыродазнаўства ў Віцебскай жаночай Марыінскай гімназіі (13).

Як адзначаў А.П.Сапуноў у сваім ужо згаданым лісце да С.А.Венгерава, пачатковую адукацыю ён атрымаў "ва ўсвяцкай сельскай школе". Хутчэй за ўсё, пад назовам "сельская школа" ён меў на ўвазе народнае вучылішча, што існавала ва Усвяце з 1845 г. Прыходскі святар навучаў у ім сялянскіх




Радавод А.П.Сапунова "па кудзелі"

хлопчыкаў пісьму і закону Божаму, іншыя ж навукі выкладаліся асобным настаўнікам, што ўтрымліваўся за кошт Усвяцкай эканоміі (14). Як успамінаў А.Сапуноў, навучанне ў вучылішчы "ішло ў царкоўным духу, аднак апроч закона Божага і чытання царкоўна-славянскіх кніг мы дастаткова добра ведалі і арыфметыку, якую талкова выкладаў дыякан" (15).

Пройдзе паўстагоддзя, і спецыяльным вызначэннем Правячага Сената, датаваным 31 сакавіка 1911 г., унук прыгонных сялянаў мястэчка Ўсвят Аляксей Сапуноў будзе прызнаны ў патомнай дваранскай годнасці з правам унясення ў трэцюю частку дваранскай радаводнай кнігі Віцебскай губерні (16). Талент і працавітасць вучонага, яго актыўная грамадская пазіцыя будуць належным чынам адзначаны. Аднак усё гэта прыйдзе значна пазней. А пакуль што, сабраўшы нешматлікія рэчы хлопчыка, бацька павёз Лёшу па навуку ў губернскі Віцебск, у мясцовую мужчынскую Аляксандраўскую гімназію. Ішоў 1862 год.

## У губернскай гімназіі

Віцебская мужчынская Аляксандраўская гімназія размяшчалася на той час у двухпавярховым мураваным будынку на рагу Саборнай вуліцы і Гімназічнага завулка (сучасныя вуліцы Крылова і Політэхнічная), побач з праваслаўным Успенскім саборам. На час заканчэння Лёшам Сапуновым першага класа гімназіі прыпалі рэвалюцыйныя падзеі, звязаныя з паўстаннем 1863 г. Па ўспамінах сучаснікаў, яшчэ на пачатку года польскае насельніцтва Віцебска пачало насіць жалобную вопратку, выкарыстоўваць у сваім убранні рэвалюцыйную сімволіку, спяваць у касцёлах і дамах гімны аб вызваленні Польшчы. 17 красавіка 1863 г. некалькі чалавек, у асноўным маладыя канцылярскія чыноўнікі і гімназісты, пакінулі горад і паспрабавалі далучыцца да паўстанцкіх фарміраванняў у губерні (17). Іх, праўда, хутка злавілі, аднак гэтая падзея паспрыяла ўвядзенню ў Віцебску ваеннага становішча. Пасля навядзення ўладамі адпаведнага парадку, 17 гімназістаў і 4 вучні каморніцка-таксатарскіх класаў пры гімназіі за ўдзел у рэвалюцыйных падзеях былі выключаны з ліку навучэнцаў. Дзеля таго, каб наперад перасцерагчы ад "злачынных захапленняў" маладое пакаленне і спрасціць нагляд за ім, па загаду галоўнага начальніка Паўночна-Заходняга краю, сумна вядомага М.М.Мураўёва-вешальніка ў

гімназіі былі ўведзены падпіскі і паручыцельствы для вучняў рыма-каталіцкага веравызнання. Той з гімназістаў, хто не мог прадставіць такой падпіскі, падлягаў выключэнню (18).

У рэвалюцыйных падзеях 1863 г. Лёша Сапуноў удзелу не прымаў. Прычынай таму было перш за ўсё ягонае малалецтва і строгае выхаванне ў набожнай праваслаўнай сям'і. Пазней ён успамінаў: "У гімназіі мы толькі вучыліся, аб палітычных і грамадскіх пытаннях мы ніякага ўяўлення не мелі; ні газет, ні часопісаў не чыталі, мы амаль што і не бачылі іх" (19).

Пры Віцебскай гімназіі існавалі спецыяльныя вучнёўскія кватэры, а таксама канвікт (інтэрнат) Гільзена-Шадурскіх. Аднак бацька палічыў за лепшае ўладкаваць Лёшу на жыхарства на прыватнай кватэры ў сваіх знаёмых. Падчас вучобы ў другім класе гімназіі хлопчык жыў у наглядчыка Струшы ў доме Ліксо на Заручаўскай вуліцы, у трэцім і чацвёртым класах – на кватэры ў бухгалтара Платона Іванавіча Лявіцкага (20).

Захаваўся наступны славесны партрэт Лёшы Сапунова, унесены ў пасведчанне вучня трэцяга класа гімназіі: "Гадоў 13, рост 2 аршыны, твар белы, валасы светла-русыя, бровы русыя, вочы блакітныя, нос і рот памяркоўныя, падбароддзе круглае" (21). Яскрава вызначаны этнічны тып беларуса – дададзім мы ад сябе.

"Мілы Лёша! (...) Старайся вучыцца і паводзь сябе як мага больш сціпла",– наказваў бацька сыну ў сваім лісце з мястэчка Усвят ад 12 верасня 1865 г. (22). І хлопчык, асабліва ў першыя гады вучобы, вельмі стараўся апраўдаць бацькаў давер. Дзякуючы выказаным поспехам у навуках, па выніках заканчэння другога класа гімназіі ён быў вызвалены ад іспытаў па ўсіх прадметах, апроч рускай і славянскай моваў (23). Толькі адну адзнаку "здавальняюча" – па алгебры, якая, відаць, пачала давацца з цяжкасцю – побач з паўсюднымі "добра" і "выдатна" меў хлопчык у пасведчанні за трэці клас (24). Аднак у чацвёртым класе поспехі Лёшы ў навуках значна пагоршыліся. Здавальняючыя адзнакі па выніках года ён атрымаў ужо не толькі па цыклу матэматычных навук (арыфметыка, алгебра, геаметрыя і трыганаметрыя), але і па французскай, нямецкай ды лацінскай мовах. Вызначэннем педагагічнага савета гімназіі Аляксея Сапунова вырашана было перавесці ў наступны клас толькі "по снисхождению" (25).

Пра некаторыя свае хлапечыя забавы і гімназічныя свавольствы А.Сапуноў узгадваў у больш позні час, чытаючы лекцыі студэнтам Віцебскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута і прадстаўляючы свае паводзіны ў якасці адмоўнага прыкладу. Так, ён прызнаваўся, што ў малодшых класах гімназіі неаднойчы разам з малалетнімі архірэйскімі пеўчымі лазіў у архіў Полацкай духоўнай кансісторыі, што знаходзіўся ў адным з пакояў архірэйскага дома, дзверы якога не зачыняліся на замок. Мэтаю гэтых набегаў было здабыццё паперы, з якой потым майстраваліся паветраныя змеі. "Папера з пячаткамі цанілася намі вышэй: мы таксама займаліся свайго роду сфрагістыкай. І колькі ж мы знішчылі гэтай паперы!"– са скрухай адзначаў навуковец (26). Сапуноў таксама ўзгадваў пра тое, што аналагічны лёс напаткаў і калекцыю мінералаў з 1500 прадметаў, якую ў 1814 г. Віцебскай гімназіі падараваў мясцовы купец Якаў Сімановіч. Экспанаты калекцыі, у ліку якіх былі і прылады працы каменнага веку, сабраныя галоўным чынам у Віцебскай губерні, былі размешчаны ў вітрынах, што стаялі ў калідорах гімназіі. Аднак вітрыны мелі дрэнныя зашчэпкі і асабліва малодшыя гімназісты бесперашкодна бралі з іх усё, што падабалася. Гімназічнае начальства на разрабаванне калекцыі асаблівай увагі не звяртала. У выніку ад яе, як пісаў Сапуноў, "застаўся, здаецца, адзін успамін" (27).

Навучанне ў гімназіі доўжылася сем гадоў. Падчас вучобы Аляксея ў шостым класе ў яго, відаць, памёр бацька, у выніку чаго сям'ю Сапуновых напаткалі цяжкасці матэрыяльнага характару. Пастановай педагагічнага савета ад 11 верасня 1867 г. Аляксею ў ліку іншых "недастатковых вучняў гімназіі" было вырашана аказаць дапамогу ў памеры 15 рублёў (28). Аднак матэрыяльнае становішча сям'і працягвала быць такім цяжкім, што ў належны тэрмін не былі ўнесены грошы за навучанне Аляксея. Таму педсавет на сваім пасяджэнні 25 лістапада 1867 г. пастанавіў выключыць з гімназіі "вучня VI класа Сапунова Аляксея" (29). Відаць, грошы на аплату за навучанне пазней усё ж знайшліся, бо Аляксей працягваў займацца ў губернскай гімназіі. Праўда, пастановамі педсавета на працягу канца 1867 – вясны 1869 гг. яму як "недастатковаму вучню" яшчэ не аднойчы выдаткоўваліся стыпендыі і грашовыя дапамогі ў памеры 15, 20 або 50 рублёў (30). З кастрычніка 1868 г. "вучню сёмага класа А.Сапунову" было дазволена займацца выкладаннем у прыватных дамах, што таксама давала магчымасць нейкім чынам вырашыць існуючыя матэрыяльныя праблемы (31).

Хто ж выкладаў у Віцебскай гімназіі падчас навучання ў ёй Аляксея Сапунова? Варта адзначыць, што ў гэты час тут працавалі вядомыя для сваёй эпохі асобы. З 1866 па 1867 гг. выкладчыкам малявання, чарчэння і чыстапісання ў гімназіі быў жывапісец Іван Трутнеў, які, з'ехаўшы з Віцебска, заснаваў у

Вільні вядомую малявальную школу (32). На працягу 1865 – 1873 гг. тут працаваў Павел Шэйн, знаны беларускі і рускі фалькларыст. Ён выкладаў гімназістам нямецкую мову, аднак ніякіх звестак пра ўзаемаадносіны Сапунова з вядомым этнографам мы не маем.

Што ж тычыцца гісторыі, то за гады навучання ў Віцебскай губернскай гімназіі Аляксей Сапуноў не набыў ні пэўных ведаў па гісторыі роднага краю, ні цікавасці да пытанняў мясцовай даўніны. Як ён прызнаваўся пазней, "ні ў гімназіі, ні ва ўніверсітэце не чуў я аб Беларусі, быццам яе і на свеце не было. У гімназіі я вучыўся па геаграфіі Абадоўскага, дзе замест Чарнагорыі значылася Мантэнегра, замест старажытнарускага Халма – польскі Хелм і г.д., і г.д. Па гісторыі мы добра ведалі ўсіх Людвікаў, усіх Генрыхаў, усіх Карлаў, аднак зусім нічога не ведалі не толькі аб Беларусі, аднак і ўвогуле аб славянах, а калі (...) у падручніку і траплялася нешта пра гэта, то заўсёды бязлітасна выкрэслівалася выкладчыкам як няважнае" (33).

Віцебскую гімназію Аляксей Сапуноў скончыў у 1869 г. Нягледзячы на не надта добрыя адзнакі ў атэстаце абітурыента, педагагічны савет на сваім пасяджэнні 23 чэрвеня 1869 г. вырашыў "мець на ўвазе" Сапунова "пры вызваленні скончыўшых курс вучняў за слуханне лекцый ва ўніверсітэце", а таксама хадайнічаць перад папячыцелем акругі аб наданні яму пасля паступлення ва ўніверсітэт "стыпендыі Віленскай навучальнай акругі, якая прызначаецца для выхаванцаў гімназій Паўночна-Заходняга краю" (34). Гэта азначала, што ў выпадку паспяховай здачы экзаменаў Аляксей Сапуноў мог стаць казённакоштным студэнтам.

## Універсітэцкія гады

У другой палове XIX ст. дзеці так званых разначынцаў – "людзей рознага чыну і звання", да ліку якіх належалі выхадцы з розных саслоўяў (купецтва, духавенства, мяшчанства, дробнага чынавенства і г.д.), ехалі па вышэйшую навуку пераважна ў больш дэмакратычны Маскоўскі універсітэт, на розных факультэтах якога працавалі і выкладчыкі-разначынцы. Найбольшай прыхільнасцю ў разначынцаў карысталіся медыцынскі, матэматычны і філалагічны факультэты. У моду пачала ўваходзіць рэальная адукацыя, а вывучэнне старажытных моваў (лацінскай і грэчаскай) лічылася ўжо з'явай рэтраграднай.

Нягледзячы на найноўшыя павевы часу, у 1869 г. Аляксей Сапуноў паехаў паступаць ва ўніверсітэт Пецярбургскі, дзе вучыліся пераважна дзеці дваранаў, і падаў дакументы на малапапулярны гісторыка-філалагічны факультэт. У сярэдзіне мінулага стагоддзя выпускнікі класічных гімназій мелі права паступаць ва ўніверсітэты без экзаменаў, але 18 ліпеня 1869 г., якраз напярэдадні паступлення Аляксея, выйшла "Высочайшее повеление" для ўсіх выпускнікоў гімназій праводзіць "праверачныя іспыты".

У канцы 1860-х гадоў ва ўсім Пецярбургскім універсітэце было не больш за 1000 студэнтаў, а на гісторыка-філалагічным факультэце на ўсіх курсах займалася ўсяго толькі каля 40 чалавек. Вядомы рускі гісторык Ф.І.Успенскі паступіў у гэтую навучальную ўстанову на два гады раней за Сапунова і ў сваіх нататках згадваў, што "аўдыторыю філолагаў (...) паўтара дзесятка слухачоў рабілі (...) ужо надзвычай поўнай" (35). Аднак Аляксея, відаць, мода на адукацыю цікавіла значна меней, чым сама адукацыя, набыць якую ён мог цяпер толькі дзякуючы стыпендыі, атрыманай ад міністэрства народнай асветы.

Паводле статута 1863 г. ў Пецярбургскім універсітэце гісторыка-філалагічны факультэт складаўся з 11 кафедраў. Сярод выкладчыкаў зоркай першай велічыні лічыўся Ізмаіл Іванавіч Срэзнеўскі, загадчык кафедры славяназнаўства, які апублікаваў шмат невядомых раней старажытнарускіх і старажытнаславянскіх пісьмовых помнікаў. І.Срэзнеўскі быў адным з заснавальнікаў пецярбургскай школы славістаў, галоўную ролю ў якой адыгралі ягоныя вучні У.І.Ламанскі, І.В.Ягіч і інш. Падчас вучобы Аляксея Сапунова ва ўніверсітэце У.І.Ламанскі стаў кіраўніком ягонай навуковай працы.

Пра гады вучобы ў Пецярбургу Сапуноў пазней успамінаў : "Ва ўніверсітэце разумовы кругагляд наш значна пашырыўся. Мы чыталі ўжо і газеты, і часопісы, нават розныя забароненыя выданні чыталі. На гісторыка-філалагічным факультэце, на які я паступіў, выдатных прафесараў – за выключэннем В.Р.Васілеўскага (36), К.М.Бястужава-Руміна (37), У.І.Ламанскага – не было.Вядомы славіст І.І.Срэзнеўскі быў ужо стары і на лекцыі прыходзіў толькі хвілінаў на дзесяць. Пра класікаў (...) і філосафаў лепш не казаць... У наш час можна было зусім вольна паслухаць лекцыі прафесараў і іншых факультэтаў. Карыстаючыся гэтым цудоўным звычаем, мы ахвотна наведвалі лекцыі праф. Градоўскага, Рэдкіна, Таганцава, Андрэеўскага, заходзілі нават у матэматычную аўдыторыю паслухаць знакамітага матэматыка П.Л.Чэбышава, заходзілі і да прыродазнаўцаў паслухаць Д.І.Мендзялеева. Лекцыі гэтых свяцілаў аказвалі на нас чаруючае ўражанне" (38).

Усё ж, думаецца, дзівіцца на адметны навуковы досвед і педагагічны талент Чэбышава ды Мендзялеева студэнту Аляксею Сапунову даводзілася не часта. Шмат часу займала падрыхтоўка да заняткаў, а на старэйшых курсах – і ўласная навуковая праца, якую ён праводзіў пад кіраўніцтвам Уладзіміра Іванавіча Ламанскага (1833-1914). Адчуваецца, што малады прафесар, які на той час ужо зрабіў сабе бліскучую кар'еру, аказаў значны ўплыў на свайго выхаванца, і таму пра яго варта сказаць асобна.

Прызнанне У.І.Ламанскага ў навуковым свеце адбылося вельмі рана. Ужо ў 1860 г. за сваю выпускную студэнцкую або, як тады яе называлі, магістэрскую працу "Пра славянаў у Малай Азіі, Афрыцы і ў Іспаніі" ён атрымаў палавінную Дзямідаўскую прэмію – адну з найбольш прэстыжных навуковых узнагарод, якую прысуджала Пецярбургская Акадэмія навук (39). Такому поспеху ў значнай ступені садзейнічалі тыя выказаныя ў працы ідэі, якія пазней зрабілі Ламанскага буйнейшым апалагетам славянафільства і панславізму. У 1862-1864 гг. ён зрабіў падарожжа па славянскіх землях, пасля чаго надрукаваў серыю нарысаў, у якіх выказаў думку пра адметнасць славянскага племя і ягонай асветы, а таксама неабходнасць аб'яднання ўсіх славянаў на падставе рускай мовы, якую лічыў агульнай для ўсяго славянства літаратурнай мовай. У 1865 г. ён атрымаў кафедру ў Пецярбургскім універсітэце і стаў настойліва даводзіць неабходнасць вывучэння славянаў у мэтах развіцця рускай самасвядомасці. Ягоныя паслядоўнікі ў навуцы стварылі цэлую школу славістаў і пазней кіравалі кафедрамі ў розных універсітэтах і духоўных акадэміях Расійскай імперыі (40).

Пад кіраўніцтвам У.І.Ламанскага Сапуноў заняўся складаннем каментарыяў да хронікі XI стагоддзя, напісанай Адамам Брэменскім, пра балтыйскіх славянаў. Гэта была дастаткова сур'ёзная праца, бо хроніка была напісана на лацінскай мове і студэнту Сапунову давялося карпатліва працаваць і над яе перакладам. Выказаўшы відавочныя поспехі, цалкам апрацаваць хроніку да часу заканчэння універсітэта Аляксей не паспеў. Перашкодзіла нечакана выявіўшаяся хвароба вачэй, якая пазней ператварылася ў памутненне крышталіка – катаракту.

У 1873 г. вучоба ў Пецярбургу была завершана. Аляксей Сапуноў разам са званнем кандыдата ўніверсітэта атрымаў ад прафесара Ламанскага прапанову застацца для працы на кафедры. Аднак хвароба вачэй і абавязак адпрацаваць міністэрскую стыпендыю прымушалі вяртацца ў Віцебск. У небагатай валізцы новаспечаны кандыдат адвозіў з Пецярбурга рукапіс хронікі Адама Брэменскага з заўвагамі свайго настаўніка, а ў галаве – запазычаныя ў яго ідэі, з якімі потым аказалася не так проста развітацца.



Аляксей Сапуноў – выкладчык Віцебскай гімназіі. Фота 1876 г. З фондаў ВАКМ.

## Першыя гады ў Віцебску

Стыпендыя міністэрства народнай асветы абавязвала Аляксея Сапунова адпрацаваць пэўны тэрмін у навучальных установах Віленскай навучальнай акругі. Займаючыся ва ўніверсітэце, ён разлічваў у далейшым стаць настаўнікам гісторыі, аднак лёс распарадзіўся інакш. На час вяртання Аляксея з Пецярбурга ў Віцебскай гімназіі, з якой ён быў накіраваны на вучобу ў сталіцу, была вакансія толькі выкладчыка старажытных моваў, якую ён і заняў згодна з распараджэннем папячыцеля Віленскай навучальнай акругі ад 31 жніўня 1873 г. з гадавым выпрабавальным тэрмінам. 10 ліпеня 1874 г. Пецярбургская навучальная акруга выдала Аляксею Сапунову пасведчанне за №4122 аб наданні яму звання настаўніка гімназіі з правам выкладаць гісторыю (41). Аднак на працягу ўсяго тэрміну сваёй гімназічнай службы – амаль цэлую чвэрць стагоддзя – Сапунову так і давялося прапрацаваць выкладчыкам класічных (лацінскай і грэцкай) моваў, толькі час ад часу чытаючы асобныя гадзіны па

гісторыі. Такая праца маральнага задавальнення не прыносіла. Ва ўжо цытаваным лісце С.А.Венгераву Сапуноў пісаў: "Залішне дадаваць, што я далёка не захапляўся класіцызмам (...) у тым выглядзе, як гэта патрабавалася рознымі прадпісаннямі. Прадпісвалася ж зусім не чытанне класікаў, не вывучэнне іх вялікіх твораў, не – патрабавалася выключна "веданне" граматыкі. Гэта неабходна было для перакладаў з рускай мовы на старажытныя, што і складала ўсю сутнасць школьнага класіцызму" (42).

Нягледзячы на першыя расчараванні, якія прынесла з сабой вяртанне ў губернскі Віцебск, даводзілася, тым не менш, падумаць пра ўладкаванне свайго жыцця. Прыблізна праз год працы ў гімназіі малады настаўнік узяў шлюб з Юліяй Садокаўнай Валковіч, дачкой колішняга гарадскога галавы. Юлія была крыху маладзейшая за Аляксея (яна нарадзілася 21 снежня 1855 г. ў Віцебску) (43) і паходзіла з заможнай купецкай сям'і. Яе дзед, купец 1-й гільдыі Рыгор Валковіч удала гандляваў з Рыгай тытунём. Чалавек ён быў набожны, і калі ў 1858 г. ў горадзе было прынята рашэннеператварыць зачынены яшчэ на пачатку 1830-х гадоў трынітарскі касцёл у праваслаўную Пакроўскую царкву, усе неабходныя на гэтую справу выдаткі ён прыняў на сябе (44). Ягоны сын, Садокій Рыгоравіч, выхаваны ў мясцовым базыльянскім вучылішчы, карыстаўся вялікай павагай сярод віцяблянаў, сведчаннем чаго было ягонае неаднаразовае абранне на грамадскую пасаду гарадскога галавы (45). Прозвішча Валковіч было досыць вядомае ў горадзе, нават адна з віцебскіх вуліц, размешчаная побач з Магілёўскай гандлёвай плошчай, насіла найменне Валковічава завулка.

Садокій Валковіч памёр у сярэдзіне 1860-х гадоў, пакінуўшы ў спадчыну жонцы Варвары Паўлаўне і чатыром дочкам (Ганне, Кацярыне, Агаф'і і Юліі) досыць багатую спадчыну ў выглядзе нерухомай маёмасці, якая знаходзілася ў Віцебску і Полацку. Так, у Віцебску жанчынам належалі 13 лавак з зямлёй на Смаленскай гандлёвай плошчы, 6 мураваных лавак побач з будынкам гарадской думы, а таксама двухпавярховы мураваны дом на рагу Афіцэрскай вуліцы і Біржавай плошчы (зараз вуліцы Суворава і Маякоўскага) (46). Ганна Валковіч выйшла замуж за надворнага саветніка Пейкера, Кацярына – за патомнага ганаровага грамадзяніна Гільберта, Агаф'я – за губернскага сакратара Іосіфа Канюшэўскага, Юлія – за калежскага асэсара Аляксея Сапунова, які на той час па сацыяльнай лесвіцы ўзняўся ўжо на восьмую прыступку "Табелі аб рангах", што давала яму магчымасць мець асабістае дваранства. З Юліяй Садокаўнай Валковіч Сапуноў пражыў многія гады ў згодзе і паразуменні, ад самага пачатку атрымаўшы з боку жонкі і яе сям'і істотную падтрымку ў сваіх навуковых пачынаннях.

Першыя гады працы ў Віцебскай гімназіі прымусілі Аляксея Сапунова расчаравацца не толькі ў сваёй настаўніцкай дзейнасці, але і ў якасці той падрыхтоўкі, якую ён атрымаў ва ўніверсітэце. Вялізны пласт гісторыі – гісторыі Беларусі, зямлі, на якой жыў ён і ягоныя продкі, паўстаў у свядомасці маладога настаўніка суцэльнай terra incognita. З крыўдай і смуткам Сапуноў пазней пісаў: "Ва ўніверсітэце па агульнай гісторыі цэлыя два гады слухалі мы праф. Баўэра аб Шмалькальдэнскай вайне ў Германіі, пра якую зараз у мяне, апроч пустога гуку, не засталося ў галаве нічога. Але пра Беларусь (...) не чуў я ні слова за ўсе чатыры гады знаходжання ва ўніверсітэце. Нават знакаміты акадэмік Васіль Рыгоравіч Васілеўскі, які на спецыяльных лекцыях па гісторыі прымушаў нас заглыбляцца ў гісторыю крыжовых паходаў па грэчаскіх і лацінскіх крыніцах, і ён пра Беларусь не сказаў нам ні слова. А між тым, ён, які напісаў цудоўную гісторыю г.Вільні, ён, канечне, мог паведаміць слухачам нямала каштоўных звестак пра Беларусь. Але гэтага не здарылася. Чаму не здарылася – не ведаю" (47).

Абуджэнне ў Сапунова цікавасці да гісторыі роднага краю не было выпадковым. Гэта была ўжо, хутчэй, адзнака часу, калі многія прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі пачалі вывучаць пытанні тутэйшай даўніны. Міхаіл Кусцінскі ўжо праводзіў на Віцебшчыне свае археалагічныя доследы помнікаў старажытнасці і пачаў збіраць так шырока вядомую пазней калекцыю. Ксенафонт Гаворскі таксама ўжо раскапаў курганы ля Полацка і пачаў друкаваць дакументы па гісторыі Беларусі ў перыядычных выданнях. Сакратар Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта Аляксей Семянтоўскі звярнуўся да вывучэння статыстыкі, этнаграфіі, гісторыі і археалогіі краю. Этнаграфічнымі доследамі зацікавіўся настаўнік Віцебскай гімназіі Павел Шэйн, да якога пазней далучыліся Мікалай Нікіфароўскі і Еўдакім Раманаў. З 1871 г. Аляксандр Сазонаў, архіварыус Віцебскага цэнтральнага архіва старажытных актаў, пачаў выдаваць дакументы свайго архіва ў зборніках пад агульнай назвай "Гісторыка-юрыдычныя матэрыялы". Як бачым, на цаліку мясцовай гісторыі пакрысе пачалі з'яўляцца аратыя.

Да сур'ёзных самастойных заняткаў Аляксей Сапуноў прыступіўся пасля таго, як на выпадковым факце пераканаўся, што ўніверсітэт не даў яму не толькі дастатковых ведаў, але нават і належнай фармальнай падрыхтоўкі. Малады настаўнік быў уведзены ў сорам, калі не змог прачытаць старадаўні дакумент,

напісаны скорапісам, які прынёс таварыш па службе ў настаўніцкі пакой гімназіі. Відаць, гэты выпадак стаўся своеасаблівым Рубіконам, перайшоўшы які Аляксей ужо не мог задаволіцца існуючым станам рэчаў і ўзроўнем сваёй адукацыі.

"Калі я пачаў заняткі па гісторыі роднага краю, то па-просту апынуўся ў безвыходным становішчы: з чаго пачаць? Якія ж крыніцы? Якія дапаможнікі? І нямала часу згублена было дарэмна ў пошуках, так бы мовіць, навобмацак таго, што было патрэбна",– узгадваў Сапуноў крыху пазней (48). На шчасце, адказ на пытанне "З чаго пачаць?" малады настаўнік знайшоў правільны – пачынаць трэба было з вывучэння дакументаў-першакрыніц. Тут нельга ўстрымацца ад цытавання вельмі вобразнага параўнання, якое зрабіў у сувязі з гэтым паплечнік Сапунова Мікалай Багародзкі. Ён пісаў, што малады даследчык "пачаў заняткі з чарнавое працы, з збірання й разбору матар'ялаў; лічачы, што не падрыхтаваўшы бярвенняў, нечага рабіць мастаку й вучонаму архітэктару, калі няма матар'ялу, да чаго яны маглі б прылажыць свае веды, дослед і штукарства" (49).

Так быў пакладзены пачатак руплівому збіранню дакументаў па гісторыі Віцебшчыны, якія выяўляліся падчас бясконцых паездак у вольны ад службы ў гімназіі час у архіўныя ды бібліятэчныя сховішчы Масквы, Пецярбурга, Вільні, разбору архіўных папер розных казённых устаноў Віцебска. Так пачалося фарміраванне ўласнай бібліятэкі, а таксама перапіска з архіварыусамі, навукоўцамі ці проста прыхільнымі людзьмі, якіх можна было папрасіць зняць копію з патрэбнага архіўнага дакумента тады, калі ў самога даследчыка не было магчымасці ад'ехаць з Віцебска. Так пакрысе пачалі закладвацца цаглінкі ў падмурак яго будучай славы ў навуковым свеце і адначасова незадаволенасці гэтай дзейнасцю чынавенства ад асветы, якое такі занятак лічыла для настаўніка "посторонним" і расцэньвала не інакш, як "крадзеж казённага часу", называючы самога гісторыка небяспечным для таго часу словам "сепаратыст" (50).

Аднак усе лаўры і церні яшчэ чакаюць даследчыка наперадзе. Пакуль жа Аляксей Сапуноў, аглядаючы стосы ўласных рукапісаў з копіямі архіўных скарбаў, якія па аркушы год за годам збіраюцца на пісьмовым стале, думае, што ж можна зрабіць з усім гэтым.

## "Віцебская даўніна"

Першая публікацыя – нарыс пад назвай "Гістарычныя звесткі пра віцебскі замак" – у Сапунова з'явілася ў "Памятнай кніжцы Віцебскай губерні на 1881 год". Думку пра выданне асобнай кнігі па гісторыі Віцебска, якая складалася б з надрукаваных і невядомых раней дакументаў, Аляксею Сапунову падаў мясцовы ўрач Карл Бергнер, з якім гісторык быў, відаць, у прыязных сяброўскіх стасунках. Думка гэтая як мага лепш адпавядала памкненням самога гісторыка – прадставіць максімальную колькасць дакладных фактаў з гісторыі горада, зводзячы да мінімуму іх аўтарскую інтэрпрэтацыю.

Падбор дакументаў для свайго першага археаграфічнага зборніка Сапуноў пачаў з росшукаў у архівах мясцовых дзяржаўных устаноў. І пошук, трэба сказаць, прынёс плён. У архіве гарадской думы гісторык знайшоў копію "Віцебскага мыта" за 1605 г., а таксама "Перадатачны інвентар" горада 1667 г.; у Віцебскай губернскай чарцёжнай – "Ведамасць аб дваровых пляцах жыхароў Віцебска" за 1797 г.; у архіве крымінальнага і грамадзянскага суда – "Інвентар маёмасці архіепіскапіі Полацкай" 1618 г. Аднак сапраўдным скарбам для гісторыка сталася так званая "Кніга прывілеяў г.Віцебска", якая ў той час захоўвалася ў бібліятэцы губернскага статыстычнага камітэта.

Гісторыя з'яўлення гэтай кнігі была пэўным чынам звязана з тымі традыцыямі вольнасці, якімі на працягу амаль двух стагоддзяў карысталіся жыхары магдэбургскага Віцебска. Ужо прызвычаіўшыся атрымліваць ад чарговага манарха Рэчы Паспалітай канфірмацыйныя (пацвярджальныя) прывілеі на свае правы, віцябляне непрадбачліва перанеслі свае спадзяванні ў дачыненні да гэтай старадаўняй традыцыі і на спадчыннікаў расійскага трона. Страціўшы ў часы Кацярыны II магістрат як орган гарадскога самакіравання і не паспеўшы атрымаць сатысфакцыі ў хуткаплыннае цараванне Паўла І, віцебскія месцічы ўсклалі свае надзеі на "добрага імператара" Аляксандра І. У 1803 г. праз пасрэдніцтва віцебскага пракурора Манькоўскага ўсе арыгіналы старадаўніх грамат і прывілеяў былі адасланы ў Пецярбург міністру юстыцыі разам з хадайніцтвам аб захаванні за гараджанамі ўсіх тых правоў, што былі нададзены ім польскімі каралямі. Зараз невядома, калі віцябляне зразумелі ўсю наіўнасць такога кроку і бессэнсоўнасць спадзяванняў на добрую волю тырана ў краіне, якая не мела ні ў мінулым, ні ў сучасным дэмакратычных традыцый. Адзіным вынікам гэтага ўчынку сталася страта каштоўных для гісторыі горада дакументаў, якія згінулі недзе ў сталічных архівах. У Віцебску засталіся толькі копіі, што

былі зроблены "па распараджэнні Віцебскага магістрата і ратушы" ў 1733 г. і перапісаны Сямёнам Зямковічам у асобную кніжку, якая атрымала назву "Кнігі прывілеяў г.Віцебска" і захоўвалася спачатку ў гарадской думе, а з 1860-х гадоў – у бібліятэцы статкамітэта. Існаваў і яшчэ адзін спіс старадаўніх гарадскіх грамат, які быў зроблены ў 1758 г. Міхаілам Слаўскім. Яго ў сваю чаргу скапіраваў у тым жа стагоддзі віцебскі мешчанін Аверка. Пазней так атрымалася, што спіс Слаўскага быў страчаны, а рукапіс Аверкі пад назвай "Хроніка г.Віцебска" захаваўся і ў часы Сапунова знаходзіўся ў зборы Віленскай публічнай бібліятэкі (51).

Менавіта "Хроніка" Аверкі і "Кніга прывілеяў г.Віцебска" сталіся для Сапунова асноўнымі крыніцамі для публікацыі дакументаў у першым томе зборніка, дасціпна названага аўтарам "Віцебская даўніна". Гісторыка-літаратурныя перыёдыкі з аналагічнай назвай ужо існавалі на той час у розных гарадах Расійскай імперыі, але на Беларусі Сапуноў ужыў яе першым. Гэта ўжо на пачатку XX стагоддзя Еўдакім Раманаў пачаў выдаваць "Магілёўскую даўніну", Мінская царкоўна-археалагічная камісія – "Мінскую даўніну", Яўстафій Арлоўскі – "Гродзенскую даўніну". Відаць па ўсім, што гэтая назва стала "моднай", прыйшоўшыся даспадобы як чытачам, так і выдаўцам.

Для паўнаты ўяўлення пра віцебскую гісторыю Сапуноў палічыў неабходным побач з упершыню апублікаванымі ім у кнізе дакументамі змясціць і тыя, што ўжо былі надрукаваны раней. Гэты крок можна лічыць цалкам апраўданым, бо ўжо нават у часы Сапунова многія выданні, якімі ён карыстаўся, былі бібліяграфічнай рэдкасцю. Як вядома, час надае значнасць рэчам, прычым, часцей нават большую за тую, што яны мелі сярод сваіх сучаснікаў.

Першы том "Віцебскай даўніны" выйшаў з друку ў 1883 г. "Отцы и братья! Оже ся где буду описал, или переписал, или недописал; чтите, исправливая Бога дела, а не кляните, занеже книги ветшаны, а ум молод недошел",– гэтыя словы Аляксей Сапуноў палічыў неабходным паставіць эпіграфам да сваёй кніжкі. Як бачым, малады навуковец, якому ішоў тады 32-гі год, з душэўным хваляваннем ставіўся да сваёй першай сур'ёзнай працы, якую ён прадстаўляў на суд шырокага чытача і навуковай грамадскасці.

Пераважную большасць матэрыялаў тома складалі тэксты дакументаў, сабраныя ў тэматычныя рубрыкі ("Граматы, прывілеі і інш.", "Віцебскае мыта", "Інвентары", "Летапіс г.Віцебска", дакументы, якія тычацца жыцця і дзейнасці Полацкага ўніяцкага архіепіскапа Язафата Кунцэвіча, гісторыі Віцебскага Маркава манастыра, яўрэйскага насельніцтва Віцебска, вайны 1812 г. і інш.). Разгалінаваная структура працы, мэтай якой было як мага больш поўнае асвятленне віцебскай гісторыі, дазволіла ўвесці асобны раздзел з вытрымкамі тэкстаў з рускіх і літоўскіх летапісаў пра Віцебск, зрабіць пералік артыкулаў з "Поўнага збору законаў Расійскай імперыі", якія тычацца горада і губерні, змясціць радавод полацкіх князёў, спісы віцебскіх князёў, кашталянаў, ваяводаў, настаяцеляў манастыроў і інш., рознага кшталту статыстычныя табліцы і вялікія каментарыі з цытатамі з прац рускіх і польскіх гісторыкаў. Апошні XII-ты раздзел кнігі складаў выйшаўшы з-пад пяра Сапунова "Гісторыка-статыстычны нарыс г.Віцебска", да якога ў прадмове да ўсяго тома аўтар заклікаў ставіцца "толькі як да заўваг, некалькі прыведзеных у сістэму". "Больш грунтоўная гісторыя Віцебска выйдзе пазней",– шчыра абяцаў ён чытачу (52). Забягаючы наперад, скажам, што напісаўшы потым дзесяткі прац па гісторыі горада, Сапуноў так ніколі і не выдаў асобнай "грунтоўнай гісторыі Віцебска". У 1920-х гадах ён падрыхтаваў да друку рукапіс гэтай працы, аднак надрукаваць яго ўжо не змог.

Асаблівай адметнасцю першага тома "Віцебскай даўніны" сталася вялікая колькасць уведзеных аўтарам у тэкст ілюстрацый – факсіміле асобных дакументаў, пячатак, гравіраваныя партрэты гістарычных асобаў і помнікаў архітэктуры, планы, карты, выкананыя нават у колеры геральдычныя выявы і інш. Такі падыход сведчыў пра асаблівае замілаванне аўтара тэмай, комплексны падыход да яе асвятлення і – непамерныя друкарскія выдаткі, якія цалкам спусташалі кішэню выдаўца. Друкаваў Сапуноў сваю "Даўніну" ў Віцебску. На адной са старонак тома знаходзім згадку аб тым, што "ўсе літаграфскія і амаль усе ксілаграфічныя працы выкананы ў Віцебску" (53). Пераплягалася кніга, відаць, у розных месцах. На форзацы аднаго з экземпляраў мне трапілася аднойчы этыкетка з наступным надпісам: "Переплетное заведение А.Берсона в Смоленске". Каштаваў адзін том тры рублі і, зразумела, што зрабіць выданне ўсяго накладу на гадавое жалаванне настаўніка гімназіі ў 2020 рублёў (54) было досыць складана. Фінансавую падтрымку на выданне тома Аляксей Сапуноў атрымаў ад аднаго чалавека – сваёй цешчы Варвары Паўлаўны Валковіч, словы шчырай падзякі якой ён выказаў у прадмове да кнігі.

Першы том "Віцебскай даўніны" напаткаў шумны поспех. Выданне, якое выйшла ў правінцыі, было заўважана ў сталіцы і буйных навуковых цэнтрах імперыі. Водгукі на яго змясцілі вядомыя ў той час

газеты і часопісы "Новое время", "Гражданин", "Киевская старина", "Санкт-Петербургские ведомости", "Русская старина", "Московские ведомости", "Правительственный вестник", "Русь", "Kraj", "Wiadomosci Bibliograficzne Warszawskie". Не менш важным для Сапунова было і тое, што вучоны камітэт міністэрства народнай асветы рэкамендаваў кнігу для набыцця ў фундаментальныя бібліятэкі сярэдніх навучальных устаноў Віленскай і Варшаўскай навучальных акруг, а таксама "для выдачы ў якасці ўзнагароды вучням Віцебскай мужчынскай гімназіі і навучэнкам жаночай". Гэта азначала з'яўленне не толькі вельмі патрэбнай для аўтара магчымасці распаўсюджвання часткі накладу, але і афіцыйнае прызнанне карыснасці ягонай дзейнасці, і больш прыязнае стаўленне да заняткаў аўтара чынавенства ад асветы. Змены не прымусілі доўга сябе чакаць. Частка грошай на выданне двух наступных тамоў "Даўніны" (адпаведна 200 і 300 рублёў) была ўжо выдаткавана з казённых сумаў папячыцелем Віленскай навучальнай акругі М.А.Сергіеўскім, а выйшлі новыя кніжкі пад патранатам Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта, старшынёй якога з'яўляўся віцебскі губернатар князь В.М.Даўгарукаў.

Пасля выхаду першага тома "Віцебскай даўніны" ў Сапунова склаўся план выдання ўсёй серыі. Абапіраючыся на ўжо зробленыя ў архівах напрацоўкі і свой досвед пра тое, адкуль і што яшчэ можна ўзяць, ён распланаваў змест наступных пяці тамоў кнігі. Другі том даследчык меркаваў прысвяціць гісторыі Полацка; трэці – Веліжа, Неўля, Дынабурга і інш. прыкметных у гістарычных адносінах мясцін Віцебскай губерні; чацвёрты – гісторыі войнаў Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ і Рэччу Паспалітай у XVI-XVII стст.; пяты – падзеі "ўз'яднання" ўніятаў з праваслаўнай царквой у 1839 г. Зрэшты, у апошнім, шостым, томе гісторык планаваў змясціць уласны нарыс пад назваю "Гістарычныя лёсы Віцебскай губерні", а таксама ўдакладненні, дапаўненні і ўказальнікі да папярэдніх пяці тамоў. Такі быў план, выконваць які давялося не надта паслядоўна і які Бог не прывёў давесці да канца.

Чарговая кніга "Віцебскай даўніны" выйшла з друку ў 1885 г. Гэта быў том пад нумарам IV, які нягледзячы на адсутнасць двух папярэдніх аўтар палічыў магчымым пусціць у свет. Па сутнасці, нумарацыя тамоў істотнага значэння не мела, бо сэнсава кнігі былі не звязаны як з папярэднімі, так і з наступнымі выпускамі. Том паўстаў нечакана для самога аўтара, бо, як пісаў Сапуноў у прадмове да яго, "выпадкова было сабрана дастаткова многа дакументаў, якія ахоплівалі ўсяго толькі 30-гадовы перыяд часу (17 гадоў царавання Іаана Грознага і 13 гадоў царавання Аляксея Міхайлавіча)". Не жадаючы расцярушваць па асобных тамах дакументы, што тычыліся адной тэмы, Сапуноў палічыў за лепшае надрукаваць іх пад адной вокладкай.

Больш за палову дакументаў IV тома "Віцебскай даўніны" складалі матэрыялы, знойдзеныя Сапуновым у Маскоўскім галоўным архіве міністэрства замежных спраў, якія раней нідзе не друкаваліся. Доступ да дакументаў архіва Аляксей змог атрымаць дзякуючы садзейнічанню акадэміка Арыста Куніка, вядомага спецыяліста ў галіне руска-скандынаўскіх і руска-візантыйскіх адносін. У прадмове да IV тома малады навуковец выказваў шкадаванне, што ні час, ні сродкі не дазволілі яму надрукаваць усе тыя дакументы па азначанай тэме, якія ён знайшоў у архіве.

Структура новага тома "Віцебскай даўніны", які складаўся з дзвюх частак, грунтавалася на ранейшым прынцыпе – усе дакументы былі сабраны ў асобныя раздзелы і забяспечаны каментарыямі. Асаблівую ўвагу звяртае на сябе раздзел пад назваю "Сказанні іншаземцаў-сучаснікаў", які ёсць і ў першай, і ў другой частках і па памеры займае амаль чвэрць усёй кнігі. Каб зрабіць даступнымі для чытача тэксты, напісаныя ў арыгінале на нямецкай, лацінскай і польскай мовах, Сапуноў зрабіў іх пераклады на рускую. І сам жа звяртаў увагу на недасканаласць перакладаў, адзначаючы тую акалічнасць, што пры выкананні працы больш увагі надаваў дакладнасці ў перадачы зместу, чым клопату пра прыгажосць мастацкага слова. Тым не менш, нават гэта не ўратавала тэксты ад шэрагу недакладнасцяў, выкліканых або незразумеласцю арыгіналаў, або памылкамі пры іх перапісванні (не ўсе кнігі гісторык мог атрымаць у сваё карыстанне).

У адрозненні ад папярэдняга, IV том пачынаўся з напісанага самім Сапуновым "Кароткага нарыса барацьбы Маскоўскай дзяржавы з Літвой і Польшчай у XVI-XVII стст.", які ў прадмове да ўсёй кнігі аўтар прасіў лічыць усяго толькі пералікам асноўных падзей. Галоўнае прызначэнне нарыса, на думку аўтара, заключалася ў тым, каб быць "пуцяводнай ніткай у масе часта вельмі ўрывачных дакументаў" (55).

Друкаваўся IV том "Віцебскай даўніны" ў Віцебскай тыпа-літаграфіі Р.А.Малкіна, і "знешнасць выдання" па-ранейшаму турбавала ягонага аўтара. Здаецца, увесь магчымы ілюстратыўны матэрыял, што можна было знайсці па тэме, Сапуноў змясціў на старонках сваёй кнігі. У мастацкім аздабленні тома гісторыку дапамагаў выпускнік Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў Аляксандр Мінят, які на той час працаваў у мужчынскай гімназіі выкладчыкам малявання. І зноў выданне атрымалася выключна

дарагім для выдаўца. Каб неяк вярнуць хоць частку ўкладзеных грошай, Сапуноў паставіў больш высокі кошт – па 6 рублёў за кожны з 500 паасобнікаў накладу. Аднак пакрыць усе выдаткі яму так і не ўдалося, бо кніжка не вельмі хутка раскуплялася.

Водгукі на IV том "Віцебскай даўніны" ў тагачаснай прэсе былі значна больш сціплыя. Нататка з'явілася ў адным толькі "Новом времени", затое праца гісторыка ацэньвалася ў ёй належным чынам. У публікацыі, у прыватнасці, былі такія словы: "На ўсім выданні ляжыць пячатка ведаў, ажыўленых сапраўды патрыятычнай любоўю да айчыннай даўніны" (56). Вучоным камітэтам міністэрства народнай асветы кніжка зноў была "одобрена" для фундаментальных бібліятэк сярэдніх навучальных устаноў міністэрства народнай асветы. А восенню 1885 г. з Масквы прыйшла прыемная навіна: 25 кастрычніка Сапунову было прысвоена званне сябры-спаборніка імператарскага Таварыства гісторыі і старажытнасцяў расійскіх пры Маскоўскім універсітэце.

Калі меркаваць па тэматыцы прац, якія Аляксей Сапуноў друкаваў у наступныя пасля выхаду IV тома "Віцебскай даўніны" гады на старонках "Віцебскіх Губернскіх Ведамасцяў", гісторык актыўна працаваў над падрыхтоўкай II і III тамоў так шырока задуманага раней выдання. Публікацыі, змешчаныя ў галоўнай (і адзінай на той час) газеце губерні тычыліся асобных момантаў з гісторыі Полацка, Неўля, Веліжа, Себежа, так званых Інфлянтаў (зямель усходняй Прыбалтыкі).

Аднак чарговым выдадзеным томам стаўся V, прысвечаны рэлігійнай гісторыі краю. Такі нечаканы на першы погляд крок даследчыка меў пад сабой пэўныя падставы. V том "Даўніны" выйшаў з друку ў 1888 г., якраз напярэдадні пампезна адзначанага ў Паўночна-Заходнім краі 25 сакавіка 1889 г. 50-годдзя "ўз'яднання" ўніятаў з праваслаўнай царквой. У перадюбілейны час, вядома ж, заахвочваліся ўсялякія заняткі, якія тычыліся гісторыі Полацкай епархіі. Аляксей Сапуноў, чалавек глыбока веруючы, лічыў проста сваім абавязкам зрабіць належную сустрэчу юбілею. Да таго ж, матэрыял для новага зборніка, што называецца, высмоктваць з пальца не даводзілася. У Віцебску тады захоўваўся амаль што зусім не разабраны архіў Полацкай духоўнай кансісторыі, які ўтрымліваў больш за 5 тысяч старадаўніх дакументаў. Добрым дадаткам да кансісторскага архіва маглі стаць і матэрыялы са сховішча Віцебскага губернскага праўлення (былога архіва генерал-губернатараў).

На гэты раз спрыянне ў даследчыцкай працы было выказана Сапунову і з боку епархіяльных уладаў, і з боку начальніка губерні князя Б.М.Даўгарукава, які для разбору дакументаў афіцыйна накіраваў у дапамогу гісторыку ягонага даўняга сябра і руплівага памочніка Міхаіла Вяроўкіна. Разбор кансісторскага архіва ішоў так паспяхова, а цікавых дакументаў было выяўлена так многа, што Сапуноў ніяк не змог "убіцца" ў вызначаныя сабой жа межы аднаго тома і запланаваў выдаць пятую кніжку "Даўніны" ажно ў трох частках. Для першай часткі ён падрыхтаваў дакументы самыя старадаўнія, з 1598 да 1772 гг., якія трапілі ў архіў Полацкай духоўнай кансісторыі пераважна з уніяцкіх манастыроў і цэркваў. У другой частцы ён планаваў змясціць дакументы больш познія, з 1772 да 1839 гг., у трэцяй – фундушы і інвентары розных цэркваў і манастыроў Полацкай епархіі.

Нам сёння застаецца толькі горка пашкадаваць, што V том "Віцебскай даўніны" быў выдадзены ўсяго ў адной-адзінай першай частцы. 476 упершыню надрукаваных дакументаў, з іх 89 прыведзены поўнасцю, астатнія – з большымі або меншымі скарачэннямі; шэраг дакументаў, перакладзеных з лацінскай, польскай і італьянскай моў, прычым, 47 з іх, асабліва значных па змесце, дадаткова працытаваны на мове арыгінала. Ужо адны гэтыя, так бы мовіць, статыстычныя характарыстыкі зборніка ў стане глыбока ўразіць кожнага, каму хоць аднойчы даводзілася сур'ёзна працаваць з архіўнымі крыніцамі. А калі дадаць сюды яшчэ перадрукі з ранейшых археаграфічных выданняў і адняць наяўнасць не тое што кампутара, а нават і звычайнай друкавальнай машынкі (век якой яшчэ не надыйшоў), атрымліваецца амаль што катаржная карпатлівая штодзённая праца, якую добраахвотна ўзваліў на свае плечы не які-небудзь грэцкі тытан і герой міфаў, а ўсяго толькі гімназічны настаўнік з хворымі вачыма.

На жаль, выданне Сапуновым "Віцебскай даўніны" скончылася выхадам з друку першай часткі V тома. Відаць, давесці задуманае да канца ў даследчыка не хапіла ні часу, ні сродкаў, ні здароўя. Аднак нават тое, што ён здолеў зрабіць, выклікае сёння самую шчырую павагу, удзячнасць і захапленне. Гэткую ж павагу і прызнанне атрымлівала ягоная самаахвярная дзейнасць і сярод сучаснікаў-навукоўцаў, ад цытавання выказванняў якіх немагчыма ўстрымацца. Старшыня Таварыства гісторыі і старажытнасцяў расійскіх, сябра-карэспандэнт Пецярбургскай Акадэміі навук і кіраўнік Гістарычнага музея ў Маскве Іван Забелін меў наступнае меркаванне пра дзейнасць свайго калегі-гісторыка з Віцебска: "А.П.Сапуноў у цяперашні час з прыватных асобаў ці не адзіны ў наш час працалюбец, які

дзейнічае не толькі настойліва і нястомна, але і ў вялікай ступені добрасумленна і ўважліва ў распрацоўцы помнікаў нашай дарагой даўніны" (57). Выдатны беларускі гісторык Мітрафан Доўнар-Запольскі ў дачыненні да "Віцебскай даўніны" пісаў: "У гэтай працы А.П.Сапуноў задумаў сабраць і выдаць у сістэматычным парадку, па адпаведных рубрыках, усе матэрыялы і дакументы, якія тычацца Полацка-Віцебскага краю. Сама думка пра сістэматычнае выданне (...) выдатная; у той час вучоныя ўстановы, як Віленская археаграфічная камісія, напрыклад, і Пецярбургская (якая выдала "Акты Заходняй Расіі" і "Акты Паўднёвай і Заходняй Расіі") выдавалі свае матэрыялы без усялякага парадку і толькі ў апошні час (на пачатку XX ст. – *Л.Х.*) прыйшлі да думкі аб неабходнасці сістэматызаваць выданне сваіх матэрыялаў" (58).

Заслужыў Сапуноў добрае слова і ад даследчыкаў нашых дзён. Знаны археограф і крыніцазнаўца Мікалай Улашчык, чалавек вельмі дасведчаны ў сваёй справе і патрабавальны, адзначаў у дзейнасці Сапунова як станоўчыя, так і адмоўныя бакі. Акрэсліваючы значнасць зробленага, Улашчык пісаў, што Сапунову, як даследчыку-адзіночцы, даводзілася праводзіць пошукі пераважна ў абсалютна неўпарадкаваных архівах, дзе справы ляжалі навалам, а таксама самому часцяком пісаць загалоўкі і легенды да спраў, потым шукаць неабходную літаратуру для заўваг і артыкулаў. Тое, што Сапуноў друкаваў пераклады архіўных дакументаў без арыгіналаў, даследчык лічыў самым істотным недахопам ягонай дзейнасці, бо ў гэтых перакладах час ад часу сустракаюцца досыць істотныя памылкі. І тым не менш Улашчык называў "Віцебскую даўніну" "свайго роду даведнікам па гісторыі Паўночнай Беларусі, адкуль даследчык можа даведацца, што маецца аб гэтым рэгіёне ў летапісах і іншых крыніцах", а самога Сапунова лічыў асобай, якой па часе і маштабу зробленага ў галіне публікацыі крыніц па гісторыі Беларусі належыць адно з першых месцаў (59).

На заканчэнне размовы пра "Віцебскую даўніну" выпадае расказаць сумную гісторыю пра тое, што сталася з тымі сапуноўскімі напрацоўкамі, якія ён збіраўся змясціць у яшчэ не надрукаваных тамах зборніка. Тут давядзецца значна забегчы наперад, пакінуўшы маладога, акрыленага поспехам і спадзяваннямі Аляксея, і звярнуцца да прызнанага і знакамітага, але змучанага гадамі, хваробай ды нястачай Аляксея Парфенавіча.

Пачнем жа з таго, што літаральна напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі ў сяброў Віцебскай навуковай архіўнай камісіі з'явілася думка перавыдаць існуючыя тамы "Віцебскай даўніны" і купіць у Сапунова матэрыялы для нявыдадзеных. На пасяджэнні камісіі 20 красавіка 1917 г. было прынята рашэнне набыць у гісторыка за 500 рублёў "Пісцовыя кнігі", "здымкі з пісцовых кніг, дакументы і здымкі з планаў, якія захоўваюцца ў Шведскім дзяржаўным архіве", а таксама прасіць даследчыка, каб ён "саступіў" камісіі права на перавыданне "Віцебскай даўніны", якая "ўжо даўно стала (...) рэдкасцю, і ў рознічным продажы яе кошт узняўся з цаны ў 3 да 75 рублёў" (60). Сапуноў даў сваю згоду на перавыданне зборніка. Аднак у хуткім часе грымнуў такі сацыяльны выбух, пасля якога ўсім стала не да ранейшых планаў і намераў.

Да ідэі прадаць каму-небудзь падрыхтаваныя да новых зборнікаў "Віцебскай даўніны" матэрыялы Аляксей Парфенавіч вярнуўся ў 1920-я гады, калі голад і нястача далі асабліва адчувальную вестку аб сабе. Пакупніком на "Пісцовыя кнігі Веліжа, Неўля, Себежа, Азярышча і Усвята са здымкамі з рукапісаў, (памерам – *Л.Х.*) каля 200 пісаных аркушаў", а таксама "Інвентар г.Віцебска і эканоміі Віцебскай 1667 г., (памерам – *Л.Х.*) каля 20 пісаных аркушаў" на гэты раз стаў Віцебскі педагагічны інстытут. У сваіх нататках, зробленых у апошні год жыцця, Сапуноў пісаў, што рукапісы гэтыя разам з яшчэ пяццю іншымі, былі прададзены інстытуту і захоўваліся ў бібліятэцы апошняга (61). Аднак у "Пратаколе пасяджэньня Камісіі па разборцы матар'ялаў, застаўшыхся са смерці праф.А.П.Сапунова" ад 7-9 кастрычніка 1924 г. знаходзім дадзеныя аб тым, што "Пісцовыя кнігі" былі знойдзены ў кватэры нябожчыка, запакаваны ў скрыні і апячатаны разам з іншымі паперамі (62) ("Інвентар" 1667 г. усё ж, відаць, знаходзіўся ў пэдінстытуце).

Пазней спадчына Сапунова трапіла ў збор Віцебскага дзяржаўнага музея. 11 траўня 1925 г. загадчык музея напісаў ліст у Мінск у Інстытут Беларускай культуры з просьбай разгледзець сапуноўскія спісы з "Пісцовых кніг", якія могуць "мець значэньне пры выданьні архіўных дакументаў на тэрыторыі Беларусі" (63). 16 траўня адбылося пасяджэнне "гістарычнае клясы" Інбелкульта, на якім было вырашана прасіць Віцебскі музей даслаць у археаграфічную камісію інстытута сшыткі са спісамі "Пісцовых кніг" "дзеля скарыстання (...) у выданнях Гістарычнае Клясы і вывучэння сябрамі Камісіі, пасля чаго ўвесь гэты матар'ял будзе зварочаны ў Музэй для захову ў Сапуноўскіх калекцыях" (64).

31 траўня 1925 г. сшыткі Сапунова былі адпраўлены ў Інбелкульт і ў Віцебск больш ужо не вярталіся. У архіве мне ўдалося адшукаць спіс тых адпраўленых у Мінск сшыткаў з пералікам дакументаў, што ў іх утрымліваліся, які хочацца працытаваць поўнасцю. Хто ведае, можа ён так назаўсёды і застанецца адзіным сведкам самахвярнай працы, выкананай руплiўцам віцебскай даўніны.

***"Рукапісны збор А.П.Сапунова.***

*Пералік сшыткаў з выпіскамі з пісцовых кніг Віцебшчыны.*

*1. Перепись гор.Невля и острога, шляхтичей и всяких служилых жилецких людей и мещан. 1664 г. – 16 аркушаў.*

*2. Перапісная книга города Невеля и Невельского уезду волостем и селам и деревням и починкам и в них ... дворам и во дворех всем людям, сколько в селе и деревне ... угодий. 1656 г. – 60 аркушаў.*

*3. Перепись сел и деревень Невельского и Озерецкого уездов и в деревнях дворов и во дворех людей. 1657 г. – 36 аркушаў.*

*4. Писцовая книга дворцовой Никольской Плисской волости Невельского уезда. 1615 г. – 93 аркушы.*

*5. Разрядные списки: а) по Невелю и б) псковским конным казакам. 1664 г. – 36 аркушаў.*

*6. Сказки, взятыя у шляхты г.Невля (за кем, где и когда были поместья). 1667 г. – 38 аркушаў.*

*7. Челобитие невлян об отдаче им кабака, таможни и мельницы. 1654 г. – 6 аркушаў.*

*8. Книги перапісныя всяких чинов и людей и крестьян в гор.Озерищах, в г.Усвяте и Усвятском уезде. 1655 г. – 28 аркушаў.*

*9. Перапись: 1) пушкарей и мещан посадских в гор.Усвяте и 2) шляхтичов усвятских, волостных и шляхецких крестьян в Усвятском уезде – 148 аркушаў.*

*10. 1) Переписные книги г.Велижа, сколько по городу и по башням пушек, пищалей, зелейной казны, мушкетов, пик и всяких запасов.*
*2) Перепись крестьян Велижского уезда и по волостям. 1654 г. – 31 аркуш.*

*11. Писцовая книга города Себежа – 66 аркушаў.*

*12. Перепись: 1) Полоцкого повету шляхтичев и казаков и пушкарей и воротников и всяких служилых людей; 2) Гор.Полоцка ткацких дворов а в нем людей и в слободах дворов и людей – 50 аркушаў.*

*13. Переписные книги принятых под Государеву руку мещан, земян и пахотных крестьян Полоцкого, Себежского, Друйского, Свейского, Лужского, Резицкого и Красногородского уездов. 1654 г. – 46 аркушаў.*

*14. Челобитная витебской шляхты о даче им дворов бежавших в Польшу людей – 8 аркушаў.*

*15. Тетради №9, 10, 11, по-видимому, выписка из "Приходно-расходных книг хлебной казны" г.Витебска 1665 г. и 1666 г., часть которых напечатана А.П.Сапуновым в "Витебской старине", т.IV, ч.2, стр.317-343 – 58 аркушаў"* (65).

Усялякая выбітная праца нашмат пераживае свайго стваральніка. Ці думаў пра тое Аляксей Сапуноў, распачынаючы выданне "Віцебскай даўніны"? Пакінем гэтае няважнае цяпер пытанне без адказу і зноў вернемся ў губернскі Віцебск канца 1880-х гадоў.

## На точышчы археалогіі

У 1883 г. споўнілася 75 гадоў Віцебскай мужчынскай Аляксандраўскай гімназіі. Вядома, што новы віцебскі летапісец, да таго ж, настаўнік і колішні выпускнік гэтай гімназіі, не мог нейкім чынам не адрэагаваць на такую падзею. Сапраўды, Аляксей Сапуноў зрабіў гімназіі шыкоўны падарунак – напісаў кнігу "Гістарычная запіска 75-годдзя Віцебскай гімназіі", якую смела можна лічыць неперааўзыдзеным да нашага часу энцыклапедычным даведнікам.

Да Сапунова гісторыяй гімназіі ніхто не займаўся. Адзінае, што ў 1857 г. інспектар гімназіі Л.Лебедзеў падрыхтаваў для папячыцеля Санкт-Пецярбургскай навучальнай акругі князя Г.Шчарбатава "Гісторыка-

статыстычныя звесткі пра Віцебскую губернскую гімназію", якія надрукаваны не былі, і ўвогуле большая частка рукапісу пазней была прададзена спадчыннікамі Лебедзева на вагу. Таму Аляксею Сапунову давялося пачынаць сваю працу практычна з нуля: пераглядаць паперы гімназічнага архіва, архіваў Віленскай навучальнай акругі і Дэпартамента народнай асветы, кнігі візітацый гімназіі за 1808-1826 гг., зборнікі пастаноў і распараджэнняў па Міністэрству народнай асветы і іншыя дакументы. Затое выніковая праца атрымалася надзвычай грунтоўнай і складалася з чатырох раздзелаў: 1) "Гістарычны нарыс", які ахопліваў не толькі гісторыю самой гімназіі, але і ўвогуле гісторыю асветы Беларусі з аглядам навучальных устаноў, якія ўтрымлівалі духоўныя ордэны; 2) "Статыстычны нарыс", у якім можна знайсці звесткі не толькі пра выкладчыкаў і выпускнікоў гімназіі, але нават і тых, хто інспектаваў гімназію ў 1803-1884 гг., а таксама спісы міністраў народнай асветы і папячыцеляў навучальнай акругі; 3) "Заўвагі"; 4) "Дадаткі". Апошні раздзел можна лічыць найбольш каштоўным, бо ў ім былі змешчаны тэксты дакументаў з тых крыніц, якімі карыстаўся Сапуноў пры падрыхтоўцы выдання.

12 сакавіка 1882 года па прапанове віцебскага губернатара настаўнік мужчынскай гімназіі Аляксей Сапуноў быў абраны правадзейным сябрам Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта. І хоць установа гэтая была афіцыйная, займалася зборам статыстычных звестак пра губерню, яе паветы, гарады, насельніцтва, прамысловасць і іншыя вельмі канкрэтныя рэчы, яна адыгрывала належную ролю ў культурным жыцці рэгіёна. Яшчэ ў 1868 г. пры статкамітэце быў створаны музей старажытнасцяў; вакол установы ўвесь час гуртаваліся даследчыкі і аматары мясцовай даўніны, якія друкавалі свае матэрыялы на старонках яе перыядычных выданняў. Паводле "Палажэння пра губернскія статыстычныя камітэты", у правадзейныя сябры абіраліся асобы, "якія могуць сваімі ведамі і вопытнасцю прынесці карысць камітэту" (66), за што яны атрымлівалі дыплом вызначанага ўзору, а таксама права голасу на ўсіх пасяджэннях.

Адным з накірункаў дзейнасці статкамітэта на той час быў збор звестак для складання археалагічнай карты Віцебскай губерні. Сябры камітэта распаўсюджвалі апытальныя лісты і збіралі паведамленні пра гарадзішчы, курганы ды могільнікі. Цесныя сувязі падтрымліваліся з Пецярбургскай археалагічнай камісіяй (якая кіравала раскопкамі на ўсіх казённых землях), а таксама Маскоўскім археалагічным таварыствам, якія не аднойчы дапамагалі сябрам Віцебскага статкамітэта кансультацыямі, перш за ўсё ў адносінах да атрыбуцыі прадметаў старажытнасці, што траплялі ў ягоны музей.



Аляксей Сапуноў. Фота 1890-х гадоў (?). Здымак ласкава прадстаўлены В.М.Кучарэнка, за што аўтар выказвае ўладальніцы шчырую падзяку. Друкуецца ўпершыню

У 1886 годзе на жыхарства ў Віцебск пераехаў Еўдакім Раманаў і пачаў працаваць у якасці інспектара народных вучылішчаў Віцебскай, Гродзенскай і Магілёўскай губерняў. Трэба думаць, што амаль аднолькавы ўзрост ды сур'ёзнасць зацікаўлення старажытнасцямі сталі падставай для збліжэння двух маладых людзей. Не пакідаючы працы над сваім асноўным фальклорна-этнаграфічным дзевяцітамовым "Беларускім зборнікам", Еўдакім Раманаў паралельна праводзіў археалагічныя раскопкі ды разведкі, і ў год пераезду ў Віцебск быў абраны сябрам-карэспандэнтам Маскоўскага археалагічнага таварыства. У гэты ж час да заняткаў археалогіяй прыступаецца і Аляксей Сапуноў.

На пачатку 1890 г. Раманаў разам з Сапуновым на старонках мясцовых перыёдыкаў "Віцебскія Губернскія Ведамасці" ( №5, 1890 г.) і "Полацкія Епархіяльныя Ведамасці" (№3-4, 1890 г.) друкуюць "Спіс пытанняў для складання археалагічнай карты Віцебскай губерні".

У большай ступені маючы схільнасць не да практычнай археалогіі, а да апісання помнікаў старажытнасці, Аляксей Сапуноў у 1890 г. выпусціў у свет сваю першую "археалагічную" кніжку пад назвай "Дзвінскія або Барысавы камяні". Барысавы камяні, гэтыя надзвычай цікавыя манументальныя помнікі эпіграфікі XII стагоддзя, здаўна прыцягвалі да сябе ўвагу шматлікіх навукоўцаў і аматараў. Сапуноў у сваёй працы апісаў усе вядомыя на той час камяні і іх гістарычныя лёсы. Гісторык узгадаў тры Барысавы камяні, якія знаходзіліся ў рэчышчы Заходняй Дзвіны недалёка ад вёскі Зяленшчына каля Полацка, а таксама ля вёсак Балоткі і Накоўнікі непадалёк ад Дзісны. Яшчэ адзін камень з вёскі

Балоткі ў 1879 г. быў выцягнуты з ракі М.Ф.Кусцінскім па даручэнню кіраўніка Маскоўскага археалагічнага таварыства графа А.С.Уварава і перавезены ў Маскву (зараз ён захоўваецца ў музеі-запаведніку "Каломенскае"). Праз некалькі гадоў Аляксею Сапунову самому ўдалося адшукаць яшчэ два невядомыя раней Барысавы камяні, аб чым ён змясціў невялікую нататку ў "Віцебскіх Губернскіх Ведамасцях" (№81, 1894 г.).

Апроч Барысавых, у сваёй кнізе Сапуноў апісаў яшчэ некалькі культавых камянёў, шанаваных у народзе. Адным з самых цікавых з іх уяўляецца камень з Віцебска, што некалі ляжаў ля падножжа Лысай (або Прачысценскай) гары, дзе, як вядома, у 1623 г. быў забіты Полацкі ўніяцкі архіепіскап Язафат Кунцэвіч. Пра яго ў кнізе чытаем наступнае: "Яшчэ адзін камень (зараз яго няма) знаходзіўся насупраць Успенскага сабора, кроках у 25 ад падэшвы строма ўздымаючагася берага Заходняй Дзвіны; на камені гэтым змешчана выява глыбока высечанага шасціканцовага крыжа. Камень гэты называлі Язафатавым" (67).

Да зацікаўлення Аляксея Сапунова археалогіяй прыхільна ставілася кіраўніцтва губернскага статыстычнага камітэта. Сведчаннем чаго было хоць бы выдаткаванне 20 казённых рублёў са сродкаў камітэта на брашуроўку кнігі пра Дзвінскія камяні, якія былі выплачаны, як гэта ні дзіўна, віцебскай турме (дзе, відаць, сярод зняволеных знаходзіліся адмыслоўцы ў пераплётнай справе) (68).

Правёўшы дзяцінства ў напаўсялянскім асяроддзі, Аляксей Сапуноў меў да працы на зямлі асаблівае замілаванне і, як адзначаў ягоны сучаснік Мікалай Багародзкі, некалькі разоў "на мізэрныя зберажэнні прыдабываў кавалачкі зямлі, цікавіўся ёю пакуль не адбудоўваў на ёй дом і ня вырошчваў сад; а потым прадаваў іншы раз з убыткам і купляў другі, але заўсёды каля возера і ва ўзгорыстай мясцовасці" (69). Так, недзе ў канцы 1880-х гадоў ён набыў і маёнтак Кахоўку, што знаходзіўся ў Вярхоўскай воласці Віцебскага павета на адлегласці 11 вёрст ад горада. Маёнтак памерам у 40 дзесяцінаў зямлі, частка з якіх была занятая лесам, знаходзіўся на беразе ракі Лужаснянкі (70). Аднак найбольшай адметнасцю ўладання было тое, што на ягонай тэрыторыі на вялікім узгорку, парослым буйным бярозавым лесам, размяшчаўся курганны могільнік крывічоў, які захаваўся да нашага часу. Яшчэ і сёння могільнік ва ўрочышчы Кахоўка каля вёскі Сакольнікі Віцебскага раёна налічвае 57 насыпаў вышынёй 1-1,5 метра і дыяметрам 5-7 метраў і ахоўваецца дзяржавай як археалагічны помнік рэспубліканскага значэння.

На пачатак 1891 г. прыпадае пачатак дзейнасці Папярэдняга камітэта па падрыхтоўцы IX археалагічнага з'езда, месцам правядзення якога была прызначана Вільня, і тэматыка, адпаведна, звязвалася з вывучэннем беларуска-літоўскіх старажытнасцяў. Камітэтам быў выпрацаваны план дзеянняў, які прадугледжваў неабходнасць за бліжэйшыя два гады праверыць звесткі пра археалагічныя помнікі ў рэгіёне, правесці шэраг праверачных раскопак, выявіць падрабязныя звесткі пра прыватныя калекцыі і інш.

5 студзеня 1891 г. ў Маскве на Берсянёўскай набярэжнай у сядзібе Маскоўскага археалагічнага таварыства – толькі што адрэстаўраваных палатах XVII ст. думнага дзяка Аверкія Кірылава, уратаваных дзякуючы намаганням сяброў таварыства ад знішчэння – сабраўся на сваё першае пасяджэнне Папярэдні камітэт IX археалагічнага з'езда. На ім прысутнічаў і Еўдакім Раманаў, які ў сваім выступленні, у прыватнасці, казаў пра неабходнасць інтэнсіфікаваць археалагічныя доследы на Беларусі. Сам Раманаў у археалагічны сезон 1891 г., як, прынамсі, і папярэднім летам, займаўся раскопкамі выяўленага на ўскраіне Люцына знакамітага латгальскага могільніка. Тым не менш, у жніўні таго ж года ён знайшоў час яшчэ і на вывучэнне курганоў у маёнтку Сапунова, які, не маючы вопыту палявых даследаванняў, лічыў сябе дылетантам у гэтай справе, але меў да яе вялікую цікавасць. З дапамогай рабочых, выкарыстоўваючы ўласны метад раскопвання курганоў, Раманаў раскрыў у Кахоўцы тры з іх, а таксама даследаваў дзве каменныя магілы, што знаходзіліся паміж насыпамі. Паслойна здымаючы грунт, выкарыстоўваючы метад "саскрэбвання" (калі зямля бралася рыдлёўкай не ў вертыкальным, а ў гарызантальным накірунку таўшчынёй каля 1 вяршка) і прасейвання выпрацаванай зямлі, у адным кургане Раманавым былі выяўлены рэшткі трупаспалення, а ў двух іншых – некалькі шкілетаў з прадметамі побыту пры іх. Знойдзеныя рэчы яшчэ і сёння захоўваюцца ў Дзяржаўным Гістарычным музеі ў Маскве (71). Самога ж Еўдакіма Раманава найбольш зацікавілі знаходкі з каменных магіл, якія ён даследаваў упершыню, і пахаванні ў якіх лічыў належнымі да фінскіх плямёнаў. У сваёй справаздачы, прадстаўленай Маскоўскаму археалагічнаму таварыству, даследчык пісаў, што кахоўскі могільнік "патрабуе самага руплівага вывучэння. На шчасце, уладальнік яго, наш сасябра А.П.Сапуноў, цалкам перакананы ў неабходнасці руплівага яго захавання ад дылетанцкіх і да т.п. раскопак, і навука, такім чынам, не будзе пазбаўлена магчымасці далейшага ягонага вывучэння" (72).

У апошняй занатоўцы Раманаў, безумоўна, меў рацыю. Думаецца, што калі б Кахоўка ў свой час трапіла ў рукі да каго іншага, ад некалькіх дзесяткаў яе курганаў застаўся б, хутчэй за ўсё, толькі ўспамін. І

тады б ужо не мелі ніякай магчымасці прыступіцца да іх вывучэння даследчыкі нашых дзён (у 1972 г. курганы даследваў Г.В.Штыхаў, у 1981 г. – Л.В.Калядзінскі).

Хоць раскопкі кахоўскага могільніка ў 1891 г. рабіў Раманаў, у ваколіцах маёнтка аўтарства іх першаадкрывальніка замацавалася за Сапуновым. У справах Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці аднойчы мне сустрэўся дакумент, датаваны 1927 г., што быў складзены загадчыкам суседняй з Кахоўкай Хмарскай школы Мітрафанам Цітовым, які разам з вучнямі-краязнаўцамі аглядаў курганы. У пісьмовай справаздачы настаўніка пасля кароткага апісання могільніка было напісана наступнае: "Сялянамі расказаны паданьні, што калісьці пры раскопках знаходзілі цесакі, гаршкі і косьці людзей. У 1901 гаду яшчэ курганы раскопваў А.П.Сапуноў, а што ён знайшоў – невядома. Пры аглядзе відаць, што 2 кургана троху падкопваны, а другія цэлы" (73). Ад сябе дададзім, што дата 1901 г., хутчэй за ўсё, указана памылкова, бо ў гэты час Сапуноў яшчэ жыў у Маскве і вярнуўся ў Віцебск толькі восенню, у кастрычніку месяцы.

Пра лад жыцця віцебскага краязнаўцы ў Кахоўцы сёе-тое можна знайсці ў розных крыніцах. Так, паводле ўспамінаў мясцовага жыхара Фёдара Голідава, якія ў 1970-я гады запісаў маскоўскі даследчык Л.В.Аляксееў, Аляксей Сапуноў быў чалавекам руплівым і гаспадарлівым, меў вялікую ахвоту да палявання. У маёнтку многае рабіў уласнымі рукамі, працаваў разам з садоўнікам у садзе, трымаў трох коней (74).

Звесткі пра забудову сядзібы знаходзім у віцебскага краязнаўцы Дзмітрыя Газіна, дзяцінства якога прыпала на 1930-я гады і прайшло ў Кахоўцы ў адной з сялянскіх хат, што знаходзіліся побач з фальваркам. "Драўляны, прасторны, аднапавярховы дом з мезанінам сядзібы "Кахоўка" знаходзіўся ў атачэнні садоў і гаёў на ўзгорку, – піша Дз.Газін. – Ад яго добра былі бачны курганы з "валатоўкамі", рэчка, суседнія за рэчкай палі, лугі, лясы. Адна з алеяў адыходзіла на поўнач ад фасаду дома і праз Сакольніцка-Мазалаўскую дарогу пераходзіла ў вясковую вуліцу з тых трох сялянскіх сядзібаў (у адной з якіх нарадзіўся Газін – *Л.Х.*). З аднаго боку – вялізныя, старыя дрэвы, з другога – тыя, якія ў свой час пасадзіў А.П.Сапуноў" (75).

Недалёкім суседам Сапунова па маёнтку быў расійская славутасць мастак Ілля Рэпін, лецішча якога пад назовам Здраўнёва знаходзілася на беразе Дзвіны. Звесткі аб тым, што падчас свайго знаходжання на Віцебшчыне мастак наведваў Кахоўку, сустракаем у досыць шырока вядомым лісце Рэпіна да Сапунова ад 7 снежня 1897 г. (76).

Кахоўкай Аляксей Сапуноў валодаў недзе да пачатку 1900-х гадоў. Хутчэй за ўсё, давёўшы маёнтак да ладу, ён прадаў яго нейкай пані Аляевай. У даведніку "Землеўладанне і землеўладальнікі Віцебскай губерні ў 1905 годзе" знаходзім звесткі аб тым, што за Сапуновым значыцца ўжо новае ўладанне – маёнтак Аляксееўка ў Каралёўскай воласці Віцебскага павета, які налічваў усяго толькі тры дзесяціны зямлі і адну лесу (77).

1 жніўня 1893 г. ў Вільні распачаў сваю працу IX археалагічны з'езд, арганізаваны Маскоўскім археалагічным таварыствам. Трэба адзначыць, што Маскоўскае археалагічнае таварыства было створана ў 1864 г. па ініцыятыве графа Аляксея Сяргеевіча Уварава (1825-1884). У адрозненні ад Рускага археалагічнага таварыства, якое дзейнічала ў Пецярбургу яшчэ з 1846 г. і найбольшую цікавасць праяўляла пераважна да скіфскіх і антычных старажытнасцяў, сябры маскоўскага згуртавання займаліся галоўным чынам пытаннямі айчыннай гісторыі. Археалогія ў тыя часы паўсюдна трактавалася вельмі шырока, і ўключала ў сябе таксама і нумізматыку, гісторыю архітэктуры, гісторыю жывапісу, археаграфію і нават чыста гістарычныя тэмы, калі яны не тычыліся палітычных падзеяў, а толькі побыту людзей. Па ініцыятыве Маскоўскага таварыства ў Маскве быў створаны Расійскі Гістарычны музей, а з 1869 г. ў розных гарадах імперыі пачалі праводзіцца археалагічныя з'езды, якія спрыялі актывізацыі навуковага вывучэння той тэрыторыі, дзе адбываўся чарговы з'езд, выяўляючы разам з тым новыя імёны даследчыкаў сярод мясцовай інтэлігенцыі.

На пачатку 1890-х гадоў Аляксей Сапуноў падтрымліваў цесныя кантакты з Маскоўскім археалагічным таварыствам, якое на той час узначальвала ўжо ўдава заснавальніка графіня Праскоўя Сяргееўна Уварава. Гісторык з Віцебска 26 лютага 1891 г. быў абраны сябрам-карэспандэнтам Маскоўскага археалагічнага таварыства, перапісваўся з дырэктарам Гістарычнага музея Іванам Забеліным, прымаў удзел у працы VIII археалагічнага з'езда, на што са скарбніцы Віцебскага губернскага статкамітэта атрымаў у 1890 г. 50 рублёў на паездку ў Маскву (78).

На IX археалагічным з'ездзе Аляксей Сапуноў сярод 505 удзельнікаў меў паўнамоцтвы афіцыйнага дэпутата ад Віцебскага статыстычнага камітэта. У Вільню ён прыехаў разам з Еўдакімам Раманавым і

Уладзімірам Стукалічам. Пасяджэнні праходзілі ў залах 1-й Віленскай мужчынскай гімназіі, а ў некалькіх залах 2-й мужчынскай гімназіі горада была разгорнута археалагічная выстава, цалкам прысвечаная могільнікам Заходняга краю. Віцебская губерня была прадстаўлена на ёй знаходкамі з Люцынскага могільніка з калекцый Раманава і Фохта (жыхара г.Люцына, які да пачатку сістэматычнага вывучэння помніка скупляў рэчы, знойдзеныя падчас земляных прац), знаходкамі Раманава ў Дрысенскім, Себежскім, Дзвінскім і Рэжыцкім паветах, а таксама зборам М.Кусцінскага (79).

Распачаўся з'езд 1 жніўня ўрачыстым малебнам у царкве 1-й гімназіі ў прысутнасці ўсіх удзельнікаў, ганаровых гасцей і "звычайнай публікі". З'езд праводзіў свае пасяджэнні на працягу двух тыдняў (да 14 жніўня), як бы мы зараз сказалі, па секцыях – загадзя вызначаных па тэматыцы дзевяці "аддзяленнях": 1) першабытныя старажытнасці; 2) гісторыя, геаграфія і этнаграфія; 3) помнікі мастацтва; 4) помнікі быту; 5) царкоўныя старажытнасці; 6) помнікі мовы і пісьма; 7) старажытнасці класічныя і візантыйскія; 8) старажытнасці літоўскія, славянскія і ўсходнія; 9) помнікі археаграфічныя. За час працы з'езда адбылося 25 пасяджэнняў, на якіх былі прачытаны 83 рэфераты (80).

Вядома, што для прадстаўнікоў віцебскай дэлегацыі найбольшую цікавасць уяўлялі даклады, якія тычыліся гісторыі так званага Паўночна-Заходняга краю. А іх у Вільні было прачытана нямала – 37. Сярод іх, у прыватнасці, былі рэфераты па археалогіі (У.Антановіча "Пахавальны тып магіл радзімічаў і пра бронзавы век у басейне р.Днепр", М.Авенарыуса "Пра драгічынскія пломбы", Г.Татура "Пра курганы Мінскай губерні", А.Спіцына "Агульны агляд славянскіх курганных старажытнасцяў"), мовазнаўству (С.Карскага "Што такое заходне-руская гаворка"), народным побыце (М.Фурсава "Пра беларускае свята "Свяча"), гісторыі (М.Беражкова "Алена Іванаўна, вялікая княгіня літоўская і каралева польская"), археаграфіі (Д.Самаквасава "Аб арганізацыі і дзейнасці цэнтральных архіваў старажытных актаў у заходніх губернях") і шмат іншых. Вядомы гісторык рускай архітэктуры і культуры А.Паўлінаў прапанаваў у якасці выступлення сваё даследаванне "Пра віцебскія цэрквы", аднак не змог асабіста прыехаць на з'езд, у сувязі з чым ягоны даклад з-за недахопу часу не быў прачытаны і пабачыў свет толькі ў друкаваным выглядзе пасля выхаду першага тома "Прац IX Археалагічнага з'езда ў Вільні" (81).

IX археалагічны з'езд быў значнай з'явай у культурным і навуковым жыцці Беларусі. Ніколі да гэтага ўвесь Паўночна-Заходні край не ведаў такой увагі да сваёй гісторыі з боку самых сур'ёзных прадстаўнікоў тагачаснай навукі і ніколі яшчэ не надта шырока знаныя мясцовыя даследчыкі не мелі такой высокай трыбуны для прадстаўлення вынікаў сваёй дзейнасці.

Думаецца, што падчас правядзення з'езда ў віцяблянаў, якія прыехалі ў Вільню, завязаліся новыя цікавыя і карысныя кантакты, бо магчымасці для іх усталявання былі досыць шырокія. Прыезжыя дэлегаты з'езда жылі ў Віленскім настаўніцкім інстытуце, а таксама ў 30 нумарах трох лепшых гатэляў горада. Кіраўніцтва 1-й гімназіі дазволіла па вечарах выкарыстоўваць некалькі класаў для "вечаровага чаю", падчас якога, па словах графіні Уваравай, "працягваліся знаёмствы, размовы, абмеркаванні, якія нямала садзейнічалі збліжэнню паміж удзельнікамі і сямейнаму характару, нададзенаму ўсяму з'езду" (82). Апроч таго, для дэлегатаў з'езда горад наладзіў свята ў бернардзінскім садзе, а віленскі генерал-губернатар – раут падчас наведвання Вільні і праходзячага ў ёй археалагічнага з'езда вялікім князем Сяргеем Аляксандравічам і вялікай княгіняй Лізаветай Фёдараўнай. Да таго ж, удзельнікі з'езда мелі магчымасць наведаць Трокі, Коўна і Пачаеўскі манастыр, куды была арганізавана параходная экскурсія па Нёману. Не засталіся ў баку і гасцінныя "віленскія абывацелі": княгіня Гагенлоэ наладзіла ў сваім прыгарадным маёнтку Верках свята для ўдзельнікаў з'езда, а пан Чаркасаў прымаў усіх у загарадным доме (83).

Вяртанне Сапунова і Раманава з Вільні ў Віцебск па часе амаль што супала з яшчэ адной важнай падзеяй у археалагічным (як тады лічылася) жыцці горада – адкрыццём 2 верасня 1893 г. Віцебскага старажытнасховішча. Аднак пра гэта – размова асобная (84). Пакуль жа хоць пункцірна адзначым далейшыя сувязі Аляксея Сапунова з археалагічнай навукай. Вядома, што ў 1894 г. ён ездзіў у Маскву на пасяджэнні Папярэдняга камітэта па падрыхтоўцы X археалагічнага з'езда, які павінен быў адбыцца ў Рызе ў 1896 г. (85). 30 сакавіка таго ж 1894 г. віцебскі гісторык быў абраны сябрам-супрацоўнікам Рускага археалагічнага таварыства. У 1895 г. з ініцыятывай стварэння мясцовага археалагічнага таварыства выступіў віцебскі губернатар. Ягонай мэтай ён ставіў упарадкаванне "рукапісных, друкаваных, архітэктурных і іншых помнікаў Паўночна-Заходняга краю і захаванне іх ад знішчэння" (86). Стварыць археалагічнае таварыства ў Віцебску тады не ўдалося, аднак да думкі гэтай на пачатку XX стагоддзя зноў вярнуўся Аляксей Сапуноў, выказаўшы жаданне адчыніць у Віцебску беларускае таварыства, падобнае на тое, што праектавалася Раманавым для Магілёва (87).



Замкавая вуліца ў Віцебску. Злева бачна частка Замкавай гары. Гравюра з фотаздымка С.Юркоўскага. Каля 1860 г.

Аднак была ў біяграфіі Сапунова адна справа, якая, думаецца, плямай лягла на ягонае сумленне навукоўцы. І тычылася яна гісторыі знішчэння Замкавай гары ў Віцебску.

## Хто зруйнаваў Замкавую гару?

Замкавая або гара Ламіха на працягу стагоддзяў адыгрывала адметную ролю ў гістарычным мінулым горада. На ёй знаходзіліся вытокі аднаго са старажытнейшых замкаў Віцебска – Верхняга горада. Размяшчалася гара ва ўсходняй частцы замка і больш за сотню метраў цягнулася ўздоўж левага берага ракі Віцьбы. Яна займала плошчу каля аднаго гектара і мела вышыню з сённяшні 6-павярховы дом (88). Аднак адзінае, што дала археалагічнай навуцы гэтая калыска старадаўняга Віцебска, дзе ў XIV стагоддзі князь Альгерд збудаваў мураваны Верхні замак – усяго толькі крыху больш за дзесятак аскалёпкаў ляпнога посуду, што былі выяўлены пры раскопках Аляксандра Ляўданскага ў 1928 г. (89). Прычынаю таму сталася сумная гісторыя знішчэння Замкавай гары, распачатая яшчэ ў другой палове XIX ст.

“Ва ўсе часы абвешчанага жыцця Віцебска Замкавая гара служыла цэнтрам горада,” – пісаў у сваіх нататках старажыла, якія былі выдадзены ў 1899 г. пад назваю “Старонкі з нядаўняй даўніны горада Віцебска”, вядомы фальклярыст Мікалай Нікіфароўскі (90). Займаючыся вызначэннем тапаграфіі Віцебска часоў сярэднявечча, і Аляксей Сапуноў у сваіх працах не аднойчы адзначаў, што на Замкавай гары знаходзілася падвор’е ваяводы, верагодней за ўсё, мураваныя княжацкія палаты, а таксама царква Архангела Міхаіла, у якой Мацей Стрыйкоўскі ў XVI стагоддзі яшчэ на ўласныя вочы бачыў “партрэт Іуліяніі, старажытнага пісьма, дзе яна была прадстаўлена разам з мужам сваім Альгердам” (91).

Сваё шанаванне гэтага цікавага помніка старасветчыны віцябляне выказвалі ў шматлікіх легендах і паданнях, якімі было абкружана існаванне Замкавай гары. Два з іх знаходзім у нататках Аляксея Сапунова.

Першае – гэта рамантычнае паданне пра заклятую прыгажуню-царэўну, што жыла ўнутры гары. Апранутая ў белае адзенне і асветленая зіхоткімі агнямі, царэўна сядзела на залатым троне, а каля яе ног ляжалі горы золата і дыяментаў. Напярэдадні Купалля яна выходзіла з гары і рассыпала вакол сябе дыяменты, якія адразу ж парахнелі, як толькі да іх датыкалася рука чалавека. Перад пачаткам вайны 1812 года царэўна званіла па начах у саборны звон, аднак калі хто набліжаўся да яе, адразу ж знікала (92).

Другое паданне пра Замкавую гару Сапуноў змясціў у сваёй запісцы ад 26 лютага 1887 г., якую ён як правадзейны сябра губернскага статкамітэта склаў у адказ на запыт імператарскай Акадэміі мастацтваў

"пра помнікі старажытнага мастацтва ў межах Віцебскай губерні". У адказ на адзін з пунктаў анкеты ён пісаў: "Па расказах мясцовых старажылаў, у 50-х гадах (XIX ст. – *Л.Х.*), сажанях у 67 ад паўночна-ўсходняга кута цяперашняга будынку Акруговага суда (у той час тут знаходзіўся губернатарскі дом), ля самага амаль берага р. Віцьбы, утварыўся значны правал, які выявіў скляпеністы падземны ход. Паводле падання, ход гэты вядзе пад Замкавую гару, пад якой, быццам бы, уладкавана вялікае памяшканне, і сюды, быццам бы, ратаваліся жыхары падчас частых аблогаў горада" (93). Ад сябе дададзім, што наўрад ці гэтае паданне мае пад сабою рэальнае абгрунтаванне, бо за ўсе часы існавання Замкавай гары яно ніякімі сведчаннямі ніколі не пацвярджалася.

Пачатак сумнай гісторыі знішчэння аднаго з самых каштоўных помнікаў гісторыі і археалогіі Віцебска быў пакладзены яшчэ ў 1850-я гады, калі зямля з усходняга падножжа гары бралася для ўзвядзення дамбы на Нова-Магілёўскай вуліцы, якая адыходзіла ад Саборнай плошчы ў бок трынітарскага кляштара (94). У 1875 г. пляц гарадской зямлі памерам 1640 кв. сажняў пад назваю "Замкавая гара" па грамадскаму выраку віцебскіх дваранаў, купцоў, мяшчанаў і разначынцаў быў перададзены Віцебскай мужчынскай Аляксандраўскай гімназіі. Навошта гімназіі спатрэбілася новая зямля? Справа ж заключалася ў наступным.

З самага часу свайго стварэння мужчынская гімназія размяшчалася ў мураваным будынку на Саборнай вуліцы. Аднак 16 траўня 1873 г. духоўнае навучальнае ведамства купіла стары гімназічны дом для патрэбаў размешчанай побач у колішніх базыльянскіх мурах духоўнай семінарыі. Гімназічнае кіраўніцтва вымушана было паклапаціцца пра пошукі новага будынка. Па загаду міністра народнай асветы 2 чэрвеня 1876 г. будынак гімназіі быў перададзены духоўнай семінарыі, а гімназісты перабраліся ў былы бернардзінскі кляштар побач з касцёлам Св.Антонія. Пераезд у непрыстасаваныя для навучання памяшканні не задаволіў ні адміністрацыю, ні навучэнцаў і таму было вырашана распачаць будаўніцтва новага будынку гімназіі на тэрыторыі старажытнага Верхняга замка, ля заходняга падножжа Замкавай гары, на Пушкінскай вуліцы. 10 кастрычніка 1878 г. сябрам часовага будаўнічага камітэта па ўзвядзенню будынку гімназіі быў прызначаны і настаўнік Аляксей Сапуноў (95).

Заняткі ў новай гімназіі на Пушкінскай вуліцы пачаліся ўжо ў студзені 1880 г. Прыблізна ў гэты ж час на супрацьлеглым баку Замкавай гары, ля яе ўсходняга падножжа, што выходзіла на Саборную плошчу, пачалося ўзвядзенне будынку Акруговага суда. У ходзе будаўніцтва высветлілася, што падчас паводкі падвальны паверх новага будынку суда затапляецца вадой. З гэтай прычыны ў 1882 г. архітэктарам І.Залескім і групай інжынераў на чале з кіраўніком будаўніцтва М.Карчэўскім былі складзены праект і каштарыс на частковае скопванне Замкавай гары. Гэта быў чарговы крок у справе разбурэння ўнікальнага помніка культуры.

У хуткім часе да справы знішчэння Замкавай гары далучылася і кіраўніцтва Віцебскай гімназіі. У справаздачы аб стане гімназіі за 1884-1885 навучальны год сустракаем звесткі аб дзейнасці яе гаспадарчага камітэта, які меў клопат "аб скопванні сумежнай з усходняга боку будынку Замкавай гары, якая, пад уплывам дажджоў і снега, як складаючаяся пераважна з чыстай гліны, спаўзае, і, перапоўніўшы канавы, разбуральна ўздзейнічае на цокаль будынку, падтрымліваючы ў ім вільгаць, у выніку чаго гніе падлога ніжняга паверха, і атрымаў ужо дазвол п.папячыцеля навучальнай акругі выкарыстоўваць штогод 1000 руб. з сумы збору за навучанне ў гімназіі на скопванне гары, але гэтая мера яшчэ не прыводзіцца ў выкананне да часу атрымання купчай крэпасці на зямлю" (96).

У фактычнае валоданне зямлёй Замкавай гары гімназія ўступіла ў 1885 г., калі быў аформлены купчы акт на яе набыццё. Практычна з гэтага часу і пачаліся земляныя працы па знішчэнню гары. Санкцыянаванае дазволам кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі, скопванне гары працягвалася да 1886 г. Потым земляныя працы былі перапынены амаль на 10 год, пакуль зноў не аднавіліся ў 1895 г. Падчас іх правядзення на Замкавай гары былі знойдзены "рэшткі мураванай пабудовы – падмурак, ніжні паверх да паловы вокнаў, мураваная лесвіца і часткова пліткавая, а часткова брукаваная падлога" (97). Пра вынікі гэтых раскопак на Замкавай гары ў Віцебску з'явіліся нататкі ў друкаваных перыядычных выданнях нават іншых гарадоў Расійскай імперыі (98).

Адносінамі гімназічнага кіраўніцтва да ўнікальнага помніка віцебскай даўніны абурыўся выконваючы абавязкі губернатара віцебскі віцэ-губернатар Мамчыч, які "не знайшоў магчымым даць сваю згоду на скопванне часткі гары" і 11 траўня 1896 г. накіраваў свой пратэст у Вільню да кіраўніцтва навучальнай акругі. У сваім лісце ён прапаноўваў засадзіць гару дрэвамі і разбіць на ёй сквер з дарожкамі дзеля таго, каб "гару гэтую, як гістарычны помнік мінулага (...) захаваць у яе цяперашнім выглядзе на будучы час" (99).

Кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі не магло не лічыцца з думкай такой высокай адміністрацыйнай асобы. 27 траўня 1896 г. дырэктару Віцебскай гімназіі быў накіраваны ліст за подпісам папячыцеля акругі, у якім было прапанавана часова перапыніць усе працы па скопванню Замкавай гары, а таксама "сабраць і даставіць звесткі, якія несумненна даказваюць гістарычнае значэнне азначанай гары" (100). Дзеля выканання апошняга пункта, дырэктар гімназіі звярнуўся да знаўцы мясцовых старажытнасцяў, да таго ж, нядаўняга свайго падначаленага Аляксея Сапунова (з лютага 1896 г. той працаваў ужо ў архіве старажытных актаў). 26 жніўня 1896 г. Сапуноў напісаў на імя дырэктара гімназіі рапарт, у якім змясціў усе вядомыя яму звесткі пра віцебскія замкі.

Адразу варта адзначыць, што пытаннямі гісторыі віцебскіх замкаў Сапуноў пачаў цікавіцца ад самага пачатку сваёй навуковай дзейнасці. Нагадаем, што ягоны нарыс "Гістарычныя звесткі пра віцебскі замак", надрукаваны на старонках "Памятнай кніжкі Віцебскай губерні на 1881 год", стаўся ўвогуле дэбютам гісторыка і ягоным першым друкаваным творам. Шмат матэрыялаў пра замкавыя ўмацаванні Аляксей змясціў і ў "Віцебскай даўніне". У першым томе зборніка знаходзім успаміны М.Стрыйкоўскага, урыўкі з "Хронікі Еўрапейскай Сарматыі" колішняга ротмістра віцебскага замка Аляксандра Гваньіні, інвентары горада XVII ст. Асобную главу ў "Гісторыка-статыстычным нарысе г.Віцебска", якім заканчваецца кніжка, Сапуноў прысвяціў гісторыі замкаў. У якасці ілюстрацыі да тэксту ён зрабіў нават "Прыблізны план Віцебскага замка да канца XVI ст.", дзе на тэрыторыі Замкавай гары лакалізаваў месцы размяшчэння царквы Архангела Міхаіла і палатаў князя. У чацвёртым томе "Даўніны" гісторык змясціў надзвычай цікавыя дакументы, знойдзеныя ім у архівах міністэрства юстыцыі і міністэрства замежных справаў у Маскве — "Каштарысную кнігу" г.Віцебска 1655-1666 гг., дзе былі падрабязна апісаны выгляд і канструкцыя вежаў Верхняга і Ніжняга замкаў.

Такім чынам, мы бачым, што Сапуноў як ніхто іншы валодаў рознабаковай інфармацыяй па азначанай праблеме і менавіта ад яго можна было б чакаць актыўнай пазіцыі ў справе абароны гістарычнай і навуковай каштоўнасці Замкавай гары. Аднак гэтага, на наша здзіўленне, чамусьці не адбылося. У сваім надзвычай сціплым па памерах рапарце на імя дырэктара гімназіі Аляксей Сапуноў абмежаваўся толькі вытрымкамі з прац Стрыйкоўскага і Гваньіні, а таксама згадкай пра віцебскія замкі ў "Пісцовых кнігах часоў цара Аляксея Міхайлавіча" (101). Яшчэ большае здзіўленне выклікае тое, што практычна маючы ў саюзніках віцебскага віцэ-губернатара, Сапуноў у сваім рапарце цалкам устрымаўся ад выказвання ўсялякіх высноў і ўласных думак наконт гістарычнай каштоўнасці Замкавай гары, чым практычна развязаў рукі дырэктару гімназіі. Апошні быў асобай, зацікаўленай у хутчэйшым скасаванні ўсіх перашкод у справе знішчэння гары, таму вывады для начальства з рапарта Сапунова ён зрабіў сам. У ягоным адказе папячыцелю навучальнай акругі ад 11 верасня 1896 г., у прыватнасці, гаварылася: "Месца, якое займаюць рэшткі Замкавай гары і якое належыць зараз гімназіі, мела некаторае гістарычнае значэнне ў мінулым горада Віцебска (...) Ці былі тут якія-небудзь пабудовы, накшталт царквы Архангела Міхаіла, ці стаяў тут замак заснавальніка горада Віцебска (...) — цалкам нічога ні ў адмаўленні, ні ў сцвярджэнні сказаць нельга" (102). У сваім лісце дырэктар гімназіі згадваў і раскапаныя ў 1895 г. "рэшткі мураванай пабудовы", аднак зусім не акцэнтаваў увагу на гэтай знаходцы, ды і ўвогуле, каб зняць пытанне, акрэсліў узрост будыніны "не раней мінулага стагоддзя". Узгадваў спадар І.Увядзенскі таксама і пра тое, што летам 1896 г. ім разам з Сапуновым "была зроблена ў адным месцы невялікая павярхоўная раскопка, якая паказала даволі выразна і ясна, што тут па храбту гары ішла мураваная сцяна ў прамым накірунку. Аднак больш гэтага нічога не знойдзена, ды, здаецца, і не можа быць знойдзена".

Гэтае безапеляцыйнае сцвярджэнне дырэктара гімназіі яшчэ не паставіла апошнюю кропку ў справе канчатковага вырашэння лёсу Замкавай гары. У лістападзе 1896 г. І.Увядзенскі зноў атрымаў патрабаванне правесці даследаванні, "якія маглі б паслужыць да больш дакладнага тлумачэння пытання пра гістарычнае значэнне вучастка Замкавай гары, што належыць Віцебскай гімназіі" (103). Адказ на гэтае патрабаванне быў накіраваны ў Вільню толькі ў лютым наступнага года. Хутчэй за ўсё, ніякай дадатковай "экспертызы" за прамінулыя тры з паловай месяцы праведзена не было. У сваім адказе дырэктар зноў настойліва праводзіў думку аб тым, што Замкавая гара ніякай гістарычнай каштоўнасці не мае, а ў сувязі з тым, што яна з'яўляецца ўласнасцю гімназіі, то можа быць выкарыстана апошняй цалкам паводле ўласнага меркавання. Адзінае, з чым не мог не пагадзіцца І.Увядзенскі — наяўнасць на гары земляных умацаванняў, якія, тым не менш, паводле аргументацыі дырэктара, "бесперашкодна зносіліся і бурыліся не толькі ў нас у Расіі, але і за мяжой" (104).

У апошняй інстанцыі пытанне аб знішчэнні Замкавай гары ў Віцебску вырашалася на ўзроўні міністра народнай асветы І.Д.Дзялянава і міністра ўнутраных спраў І.А.Гарамыкіна. Менавіта гэтую перапіску знайшоў у архіве Санкт-Пецярбургскага аддзялення Інстытута археалогіі даследчык Л.В.Аляксееў, пра

што і напісаў у сваім артыкуле "Да гісторыі і тапаграфіі старажытнейшага Віцебска" ("Советская археология", №1, 1964). Пастановай вышэйшай улады Замкавую гару, зрэшты, было дазволена скапаць, аднак пры гэтым па рэкамендацыі Пецярбургскай археалагічнай камісіі ў Віцебску павінна была быць створана асобная камісія з мясцовых сіл для назірання за раскопкамі і захавання ўсіх старажытных рэчаў, якія будуць знойдзены пры вядзенні прац. У склад камісіі ўвайшлі дырэктар гімназіі І.Увядзенскі, выкладчык гісторыі і геаграфіі гімназіі І.Сабін-Гус і сакратар Віцебскага губернскага статкамітэта С.Гарскі (Аляксей Сапуноў на той час ужо рыхтаваўся пакінуць Віцебск, збіраючыся на часовае жыхарства ў Маскву).

Ніякіх дакументальных звестак пра плён дзейнасці гэтай камісіі мы сёння не маем. Аднак пэўнае ўяўленне аб метадах яе дзейнасці можна скласці на падставе азнаямлення з дакументамі гаспадарчага камітэта гімназіі, які здаў з падраду земляныя працы па скопцы гары. У двух пунктах "Кандыцый" (умоў дагавору) закраналіся пытанні археалогіі: "...8). Падрадчык, па меры магчымасці, павінен садзейнічаць мэтам археалагічнай камісіі, прызначанай па раскопцы гары. 9) Калі пры раскопцы Замкавай гары будуць знойдзены косткі, усялякія старажытныя рэчы, а таксама манеты, камяні і інш. прадметы, то косткі павінны быць закапаны ў зямлю ў месцы, якое пакажа дырэктар гімназіі, а ўсе іншыя прадметы і манеты паступаюць на карысць гімназіі" (105). Зразумела, што пры такім падыходзе да справы цяжка было чакаць ад яе выканання нейкіх сур'ёзных у навуковым сэнсе вынікаў.

Археалагічныя доследы А.Ляўданскага 1928 г. сталіся практычна адзінымі навуковымі доследамі Замкавай гары за ўсе гады яе існавання. Аднак праведзены яны былі занадта позна, калі ад унікальнага помніка археалогіі ўжо практычна нічога не засталося. Ляўданскаму давялося даследаваць ужо толькі змяшаны культурны пласт таўшчынёй каля метра.

У ХХ ст. рэшткі гары працягвалі метадычна знішчацца. У 1957 г. Саветам Міністраў БССР была прынята пастанова аб узяцці пад ахову дзяржавы ўсёй тэрыторыі Верхняга замка ў Віцебску як помніка археалогіі рэспубліканскага значэння. Аднак ужо праз два гады гэтая пастанова была парушана будаўніцтвам новага памяшкання для драматычнага тэатра, а пазней, у 1984 г.– і падземнай кавярні пры ім. Апошняй кропкай у гісторыі Замкавай гары сталася ўзвядзенне на яе месцы ў 1974 і 1980 гадах двух вялікіх сучасных будынкаў праектных арганізацый, у выніку чаго гістарычны ландшафт старажытнага замчышча быў цалкам знішчаны.

Цяжка сёння недасведчанаму чалавеку ўявіць сабе сярод амаль спрэс сучаснай забудовы цэнтра гістарычнае аблічча Віцебска, а дасведчанаму – асэнсаваць усю трагедыю знішчэння нацыянальнай культуры.

## Перад ад'ездам у Маскву

На 1890-я гады прыпадае выхад у свет двух грунтоўных выданняў Сапунова, напісаных на мяжы дзвюх навук – гісторыі і геаграфіі. У 1893 г. выйшла кніга "Рака Заходняя Дзвіна", прысвечаная ўсебаковаму апісанню гэтай вялікай воднай артэрыі. Кніга была зроблена па ўзору тых выданняў, што былі прысвечаны рэкам Заходняй Еўропы (Рэйн, Эльба і інш.) і Расіі (Волга, Днепр). Складалася яна з дзесяці раздзелаў. 1-я глава была прысвечана гісторыка-геаграфічнаму агляду Заходняй Дзвіны ў старажытнасці і сярэднявеччы. 2, 3, 5 і 6 главы ўяўлялі сабой апісанне вытокаў і прытокаў ракі, каналаў і праектаў каналаў паміж Дзвіной і сістэмамі іншых рэк, парогаў, меляў, камянёў у яе рэчышчы, прац па ачышчэнні і паглыбленні ракі, хуткасці плыні і г.д. Глава 4-я ўяўляла геалагічны нарыс берагоў, укладзены на падставе звестак горнага інжынера М.Антановіча і географа Венюкова. У 7-ай главе ішла размова пра рыбу і спосабы яе лоўлі, у 8-ай – пра гандаль па Дзвіне, пачынаючы з самых старажытных часоў, у 9-ай – пра найбольш адметныя мясцовасці і паселішчы, што знаходзяцца на берагах ракі. 10-я глава была прысвечана адлюстраванню Заходняй Дзвіны ў паэтычных творах.

Гэтая грунтоўная манаграфія з вялікай колькасцю планаў і ілюстрацый зрабіла імя Сапунова вядомым далёка па-за межамі Расійскай імперыі. Ухвальныя водгукі на яе адразу з'явіліся ў перыядычных геаграфічных выданнях Англіі, Францыі і Германіі. Кніга была нават прадстаўлена міністрам народнай асветы самому расійскаму імператару, які распарадзіўся выдаць аўтару аднаразовую грашовую дапамогу ў памеры 500 рублёў. Рускае геаграфічнае таварыства на сходзе 3 лістапада 1893 г. абрала Аляксея Сапунова сваім сапраўдным сябрам. Прафесар К.Бястужаў-Румін у водгуку на "Раку Заходнюю Дзвіну" пісаў наступнае: "Аўтар ужо вядомы сваёй выдатнай працай "Віцебская даўніна", якая звярнула на сябе ўвагу адукаванага грамадства. Сярод правінцыйных дзеячаў г.Сапуноў займае ганаровае месца. Новая праца яго падтрымлівае такую вядомасць (...) Грунтоўны і руплівы выбар фактаў, добрасумленнае выкладанне робяць кнігу г.Сапунова неабходным дапаможнікам для гісторыкаў

і географаў (...) У заключэнні можна пажадаць аўтару працягу дзейнасці, пачатай так добра, нягледзячы на тое, што ўмовы правінцыйнага жыцця не вельмі спрыяюць разумовай дзейнасці. З'яўленне такіх дзеячаў у правінцыі служыць добрым знакам для будучага" (106).

Яшчэ адной працай Аляксея Сапунова былі "Матэрыялы па гісторыі і геаграфіі Дзісненскага і Вілейскага паветаў Віленскай губерні". Кніга выйшла ў свет у 1896 г.і пачыналася з грунтоўнага "Геаграфічнага агляду" азначанай у яе найменні тэрыторыі. Далей размяшчаліся матэрыялы па гісторыі і згадкі пра найбольш цікавыя мясціны Дзісненскага, а потым асобна Вілейскага паветаў. У змешчаным у канцы кнігі "Дадатку" былі надрукаваны архіўныя матэрыялы, сабраныя па розных дзяржаўных і прыватных сховішчах. На вокладцы кнігі быў змешчаны наступны надпіс: "Выданне А.Сапунова і кн.У.Друцкага-Любецкага". Хутчэй за ўсё, князь Друцкі-Любецкі, які вельмі прыхільна ставіўся да дзейнасці Аляксея Сапунова і Еўдакіма Раманава, быў фундатарам, але не аўтарам гэтага выдання.



Гурток віцебскай інтэлігенцыі. Стаяць (злева направа): У.Стукаліч, І.Пілін, М.Нікіфароўскі, Златкоўскі. Сядзяць (злева направа): Раманава, М.Вяроўкін, А.Маслоўскі. Фота 1895 г. З фондаў ВАКМ.

22 студзеня 1896 г. правячы імператар Мікалай II выдаў "Высочайшее повеление", згодна з якім Віцебскі цэнтральны архіў старажытных актаў, што раней кіраваўся міністэрствам унутраных спраў, перайшоў у падпарадкаванне міністэрства народнай асветы. Выконваючы даручэнне міністра народнай асветы, 21 лютага таго ж года ў Віцебск прыбыў папячыцель Віленскай навучальнай акругі М.А.Сергіеўскі дзеля таго, каб асабіста прыняць архіў і паклапаціцца пра ягонае ўпарадкаванне.

Аднак, літаральна напярэдадні прыезду Сергіеўскага здарылася непрадбачанае: 20 лютага ў Віцебску нечакана памёр Міхаіл Лаўрэнцевіч Вяроўкін, архіварыус архіва старажытных актаў. Трэба сказаць, што праца ў архіве, дзе ён прапрацаваў 10 апошніх год свайго жыцця, была для Вяроўкіна выкананнем запаветнай мары і таму прыносіла яму сапраўдную асалоду. Атрымаўшы пасаду загадчыка архіва ў 1887 г. ва ўзросце ўжо 62-х гадоў, ён, тым не менш, з юнацкім запалам узяўся за справу і найперш за працяг выдання археаграфічнага зборніка "Гісторыка-юрыдычныя матэрыялы" (выданне гэтае, як вядома, у 1871 г. распачаў ягоны папярэднік А.М.Сазонаў). Вяроўкіным было выдадзена 10 выпускаў "ГЮМ". Як адзначаў Дзмітры Даўгяла, працаваў ён адзін, без памочнікаў, цудоўна разбіраў старыя почыркі, ведаў лацінскую, польскую, нямецкую, французскую і латышскую мовы, меў добрую памяць і быў вельмі начытаны, што рабіла яго "жывой даведачнай кнігай па самых разнастайных пытаннях, якія тычацца мясцовага краю, чым шырока карыстаўся ў асобных заўвагах да "ГЮМ", дзе згрупаваў шмат цікавага гістарычнага і археалагічнага матэрыялу" (107).

М.Вяроўкін быў практычна адзіным у Віцебску чалавекам, які ведаў рэальны стан архіва старажытных актаў. Як вядома, архіў быў адчынены ў 1862 г. і ў канцы мінулага стагоддзя ў ім налічвалася каля двух тысяч актавых кніг з дакументамі гарадскіх і земскіх судоў Віцебскай і Магілёўскай губерняў, пачынаючы з XVI стагоддзя. Першапачатковы фізічны стан большасці юрыдычных дакументаў, што траплялі ў архіў, быў досыць гаротны. Вось што пісаў пра гэта ў першым выпуску "ГЮМ" ягоны тагачасны архіварыус Аляксандр Сазонаў: "Знешнасць актавых кніг

носіць выразныя сляды долі, якую яны мелі і ад розных выпадковасцяў, і ад неахайнага захавання. Ёсць кнігі, з полацкіх, якія да адной трэці абгарэлі і з карашка, і з абрэза; на іншых кнігах бачна, што яны моклі, у большасці ж пашкоджаны ад захавання ў вільготных месцах і ад перавозкі ў 1812 годзе. Аршанскія кнігі ў самым вартым жалю выглядзе: абарваныя, многія без пачатку, без канца, без шнура і пячаткі камісіі для праверкі актавых кніг, а таму страцілі ўсялякую юрыдычную вартасць; актавых кніг не стае за многія гады" (108). Прывесці ўсе кнігі ў належны стан магчымасці амаль што не было – да 1869 г. у штаце архіва было толькі тры супрацоўнікі (архіварыус, ягоны памочнікі і пісец 2-га разраду), а з 1869 г. – усяго два (архіварыус і канцылярскі чыноўнік).

Пасля смерці Вяроўкіна М.Сергіеўскі прымае рашэнне прызначыць з 24 лютага 1896 г. часова выконваючым абавязкі архіварыуса Віцебскага цэнтральнага архіва старажытных актаў выкладчыка Віцебскай класічнай гімназіі стацкага саветніка А.П.Сапунова. Дзеля перадачы ж установы з аднаго міністэрства ў другое ствараецца спецыяльная камісія, у склад якой былі ўключаны сакратар Віцебскага губернскага статкамітэта С.Гарскі, рэдактар "Віцебскіх Губернскіх Ведамасцяў" І.Пілін і памочнік інспектара Віцебскай духоўнай семінарыі Д.Даўгяла. Азначаная камісія пачала працаваць пад кіраўніцтвам Івана Спрогіса, загадчыка Віленскага цэнтральнага архіва старажытных актаў, які прыехаў у Віцебск разам з Сергіеўскім.

Сваю працу перадатачная камісія скончыла 14 сакавіка 1896 г. і выявіла наступнае: "1) усё справаводства і 9 актавых кніг аказаліся не ў самім памяшканні архіва (што павінна быць паводле ўказа 1852 г.), а на кватэры ў Вяроўкіна; 2) не было выяўлена ні фармальных вопісаў, ні перадатачных актаў, па якіх актавыя кнігі былі прыняты ў архіў пры ягоным утварэнні; 3) кнігі мелі мноства пашкоджанняў штучных або выпадковых, нават да псавання кніг мышамі" (109) .



Праект на пабудову А.П.Сапуновым драўлянага дома ў Духаўскім завулку ў Віцебску. 1892 г.

Новы архіварыус Аляксей Сапуноў 14 сакавіка прыняў ад перадатачнай камісіі архіў па вопісах, а ўжо летам атрымаў ад папячыцеля Віленскай навучальнай акругі падрабязную інструкцыю, складзеную М.Сергіеўскім 26 чэрвеня 1896 г., з пералікам тых спраў, якія яму неабходна было тэрмінова выканаць. Дакументам, у прыватнасці, прадпісвалася наступнае: "Канцылярыю Віцебскага цэнтральнага архіва ўладкаваць пры самім ягоным памяшканні, у былым фарным касцёле, дзе аддзяліць і прыстасаваць дзеля гэтага асобны, цёплы пакой, каб апроч гэтага пакоя, непасрэдна звязанага з архівам, ніколі і ні ў якім выпадку актавыя кнігі з архіўнага памяшкання, строга прытрымліваючыся 11 пункта Высокага ўказа 1852 г., 2 красавіка, аб уладкаванні цэнтральных архіваў,– не адчужаліся і нікому адсюль не выдаваліся, бо яны апроч высокай навуковай цікавасці захоўваюць яшчэ да цяперашняга часу значэнне юрыдычна дзейнічаючых дакументаў, якія па гэтай прычыне патрабуюць асаблівага дагляду і пільнай аховы. Угледжаныя ж зараз у актавых кнігах Віцебскага цэнтральнага архіва няспраўнасці і пашкоджанні трэба імкнуцца выправіць, а менавіта: кнігі, якія не маюць пераплёту, пераплесці зноў, з адзнакаю на вечцы кожнай з іх даты гэтага дзеяння, г.зн., году; пабітыя або папсаваныя карашкі існуючага пераплёту

паправіць і заклеіць толькі настолькі, каб не вывальваліся аркушы; выпаўшыя з пераплёту асобныя аркушы або цэлыя пачкі аркушаў, наколькі магчыма, умацаваць на сваіх месцах з дапамогай падшыўкі і падклейкі, прычым, у кожным асобным выпадку карысна было б адзначыць на ўнутраным баку вечка актавай кнігі падклеены аркуш і год ягонай падклейкі; разарваныя аркушы і адарваныя куты аркушаў падклеіць з дапамогаю падстаўных паперак, але так, каб не закрыць тэкст" (110).

Такая падрабязная інструкцыя вымагала ад Сапунова толькі дакладнага яе выканання, чым новы архіварыус і паспяшаўся заняцца. Да канца 1896 г. у архіве была адрамантавана і адчынена канцылярыя, адзін пакой прыстасаваны для прыёму наведвальнікаў, а да вясны 1897 г. – адрамантаваны актавыя кнігі, тым больш, што на ўсе неабходныя працы рэгулярна выдаткоўваліся казённыя сродкі. У сваёй справаздачы Сергіеўскаму ад 10 красавіка 1897 г. Сапуноў пісаў: "Мною выкарыстана 605 руб. 40 кап. на пераплёт актавых кніг. Усе без выключэння актавыя кнігі прыведзены ў належны парадак, прычым, папраўлена вельмі нямнога пераплётаў (усяго 78); усе ж астатнія пераплёты зроблены новыя, бо паправіць старыя аказалася немагчымым (...) У час пераплёту кніг строга выконвалася наступнае: а) я асабіста ўказваў пераплётчыку, што менавіта трэба зрабіць у кожнай актавай кнізе; б) для захоўвання цэласнасці пячатак на іх у час пераплёту накладаўся слой ваты; в) ніякай абрэзкі аркушаў не рабілася; г) усе разарваныя і адарваныя аркушы падклейваліся калькай, так што і заклеены тэкст можна выразна прачытаць; д) на ўнутраным баку вечка актавай кнігі наклейваўся друкаваны ярлык з указаннем часу пераплёту або толькі папраўкі пераплёту кнігі; е) пераплёт кніг рабіўся ў асобным пакоі пры самім архіве і пераплётчыкі, якія працавалі з 10 лістапада 1896 г. па 2 красавіка г.г. ні ў якім выпадку не заставаліся без нагляду каго-небудзь са служачых у архіве (...) Некаторыя кнігі, якія складаліся ўсяго з 2-3 аркушаў і былі ў вопісу пад асобнымі нумарамі, пераплецены ў адным карашку. Такім чынам, калі па ранейшых вопісах (...) у архіве лічылася 1898 кніг, цяпер жа ў архіве знаходзіцца ўсяго 1706 кніг" (111).

Яшчэ да таго, як Аляксей Сапуноў быў прызначаны на новую для сябе пасаду архіварыуса, ён атрымаў ад неадменнага сакратара імператарскай Пецярбургскай Акадэміі навук М.Дубровіна ліст, датаваны 1 лютым 1896 г. У лісце ўтрымлівалася прапанова напісаць рэцэнзію на сачыненне Фрыдрыха фон Кейслера "Заканчэнне першапачатковага рускага ўладарніцтва ў Прыбалтыйскім краі ў XIII ст.", якое аўтар прадставіў Акадэміі на суісканне штогадовай Уsoftараўскай прэміі.

Увараўскія прэміі ў Акадэміі навук у памеры 3000 рублёў былі заснаваны ў 1856 г. вядомым археолагам графам А.С.Уваравым у гонар ягонага бацькі, Сяргея Сямёнавіча Уварава (1786-1855), былога прэзідэнта Пецярбургскай Акадэміі навук і міністра народнай асветы (112). У 1896 г. на суісканне ўзнагародаў графа Уварава былі прадстаўлены чатыры сачыненні (адно з іх – на загадзя прапанаваную тэму). Для разгляду і ацэнкі гэтых твораў была створана камісія, у склад якой, сярод іншых, увайшлі акадэмікі К.М.Бястужаў-Румін, В.Р.Васілеўскі і А.А.Кунік – людзі, якія ведалі А.Сапунова яшчэ па ўніверсітэце альбо па пазнейшай сумеснай працы (дарэчы, у сакавіку 1890 г. Аляксей быў абраны сапраўдным сябрам гістарычнага таварыства пры Пецярбургскім універсітэце). Камісія выбрала рэцэнзентаў для падрабязнага разгляду прадстаўленых твораў. Калі ўзгадаць, што ва ўніверсітэце Сапуноў займаўся вывучэннем хронікі Адама Брэменскага пра балтыйскіх славянаў і лічыўся спецыялістам па лівонскай гісторыі, то, думаецца, не выпадковым было рашэнне камісіі прадставіць яму для рагляду працу фон Кейслера.

У сваім сачыненні Фрыдрых фон Кейслер імкнуўся даказаць тры тэзісы: 1) Прыбалтыка знаходзілася толькі ў слабой залежнасці ад полацкіх князёў; 2) рускія лёгка адмовіліся ад сваіх заваяванняў у гэтым краі на карысць новых прышэльцаў – немцаў; 3) рускія не клапаціліся пра распаўсюджванне сярод літоўцаў, латышоў і эстаў хрысціянства, якое магло звязаць усіх цеснымі маральнымі сувязямі (113). Сапуноў не пагадзіўся з усімі прапанаванымі аўтарам высновамі, хоць і прызнаў за ім "працавітасць і любоў да справы, а таксама і поўнае знаёмства з найноўшымі нямецкімі сачыненнямі па тым пытанні, якому прысвечана даследаванне" (114). Рэцэнзент прапанаваў прысудзіць фон Кейслеру малы Увараўскі медаль.

25 верасня 1896 г. у Пецярбургу ў малой канферэнц-зале Акадэміі навук была зачытана справаздача аб 38-м прысуджэнні ўзнагародаў графа Уварава. У ліку адзначаных малой Увараўскай прэміяй у 500 рублёў было і сачыненне Фрыдрыха фон Кейслера, пасля чаго была выказана падзяка рэцэнзентам (У.В.Стасаву, прафесару Аляксандраўскага ўніверсітэта Сетэле і А.П.Сапунову) і рашэнне прызначыць ім залатыя Увараўскія медалі Акадэміі (115). Залаты медаль быў высланы Сапунову па пошце, а ягоная рэцэнзія надрукавана ў "Паведамленнях Імператарскай Акадэміі Навук" (пазней яна таксама выйшла асобнай брашурай).

У тым жа 1896 г. загадам па міністэрству юстыцыі ад 1 красавіка Аляксей Сапуноў быў прызначаны ганаровым міравым суддзёй Віцебскай акругі на бягучае трохгоддзе пры пакіданні яго на займаемай пасадзе архіварыуса архіва старажытных актаў. Міравыя суддзі, паводле судовай рэформы 1864 г., прызначаліся для разбору дробных судовых спраў з мэтай зняць з судоў больш высокага разраду "цякучку" і абіраліся з мясцовых жыхароў ва ўзросце не маладзей за 25 гадоў з вышэйшай або сярэдняй адукацыяй. Для іх быў устаноўлены таксама маёмасны цэнз: для жыхароў гарадоў — уладанне нерухомай маёмасцю, якая ацэньвалася пры збіранні падатку не менш як у 3 тысячы рублёў. Міравыя суддзі атрымлівалі ад дзяржавы заробак, аднак калі асоба адмаўлялася браць грошы за выкананне такой працы, яна атрымлівала найменне ганаровага міравога суддзі, але ж у выкананні сваіх функцый, у параўнанні са звычайным міравым суддзёй, ніякай розніцы не мела. Аляксей Сапуноў потым кожнае трохгоддзе абіраўся ганаровым міравым суддзёй на новы тэрмін ажно да самай рэвалюцыі 1917 г.

Дзе ж у канцы XIX ст. жыў у Віцебску мясцовы краязнаўца? Пасля шлюбу з Юліяй Валковіч маладыя, відаць, жылі на кватэры, бо грошай на набыццё ўласнага дома ў маладога настаўніка гімназіі па-просту не было. 27 чэрвеня 1887 г. у Віцебску адбыўся самы вялікі за ўсё XIX стагоддзе пажар (падчас якога, дарэчы, нарадзіўся будучы сусветна вядомы мастак Марк Шагал) (116). У дакладзе правіцеля канцылярыі, пададзеным з нагоды гэтай трагічнай падзеі віцебскаму губернатару, знаходзім наступныя радкі: "Затым маёмасць часткова згарэла, часткова разрабавана, часткова папсавана ў наступных асобаў: (...) 5) настаўніка Сапунова" (117). Такім чынам, з гэтага дакумента мы даведваемся аб тым, што жыў Аляксей Сапуноў з жонкай у той час недзе ў раёне Магілёўскай і Вялікай Магілёўскай вуліц (сучасныя вуліцы Калініна і Леніна), якія найбольш пацярпелі ад пажару. На канверце ліста, адрасаванага Сапунову А.Антановічам з Пецярбургу 7 кастрычніка 1887 г., знаходзім больш дакладны адрас гісторыка, які пацвярджае наша ранейшае меркаванне: г.Віцебск, Вялікая Магілёўская вул., дом Гурэвіча (118).

5 студзеня 1892 г. ў будаўнічае аддзяленне Віцебскай гарадской управы Сапуноў накіраваў прашэнне на дазвол будаўніцтва драўлянага дома ў 2-й частцы горада ў Духаўскім завулку. Да прашэння, як таго патрабавалі ўмовы будаўнічага статуту, былі прыкладзены схема мясцовасці, плануемай пад забудову, а таксама чарцёж фасада і план дома.

Па шчаслівай выпадковасці гэты праект на пабудову сярод дакументаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі захаваўся да нашага часу (119), дзякуючы чаму мы можам сёння бачыць, у якіх побытавых умовах меркаваў жыць віцебскі гісторык. Свой дом Сапуноў планаваў узвесці на стромым адхоне Духаўскога яра, недалёка ад царквы ў гонар Св.Духа — узвышша, адкуль адкрывалася цудоўная панарама на гістарычны цэнтр Віцебска. Аднапавярховы драўляны дом з уваходным тамбурам быў вельмі сціплым па памерах і сваім архітэктурным аздабленні. Ён меў усяго пяць невялічкіх жылых пакояў і кухню, якія ацяпляліся з дапамогай кафлянай і рускай печак (на апошняй таксама гатавалася ежа).

Дазвол на будаўніцтва дома гарадская ўправа ў хуткім часе выдала Сапунову, аднак ён па нейкай прычыне не паспяшаўся яго скарыстаць. Да сваіх будаўнічых планаў гісторык зноў вярнуўся ў 1894 г., калі 1 лістапада падаў у гарадскую ўправу новае прашэнне "аб пабудове драўлянага на мураваным падмурку дома і надворных службаў у 2-й частцы г.Віцебска па Набярэжна-Духаўской вуліцы" (120). Найперш адзначым, што Набярэжна-Духаўская вуліца і Духаўскі завулак — розныя назвы адной і той жа вуліцы, што бачна з сітуацыйных архіўных планаў мяжы XIX — пачатку XX стагоддзяў. Трэба думаць, што да свайго новага прашэння Аляксей Сапуноў прыклаў той жа самы праект дома. І на гэты раз ягоныя задумы здзейсніліся. У фармулярным спісе гісторыка за 1896 г. знаходзім згадку пра "нажыты драўляны дом у г.Віцебску", а ў "Акладной кнізе працэнтнага збору з нерухомай маёмасці" горада за 1899 г. — прозвішча Сапунова ў ліку домаўладальнікаў Духаўскога завулку (121).

Свой сціплы драўляны дом на высокай Духаўской гары, пад вокнамі якога штораніцы спявалі птушкі, гісторык пакінуў у канцы лета 1897 г., з'ехаўшы на чатыры гады на жыхарства ў Маскву.

## "Лепшы час майго жыцця"

1 верасня 1897 г. па прапанове ўпраўляючага Маскоўскай навучальнай акругі Аляксей Сапуноў быў пераведзены на пасаду памочніка інспектара студэнтаў Маскоўскага ўніверсітэта. Здаўшы ўсе справы ў архіве старажытных актаў, гісторык перабраўся на часовае жыхарства ў сталіцу.

Маскоўскі ўніверсітэт тады перажываў далёка не лепшыя часы. У адносінах паміж адміністрацыяй універсітэта і студэнтамі выразна адчуваліся канфлікты і супрацьстаянне. У сферы вышэйшай адукацыі тады ўвогуле адбываўся наступ рэакцыі, на пасады рэктараў прызначаліся найбольш

рэакцыйныя прафесары. Студэнты наладжвалі дэманстрацыі ў абарону сваіх правоў, за што падвяргаліся масавым арыштам.

У 1899 г. рэктарам Маскоўскага ўніверсітэта быў прызначаны прафесар заалогіі А.А.Ціхаміраў, які вызначыўся тым, што ў барацьбе са студэнтамі не грэбаваў ніякімі метадамі. Менавіта ў гэтыя часы ва ўніверсітэце павялічылася колькасць даносаў на студэнтаў і прагрэсіўную прафесуру, а ўніверсітэцкая інспекцыя канчаткова ператварылася ў агентуру паліцыі. У шматлікіх данясеннях папячыцелю навучальнай акругі і міністру асветы Ціхаміраў прасіў павялічыць штат інспекцыі і надаць ёй больш правоў, уключаючы прымусовы разгон студэнцкіх сходаў. У дарэвалюцыйнай Расіі малодшых служачых, якія сачылі за паводзінамі студэнтаў, называлі педэлямі. Гэтую пасаду выконвалі нават салдаты. Як адзначаў у сваім дзённіку ў 1899 г. выкладчык Маскоўскага ўніверсітэта І.У.Цвятаеў, "салдаты-педэлі здаўна карыстаюцца рэпутацыяй хабарнікаў і душаў прадажных, за 2-3-5 рублёў бессумленна сведчаць добрае наведванне лекцый багатым студэнтам" (122).

Шмат разоў на прыканцы стагоддзя ва ўніверсітэце ўзнікалі студэнцкія хваляванні. Яшчэ ў 1887 г., пасля таго, як на канцэрце ўніверсітэцкага хору і аркестру ў зале Маскоўскага дваранскага сходу студэнт юрыдычнага факультэта А.Сіняўскі даў аплявуху інспектару студэнтаў А.Брызгалаву, што бясконца прыніжаў навучэнцаў, пачаліся хваляванні, якія прывялі нават да часовага закрыцця ўніверсітэта. Моцныя студэнцкія хваляванні адбыліся і зімой 1899 г. Да адміністрацыі ўніверсітэта студэнты высоўвалі наступныя патрабаванні: 1) недатыкальнасць асобы студэнта; 2) права сходаў; 3) права вольнага ўваходу на дыспуты і неабавязковыя лекцыі; 4) паслабленне інспектарскага нагляду. 17 сакавіка 1899 г. з-за неперапыняючыхся студэнцкіх хваляванняў і байкоту лекцый царскія ўлады абвясцілі ўсіх студэнтаў Маскоўскага ўніверсітэту выключанымі, а ўніверсітэт зачыненым. Зваротны прыём студэнтаў павінен быў адбывацца толькі пры ўмове добрага водгуку ахоўнага аддзялення. Такім чынам, больш за 1000 чалавек было адмоўлена ў зваротным прыёме (123).

Вядома, што Аляксей Сапуноў, пагадзіўшыся перайсці на пасаду памочніка інспектара студэнтаў Маскоўскага ўніверсітэта, тым ці іншым чынам быў вымушаны ўдзельнічаць ва ўсіх гэтых справах. Аднак прыцягвала віцебскага гісторыка да сталіцы, відавочна, іншае – магчымасць працаваць у багатых архіўных ды бібліятэчных зборах, а таксама непасрэдныя кантакты з навукоўцамі. Варта адзначыць, што гісторыкі Маскоўскага ўніверсітэта на той час прадстаўлялі самую шматлікую і найбольш аўтарытэтную групу сярод прадстаўнікоў універсітэцкай прафесуры Расійскай імперыі. Тут працягваў сваю навукова-педагагічную дзейнасць Васіль Восіпавіч Ключэўскі, які, па словах сучаснікаў, "для маскоўскіх гісторыкаў (...) быў богам, да якога нельга было падыходзіць з нячыстымі думкамі" (124). Ва ўніверсітэце працавалі вучні Ключэўскага А.Кізеветэр (выкладаў гісторыю сялянскай рэформы), М.Багаслоўскі (рэформы Пятра І), М.Ражкоў (гісторыя прыгоннага права) і інш. Цікава адзначыць, што якраз у 1897-1901 гадах студэнтам гісторыка-філалагічнага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта быў Уладзімір Іванавіч Пічэта, які пад кіраўніцтвам Ключэўскага пісаў кандыдацкую працу на тэму "Юры Крыжаніч пра Маскоўскую дзяржаву".

"З задавальненнем прыняў я месца памочніка інспектара ў Маскоўскім універсітэце, – пісаў пазней Сапуноў. – Службовых заняткаў было вельмі мала, і я старанна наведваў пасяджэнні навуковых таварыстваў, сябрам якіх я да таго часу быў – "імператарскага Таварыства гісторыі і старажытнасцяў пры Маскоўскім універсітэце" і "Археалагічнага таварыства" (...) Час гэты – лепшы час майго жыцця" (125).

Варта адзначыць, што на пасяджэннях навуковых таварыстваў у Маскве гісторык з Віцебска прысутнічаў не толькі ў якасці пасіўнага слухача, але і чыннага даследчыка-выступоўцы. Так, у 1898 г. на пасяджэнні Таварыства гісторыі і старажытнасцяў расійскіх, старшынёй якога з'яўляўся прафесар Ключэўскі, Сапуноў прачытаў навуковы рэферат на тэму "Сапраўднасць урыўку з Полацкіх летапісаў, змешчанага ў "Гісторыі Расіі" Тацішчава пад 1217 г.". Сапуноў не пагадзіўся з аўтарытэтным меркаваннем К.Бястужава-Руміна і Р.Данілевіча аб тым, што прыведзены Тацішчавым летапісны ўрывак, у якім размова ідзе пра полацкага князя Барыса Давыдавіча, ягоную жонку Святохну і сыноў Васільку, Вячку і Уладзіміра, з'яўляецца не сапраўдным, а ўсяго толькі выдумкай Яропкіна. Гісторык выкарыстаў перш за ўсё пацверджанні іншых крыніц – "Хроніку" вядомага прыбалтыйскага летапісца Генрыха Латыша, а таксама падвергнуў аналізу самі факты, выкладзеныя Тацішчавым. Доказы Сапунова былі сустрэты слухачамі прыхільна, а прысутны на пасяджэнні прафесар Ключэўскі адзначыў, што сапраўднасць урыўка з Полацкіх летапісаў заўсёды здавалася яму несумненнай.

Маскоўскае археалагічнае таварыства, якім кіравала графіня Уварава, займалася, як ужо адзначалася вышэй, не толькі праблемамі непасрэдна археалогіі, але і іншых навук, у тым ліку, археаграфіі. Пры

таварыстве дзейнічала спецыяльная археаграфічная камісія, з якой падчас свайго побыту ў Маскве цесна пачаў супрацоўнічаць Аляксей Сапуноў. Як добры знаўца архіваў Беларусі, у сваіх выступленнях на пасяджэннях камісіі ён зрабіў агляд стану і зместу некаторых з іх: архіву Полацкай духоўнай кансісторыі, архіваў Магілёва (епархіяльнага старажытнасховішча, семінарскага, кансісторскага, пры Брацкім манастыры, губернскім праўленні і статыстычным камітэце), а таксама архіваў Мінска (пры Св.Духавым манастыры, духоўнай кансісторыі, статыстычным камітэце і губернскім праўленні). Мяркуючы па ўсім, Сапуноў меў ад археаграфічнай камісіі, якая ўздымала пытанні аховы дакументальнай спадчыны, спецыяльнае заданне на агляд архіваў Мінску і Магілёва, бо ў сваёй справаздачы ад 2 лістапада 1898 г. ён адзначаў, што архіў у Шчорсах, маёнтку графа Буцянёва, не змог агледзець па незалежачых ад яго абставінах, а архіў Мінскага статыстычнага камітэта, дакументы якога захоўваліся без усялякіх вопісаў у 9 звязках, адаслаў у Маскву ў археаграфічную камісію (126). Выступленні Сапунова на пасяджэннях камісіі былі надрукаваны ў "Працах Археаграфічнай камісіі", а пазней, у 1902 г., выйшлі асобнымі кніжкамі ў маскоўскай друкарні А.І.Снегіровай.

Да восені 1898 г., праслужыўшы 25 гадоў па навучальнай частцы, Аляксей Сапуноў меў права пакінуць службу і выйсці на пенсію. Аднак ён ім не скарыстаўся і па распараджэнні папячыцеля Маскоўскай навучальнай акругі быў "пакінуты на службе ў займаемай пасадзе" яшчэ на 5 год (127).

Застаўшыся і надалей жыць у сталіцы, віцебскі даследчык вымушаны быў здымаць часовае жыллё. У грунтоўным даведніку "Уся Масква" знаходзім некалькі ягоных адрасоў: вуліца Плюшчыха, дом Копцева, а таксама Вялікая Грузінская, дом Станішавай (128). Пражыўшы ў сталіцы яшчэ тры гады, восенню 1901 г. Сапуноў вярнуўся ў горад, які стаў яму ўжо родным.

## "Піянер правінцыйнай навукі"

Вярнуўшыся ў Віцебск, гісторык зноў пасяліўся на Духаўской вуліцы, аднак, ужо не ва ўласным доме, які ён, відаць, прадаў, а ў доме Цяпкіна. Па звестках "Памятных кніжак Віцебскай губерні", тут жа размяшчаўся і губернскі статкамітэт (129), дзе з 24 кастрычніка 1901 г. па 25 кастрычніка 1907 г. Аляксей Сапуноў працаваў на пасадзе сакратара.

Паводле "Палажэння", статкамітэты ствараліся ва ўсіх губернскіх гарадах пад старшынствам губернатараў і складаліся з памочніка старшыні, неадменных, сапраўдных і ганаровых сяброў, а таксама сакратара. Іх асноўным абавязкам быў збор "дакладных статыстычных звестак пра колькасць і якасць земляў, народанасельніцтва і вытворчыя сілы губерні і праверка і апрацоўка гэтых звестак па аднастайных формах, устаноўленых міністэрствам унутраных спраў" (130). Пад кіраўніцтвам Цэнтральнага статыстычнага камітэта быў праведзены перапіс насельніцтва 1897 г. і штогод выдаваліся звесткі пра землеўладанні, перамяшчэнні насельніцтва, размеркаванне пасяўных плошчаў, разлікі на ўраджай, колькасць жывёлы ў сельскай гаспадарцы, пажары і г.д. Неадменнымі сябрамі статкамітэтаў лічыліся губернскі маршалак, віцэ-губернатар, гарадскі галава, упраўляючыя розных казённых ведамстваў, дырэктар губернскай гімназіі, прадстаўнікі духоўных кансісторый праваслаўнага і каталіцкага веравызнанняў, а таксама іншыя афіцыйныя асобы, ад якіх залежала своечасовае і дакладнае прадстаўленне неабходных для далейшай апрацоўкі зыходных статыстычных звестак. Сапраўднымі сябрамі абіраліся тыя, хто сваімі ведамі і кругаглядам мог быць карысным камітэту. Ганаровымі ж сябрамі станавіліся, як правіла, асобы, якія падтрымлівалі развіццё губернскай статыстыкі грашыма. Па сутнасці, асноўнай асобай, ад якой шмат у чым залежаў поспех рэальнага ходу спраў, быў сакратар статкамітэта, які прызначаўся губернатарам і за выкананне сваіх абавязкаў атрымліваў "оклад жалованья" ў памеры 750 рублёў. У § 616 "Палажэння пра губернскія статыстычныя камітэты" акрэсліваліся патрабаванні, якім павінен быў адпавядаць сакратар. У прыватнасці, адзначалася, што перавага аддаецца "асобам, якія маюць вучоныя ступені або, па крайней меры, скончылі поўны курс навук у вышэйшых навучальных установах" (131).

Аляксей Сапуноў з імпэтам узяўся за новую працу. "Сапуноў ужо ў Віцебску і будзе шмат працаваць," – пісаў у сваім лісце да Яўхіма Карскага ад 15 снежня 1901 г. Еўдакім Раманаў. І дадаваў далей: "Запрашаю яго выдаць спісы населеных месцаў і ўрочышчаў Віцебскай губерні. Яны ў мяне ёсць, а ён – сакратар статыстычнага камітэта і справа як-небудзь зладзіцца" (132). Сапраўды, Сапуноў прыняў гэтую ідэю свайго даўняга сябра і стаў рэдактарам грунтоўнага даведніка "Спіс населеных месцаў Віцебскай губерні", які выйшаў у свет у 1906 г. і ў які ўвайшлі 24 734 назвы населеных пунктаў з указаннем імёнаў і веравызнання іх уладальнікаў, колькасці зямлі і насельнікаў, а таксама адлегласці ад губернскага горада, цэнтра павета і валаснога праўлення. У сувязі з тым, што значная колькасць

аб'ектаў, апісаных у "Спісе", не дайшла да нашага часу (маёнткі, двары, фальваркі, засценкі і г.д.), гэтая праца мае надзвычайную каштоўнасць для сучасных даследчыкаў гісторыі краю.

Яшчэ адзін зборнік – "Землеўладанне і землеўладальнікі Віцебскай губерні ў 1905 годзе"–быў складзены па ініцыятыве Цэнтральнага статыстычнага камітэта і выйшаў у свет пад рэдакцыяй Сапунова ў 1907 г. У даведніку прыводзіліся дадзеныя, сабраныя ў выніку запытаў, разасланых па ўсіх паветах і валасцях у чэрвені 1905 г. з просьбай "сабраць дакладныя сучасныя звесткі аб размеркаванні землеўладання ў Віцебскай губерні", а таксама аб землеўладальніках і велічыні зямельных надзелаў.

Адным з накірункаў дзейнасці губернскіх статкамітэтаў быў яшчэ "абавязак клапаціцца пра складанне, па меры магчымасцяў, (...) падрабязных апісанняў губерняў, гэтаксама, як і частак іх, таксама гарадоў і асабліва чым-небудзь выдатных у губерні мясцовасцяў, у адносінах тапаграфічных, гістарычных, прамысловых, гандлёвых, сельскагаспадарчых і інш., і пра выданне прац сваіх у свет" (133). Дзеля гэтага друкаваная плошча прадастаўлялася на старонках існуючага ў кожнай губерні афіцыйнага органа – газеты "Губернскія Ведамасці", а таксама статкамітэтам дазвалялася выпускаць уласныя выданні – "Памятныя кніжкі" і разнастайныя брашуры. Віцебскі губернскі статкамітэт у канцы XIX ст. вельмі часта меў праблемы з наяўнасцю навуковых прац, прыдатных да друку, у сувязі з чым не аднойчы звяртаўся да сваіх сапраўдных і неадменных сяброў з просьбай прыняць актыўны ўдзел у гэтай справе (134).

Аляксей Сапуноў і раней неаднаразова друкаваў свае творы на старонках "Памятных кніжак Віцебскай губерні". Заняўшы пасаду сакратара камітэта, ён стаў рэдактарам-складальнікам усіх "Кніжак", што выйшлі за гэты час (у 1902, 1903, 1904, 1905 і 1908 гадах), а таксама практычна адзіным аўтарам іх так званай неафіцыйнай часткі. Пакінуўшы на пэўны час у баку свае гістарычныя зацікаўленні, Сапуноў напісаў серыю аглядных артыкулаў, якія тычыліся сучаснага яму стану губерні: "Кустарная прамысловасць у Віцебскай губерні" (1903), "План г.Віцебска і тлумачэнні да плана" (1904), "Перыядычны друк Віцебскай губерні" (1904), "Агульныя звесткі па Віцебскай губерні" (1907).

Аднак найбольшую цікавасць для самога навукоўцы мела, трэба меркаваць, праца над выданнем "Помнікі часоў старажытнейшых і найноўшых у Віцебскай губерні", якім Сапунову давялося займацца адразу ж пасля прызначэння на пасаду сакратара статкамітэта. Справа ў тым, што 6 верасня 1901 г. міністр унутраных спраў накіраваў "губернатарам, граданачальнікам і обер-паліцмайстарам" цыркуляр, у якім прасіў прадставіць поўныя спісы ўсіх помнікаў даўніны, што меліся ў губерні і павінны былі ахоўвацца дзяржавай. "Паводле дзеючага заканадаўства", у Расійскай імперыі забаранялася "разбураць рэшткі старажытных замкаў, крэпасцяў, помнікаў і іншых будынкаў старажытнасці" (135), аднак бяда заключалася ў тым, што нават да пачатку XX ст. не было складзена адпаведнага рэестру помнікаў, якія падлягалі ахове. Першыя захады па зборы звестак пра помнікі даўніны адносяцца яшчэ да першай трэці XIX ст., аднак паколькі выкананне справы тады даручалася "знаўцам" ад мясцовых паліцэйскіх уладаў, сур'ёзных вынікаў такой працы чакаць не даводзілася. Наадварот, прыцягненне ўвагі да старадаўніх помнікаў, большасць з якіх знаходзілася ў дрэнным фізічным стане, часцяком прыводзіла проста да іх знішчэння.

На выкананне цыркуляра 1901 г. міністр унутраных спраў адводзіў адказным за тое асобам паўгода. Віцебскі губернатар Іван Чэпелеўскі пераадрасаваў справу сакратару статкамітэта Аляксею Сапунову і не памыліўся ў сваім выбары. З характэрнай для яго руплівасцю навуковец не толькі склаў спіс найбольш адметных помнікаў губерні ў адпаведнасці з рознымі катэгорыямі (найбольш старажытныя храмы, храмы-помнікі, уласна помнікі, Барысавы камяні, рэшткі замкаў, капліцы найноўшага часу), але і зрабіў падрабязныя іх апісанні, прывёў звесткі з гісторыі, а таксама змясціў іх фатаграфічныя выявы ці чарцяжы. Па сутнасці, гэтая праца Сапунова сталася першым грунтоўным выданнем, разлічаным на шырокага чытача, якое прыцягвала б увагу да тых помнікаў старасветчыны Віцебшчыны, якія патрабавалі да сябе больш ашчадных адносінаў і фіксаваліся б у масавай свядомасці менавіта як помнікі даўніны (136).

На прыканцы 1905 г. у №№134-141 "Віцебскіх Губернскіх Ведамасцяў" быў змешчаны артыкул Уладзіміра Казіміравіча Стукаліча пад назваю "А.П.Сапуноў. Да 25-годдзя яго навуковай і літаратурнай дзейнасці", а ў №148 – бібліяграфічны ўказальнік прац віцебскага краязнаўцы. Так неўпрыкмет за інтэнсіўнай даследчай працай і будзённымі клопатамі прайшла большая частка жыцця і чвэрць стагоддзя навуковай дзейнасці, якія прынеслі некалі простаму гімназічнаму настаўніку класічных моў шырокае прызнанне ў навуковым свеце, а таксама вядомасць і аўтарытэт сярод мясцовага грамадства. "Жыццё А.П.Сапунова не багатае на знешнія падзеі,– пісаў у сваім артыкуле Стукаліч, – але поўнае ўнутранага зместу, бескарыслівай любові да навукі і радзімы і нястомнай разумовай дзейнасці, якая суправаджалася

багатымі вынікамі для навукі і, быць можа, для росту мясцовай самасвядомасці (...) Калі зараз Віцебск вылучаецца сярод губернскіх гарадоў параўнальна ажыўленай навуковай і літаратурнай дзейнасцю, немалая частка заслуг у гэтым прыпадае на долю А.П.Сапунова, які з няўхільнай настойлівасцю развіваў думку аб неабходнасці мясцовых вывучэнняў, мясцовай літаратурнай і навуковай творчасці і служыў гэтаму прынцыпу словам і справай" (137).

Адзначаючы такую праблему, як усё ж недастатковае знаёмства шырокіх колаў мясцовага грамадства са шматграннай творчасцю гісторыка, далей у сваім артыкуле Стукаліч прывёў кароткую характарыстыку ягоных асноўных твораў, якую завяршыў наступным падсумаваннем: "З прыведзенага нарыса чытачы нашы бачаць, якая шырокая і разнастайная навуковая і літаратурная дзейнасць А.П.Сапунова. Ад ягонага дапытлівага позірку не схавалася ніводная важная з'ява, ніводны буйны бок гістарычнага жыцця віцебска-полацкага краю. Гісторыя палітычная; гісторыя рэлігійнай барацьбы і рэлігійнага жыцця; гісторыя і сучасны стан адукацыі; старажытныя святыні, рэшткі прамінулых стагоддзяў і помнікі найноўшых часоў; зрэшты, рачныя шляхі краю, іх эканамічнае значэнне ў мінулыя часы, іх сучасны стан і іх верагодная будучыня, – нішто не забытае, усё распрацавана з неаслабным цярпеннем і руплівасцю, паўсюль адчуваецца адна ўладарная думка, адно пануючае пачуццё, паўсюль бачны сляды розуму праніклівага і вострага, асцярожнага і ўважлівага, які заўсёды лічыцца з патрабаваннямі самай строгай крытыкі" (138).

Афіцыйнае святкаванне юбілею гісторыка было прызначана на 15 студзеня 1906 г. Аднак Аляксей Сапуноў, як пра гэта паведамлялі "Віцебскія Губернскія Ведамасці", пазбягаючы пышнага ўшанавання, з'ехаў на гэты дзень з Віцебска. Прыхільнікі, сябры і знаёмыя наведалі кватэру гісторыка, каб прынесці свае віншаванні, аднак не знайшлі яго дома. На імя Сапунова ў той дзень прыйшло шмат тэлеграм ад прыватных асобаў і розных устаноў: князя Мяшчэрскага, баранесы Лепель, Віленскага цэнтральнага архіва старажытных актаў, Віленскай публічнай бібліятэкі і інш. "Радзімічская Беларусь б'е чалом беларускаму Нестару за доблесную 25-гадовую службу абяздоленай радзіме",– так пранікнёна павіншаваў сябра Еўдакім Раманаў, што жыў тады ў Магілёве. Князь Цеханавецкі даслаў з Бачэйкава наступную тэлеграму: "Шлю шчырыя віншаванні паважанаму нашаму гісторыку з пажаданнем доўгіх гадоў для прадаўжэння ягонай карыснай працы" (139).

Напярэдадні юбілею Уладзімір Стукаліч звярнуўся да тагачаснага прафесара Кіеўскага ўніверсітэта Мітрафана Доўнар-Запольскага, з якім Сапуноў быў знаёмы яшчэ па Маскве (з 1896 г. Доўнар-Запольскі быў сакратаром археаграфічнай камісіі Маскоўскага археалагічнага таварыства, а з 1899 г. – прыват-дацэнтам гісторыка-філалагічнага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта), з просьбай выказаць свае думкі пра дзейнасць юбіляра. Доўнар-Запольскі з задавальненнем адгукнуўся і даслаў свой ліст, змешчаны Стукалічам у юбілейным нарысе і варты таго, каб працытаваць ягоную значную частку: "Навуковую дзейнасць А.П.Сапунова трэба разглядаць, па-першае, у адносінах да таго часу, калі яна пачалася, па-другое, трэба ўзважыць агульныя яе вынікі. Дваццацігадовая навуковая дзейнасць Аляксея Парфенавіча – гэта ёсць праца вучонага, жыццё якога прайшло ў глухой правінцыі; гэта дзейнасць suo motu, якая вынікала выключна з жадання ўнесці сваю пасільную лепту ў навуковую скарбніцу; пры ўсім тым праца Аляксея Парфенавіча працякала без усялякай надзеі на матэрыяльны або які-небудзь іншы поспех прыватнага характару. Гэтыя знешнія ўмовы нельга не цаніць; правінцыйны горад дваццаць-трыццаць год таму назад утрымліваў для маладога чалавека надта шмат спакусаў і не лёгка было ўтрымацца, каб не загразнуць у правінцыйнай ціне. Зараз у правінцыйных гарадах завяліся музеі, навуковыя таварыствы, напрыклад, навуковыя архіўныя камісіі і інш. Аднак увесь гэты рух вельмі новы і малады; А.П.Сапуноў стаў піянерам правінцыйнай навукі. Трэба і яшчэ дадаць: дваццаць гадоў таму назад чыноўнік нашага краю, які займаўся навукай ды яшчэ служыў у міністэрстве народнай асветы, быў на дрэнным уліку, яму пагражала паніжэнне па службе, або нават звальненне... Працаваць на навуковай ніве пры такіх умовах ужо з'яўляецца заслугай, і немалой.

Пераходжу зараз непасрэдна да прац А.П.Сапунова. На першым плане стаіць "Віцебская даўніна". Яна яшчэ не скончана, але важнае навуковае значэнне гэтага выдання стаіць па-за сумненнем (...) Не буду спыняцца на іншых працах А.П.Сапунова. Скажу толькі, што той, хто вывучае гісторыю нашага краю, не можа абыйсціся без гэтых прац: ён знойдзе тут шмат важнага матэрыялу і не мала думак, якія робяць гонар іх аўтару.

Успамінаючы факты, што тычацца дзейнасці А.П.Сапунова, я не магу адагнаць ад сябе думку, якой і хачу падзяліцца. Наш край можа ганарыцца шэрагам паважаных навуковых імёнаў, як імёны пп.Сапунова, Спрогіса, Раманава, Нікіфароўскага і інш. Аднак, на жаль, дзейнасць усіх гэтых працаўнікоў

не аб'яднаная. Час ужо падумаць пра заснаванне мясцовага навуковага гісторыка-этнаграфічнага таварыства. Такому таварыству належыць быць у Віцебску, дзе больш навуковых сілаў" (140).

Сапраўды, ідэя стварэння навуковай гісторыка-краязнаўчай арганізацыі ў Віцебску, што называецца, насілася ў паветры. Аднак 3 чэрвеня 1907 г. выйшаў царскі маніфест аб роспуску II Дзяржаўнай Думы і абвяшчэнні ўвосень новых выбараў. Сапуноў стаяў на парозе чарговага этапу свайго жыцця.

## Дэпутат Думы

Выбары дэпутатаў у III Дзяржаўную Думу адбыліся ў Віцебску 14 кастрычніка 1907 г. У вышэйшую законарадчую ўстанову Расійскай імперыі 106 выбаршчыкаў Віцебскай губерні абралі 6 дэпутатаў: сялянаў Васіля Амасёнка і Міхаіла Ермалаева, сябра губернскай прысутнасці Парфірыя Дапельмайера, сельскага гаспадара Мікалая Яўрэінава, настаяцеля Люцынскага гарадскога сабора протаіерэя Фёдара Нікановіча і сакратара губернскага статыстычнага камітэта Аляксея Сапунова.



Білет А.П.Сапунова – сябра Дзяржаўнай Думы.
З фондаў ВАКМ.

21 кастрычніка 1907 г. загадам віцебскага губернатара Сапуноў па ўласным прашэнні быў звольнены ад абавязкаў сакратара статкамітэта, бо трэба было збірацца ў Пецярбург – новая Дума мусіла пачаць сваю працу ўжо 1 лістапада. "Дзень адкрыцця 3-й Думы, хмурны, шэры дзень,– пісаў відавочца.– Па вуліцах штодзённая мітусня. Нічога святочнага, важнага. Не відаць нават сцягоў – гэтых нязменных знакаў казённай урачыстасці. "Ажыўленне" прыкметна толькі на вуліцах, што прылягаюць да Таўрычаскага палаца. Тут яшчэ з ранку снуюць узад і ўперад чароды паліцэйскіх. Чым бліжэй да палаца, тым гусцей становіцца рад паліцэйскіх. Месцамі яны стаяць адзін ад другога ў дзесяці кроках. Надта многа паліцэйскіх афіцэраў усіх разрадаў. З 10-й гадзіны дня нікога не пускаюць ісці і ехаць каля Таўрычаскага палаца. Пачынаюць збірацца дэпутаты" (141).

Самай шматлікай партыяй III Дзяржаўнай Думы была партыя акцябрыстаў ("Союз 17 октября"). Менавіта да яе па сваіх палітычных перакананнях належаў Аляксей Сапуноў. Прычым, самі акцябрысты падзяляліся на правых, цэнтрыстаў і левых. Сапуноў далучаўся да правага крыла (142). Жыў ён у Пецябургу спачатку на вуліцы Таўрычаскай (у дамах №№ 27 і 33), а ў 1911 г. – на Кавалергардскай, дом 12 (143).

Пра сваю дзейнасць у Думе віцебскі краязнаўца пісаў С.Венгераву ў 1913 годзе: "Чатыры гады працаваў я ў Дзяржаўнай Думе. Два пытанні асабліва цікавілі мяне: чыншавае, або арэнднае пытанне і ўвядзенне земства ў Заходнім краі. Я – не аратар, аднак давялося гаварыць разоў 6. Да вялікага майго і маіх выбаршчыкаў задавальнення, Дзяржаўная Дума абодва вышэйзгаданыя законы правяла паспяхова да канца, і менавіта так, як жадалі мае выбаршчыкі і я. Праўда, Дзяржаўны Савет значна змяніў гэтыя законапраекты, змяніў, з нашага пункту гледжання, не да лепшага; аднак і ў цяперашнім іх выглядзе яны, бясспрэчна, карысныя" (144). Паколькі тэксты прамоў Сапунова ў Дзяржлуме захаваліся да нашага часу (а надрукаваны яны былі не толькі ў стэнаграмах пасяджэнняў, але і ў "Віцебскіх Губернскіх Ведамасцях", а таксама ў выглядзе асобных брашур), паспрабуем разгледзець іх больш падрабязна.

На пачатку 1908 г. Аляксей Парфенавіч Сапуноў выступіў ініцыятарам праекта закона аб урэгуляванні арэнднага пытання, маючы на ўвазе даўнюю праблему гарадоў і мястэчак так званых Заходніх губерняў – трансфармацыю старадаўняга чыншавага права (вечнай фіксаванай арэнды) у арэнднае, што прыводзіла да штогод прагрэсуючага драпежнага рабавання арандатараў землеўласнікамі і крайняму абвастрэнню адносін паміж імі. У законе прадугледжваўся выкуп дзяржавай усіх земляў чыншавікоў, якія потым на працягу 30 гадоў павінны былі часткамі выплочваць грошы за зямлю ў казённую скарбніцу. Свой праект

закона “Аб ліквідацыі ў Беларусі рэштак чыншавага ўладання і выраджанага з яго гарадскога арэнднага ўладання” Сапуноў павінен быў унесці ў Думу на яе 20-м пасяджэнні 15 студзеня 1908 г. Вось што пісаў пра гэта ў сваім дзённіку дэпутат ад Віцебскай губерні айцец Фёдар Ніканөвіч: “У сённяшняе 20-е пасяджэнне Думы меркаваў выступіць з думскай трыбуны з прамовай з нагоды законапраекта аб чыншавым праве, складзенага нашым віцебскім дэпутатам Думы А.П.Сапуновым. Толькі за некалькі гадзінаў да пасяджэння атрымаў наказ з Віцебска неадменна выступіць з прамовай па гэтым прадмеце ў абарону інтарэсаў духоўнага ведамства. Спешна і напружана давялося рыхтавацца, вывучаць чыншавае пытанне і дасланы з Віцебска некаторы матэрыял. З п.Сапуновым абмяняліся ветлівасцямі і абяцаннем нікога ў прамовах не чапаць, а толькі зводзіць справу да перадачы законапраекта ў камісію. Аднак за недахопам часу даклад чыншавага законапраекта адкладзены да наступнага пасяджэння Думы” (145).

Наступнае, 21-е, пасяджэнне прайшло 17 студзеня, і на ім Сапуноў выступіў з вялікай прамовай, якую падмацаваў канкрэтнымі прыкладамі са справ, што разглядаліся ў Віцебскім акруговым судзе. Ён адзначыў, што ў Беларусі пасля скасавання спрадвечнага чыншавага права ўладальнікі зямельных надзелаў цяпер у любы час могуць перапыніць дагавор арэнды і прымусіць знішчыць усе пабудовы, узведзеныя на зямлі колішнім чыншавіком. Прычым, напрыклад, у Віцебску з 6070 усіх домаўладанняў 5305 (або 87%) размяшчаліся на чужой зямлі. “З усяго вышэйсказанага, мяркую, зразумела, што стан арандатараў-чыншавікоў і былых чыншавікоў, што зараз воляю лёсу ператварыліся ў простых арандатараў,– казаў Сапуноў, – горш сумнай памяці прыгоннага права: прыгоннымі тут з'яўляюцца людзі ўсіх званняў і станаў, усіх нацыянальнасцяў, усіх веравызнанняў” (146).

Пасля выступлення Сапунова пачаліся спрэчкі, і дзеля выпрацоўкі канчатковага рашэння па гэтым пытанні была створана спецыяльная камісія, пра якую айцец Ніканөвіч у сваім дзённіку пісаў наступнае: “8 сакавіка (1908 г. – *Л.Х.*), субота. Сёння ж адбылося першае пасяджэнне зноў сфарміраванай чыншавай камісіі. Давялося трапіць у сябры гэтай малацікавай для мяне камісіі... Пасяджэнне камісіі на гэты раз абмежавалася выбарам старшыні і сакратара. На пасаду старшыні абраны Шыдлоўскі і сакратара Чэрэванскі, абодва знаўцы чыншавага пытання. Увайшоў у склад камісіі і ініцыятар чыншавага пытання А.П.Сапуноў” (147). Варта адзначыць, што да самага канца чэрвеня, калі ў дэпутатаў пачаліся летнія вакацыі да сярэдзіны кастрычніка, камісія так і не здолела сабрацца больш ні на адно пасяджэнне (148). Тым не менш, прэса ўзняла кампанію па абмеркаванні чыншавага пытання. Як праз некалькі гадоў Сапуноў згадваў у сваёй прамове ў Думе 2 красавіка 1911 г., “адны ўгледзелі ў ім прыхаванае прымусовае адчужэнне, іншыя – экспрапрыяцыю, а адна з польскіх газет проста назвала яго дэмагагічным” (149).

Вольны ад пасяджэнняў Думы і працы ў камісіях час, Аляксей Сапуноў праводзіў у Пецярбургу як чалавек свецкі: не менш за два разы (13 лютага 1908 г. і 2 траўня 1909 г.) меў магчымасць прадставіцца “Ягонай імператарскай вялікасці” ў Царскасельскім палацы, 10 снежня 1907 г. быў запрошаны на вечар да старшыні Савета міністраў Пятра Аркадзевіча Сталыпіна і ягонай жонкі Вольгі Барысаўны, наведваў сходы розных палітычных клубаў і партый (150). Што тычыцца апошніх, то сярод іх варта адзначыць, безумоўна, “Саюз 17 кастрычніка”, Клуб грамадскіх дзеячаў, а таксама “Клуб памяркоўных і правых”, пра які айцец Ніканөвіч пісаў наступнае: “Яшчэ ў Віцебску, пасля выбараў, мною і іншымі сябрамі ад нашай губерні было атрымана запрашэнне ад “Клуба памяркоўных і правых” прыбыць у Пецярбург дзён за 5-6 да адкрыцця Думы і наведаць гэты клуб (Мохавая, №6) (...) Клуб мэтаю сваёй мае “аб'яднаць дзейнасць правых і памяркоўных фракцый Думы і Дзяржаўнага Савета і грамадскіх дзеячаў, аблягчаць ім магчымасць абмеркавання ўзнікаючых у дзяржаўным і грамадскім жыцці пытанняў” і г.д.” (151). Падчас працы ў Думе віцебскі гісторык не адмяжоўваўся і ад розных грамадскіх акцый: у ліку 50 дэпутатаў падпісаў заяву “Пра пенсіі настаўнікам і настаўніцам прыходскіх паводле статута 1828 г. вучылішчаў”, а ў 1908 годзе – зварот 75 дэпутатаў да літоўскага епіскапа Нікандра з просьбай прыняць на сябе пачын у справе ўзвядзення помніка князю Канстанціну Астрожскаму з нагоды ягонага 300-гадовага юбілею (152).

Аднак найбольшую значнасць і цікавасць для нас мае прамова, якую Аляксей Сапуноў прачытаў з трыбуны III Дзяржаўнай Думы 30 траўня 1909 г. Фармальна яна тычылася неабходнасці змянення парадку выбараў дэпутатаў Дзяржаўнага Савета ад 9 губерняў Заходняга краю, а па сваёй сутнасці стала сапраўдным маніфестам у абарону самавызначэння беларусаў. Справа ж заключалася ў тым, што 33 правыя дэпутаты Дзяржсавета ўнеслі заканадаўчую прапанову аб тым, каб змяніць закон аб выбарах у 9 губернях Заходняга краю, у якіх не было земскага самакіравання. Паводле існаваўшага закона, выбары праводзіліся губернскім з'ездам землеўладальнікаў, якія мелі неабходны зямельны цэнз. А паколькі буйнымі землеўласнікамі на тэрыторыі Беларусі, Украіны і Літвы былі пераважна палякі, то ўсе 9 дэпутатаў Дзяржсавета таксама

аказваліся палякамі, хоць агульны працэнт польскага насельніцтва ў гэтых губернях быў нязначны. Праект правых спадабаўся ўраду і ён унёс яго на разгляд Думы. Пасля абмеркавання Дума пагадзілася на гэтую перамену, аднак з умовою, што не пазней як праз год у Заходніх губернях будзе ўведзена земскае самакіраванне, якое ў іншых губернях імперыі існавала ўжо больш за 40 гадоў.

На пасяджэнні Думы 30 траўня 1909 г. з прамовай па гэтым пытанні выступіў старшыня Савета міністраў П.А.Сталыпін. Сутнасць ягонай прамовы зводзілася галоўным чынам да доказаў справядлівасці, своечасовасці і законнасці вырашэння ўзнятага пытання (153). У сваім дакладзе ўсё няпольскае насельніцтва Заходніх губерняў ён прынцыпова называў "рускімі", як гэта было тады шырока прынята, пастаўіўшы тым самым па-за законам словы "беларусы" і "ўкраінцы".

Варта адзначыць, што праблемы "іншародцаў" – польскай, яўрэйскай і татарскай меншасцяў – час ад часу абмяркоўваліся на пасяджэннях Дзяржаўнай Думы. Аднак прапанова ўраўняць у правах усе нацыі, што жылі ў Расійскай імперыі, ніколі не знаходзіла там прынцыповага ўхвалення. Правыя дэпутаты звычайна сустракалі яе крыкамі, шумам, смехам, а Сталыпін на адным з пасяджэнняў сказаў, што трэба, "каб іншародцы перш палюбілі Расію, прызналі яе сваёй айчынай, а тады ім будуць дадзены правы, роўныя з рускімі" (154). Першая беларуская газета "Наша Ніва" ўважліва сачыла за падзеямі, што адбываліся ў Думе ўвогуле, а ў сферы вырашэння нацыянальнага пытання – асабліва, і займала ў гэтай справе, як вядома, радыкальную пазіцыю. Пасля аднаго з чарговых абмеркаванняў пытання пра патрэбы "іншародцаў" на пачатку лета 1908 г. яна з'едліва і з роспаччу пісала: "Нашы беларускія дэпутаты, як адзін, маўчалі: ніхто і слова не сказаў пра беларускую нацыянальную справу. Ды ў гэтым няма ніякага дзіва: трэба ведаць, што нядаўна запанавала небывалая згода між "истинно-русскими" і "истинно-польскими" людзьмі. Яны зыйшліся ў думках сваіх на адным: ня трэба даваць беларусам прабудзіцца і пазнаць, што яны – беларусы, асобная нацыя, роўная другім, каторая мае свае ўласныя культурна-нацыянальныя патрэбы і жаданні. А як нашы дэпутаты-мужыкі належаць ўсе да "правых", дык вось ні адзін прадстаўіцель Беларусі – ані мужык, ані памешчык, ані чыноўнік – не памыкаўся гаварыць у Думе пра беларускую нацыю" (155).

Пасля гэтага роспачнага выступлення "Нашай Нівы" прайшло менш года, і 30 траўня 1909 г. з трыбуны Дзяржаўнай Думы прагучалі палымяныя словы: "Усе, нават самыя нязначныя народнасці, імкнуцца да "самавызначэння"; за імі ўсе прызнаюць права на гэта. Толькі адна народнасць, народнасць беларуская, не смее і думаць пра гэта". І сказаны яны былі не "дэпутатам-мужыком", а "чыноўнікам" Аляксеем Сапуновым (156), які на сваёй дарэвалюцыйнай біяграфіі яшчэ і да нашага часу мае ярлык адно толькі вернападданага манархіста і ярага прыхільніка праваслаўя.

Тут мы вымушаны вярнуцца крыху назад і ўзгадаць тыя факты з біяграфіі віцебскага гісторыка, што папярэднічалі ягонаму прыезду ў Пецярбург. Варта адзначыць, што яшчэ з маладосці Аляксей Сапуноў вызначаўся глыбокай і шчырай верай і прыхільнасцю да рэлігіі. Аднак ці варта гэта лічыць вялікай заганай выхавання чалавека, здаецца, вельмі пераканаўча даказалі дзесяцігоддзі панавання ў нашай краіне ваяўнічага атэізму. Тое ж, што артадаксальнае праваслаўе аказвала моцны ўплыў на ягоныя прафесійныя погляды – справа іншая. Сапраўды, яшчэ ў 1888 г. ва ўступным артыкуле да пятага тома "Віцебскай даўніны" Сапуноў разглядаў гісторыю Полацкай епархіі з выразна вызначаных тэндэнцыйна-клерыкальных пазіцый, што прыйшлося вельмі да густу вышэйшым царкоўным і ўрадавым колам дзяржавы (артыкул быў ахвотна передрукаваны афіцыйнымі перыёдыкамі – "Віцебскімі Губернскімі" і "Полацкімі Епархіяльнымі Ведамасцямі", а таксама ажно двойчы выдадзены асобнай брашурай – у 1888 і 1889 гадах).

На працягу некалькіх наступных гадоў жаданне Сапунова разглядаць "лёсы рускай народнасці ў Заходнім краі" праз прызму артадаксальнага праваслаўя па-ранейшаму неадменна прыводзіла яго да адлюстравання гістарычнага жыцця Беларусі ў "ягоным пастаянным імкненні да Вялікаросіі" (157). Гэткае ж сцвярджэнне гісторыка прагучала і ў ягонай лекцыі, прачытанай 25 красавіка 1893 г. ў зале Віцебскай гарадской думы, і ў артыкуле "Стагоддзе ўз'яднання Русі Белай з Вялікай" (1893), і ў брашуры "Гістарычныя адносіны Русі Белай і Вялікай" (1898).

Лічачы М.В.Каяловіча Калумбам, які адкрыў рускаму грамадству Беларусь (158), Сапуноў доўгі час знаходзіўся пад уплывам ягоных ідэй вялікадзяржаўнасці і манархізму як падставы для тлумачэння многіх момантаў феадальнай гісторыі Беларусі. У 1896 г. ў духу традыцыйнай дваранскай гістарыяграфічнай традыцыі ім былі напісаны дзве брашуры – "Значэнне царавання імператрыцы Кацярыны II для Заходняга краю ўвогуле і Віцебскай губерні ў прыватнасці" і "Граф Міхаіл Мікалаевіч Мураўёў-Віленскі" – адны назвы якіх гавораць ужо самі за сябе.

Аднак шматлікія паездкі ў Маскву, Пецярбург і Вільню, а таксама асабістае знаёмства з выдатнымі гісторыкамі і дзеячамі культуры свайго часу (Мітрафанам Доўнар-Запольскім (159), Браніславам

Эпімахам-Шыпілам і інш.) аказалі значны ўплыў на лібералізацыю поглядаў Сапунова. Аб эвалюцыі поглядаў віцебскага краязнаўцы на гістарычнае мінулае Беларусі як аб факце, які ўжо адбыўся, мы можам казаць на падставе тэкстаў ягоных прац, напісаных у другой палове 1900-х гадоў. Менавіта да гэтага часу склаліся тыя перакананні гісторыка, якіх ён трымаўся ўжо практычна да канца свайго жыцця.

Упершыню заклік да самавызначэння беларусаў прагучаў з вуснаў Сапунова з трыбуны III Дзяржаўнай Думы. Сваю прамову, прачытаную 30 траўня 1909 г., ён склаў як адказ на ліст колішняга дэпутата Дзяржсавета ад Віленскай губерні Корвіна-Мілеўскага, знанага дзеяча польскага кола. Паступова, пункт за пунктам, Сапуноў развенчваў міф пра тое, што палякі-каталікі былі асноўнай і спрадвечнай народнасцю Заходняга краю і заўсёды добра ставіліся да беларусаў. "Не больш за тры стагоддзі таму назад усё насельніцтва Беларусі было спрэс беларускім, спрэс праваслаўным",– сцвярджаў гісторык. Залічэнне да палякаў беларусаў-католікаў ён лічыў несправядлівым "змяшэннем двух слоў, двух паняццяў", "проста этнаграфічным рабункам", а выкладанне закона Божага рыма-каталіцкага веравызнання ў навучальных установах на польскай мове – не надта прыкметнай, але сапраўднай паланізацыяй беларусаў-католікаў. Падсумоўваючы сказанае, Сапуноў сказаў: "У нас, у Заходнім краі, стан спраў зараз такі: на адным баку стаіць моцнае сваім уплывам наша вышэйшае апалячанае дваранства і побач з ім багатае яўрэйства, якое заціснула некалі трывалае гарадское саслоўе наша; а на другім баку стаіць бедная, цёмная, хоць і агромністая маса народная" (160). (У дужках варта заўважыць, што праявы антысемітызму былі ўласцівыя не толькі асабіста для Сапунова, але і былі пэўным стылем працы ўвогуле ўрада і парламента. Абвінавачванне чарнасоценнымі газетамі таго ці іншага міністра ў заступніцтве за яўрэяў іншым разам было раўнавартасна канцу ягонай палітычнай кар'еры. Сам імператар быў ярым і актыўным антысемітам).

Нельга, канечне, кваліфікаваць дэпутата Дзярждумы Аляксея Сапунова як аднаго з лідэраў беларускага адраджэнскага руху пачатку XX стагоддзя. Аднак ягоная пазіцыя была ўсё ж дастаткова смелай для свайго часу і таго сацыяльнага становішча, якое ён займаў. Адна справа – знаходзіцца, так бы мовіць, у афіцыйнай апазіцыі да ўрада, і зусім іншая – будучы "аблашчаным" магчымасцю прадставіцца "Ягонай імператарскай вялікасці" і быць прынятым старшынёй Савета міністраў, мець грамадзянскую смеласць з самай высокай трыбуны краіны публічна выказваць не зусім пажаданыя для афіцыёза ўласныя думкі.

Па цытаваных вышэй выказваннях гісторыка мы бачым, што ён выразна разумеў небяспеку, якая зыходзіла ад захадаў па паланізацыі беларускага насельніцтва. "Сапуноў у сваіх працах даказаў, што беларусы – гэта не палякі, а далей упэўніўся, што Беларусь – гэта і не Маскоўшчына", – адзначаў у сваім дакладзе на 1-й акруговай канферэнцыі Краязнаўчага таварыства, што адбылася ў красавіку 1925г., Даніла Васілеўскі (161).

Яшчэ адна прамова, якую Сапуноў прачытаў з трыбуны Дзяржаўнай Думы 11 траўня 1910 г., тычылася ўвядзення земстваў у Віцебскай, Валынскай, Кіеўскай, Мінскай, Магілёўскай і Падольскай губернях. Даўняе пытанне пра неабходнасць увядзення земстваў у Заходнім краі да вясны 1910 г. вылілася ў рашэнне ўвесці іх толькі ў шасці з дзевяці губерняў (у Віленскай, Ковенскай і Гродзенскай губернях "рускае памешчыцкае землеўладанне" лічылася вельмі слабым, што пагражала "рускім" стратай дамінуючых пазіцый у розных сферах грамадскага жыцця). У сувязі з гэтым выбары павінны былі ажыццяўляцца па іншым прынцыпе: знішчаліся саслоўныя і ўводзіліся выбары па нацыянальных курыях. Такім чынам, рэакцыйны па сваёй сутнасці законапраект меў выгляд буйнога ліберальнага пачынання – уводзіў бессаслоўныя выбары ў земствы і крыху павялічваў прадстаўніцтва сялянаў.

У траўні 1910 г. гэты законапраект быў прыняты Думай, аднак у сакавіку 1911 г. адхілены Дзяржаўным Саветам. П.А.Сталыпін пасля гэтага падаў у адстаўку, якая не была прынята. Па сутнасці, гэты крок стаў актам палітычнага самазабойства старшыні Савета міністраў. У пошуках прыстойнага выйсця з'явілася ідэя ўвесці для Сталыпіна пасаду намесніка Сібіры або накіраваць яго на пасаду намесніка Каўказа ці пасла. Зрэшты, рашэнне ўзяла на сябе ахранка, адправіўшы свайго ўласнага шэфа туды, адкуль ужо не вяртаюцца – 1 верасня 1911 г. ў Кіеве адбылося пакушэнне на Сталыпіна, у выніку якога ён атрымаў смяротнае раненне.

У сваёй прамове 11 траўня 1910 г. Сапуноў выступіў у абарону толькі аднаго тэзіса законапраекта аб земствах: "У сябры радаў вучылішчаў ад земства і гарадоў земствам і гарадскім грамадскім упраўленнем могуць быць абраны толькі асобы рускага паходжання". Адзначаючы ў большасці сваёй пагардлівае стаўленне палякаў да беларускага народа, Сапуноў прывёў, праўда, не зусім аб'ектыўную, гістарычную даведку пра недастатковую ступень развітасці асветы на Беларусі да самага часу далучэння яе да Расійскай імперыі. Пры гэтым, робячы нацыянальную самаідэнтыфікацыю, ён адзначаў наступнае:

"Дазвольце мне, як беларусу, які выйшаў з самых нетраў народа, звярнуць вашую ўвагу на адзін бок гэтага пытання. Са спрэчак высветлілася, што пытанне засяроджваецца, галоўным чынам, на культурнасці польскага элемента і малакультурнасці рускага насельніцтва Заходняга краю. (Тут прыгадаем сабе ўжо зробленую намі вышэй заўвагу аб тым, што слова "рускі" ў лексіконе думскіх дэпутатаў уключала ў сябе назоў і беларусаў, і ўкраінцаў – *Л.Х.*) (...) Пагардлівыя адносіны палякаў да беларускага народа перайшлі і да іх сяброў. Між тым, беларусы далі палякам і іх найвялікшага паэта, і іх найвялікшага героя: і Міцкевіч, і Касцюшка, па паходжанні, беларусы. Так было ў мінулым; ёсць, значыць, падстава, што ў будучым беларусы і для сябе вылучаць з нетраў сваіх гэткіх жа вялікіх людзей" (162).

У дакументах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі захаваўся ліст Сапунова да рэдактара "Віцебскіх Губернскіх Ведамасцяў", дзе друкаваліся тэксты ўсіх ягоных выступленняў у Думе. Гісторык, у прыватнасці, пісаў: "Ваша міласць, пан Рэдактар! Пакорліва прашу даць месца ў "Віцебскіх Губернскіх Ведамасцях" наступным радкам. Падчас прамаўлення мною ў Дзяржаўнай Думе 11 траўня прамовы з нагоды ўвядзення земства ў Заходніх губернях, калі я сказаў, што А.Міцкевіч і Т.Касцюшка па паходжанні беларусы – з левага боку пачуліся галасы: "Адкуль гэта?" Я зараз жа задаволіў цікавасць сяброў Дзяржаўнай Думы. Мяркую, што і пры чытанні гэтай маёй прамовы, надрукаванай у №107 "ВГВ", у чытачоў можа ўзнікнуць жаданне праверыць згаданыя мной цытаты, я і раблю гэтае паведамленне. Аб тым, што Міцкевіч па паходжанні беларус, можна бачыць, між іншым, з сачынення А.Пыпіна "Гісторыя рускай этнаграфіі", т.IV, с.144. Словы самога Міцкевіча з "Пана Тадэвуша" "Litwo, ojczyzna moja" etc. указваюць толькі, што паэт меў тут на ўвазе гістарычную прыкмету, аднак зусім не этнаграфічную: Мінская губерня, дзе нарадзіўся А.Міцкевіч, спрадвеку беларуская, а не літоўская. Відаць, так гэта разумее і А.Пыпін, бо слова "ліцвін" на с.60 пастаўлена ў яго ў двукоссе. Можна дадаць яшчэ, што ўвогуле беларусаў называюць іншым разам "ліцвінамі" менавіта ў гэтым сэнсе, гэта значыць, гістарычным" (163).

Газета "Наша Ніва" вельмі ўважліва сачыла за працай Думы, увесь час друкуючы на сваіх старонках рэпартажы з яе пасяджэнняў і каментуючы тыя пытанні, што на іх абмяркоўваліся. Адзін з карэспандэнтаў газеты зрабіў нават падрабязнае апісанне аднаго з такіх пасяджэнняў: "Нядаўна давялося мне быць у Гасударственнай Думе. Дастаўшы білет ад знаёмага дэпутата, я рана пайшоў на Таўрычаскую вуліцу. Публіка ў Думу праходзіць зусім асобным ганкам, не туды, куды дэпутаты. Зняўшы пальто, падняўся і я па шырокіх мармуровых сходах на хоры для народу, што ідуць кругом вялізнай думскай залы. Калі глядзець у ніз, то відаць лаўкі, як бы ў школі, яны ідуць кругам. Па сярэдзіне вышэй трохі, стол прадседацеля Думы; перад прадседацелем як-бы амбона, з каторай гавораць дэпутаты.

Засяданне яшчэ не пачалося. Праз дзверы ўходзяць дэпутаты, ідуць на свае мейсцы, вітаюцца адзін з адным. Ад гутаркі ідзе гул. Палавіна лавак пустая: дэпутаты яшчэ шпацыруюць па карыдоры і па Екацярыненскай зале; людзі аднэй партыі перагаворваюцца, збіраюцца грамадкай. Надта многа духоўных праваслаўных. Вось, ідуць колькі барадатых расейскіх мужыкоў у армяках; і сяляне, і духоўныя садзяцца найбольш на права. Пачаў шукаць я вокам нашых беларусаў, мужыцкіх дэпутатаў: сядзяць радком у самым задзі правых! Зазваніў прадседацель у званок. Засяданне адкрылася, але мест пустых шмат. Некаторыя дэпутаты заходзяць у залу, калі што цікавае гаворыцца, а іншыя саўсім не бываюць; за гэта іх штрафуюць" (164).

Напружаная праца ў Думе адмоўна адбілася на здароўі Аляксея Парфенавіча. "Нязвыклы расклад жыцця ў Дзяржаўнай Думе, – пісаў Сапуноў Венгераву,– актыўныя заняткі (па шчырасці, ніколі ў жыцці не працаваў я так актыўна), жыццё нервамі – усё гэта падтачыла мне здароўе і амаль два гады прахварэў я базедавай хваробай" (165). Хвароба не давала магчымасці віцебскаму гісторыку ўдзельнічаць у звычайнай працы Думы. Ён прадстаўляў даведкі ўрачоў, часта манкіраваў, а з 22 траўня 1912 г. перастаў ездзіць на пасяджэнні Думы (166).

9 чэрвеня 1912 г. III Дзяржаўная Дума скончыла сваё існаванне. Аляксей Сапуноў зноў вярнуўся ў Віцебск.

## З навуковай архіўнай камісіяй

Прыехаў Сапуноў ужо зусім не ў той горад, які пакінуў пяць гадоў назад. 31 траўня 1909 г. тут было створана, зрэшты, аб'яднанне мясцовых аматараў даўніны – Віцебская навуковая архіўная камісія (ВНАК). Яе арганізатарамі былі выкладчык Віцебскай духоўнай семінарыі М.М.Багародзкі і саветнік губернскага праўлення В.С.Арсенеў, які быў абраны старшынёй камісіі. Мэты стварэння ВНАК акрэсліваліся трыма пунктамі: 1) разгляд вопісаў спраў, прызначаных рознымі ўстановамі да знішчэння; 2) разгляд і вывучэнне старажытных рукапісаў і дакументаў; 3) вывучэнне і збіранне прадметаў старажытнасці. Ужо ў 1910 г. камісія выпусціла ў свет першы зборнік сваіх "Прац". З 1911 г. было

прынята рашэнне друкаваць матэрыялы не толькі па гісторыі, але і адлюстроўваць бягучыя падзеі, дзеля чаго палічылі неабходным змяніць назву выдання на “Полацка-Віцебскую даўніну”, якую меркавалася выдаваць па 2-3 зборнікі на год.

Мясцовыя ўлады прыхільна ставіліся да дзейнасці камісіі і па меры магчымасці падтрымлівалі яе. ВНАК мела свой архіў, захавальнікам якога была Марыя Мельнікава, бібліятэку і стварыла музей, якім кіраваў Канстанцін Змігродскі. На пасяджэннях камісіі чыталіся шматлікія гістарычныя даклады, большая частка з якіх потым друкавалася.

Вялікай заслугай ВНАК можна лічыць адкрыццё 27 кастрычніка 1911 г. Віцебскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута (ВАМАІ) – першай пасля ліквідацыі Віленскага ўніверсітэта вышэйшай навучальнай установы на Беларусі. Маскоўскі археалагічны інстытут быў заснаваны ў 1907 г., і ягонае Віцебскае аддзяленне было трэцім пасля Смаленскага і Калужскага правінцыйным філіялам.

Ужо падчас стварэння Віцебскай навуковай архіўнай камісіі Сапуноў быў абраны яе ганаровым сябрам. Нягледзячы на тое, што Аляксей Парфенавіч ніколі не адыгрываў у гісторыі стварэння і існавання ВНАК нейкай выключнай ролі, ён ніколі не стаяў і ў баку ад яе дзейнасці і тых праблем, што яна вырашала. Яшчэ жывучы ў Пецярбургу, мэтр мясцовай гісторыі імкнуўся тым ці іншым чынам прыняць удзел у рабоце ВНАК. Так, у 1910 годзе на адным з пасяджэнняў камісіі, якое адбылося 26 верасня, ён прачытаў даклад “Беларусь і беларусы”, правёў экскурсію па Віцебску, ахвяраваў вітрыну з прадметамі, знойдзенымі падчас раскопак Люцынскага могільніка, падрыхтаваў да друку матэрыялы, якія пазней былі выдадзены ў “Працах Віцебскай Навуковай Архіўнай Камісіі” і “Полацка-Віцебскай даўніне” (усяго ў гэтых выданнях было надрукавана 7 прац Сапунова).

Прачытаны на пасяджэнні ВНАК даклад “Беларусь і беларусы” пазней быў выдадзены ў выглядзе асобнай брашуры, і ягоны аналіз дае падставы зрабіць нам некаторыя высновы наконт далейшай эвалюцыі поглядаў Сапунова на праблему самавызначэння беларусаў. Як ужо адзначалася вышэй, найбольшы ўплыў на пачатковым этапе дзейнасці на яго аказалі працы гісторыкаў “заходне-рускай” школы К.Гаворскага і М.Каяловіча. Нават у 1910-я гады Сапуноў не пагаджаўся з той рэзка адмоўнай адзнакай дзейнасці Ксефонта Гаворскага, якую даў гэтаму даследчыку А.Пыпін у сваёй “Гісторыі рускай этнаграфіі”. Жадаючы абяліць яго перад гісторыяй, Аляксей Сапуноў хацеў напісаць біяграфію Гаворскага для друку ў “Працах” Віцебскай навуковай архіўнай камісіі, а таксама перавыдаць ягоную “Гісторыю Полацкай епархіі” (167). “На працягу доўгага часу гаварыць аб Беларусі, а тым больш займацца распрацоўкай якіх-небудзь пытанняў аб Беларусі,– пісаў Аляксей Сапуноў у 1924 г.,– азначала наклікаць на сябе падазрэнне ў “сепаратызме”, а гэта было далёка не небяспечна; зведалі гэта і іншыя, зведаў гэта і я. Калі я, займаючы пасаду сакратара Віцебскага Губернскага Статыстычнага Камітэта, пры дакладзе сваім аднаму з губернатараў узгадаў неяк пра Беларусь, то ён неяк злосна заўважыў: “Якая там Беларусь? Дзе яна?” А з’яўляючыся на працягу 25 гадоў настаўнікам гімназіі, я не карыстаўся некаторымі ільготамі, якімі карысталіся ўсе іншыя выкладчыкі, менавіта таму, што быў мясцовым ураджэнцам, беларусам, а не “абрусіцелям” (168).

У дакладзе ж “Беларусь і беларусы” Аляксей Сапуноў змог ужо публічна і ў Віцебску выказаць свае досыць ліберальныя па тых часах погляды. Ён адзначаў самабытнасць развіцця беларускага народа і ягонай культуры і казаў наступнае: “Асаблівасці мовы беларусаў, іх норавы і звычаі, багатая народная літаратура і г.д. відавочна даказваюць існаванне асобнага беларускага племя” (169). Насуперак меркаванню многіх сваіх сучаснікаў пра забітасць, прыгнечанасць і рабскую псіхалогію беларуса, пазбаўленага нацыянальнага аблічча, Сапуноў пісаў пра яго з вялікай замілаванасцю і верай у глыбінныя сілы народа: “Якія багатыя духоўныя сілы тояцца ў душы беларуса; капітальныя працы памянёных этнографаў (Е.Раманава, П.Гільтэбрандта, П.Бяссонава, П.Шэйна, М.Нікіфароўскага – *Л.Х.*) абверглі ходкае меркаванне пра кволасць і млявасць натуры нашчадкаў “гэтых грозных палачанаў”, як называе іх пясняр “Слова пра паход Ігараў” (170).

Вызначаючы тэрыторыю рассялення беларусаў і іх колькасць, Сапуноў схіляўся да неабходнасці ацэньваць іх на падставе найноўшых этнаграфічных даследаванняў, якія ўносілі істотныя карэктывы ў статыстычныя звесткі “Першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расійскай імперыі 1897 г.”. Асабліва высока ён ставіў працы Яўхіма Карскага, аб якім пісаў, што праца апошняга “Беларусы” (Варшава, 1903) “павінна быць настольнай кнігай для ўсіх, хто цікавіцца Беларуссю”. Пры вызначэнні колькасці беларусаў вялікую праблему віцебскі гісторык бачыў у адсутнасці ў народным асяроддзі саманазвы беларусаў, а таксама ў дапускаемым часам атаясамленні веравызнання з нацыянальнасцю. “Асабліва

прыкра і важна па сваіх наступствах, – пісаў Сапуноў, – змешванне слоў паляк і каталік. Гэта ж бязглуздзіца: не ўсе ж палякі – каталікі, а тым больш не ўсе каталікі – палякі (...) Дробная шляхта і сяляне-каталікі ў хатнім ужытку гавораць, звычайна, па-беларуску і амаль нічым не адрозніваюцца ад сваіх сабратоў – праваслаўных беларусаў. Залічваць да палякаў гэтых беларусаў толькі таму, што яны каталікі, гэта ж проста этнаграфічны рабунак, калі можна так сказаць" (171).

Сапуноў адзначаў, што беларусы жывуць у 72 паветах 14 губерняў Расійскай імперыі і "на ўсёй азначанай прасторы (...) пануе беларуская мова". Называючы ў сваіх працах беларускую мову то "беларускім дыялектам", то "беларускай гаворкай", Сапуноў лічыў яе, спасылаючыся на аўтарытэт І.І.Срэзнеўскага, адным з "самых важных мясцовых відазмяненняў рускай народнай мовы", неаднаразова гаварыў пра яе як пра "прамы носьбіт агульнарускіх рысаў" (172). Падтрымліваючы такім чынам вялікадзяржаўны тэзіс пра паходжанне беларускай мовы ад рускай, Сапуноў, тым не менш, дастаткова дакладна акрэсліў яе ролю і значэнне ў гісторыі і культуры беларусаў. З гэтай нагоды ён пісаў: "Найважнейшыя асаблівасці сучасных беларускіх гаворак у большай або меншай ступені склаліся не пазней XIII ст. (...) Беларускі дыялект быў некалі мовай мясцовых дзелавых актаў і грамат. Пасля заваявання заходняга краю Літвой, ён застаўся дзяржаўнай мовай літоўска-рускага Вялікага княства. Мовай дзелавога афіцыйнага жыцця беларускі дыялект заставаўся з XIV ажно да XVIII стагоддзя. Так, гэтай мове належыць такі цудоўны помнік, як Літоўскі Статут (дакладней – Беларускі, бо ён – плён генія беларускага народа), надрукаваны ў Вільні ў 1588 г." (173).

Праблемы беларускай мовы займалі Сапунова не толькі ў аспекце рэтраспектывы яе гістарычных лёсаў. Цікавіў гісторыка і яе сучасны стан, а таксама адносіны да мовы ў розных слаях грамадства. Забягаючы крыху наперад, працытуем фрагмент ягонай лекцыі "Беларускі дыялект. Сучасны" з курса беларусазнаўства, які Сапуноў чытаў у Віцебскім панінстытуце ў 1923-1924 гадах: "Няма чаго шматслоўна гаварыць аб тым, як пажадана і важна, каб тыя, хто лічаць сябе носьбітамі культуры, навучыліся цалкам разумець той народ, які яны заклікаць весці да маральнай і інтэлектуальнай культуры. Навучыўшыся разумець народ, ягоную мову, казкі, паданні, мы навучымся любіць яго, навучымся бачыць у ім чалавека. Першы крок у вывучэнні народа – гэта збіранне твораў народнай славеснасці і вывучэнне народнай мовы" (174).

Сам Аляксей Сапуноў добра ведаў і любіў беларускую мову. Сярод эпіграфаў ягоных лекцый, чытаных у Віцебскім аддзяленні Маскоўскага археалагічнага інстытута, побач з лацінскімі выказваннямі сустракаем наступнае: "Хто гардзіць старыной, таго трэба дубіной". "Беларуская мова валодае дастатковым багаццем і гнуткасцю для выказвання агульначалавечых пачуццяў і высокіх думак", – напісаў гісторык у курсе беларусазнаўства і пераканаўча даказаў гэта, цытуючы студэнтам вялікія ўрыўкі з "Энеіды навыварат", "Гапона" В.Дуніна-Марцынкевіча, ягонага ж перакладу "Пана Тадэвуша" А.Міцкевіча, "Панскага ігрышча" Ф.Тапчэўскага, верша "У судзе" Мацея Бурачка (175). Свой даклад 1910 г. ў Віцебскай навуковай архіўнай камісіі Сапуноў закончыў вядомымі вершаванымі радкамі Янкі Лучыны:

*"Сонца навукі скрозь хмары цёмныя*
*Прагляне ясна над нашаю ніваю,*
*І будуць жыці дзеткі патомныя*
*Добраю доляй – доляй шчасліваю!.."*

Вярнуўшыся з Пецярбурга ў Віцебск, краязнаўца літаральна адразу ж далучыўся да дзейнасці навуковай архіўнай камісіі. Яшчэ ў 1911 г. ВНАК выступіла ініцыятарам узвядзення ў горадзе помніка героям вайны 1812 года. Праз Пецярбургскае таварыства архітэктараў быў абвешчаны конкурс на лепшы праект. Пераможцам выйшаў архітэктар Іван Фамін (1872-1936), які прапанаваў праект помніка, які быў амаль што дакладнай копіяй Румянцаўскага абеліска, узведзенага ў Пецярбургу ў 1798-1799 гг. па загаду Паўла І архітэктарам Брэнам (176). Абмяркоўваліся розныя месцы ўстаноўкі помніка ў Віцебску. Так, на пасяджэнні гарадской думы 16 траўня 1912 г. быў заслуханы даклад Віцебскай губернскай управы, у якім прагучала аргументацыя спецыяльна створанай са спецыялістаў камісіі аб тым, што побач з Успенскім саборам помнік не можа быць узведзены таму, што тут глеба з неадпаведнымі параметрамі; на Гімназічным бульвары мацярык знаходзіцца на глыбіні ўсяго 5 сажняў, што будзе патрабаваць значных выдаткаў на ўзвядзенне падмуркаў помніка; Саборная плошча прарэзана трамвайнымі шляхамі ды загрувашчана слупамі і правадамі; а ў скверы "Ліпак" (паміж сучасным краязнаўчым музеем і вуліцай Маякоўскага) "не гарманізуючае з сэнсам помніка атачэнне ў выглядзе магазінаў, лавак і г.д." (177). "Усіх гэтых недахопаў пазбаўлены Губернатарскі бульвар",– адзначалася ў заключэнні камісіі. Менавіта тут і было вырашана ўзводзіць помнік.

27 чэрвеня 1912 г. адбылося пасяджэнне Савета ВНАК, на якім была створана асобная камісія для выпрацоўкі праекта надпіса на помніку героям вайны 1812 года. У склад камісіі былі абраны У.К.Стукаліч, М.Ю.Кенігсфест, Я.М.Нікалаеў і А.П.Сапуноў (178). Урачыстасці, што прайшлі ў Віцебску 5-6 снежня 1912 г. з нагоды адкрыцця і асвячэння помніка, узведзенага на сродкі "казны, горада і ахвяраванні вайсковых частак, грамадскіх устаноў і прыватных асобаў", ператварыліся ў сапраўднае агульнагарадское свята. Будынак ратушы, дзе размяшчалася гарадская ўправа, у гонар тэзаімянінаў імператара Мікалая II у гэтыя дні быў упрыгожаны яловымі веткамі, а на вежы ўладкаваны вензель вялікіх памераў, ілюмінаваны 250 электрычнымі лямпачкамі, з ініцыяламі "А" і "Н", лічбамі "1812-1912" і каронай наверсе (179).

З 28 верасня Аляксей Сапуноў ужо рэгулярна наведваў пасяджэнні ВНАК у якасці сябры яе Савета. 14 кастрычніка 1912 г. на агульным сходзе камісіі ён прачытаў даклад "Аб Фларыяне Грабніцкім, полацкім архіепіскапе" (180), сведкам ускрыцця пахавання якога ў нішы Полацкага Сафійскага сабора ён быў яшчэ ў жніўні месяцы.

На пачатку 1913 г. Уладзімір Казіміравіч Стукаліч, які ў ВНАК быў таварышам старшыні (паводле сучаснай тэрміналогіі, ягоным намеснікам), адмовіўся ад сваёй пасады, матывуючы заяву недахопам часу на заняткі справамі камісіі. На пасяджэнні Савета ВНАК 10 студзеня была разгледжана гэтая справа, Стукалічу выказана падзяка за карысную і сумленную дзейнасць, а таксама вызначаны тры кандыдатуры на займанне вакантнай пасады. Тайнае галасаванне прынесла наступныя вынікі: па 6 галасоў атрымалі Сапуноў і губернскі маршалак П.А.Рэнгартэн (які ад далейшага ўдзелу ў выбарах адмовіўся), 2 галасы атрымаў У.Г.Краснянскі і адзін – М.Ю.Кенігсфест (181). У хуткім часе таварышам старшыні быў абраны Сапуноў. Як можна прасачыць па дакументах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі, гэтыя абавязкі ён выконваў, прынамсі, да вясны 1917 г.

1913 год у Расійскай імперыі быў адзначаны такой урачыстай падзеяй, як святкаванне 300-годдзя царавання дома Раманавых. Па ўсёй краіне прайшлі вялікія ўрачыстасці, і кожная афіцыйная ўстанова лічыла сваім абавязкам нейкім чынам адгукнуцца на гэтую падзею. Савет ВНАК на сваім пасяджэнні 10 студзеня 1913 г. абраў спецыяльную дэпутацыю для паднясення гасудару імператару віншаванняў і ўласных прац, у склад якой увайшлі старшыня ВНАК Клаўдзій Ціхаміраў, Аляксей Сапуноў і Уладзімір Краснянскі. Па сваіх палітычных перакананнях Сапуноў быў, як вядома, заўзятым манархістам, таму не здзіўляе тое, што 21 лютага таго ж года Аляксей Парфенавіч на ўрачыстым сходзе, які адбыўся ў зале Віцебскай жаночай Аляксееўскай гімназіі, і на якім прысутнічалі віцебскі губернатар, епіскап Полацкі і Віцебскі Нікадзім, "шталмейстар Высачайшага двара М.У.Арцымовіч" і іншыя высокія асобы, прачытаў даклад "Адносіны царуючага дома Раманавых да Беларусі".

"На пачатку 1913 г. дырэктар Маскоўскага археалагічнага інстытута імя імператара Мікалая II А.І.Успенскі, – пісаў Сапуноў Сямёну Венгераву,– прапанаваў мне чытаць у Віцебскім аддзяленні археалагічнага інстытута лекцыі па гісторыі і старажытнасцях Паўночна-Заходняга краю" (182). 3 лютага таго ж года гісторык быў зацверджаны на пасадзе выкладчыка інстытута па кафедры старажытнасцяў Паўночна-Заходняга краю і ў той жа дзень абраны прафесарам МАІ, а таксама ганаровым сябрам інстытута (183).

Лекцыі ў інстытуце чыталіся па вечарах пераважна прыязджаючымі з Масквы прафесарамі. ВАМАІ прызначалася для "падрыхтоўкі спецыялістаў для пасадаў у архівах, музеях і бібліятэках урадавых, грамадскіх і прыватных". Навучанне тут доўжылася тры гады, а плата за навучанне складала 80 рублёў на год. Выпускнікі інстытута мелі права насіць на грудзях з правага боку спецыяльны знак. Як адзначалася ў афішы аб прыёме ў ВАМАІ, слухачы "віцебскай аўдыторыі інстытута карысталіся аднолькавымі правамі са слухачамі маскоўскай аўдыторыі" (184).

30 жніўня 1913 г. вызвалілася пасада сакратара Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта, якую займаў да гэтага часу выхаванец Дрысенскага павятовага вучылішча Сцяпан Нікіфараў. Вакансію было прапанавана заняць Сапунову, які даў на тое сваю згоду, стаўшы, такім чынам, сакратаром камітэта ў другі раз. У верасні таго ж года губернская статыстыка святкавала юбілей – 50-годдзе дзейнасці статкамітэта, і Аляксей Сапуноў падрыхтаваў да яго грунтоўную брашуру, прысвечаную гісторыі гэтай установы.

Галоўнай падзеяй, якую святкаваў расійскі афіцыёз у Паўночна-Заходнім краі ў 1914 годзе, было 75-годдзе так званага "ўз'яднання" уніятаў з праваслаўнай царквой. Урачыстасці павінны былі адбыцца 25 сакавіка. Сапуноў, як вядома, меў добры досвед у гэтай тэме. За месяц да юбілею, на пасяджэнні Савета ВНАК 27 лютага 1914 года, абмяркоўвалася справа, звязаная са святкаваннем падзеі ў Віцебску. Было вырашана правесці сумесны ўрачысты сход сяброў камісіі, Віцебскага праваслаўнага Свята-

Уладзімірскага брацтва і аддзела Угра-Рускага таварыства. З дакладамі на гэтым сходзе прасілі выступіць Сапунова і Нікалаева (185).

На пачатку 1914 года ў Расійскай імперыі дзейнічала 31 губернская навуковая архіўная камісія і 3 архіўныя таварыствы, якія час ад часу збіраліся на сумесныя з'езды (186). Справамі архіўных камісій актыўна займалася ўжо добра вядомая нам графіня Праскоўя Сяргееўна Уварава, старшыня Маскоўскага археалагічнага таварыства. Яна была арганізатарам некалькіх археалагічных з'ездаў, апошні з якіх, пятнаццаты па ліку, адбыўся ў 1911 г. ў Ноўгарадзе. Графіня Уварава шукала розныя магчымасці для правядзення наступнага. 23 красавіка 1914 г. яна збіралася прыехаць на пасяджэнне Савета ВНАК, каб абмеркаваць магчымасць правядзення чарговага археалагічнага з'езда ў Віцебску (187). Аднак, ці прыязджала на самой справе вядомая грамадская дзяячка ў Віцебск, а калі прыязджала, то што перашкодзіла выкананню яе шляхетнай задумы, па архіўных дакументах высветліць пакуль што не ўдалося.

У 1915 годзе навуковая архіўная камісія атрымала магчымасць уладкаваць свой архіў, бібліятэку і музей у двух пакоях ніжняга паверха будынка архіва Віцебскага губернскага праўлення. З гэтай нагоды была створана спецыяльная будаўнічая камісія, якая павінна была заняцца прыстасаваннем памяшканняў. У яе склад увайшлі старшыня ВНАК Ціхаміраў, а таксама Рэнгартэн, Сапуноў і Лебедзеў (188).

Найбольшую вядомасць як сярод сталічных навукоўцаў, так і сярод мясцовай інтэлігенцыі Аляксей Сапуноў меў як знаўца і актыўны збіральнік архіўных звестак і першакрыніц. Шмат дакументаў было ім надрукавана, аднак вялікая частка сабраных матэрыялаў захоўвалася ў прыватным архіве даследчыка і толькі яшчэ чакала часу свайго выдання. Несумненную дапамогу ў гэтай справе гісторыку магла аказаць ВНАК, якая мела свае друкаваныя перыядычныя выданні. Пытанне закупкі ў Сапунова рукапісаў разглядалася на пасяджэнні Савета архіўнай камісіі 20 красавіка 1917 г., пасля чаго было прынята наступнае рашэнне: "1. Набыць ад Сапунова "Пісцовыя кнігі", здымкі з пісцовых кніг, дакументы і здымкі з планаў, якія захоўваюцца ў Шведскім дзяржаўным архіве па вопісу для надрукавання ў сваіх "Працах", і заплаціць Сапунову ў лік выкарыстаных ім грошай на перапіску і закупку ўсяго згаданага матэрыяла 500 рублёў з крэдыту ў 2 тысячы рублёў, што адпушчаны Гістарычным таварыствам на патрэбы Камісіі.

2. Савет прасіў Сапунова саступіць яму права выдання "Віцебскай даўніны", якая ўжо даўно стала (...) рэдкасцю, і ў рознічным продажы яе кошт узняўся з цаны ў 3 да 75 рублёў за экземпляр. А.П.Сапуноў прадаставіў Камісіі права выдання "Віцебскай даўніны", пра што і адзначана (тут – *Л.Х.*) да натарыяльнай дароўнай ад А.П.Сапунова на права гэтага перавыдання" (189).

Аднак, на жаль, ніводзін з пунктаў гэтай пастановы не быў выкананы. На грамадства імкліва насоўваліся бурлівыя падзеі, а на Аляксея Сапунова – цяжкая старасць, якая прыпала на "акаянныя дні".

## На савецкай службе

Віхура Кастрычніцкай рэвалюцыі перакаламуціла жыццё губернскага Віцебска. У яе вірах разам з рэшткамі старога рэжыму трушчыліся чалавечыя лёсы, губляліся культурныя набыткі мінулага.

Недзе каля 1917 г. Аляксей Сапуноў пасяліўся ў доме №18 на Набярэжнай Дзвіны (да нашага часу вуліца не захавалася) у другой частцы горада (190). Ён здымаў кватэру ў доме, што належаў Аляксею Ануфрыевічу Валковічу, колішняму гарадскому галаве і дэпутату гарадской думы, які сам жыў у доме №10 па вуліцы Саборнай (зараз вуліца камісара Крылова). Пасля адрачэння ад прастола Мікалая II і адхілення ад улады віцебскага губернатара А.А.Валковіч стаў губернскім камісарам Часовага ўрада, аднак пасля захопу ўлады бальшавікамі вельмі хутка быў вымушаны скончыць сваю палітычную кар'еру (191). На пачатку XX стагоддзя на Набярэжнай Дзвіны знаходзіўся дом, якім валодала Варвара Паўлаўна Валковіч, цешча Аляксея Парфенавіча. У 1912 г. гэты дом быў прададзены ўладаркай Аляксандру Цэккель-Райзенгофу (192). Звесткі аб тым, што сталася з Юліяй Сапуновай, і колькі гадоў яна пражыла разам з Аляксеем Парфенавічам адсутнічаюць. Аднак у адным з дакументаў за 1919 г. знаходзім згадку пра ягоную новую жонку – Марыю Іпацеўну Сапунову, якая была маладзейшая гадоў на 18. Яна заставалася верным сябрам гісторыка ўжо да канца ягонага жыцця.

Пасля рэвалюцыі Аляксей Сапуноў стаў савецкім служачым – загадваў статыстычным аддзелам губернскага выканаўчага камітэта. Структура новых дзяржаўных органаў на той час была яшчэ неадпрацаванай, і пасля чарговага дэкрэта СНК ў кастрычніку 1918 г. статаддзел пры губвыканкаме быў ліквідаваны. Замест яго стваралася Віцебскае губстатбюро з дзесяццю секцыямі. Сапунову прапанавалі

з 1 лістапада загадваць "секцыяй дэмаграфічнай і маральнай статыстыкі" (193). Статбюро размяшчалася ў Гутараўшчыне ў будынку былога сялянскага банка (зараз ветэрынарнай акадэміі). Заробак Сапунова складаў спачатку 650 рублёў у месяц, а з 1 снежня 1918 г., калі былі ўведзены новыя стаўкі, – 900 рублёў (194). Пенсія прафесару новымі ўладамі не выплочвалася.

У абавязкі служачых секцыі дэмаграфічнай статыстыкі ўваходзіў збор звестак аб шлюбах, нараджэннях, смерцях, веравызнаннях, перамяшчэннях насельніцтва губерні – кожны дзень лічбы, лічбы, лічбы. Хворыя вочы навукоўцы не вытрымлівалі такога напружання. 31 сакавіка 1919 г. ён напісаў прашэнне наступнага зместу: "З нагоды хваробы вачэй (cataractes) я, на вялікі жаль, не магу адносіцца да маіх службовых абавязкаў належным чынам, а таму вымушаны выйсці ў адстаўку" (195). На наступны дзень, 1 красавіка, Сапуновым было складзена яшчэ адно прашэнне на імя загадчыка губстатбюро, якое яскрава сведчыла пра ягонае тагачаснае матэрыяльнае становішча: "Вымушаны ў выніку хваробы вачэй (cataractes) выйсці ў адстаўку, я, не маючы дастатковых сродкаў ні для лячэння вачэй, ні ўвогуле для далейшага існавання, рашаюся звярнуцца да Вас з пакорнай просьбай: ці не знойдзеце Вы магчымым прызначыць мне аднаразовую дапамогу. Справе статыстыкі я праслужыў 18 гадоў" (196). Маладой савецкай уладзе трэба аддаць належнае: просьба састарэлага прафесара была задаволена.

Пасля рэвалюцыі Сапуноў працягваў чытаць лекцыі ў Віцебскім аддзяленні Маскоўскага археалагічнага інстытута. Расклад заняткаў друкаваўся на старонках мясцовых перыёдыкаў. Так, у "Паведамленнях Віцебскага Губернскага Савета сялянскіх, рабочых, чырвонаармейскіх і батрацкіх дэпутатаў" за 1919 год знаходзім абвестку аб тым, што ў суботу, 1 сакавіка, з 7 да 8 гадзінаў вечара ў ВАМАІ чытаў лекцыю пра старажытнасці Паўночна-Заходняга краю А.П.Сапуноў, пасля чаго гадзіна часу была адведзена на заняткі па французскай мове, і яшчэ адна – па мове эсперанта (197). У працоўныя дні заняткаў было менш (1 або 2 гадзіны на дзень).

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі цыркулярам Наркамасветы ад 27 жніўня 1918 г. Віцебская навуковая архіўная камісія была перададзена ў ведамства Галоўнага ўпраўлення архіўнай справай. Разам з тым яна была пазбаўлена раскватараванымі ў горадзе вайсковымі аддзеламі памяшканняў для сваёй бібліятэкі, архіва і музея. Пастановай агульнага сходу 12 красавіка 1919 г. яна перапыніла сваё існаванне і перадала ўсю маёмасць, а дакладней, рэшткі сваёй калекцыі ВАМАІ.

Яшчэ 26 кастрычніка 1918 г. губернскі аддзел народнай асветы перадаў пад апеку ВАМАІ губернскі архіў, не маючы магчымасці займацца ім уласнымі сіламі. Дзякуючы намаганням інстытута, на пачатку 1919 г. пры вышэйзгаданым губаддзеле быў створаны архіўны пададдзел, які здолеў праіснаваць усяго толькі некалькі тыдняў. Зрэшты, 31 сакавіка 1919 г. выйшаў дэкрэт за подпісам старшыні СНК У.Ульянава (Леніна) аб стварэнні губернскіх архіўных фондаў. Галоўным упраўленнем архіўнымі справамі, якое знаходзілася ў Петраградзе, быў прызначаны спецыяльны ўпаўнаважаны па Віцебшчыне. У чэрвені таго ж года пачалася праца па стварэнні губернскага архіўнага фонда ў Віцебску (198).

Аляксей Парфенавіч Сапуноў быў запрошаны да супрацоўніцтва. На пасяджэнні 14-16 чэрвеня калегіі Галоўнага ўпраўлення архіўнымі справамі разам яшчэ з сямю асобамі ён быў зацверджаны ў штаце Віцебскага губархіва на пасадзе выконваючага абавязкі архіварыуса (199). Тады ж увесь губернскі архіўны фонд вырашана было падзяліць на 7 секцый: юрыдычную, ваенную, народнай асветы, гісторыка-эканамічную, унутранага ўпраўлення і самакіравання, гісторыка-рэвалюцыйную і друкаваных выданняў. У сваю чаргу секцыі былі аб'яднаны ў два аддзелы, адным з якіх павінен быў кіраваць Алаізі Брэжга, другім – Аляксей Сапуноў. Апроч таго, на абодвух архіварыусаў ускладаліся абавязкі па агляду прыватных архіваў (200).

Адным з накірункаў дзейнасці губархіва быў збор звестак пра розныя павятовыя архівы губерні. Дзеля гэтага рассылаліся апытальныя лісты, на падставе якіх павятовыя архівы браліся на ўлік. Іншым разам архівы браліся на ўлік і пасля агляду іх камандзіраванымі ў паветы супрацоўнікамі губархіва. На пачатку кастрычніка 1919 г. Сапуноў атрымаў заданне агледзець валасныя, сядзібныя і царкоўныя архівы Віцебскага, Сенненскага і Аршанскага паветаў Віцебскай губерні (201). Так, па восеньскай бездаражы, пад пранізлівымі вятрамі 67-гадовы прафесар вымушаны быў выправіцца ў цяжкае падарожжа. Рух цягнікоў па чыгунцы быў амаль што перапынены, гаспадары, у якіх яшчэ заставаліся коні, адмаўляліся даваць іх, знясіленых бяскорміцай і хваробамі, у дарогу. А іншым разам фронт падыходзіў так блізка, што далейшае перамяшчэнне рабілася проста небяспечным.

І ўсё ж такі цэлую восень, зіму і вясну наступнага года Аляксей Сапуноў са сваімі памочнікамі ўпарта перабіраўся ад вёскі да вёскі, ад сядзібы да сядзібы, аглядаў і апісваў дакументы, кнігі, старыя калекцыі. Вынікі гэтай адысеі ён апісаў потым у сваёй справаздачы: "Маёнтак Лускінопаль (Машканскай вол., Сенненскага пав.). Ёсць невялікі архіў, які складаецца з цікавых сельскагаспадарчых запісаў і метэаралагічных (назіранняў – *Л.Х.*) за апошнія 20 гадоў. Запісы гэтыя вяліся былым уладальнікам А.І.Балкашынавым і зараз парадчацца. Ёсць некалькі выпадкова захаваўшыхся цікавых кніг.

21 (8) снежня 1919 г. мы азнаёміліся з архівам Машканскага валаснога праўлення (Сенненскага пав.). Архіў аказаўся ў поўным парадку.

10 студзеня 1920 г. (28 снежня 1919 г.) агледжана бібліятэка ў маёнтку Зацішша (Машканскай вол., Сенненскага пав.), які належаў памерламу А.Ф.Заблоцкаму. Каштоўнасці не ўяўляе (белетрыстыка і раскіданая). Архіва няма.

Маёнтак Любашкава (Сялюцкай вол., Віцебскага пав.), належаў памерламу Уладзіміру Рыгоравічу Лужынскаму. Некалі маёнтак належаў архіепіскапу Васілю Лужынскаму (вядомы дзеяч па ўз'яднанню заходне-рускіх уніятаў). Маёнтак гэты мы наведвалі тройчы (у другі раз 12 кастрычніка 1919 г., у трэці – 12 студзеня 1920 г. (202)). Складзены вопіс рэчаў і хатняга начыння. У тым ліку: абраз Св.Тройцы 1816 г. пісаны на палатне алейнымі фарбамі; 6 партрэтаў у залатых рамах, з якіх адна алеаграфія Аляксандра III, астатнія жывапісныя: Мікалая I, аднаго з членаў царскай сям'і, Васіля Лужынскага, невядомай асобы каталіцкага або ўніяцкага веравызнання, невядомай асобы з сям'і Глазка (партрэты царскай сям'і і В.Лужынскага з папраколванымі вачыма). Камода кацярынінскіх часоў чырвонага дрэва з бронзавымі ўпрыгожваннямі. Складзены і падрабязны каталог кніг. Узяты намі архіў перавезены пакуль што ў маёнтак Лускінопаль і аказаўся вельмі цікавым. Па-першае, там знаходзілася некалькі кніг і папераў з сельскагаспадарчымі запісамі пачатку XIX ст. і да апошняга часу (ёсць і падрабязнае ўказанне аканому м.Любашкава, напісанае ўласнаручна архіепіскапам Васілём у 1864 г.). Асаблівую цікавасць уяўляюць дзве кнігі з сакрэтнымі дакументамі за 1839, 1840 і 1848 гг. Зараз мы заняты падрабязным азнаямленнем з гэтым архівам.

18 студзеня 1920 г. мы азнаёміліся з бібліятэкай і архівам Любашкаўскай царквы. Вопіс кніг і спраў дадаецца. Сярод іх: трэбнік мітрапаліта Пятра Магілы і Евангелле паловы XVII ст. У склепе Любашкаўскага храма пахаваны архіепіскап Васіль.

30 (17) студзеня 1920 г. мы наведалі Высачанскае валаснoе праўленне (Віцебскага пав.). Архіва не аказалася, па словах тав. старшыні Комава, ён быў разрабаваны падчас хваляванняў (203). Вопіс кніг і архіва Высачанскай царквы дадаецца. На гарышчы Высачанскай фабрыкі (некалі б. папяровая фабрыка, якая належала Рамейку-Гурку), паводле заявы святара а.Бекарэвіча і настаўніка М.Ф.Свідзерскага, знаходзілася шмат кніг і архіваў, якія належалі некалі сям'і Гуркаў (з гэтай сям'і вядомы фельдмаршал Гурка). Усе кнігі з архівам былі адвезены ў 1919 г. ў Воршу (204).

28 лютага 1920 г. мы наведалі Каралёўскае валаснoе праўленне (Віцебскага пав.). Архіў знаходзіцца ў асобным пакоі.

Побач з валасным праўленнем знаходзіцца сядзіба Новае Каралёва, якое належала памерламу Андрэю Сімпліцыянавічу Бялыніцкаму-Бірулі (памёр у 1917 г., на 92-м годзе жыцця). Сям'я Бялыніцкіх-Біруляў – адна са старажытных беларускіх і згадваецца ўжо ў сярэдзіне XVI ст. У гэтым жа маёнтку знаходзіцца і метэастанцыя, якая функцыянавала на працягу апошняга паўстагоддзя. Станцыя гэтая абсталявана цудоўна на ўласныя сродкі А.С.Бірулі (і на працягу больш 50 гадоў знаходзілася пад ягоным непасрэдным наглядам). У апошні час яна была ахвяравана А.С.Бялыніцкім-Бірулем Галоўнай Фізічнай Абсерваторыі, сябрам якой ён быў.

10 сакавіка мы наведалі маёнтак Цялышы (Высачанскай вол., Віцебскага пав.), які належаў Адляніцкім-Пачобутам. Ян Адляніцкі-Пачобут быў вядомым дзеячам сярэдзіны XVII ст. і пакінуў дзённік вайны цара Аляксея Міхайлавіча з каралём польскім Янам Казімірам. Асабліва падрабязна апісана ім бітва пад Кушлікамі (Полацкі пав.). У другой палове XVIII і пачатку XIX стст. жыў вядомы астраном і прафесар Віленскага ўніверсітэта Адляніцкі-Пачобут. Зараз ні бібліятэкі, ні архіва ў сядзібе няма. Бібліятэка адвезена ў Высачанскае валаснoе праўленне, а архіў некалькі гадоў таму назад адасланы ў Кракаў" (205).

У некаторых месцах архівы і бібліятэкі ўжо паспелі рэквізаваць, і Сапуноў у сваёй справаздачы абураўся тым, што нацыяналізаваныя культурныя каштоўнасці незваротна страчаны: у маёнтку

Лускінопаль узяты рукапіс XVIII ст., асобныя дакументы і граматы; у маёнтку Даманова Віцебскага павета, які раней належаў Заранку – пергаментная Біблія XVI ст. Сляды знікшых дакументаў знайсці было немагчыма.

Па распараджэнні губархіва, зацікаўленага ў зборы архіўнага фонда, у маёнтку Лускінопаль быў створаны часовы архіў, дзе працаваў Сапуноў і куды звозіліся розныя дакументы з ваколіц. У красавіку 1920 г. з'явіўся яшчэ адзін аналагічны часовы архіў у маёнтку Бердніці Віцебскага павета, дзе таксама працаваў віцебскі краязнаўца разам з двума памочнікамі (206). Такім чынам, прафесару Сапунову ў 1919-1921 гг. давялося жыць паміж Віцебскам, маёнткамі Лускінопаль і Бердніці, а таксама станцыяй Замасточча, дзе жыў ягоны сябра Аляксандр Іванавіч Балкашынаў.

У траўні 1920 г. пры ўпраўленні губернскага архіўнага фонду была створана спецыяльная камісія па разгляду архіўных матэрыялаў, якія былі прызначаны да знішчэння. У склад камісіі ўвайшло 9 чалавек – прадстаўнікі розных навучальных устаноў і навуковых таварыстваў. У іх ліку быў і архіварыус губархіва Аляксей Сапуноў. Пазней гісторык быў уключаны таксама ў склад асобнай камісіі для разбору архіваў горада Віцебска (207).

Аднак адначасова левая рука новай улады разбурала тое, што стварала правая. У гады грамадзянскай вайны ўратаванне архіваў у правінцыях, па сутнасці, амаль што цалкам трапіла ў залежнасць ад асабістай самаадданасці дзеячаў культуры. Яшчэ з пачатку 1919 г. нават і тыя архівы, што знаходзіліся пад дахамі архіўных сховішчаў, падвяргаліся значнаму спусташэнню: Галоўбум (Галоўнае ўпраўленне папяровай прамысловасці) стаў выкарыстоўваць старую паперу для вытворчасці новай. У кастрычніку 1920 г. Віцебскі губархіў атрымаў цыркуляр, у якім было "прапанавана тэрмінова адпусціць Шклоўскаму заводакіраўніцтву пяць тысяч пудоў архіўнай паперы. Гэтае распараджэнне Галоўархіва прыміце да дакладнага і няўхільнага выканання" (208). Якія дакументы трапілі ў тыя пяць тысяч пудоў? А колькі ж іх усяго загінула, калі ўлічыць, што патрэба ў паперы была не ў аднаго толькі Шклоўскага заводакіраўніцтва?..

З 1 студзеня 1922 г. ў адпаведнасці з распараджэннем Галоўнага ўпраўлення архіўнай справай аб скарачэнні штатаў Віцебскага губархіва быў "вызвалены ад пасады архіварыус А.П.Сапуноў з пераводам яго на здзельную аплату працы" (209). Голад і галеча, якія ўсё часцей станавіліся гасцямі сапуноўскага жытла, толькі ўсміхнуліся сваімі кашчавымі ўсмешкамі.

## Апошнія гады

Пры Народным камісарыяце асветы ў Петраградзе існаваў аддзел па справах музеяў і ахове помнікаў мастацтва і даўніны, які ўзначальвала таварыш Н.І.Троцкая. На пачатку 1920 г. у Віцебску была створана камісія па ахове помнікаў даўніны і мастацтва, а "асоба-ўпаўнаважаным" ад Петраграда па Віцебскай губерні стаў Г.С.Ятманаў. Па сваіх каштарысах Віцебская камісія магла атрымліваць неабходныя крэдыты са сталіцы.

Аляксей Сапуноў ад самага пачатку шчыльна супрацоўнічаў з камісіяй. У справаздачы аб яе дзейнасці за студзень – сакавік 1920 г. знаходзім звесткі аб тым, што Сапуноў у горадзе Суражы быў прызначаны ўпаўнаважаным у справе арганізацыі музейных ячэек па паветах. У сакавіку таго ж года ён атрымаў паўнамоцтвы інструктара для арганізацыі Сенненскай павятовай камісіі па ахове помнікаў даўніны і прадметаў мастацтва. Пасля стварэння ў чэрвені 1920 г. павятовай камісіі ў Полацку, яе сябры звярнуліся да знаўцы краю з просьбай аказаць ім дапамогу ў працы парадамі, кансультацыяй і неабходнай літаратурай (210).

У 1921 г. ў Віцебску збіраліся адзначыць 900-годдзе горада, і над планам святочных мерапрыемстваў сябры камісіі па ахове помнікаў даўніны і мастацтва пачалі думаць загадзя. Вядома, што абысціся ў гэтай справе без садзейнічання аднаго з самых паважаных мясцовых гісторыкаў не маглі. Аднак Сапуноў, які ніколі ў жыцці не шукаў меркантыльных прыбыткаў ад сваёй працы, прапанаваў папярэднія ўмовы свайго ўдзелу ў свяце. Яны абмяркоўваліся на пасяджэнні камісіі 8 лютага 1921 г. Што ж гэта былі за ўмовы? Чаго не хапала старому прафесару? А не хапала самага неабходнага: кватэры ў горадзе, якая падчас ягоных архіўных вандровак па паветах губерні была занята іншымі жыхарамі, дастатковага пайка, асобнага чалавека для пісання пад дыктоўку і перапісвання ранейшых прац, неабходнага гісторыку па прычыне хворых вачэй. Вядома, што такія непразмерныя ўмовы былі прымальнымі, і камісія прыняла пастанову прасіць губернскі аддзел народнай адукацыі аб хадайніцтве па прадастаўленню Сапунову старога памяшкання і перапісчыка, прасіць губернскую размеркавальную камісію даць "статыстычны паёк", узняць пытанне праз цэнтр аб прадастаўленні яму падвойнага або

дадатковага акадэмічнага пайка, а таксама "прыняць меры да аховы каштоўнай маёмасці А.П.Сапунова, якая складаецца з бібліятэкі і архіўных дакументаў" (211).

Варта сказаць, што ў атрыманні гісторыкам "статыстычнага пайка" губернскімі ўладамі было адмоўлена (а акадэмічнага, дададзім у дужках, з цэнтра – Петраграда – тым больш не дачакаешся). Узніклі цяжкасці і з вызваленнем кватэры, што перашкаджала прыезду Сапунова ў Віцебск. Калі ж да сярэдзіны сакавіка ён змог вярнуцца ў сваю кватэру, "занятую падчас ягонай адсутнасці грамадзянкай Куліхоўскай", то не знайшоў там шэраг сваіх рукапісаў. У сувязі з гэтым ускладнялася справа па падрыхтоўцы да друку прымеркаваных да 900-годдзя Віцебска асобных артыкулаў і матэрыялаў да юбілейнага зборніка. Сапуноў змог прапанаваць да друку толькі артыкулы "Што такое Беларусь" і "Хто такія беларусы", а таксама брашуру "Старажытны Віцебск", напісаную на падставе матэрыялаў кнігі "Рака Заходняя Дзвіна". Перапіска і рэдакцыя апошняй была даручана выязному інструктару губвыканкама па ахове помнікаў даўніны Зянковічу, які даў на брашуру адмоўную рэцэнзію, абгрунтаваную тым, што штучна вылучаныя з вялікай кнігі матэрыялы не чыталіся ў выглядзе асобнай працы і ўжо часткова састарэлі. Тады Сапуноў прапанаваў прачытаць цыкл лекцый пра старажытны Віцебск, а таксама падрыхтаваць да друку брашуру "Помнікі даўніны і іх ахова". Пасля станоўчага водгуку на яе Уладзіміра Краснянскага, на пасяджэнні камісіі 9 жніўня 1921 г. было прынята рашэнне надрукаваць брашуру ў поўным выглядзе без скарачэнняў (212). Праўда, свет яна так і не пабачыла.

Калі да рэвалюцыі на выхад друкаваных выданняў Сапунову трэба было атрымліваць дазвол цэнзуры, то зараз усе ягоныя прапанаваныя да друку працы праходзілі абавязковае папярэдняе рэдагаванне сябрамі камісіі па ахове помнікаў і амаль заўсёды патрабавалі "дапаўнення найноўшымі палітычнымі дадзенымі". Пры ўсім добрым стаўленні асабіста да Сапунова, у тагачасным грамадстве панаваў недавер да навукоўцаў з буржуазным мінулым. Тым не менш, яшчэ ў ліпені 1918 г. ў Маскве на першым пасяджэнні Беларускага навукова-культурнага таварыства, старшынёй якога стаў Уладзімір Іванавіч Пічэта, Сапуноў быў абраны ягоным ганаровым сябрам (разам з прафесарам Я.Карскім, М.Любаўскім, П.Жуковічам, М.Доўнар-Запольскім і І.Лапо) (213). У красавіку 1921 г. ён атрымаў з Мінска ліст з навукова-літаратурнага аддзела Народнага камісарыята асветы БССР з прапановай даслаць спіс тых навуковых матэрыялаў, якія ён мае ўвогуле, а таксама тых, што мог бы прапанаваць да друку на беларускай мове. Апроч таго, у лісце ўтрымлівалася наступнае пытанне: "Ці не маглі б Вы пераехаць на жыхарства ў Мінск у якасці прафесара мясцовых Вышэйшых Навучальных Устаноў і сябра Інстытута Беларускай Культуры?" (214). Выкарыстаць гэтую прапанову Сапунову перашкодзілі, відаць, нездароўе, сталы век і агульнае цяжкае становішча ў краіне.

На пасяджэнні камісіі па ахове помнікаў 16 жніўня 1921 г. абмяркоўвалася пытанне пра прадстаўленне Сапуновым для друкавання ў асобным юбілейным зборніку артыкула "Гісторыя горада Віцебска". Дзеля выдачы канчатковага заключэння аб прыдатнасці матэрыялу да друкавання была створана рэдакцыйная камісія ў складзе У.Краснянскага і А.Брадоўскага. На гэтым жа пасяджэнні разглядалася заява Сапунова аб тым, што ягоная праца над рукапісамі замаруджваецца з-за адсутнасці акуляраў, шкло да якіх ён вымушаны набываць па спекулятыўных цэнах, чаго не ў стане зрабіць па прычыне адсутнасці матэрыяльных сродкаў (215).

Тут, відаць, варта спыніцца больш падрабязна на тым, што ўяўляла сабой сапуноўская "Гісторыя горада Віцебска". Праца гэтая была задумана аўтарам даўно. Яшчэ 7 студзеня 1918 г. ім быў надрукаваны "Падпісны ліст на "Гісторыю г.Віцебска" наступнага зместу: "У 1921 г. споўніцца 900 гадоў з таго часу, калі Віцебск упершыню згадваецца ў летапісах. Да гэтага часу я, А.П.Сапуноў, рыхтую "Гісторыю г.Віцебска". Кніга гэтая будзе ўтрымліваць у сабе каля 30 друкаваных аркушаў, г.зн. 500 старонак, з мноствам малюнкаў у тэксце (каля 100) і асобнымі дадаткамі (каля 50) (...) "Гісторыя г.Віцебска" выйдзе ў свет у канцы 1920 г. План "Гісторыі г.Віцебска" наступны: 1) палітычная гісторыя г.Віцебска; 2) рэлігійнае жыццё г.Віцебска; 3) горад і замак; 4) культурнае жыццё Віцебска; 5) храмы праваслаўныя; 6) касцёлы; 7) кірха; 8) сінагогі; 9) грамадскія будынкі (б.Губернатарскі дом, б.дом Дваранскага Сходу, тэатры, прытулкі і інш.); 10) адметныя дамы прыватных асобаў ("двор" Агінскага, "двор" Шапкін, "двор" Гурскага (XVII ст.); дом гр.Мініха (XVIII ст.); "дом з купалам" (XIX ст.) і інш.); 11) яўрэйскае насельніцтва г.Віцебска; 12) заўвагі. Прозвішчы асобаў, што ўнеслі папярэднюю аплату за кнігу, будуць надрукаваны ў гэтай жа кнізе" (216). Як бачым, у 1918 г., нягледзячы на ўсе сацыяльныя змены ў грамадстве, даследчык быў яшчэ поўны творчых сіл і планаў. Да таго ж, ягоная ідэя папярэдняй падпіскі адразу знайшла жывы водгук: толькі царкоўны стараста Мікалаеўскага кафедральнага сабора Д.М.Крукоўскі з уласных сродкаў ахвяраваў на выданне 500 рублёў (217).

Аднак чым далей, тым цяжэй было працаваць Сапунову над задуманай кнігай, якая павінна была падсумаваць вынікі ягонай шматгадовай краязнаўчай працы. Зрэшты, рукапіс быў гатовы, аднак меў значна меншыя ад задуманага памеры і зусім іншую ўнутраную структуру (замест планаваных 11 – усяго толькі 6 раздзелаў і заўвагі). У прадмове да "Гісторыі горада Віцебска" з уласцівай для яго сціпласцю аўтар пісаў: "Гэта, уласна кажучы, не "гісторыя", а "летапіс". Аднак слова "летапіс" адпужне ад маёй працы і тых нешматлікіх чытачоў, на якіх я ўсё-ткі разлічваю. Такім чынам, sit venia verbo (218), няхай гэта будзе "Гісторыя Віцебска". У гэтай працы я не адчыняў новых даляглядаў, не, я толькі, так бы мовіць, не мудруючы, падвёў вынік таму, што зроблена, ці, дакладней, што мне вядома з напісанага па гісторыі Віцебска. Я шырока карыстаўся працамі аўтараў больш за мяне кампетэнтных. Галоўная мэта мая – сабраць як мага больш фактаў, што тычацца Віцебска; я ўзяў на сябе, галоўным чынам, чарнавую, так бы мовіць, працу. Апроч таго, шмат што гіне, (...) значыць, трэба спяшацца" (219).

Нягледзячы на тое, што родным горадам гісторыка быў Усвят, Сапуноў па-сапраўднаму прыкіпеў душой да Віцебска і любіў яго ўсім сэрцам. Пацвярджэнне гэтаму можна знайсці ў поўных паэзіі і замілавання радках з "Гісторыі г.Віцебска", у якіх аўтар апісваў сучасную яму панараму горада: "Варта палюбавацца відамі нашага горада. Дзеля гэтага лепш за ўсё стаць на Лысай гары – і вам адкрыецца цудоўная панарама. Паглядзіце направа, на поўнач: побач з велічным і цудоўным Успенскім саборам – вялізны трохпавярховы будынак духоўнай семінарыі; а там, далей, прыгожы губернатарскі дом, які патанае ў зяляніне садоў. Паглядзіце наперад, на захад: там, унізе, ля вашых ног, плаўна бруіцца Дзвіна, а за ёю – шырока раскінулася на раўніне Задзвінне, з яго пяццю храмамі; на ягонай ускраіне ўзвышаецца вялізны будынак вакзала; на поўнач ад яго праглядаюцца высокія вежы касцёла Св.Барбары; а там, далёка за вакзалам, узвышаюцца горы "Сасонніка" (Юр'ева горка). Від на Задзвінне крыху нагадвае від на Замаскварэчча, калі вы глядзіце на яго з вышынь Крамля.

Зірніце налева, на ўсход: перш за ўсё вы міжволі залюбуецеся зграбнай, быццам вытачанай са слановай косці, царквою Уваскрасенскай; за ёю, быццам для кантрасту, бачны цяжкой архітэктуры Антонеўскі касцёл; тут жа, на поўнач ад іх, узвышаецца шматпавярховая вежа гарадской думы з каланчою.

Звярніце, зрэшты, погляд ваш на поўдзень: за ракой Віцьбай, якая тут жа ўпадае ў Дзвіну, на высокім беразе той жа р.Віцьбы, раскінуўся Пушкінскі сад; на адным ягоным баку, на самым беразе Дзвіны,– дом Дваранскага сходу, і за ім праглядаюцца лёгкія аркі пабудаванага праз Дзвіну маста; на другім баку Пушкінскага сада – на месцы былой Замкавай гары – трохпавярховы будынак з атыкам, мужчынскай Аляксандраўскай гімназіі, а за ім, на ўсход, будынак Акруговага суда, а яшчэ далей на ўсход – Мікалаеўскі сабор і архірэйскі дом – старадаўні езуіцкі будынак; далей на поўдзень ад таго ж Пушкінскага сада праглядаецца высокі дах губернскага архіва, а за ім выглядвае купал Благавешчанскай царквы; яшчэ далей, на поўдзень, праглядаецца царква Раства і ўзвышаюцца з-за дрэваў зграбныя купалы Уваскрасенскай Заручаўскай царквы; на ўсход ад іх размешчана на самай вышэйшай кропцы горада – Пакроўская царква; на поўнач ад яе праглядаюцца алеі Сянноўскага сада, а за ім – Духаўская царква, размешчаная таксама на высокім месцы, і грандыёзны будынак жаночага духоўнага вучылішча, абкружаны векавымі дубамі.

Нездарма, значыць, вядомы мастак І.Я.Рэпін казаў аб Віцебску як "аб адным з найпрыгажэйшых гарадоў Расіі" (220).

Адзін з экземпляраў рукапісу "Гісторыі горада Віцебска" захоўваецца сёння ў фондах Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. У 1994 г. навуковым супрацоўнікам музея Інай Абрамавай ён быў падрыхтаваны да друку і, зрэшты, больш як праз 70 гадоў пасля напісання, пабачыў свет на старонках мясцовай газеты "Віцебскі кур'ер" (221). Вядома, што за гэты час праца шмат у чым страціла сваю актуальнасць.

1 лістапада 1921 г. на пасяджэнні камісіі па ахове помнікаў даўніны і мастацтва прафесар Сапуноў выступіў з заявай аб тым, што ён нічога не атрымлівае за свае працы, падрыхтаваныя да друку. Сапраўды, матэрыяльнае становішча навукоўцы ў той час набліжалася да крытычнага – грошай ледзьве хапала на харчаванне і самае неабходнае. Некалі, яшчэ ў снежні 1919 г., Сапуноў атрымаў ліст з Петраграда ад свайго даўняга сябра Браніслава Ігнатавіча Эпімаха-Шыпілы. Да рэвалюцыі паміж імі існавала трывалае ліставанне, але гэта не быў звычайны ліст да сябра ці аднадумца-навукоўцы. Хутчэй, гэта быў цяжкі стогн, вызначаны ў адзінай просьбе – пазбавіць ад галоднай смерці. "Глыбокапаважаны Аляксей Парфенавіч! – пісаў Эпімах-Шыпіла. – Да гэтага часу змагаўся я з голадам, які лютуе тут, у Пеклаградзе, але больш сіл не стае, і вымушаны звярнуцца да Вас, Глыбокапаважаны Аляксей Парфенавіч, з пакорлівай просьбай: уратуйце ад страшэннай смерці галоднай – дашліце па пошце якіх-небудзь пару фунтаў чорных хлебных сухароў, які-небудзь фунцік гароху, бобу або круп, наклаўшы на пасылку

плацёж або паведаміўшы пісьмова яе кошт, а я без затрымкі адашлю грошы з удзячнасцю. Адрасуйце ў Бібліятэку Адзінага Дзяржаўнага Петраградскага ўніверсітэта Браніславу Ігнатавічу Эпімаху-Шыпілу. Не адмоўце ў гэтай маёй просьбе. Мы перажываем тут жахлівыя часы: голад, холад, цемра, адсутнасць сродкаў перамяшчэння, словам, сапраўднае пекла і людзі паміраюць, як мухі. З усяго штата Бібліятэкі, чалавек з 15, засталося каля 5, астатнія памерлі, і зараз чарга за мной, калі Вы не ўратуеце" (222). Тады ў правінцыйным Віцебску жылося крыху лепш, і Сапуноў, трэба думаць, нечым змог дапамагчы знямогламу сябру. Аднак цяпер кашчавая рука голаду дацягнулася і да правінцыі. Дырыжор М.А.Малько, рэктар "народнай кансерваторыі", у адным са сваіх лістоў з Віцебска ад 11 красавіка 1921 г. пісаў: "Грашовы крызіс тут жудасны. Няма "знакаў", не плацяць за доўгі тэрмін, а грошы таннеюць. У нас зараз хлеб даражэйшы, чым у Вас у Маскве (10 красавіка каштаваў 1500 руб. за фунт)" (223).

Спрабуючы неяк падтрымаць уласнае існаванне, Сапуноў у красавіку 1921 г. прапанаваў камісіі па ахове помнікаў купіць у яго 1000 экземпляраў "Чарцяжу м.Віцебска 1664 года", а ў лістападзе – каменныя малаткі са сваёй археалагічнай калекцыі, крышталь і выданне "Масква ў мінулым" (224). Віцебскаму падінстытуту былі прапанаваны ім для набыцця некалькі кніг, а таксама рукапісы "Пісцовых кніг Веліжа, Неўля, Себежа, Езярышча, Усвята" і "Інвентар г.Віцебска і эканоміі Віцебскай 1667 года".

"Дзякуючы толькі 4-м асобам мы з жонкаю не загінулі (літаральна!) ад голаду і холаду. Вось імёны гэтых незабыўных асобаў: А.І.Балкашынаў, В.А.Балкашынава (народж. Бялыніцкая-Біруля), З.А.Ліхач (народж. Бялыніцкая-Біруля), Б.Р.Брэжга",– пад гэтым запісам у сваім асабістым альбоме Сапуноў паставіў подпіс і дату "16 лютага (1 сакавіка) 1922 г." (225). Такая кароткая занатоўка, змешчаная ў альбоме, які людзі звычайна ствараюць для фіксацыі найбольш памятных падзей свайго жыцця, нагадвае, хутчэй, памінальны спіс ўратавальнікаў душаў і жыццяў чалавечых. Аляксандр Іванавіч Балкашынаў – былы ўладальнік маёнтка Лускінопаль, дзе быў створаны часовы архіў губернскага архіўнага фонда, які ніколі не адмаўляў архіварыусу Сапунову ў прадастаўленні коней падчас ягоных архіўных адысеяў па маёнтках і вёсках губерні. В.А.Балкашынава і З.А.Ліхач – таксама насельніцы маёнтка Лускінопаль, з дому, як адзначаў сам Сапуноў, Бялыніцкія-Бірулі. Баляслаў Рычардавіч Брэжга – на той час загадчык Віцебскага губернскага архіўнага фонда, пазней – прафесар, латышскі савецкі гісторык. "Памяні, Госпадзе, душы супачылых слугаў Тваіх!.."

Пасля звальнення з пасады архіварыуса губархіва, летам і восенню 1922 г. прафесар Сапуноў крыху супрацоўнічаў з Віцебскім губернскім зямельным упраўленнем у якасці спецыяліста па кадастравых і ўліковых працах (226). Цалкам не парываючы адносінаў з губархівам, Сапуноў меў у адным з ягоных памяшканняў на вуліцы Замкавай, 17 (у будынку цэнтральнага архіва) бібліятэчны пакой. У красавіку 1923 г. гэты пакой быў абрабаваны, з яго былі ўкрадзены планы і карты, з нагоды чаго загадчык губархіва звяртаўся ў другі раён Віцебскай савецкай міліцыі з просьбай "выслаць агента для пошуку" (227).

Нягледзячы на эпізадычныя заробкі і цяжкія матэрыяльныя ўмовы, гісторык не мог развучыцца думаць, працаваць. Навуковая думка жыла, пульсавала, патрабавала выйсця. Катаракта засціла свет, літары на рукапісах апошніх гадоў жыцця атрымліваліся вялізнымі і нязграбнымі. Але рукапісы ствараліся. У 1923 г. па прапанове планавай камісіі Сапуноў напісаў даклады "Віцебская губерня і яе месца ў Беларусі", а таксама "Найноўшая беларуская літаратура" (228). "Пастаянны клопат аб тым, чым і як пражыць заўтрашні дзень, не даваў магчымасці сканцэнтраваць думкі,– узгадваў гісторык незадоўга да смерці. – "Што дзень наступны мне рыхтуе?" – вось што адцягвала ад сістэматычнай працы". Да таго ж, большасць бібліятэк у горадзе была разрабавана, гэта не давала магчымасці наводзіць нават самыя простыя даведкі, што звычайна такія неабходныя ў навуковай працы.

Выкладчыцкая дзейнасць Сапунова па-ранейшаму працягвалася ў Віцебскім аддзяленні Маскоўскага археалагічнага інстытута. Яшчэ ў 1921 г. пры этнаграфічным кабінеце ВАМАІ быў створаны этнаграфічны гурток, які праз год быў рэарганізаваны ў камісію. За час існавання этнаграфічнай камісіі было праведзена каля 15 пасяджэнняў, запісана больш за 300 народных песень і сабрана каля 120 этнаграфічных прадметаў. Сябрамі гуртка (а іх было каля 35 чалавек) у 1922 г. выдаваўся часопіс "Белорусский этнограф" (на рускай мове), які з-за адсутнасці сродкаў друкаваўся на машынцы ў колькасці 50 экземпляраў. Усяго выйшлі толькі два нумары часопіса (229). У першым, красавіцкім, нумары былі апублікаваны артыкулы М.Мялешкі "Задачы беларускай этнаграфіі", А.Шлюбскага "Праграма па збіранню звестак аб рэлігійных вераваннях беларусаў" і І.Кузьміна "Аб запісе асобных выразаў і слоў народнай мовы". Другі, травеньскі, нумар уключаў толькі два артыкулы – А.Сапунова "Кароткая характарыстыка беларуса" і В.Дабравольскага "Дунай у славянскім фальклоры і прарадзіма славянаў" (230).

У ВАМАІ Сапуноў чытаў курс "Помнікі даўніны і іх ахова". У сваіх лекцыях ён часта расказваў студэнтам аб разбурэнні памятак даўніны: "Шмат дагістарычных і гістарычных помнікаў у Беларусі знішчана часам, нямала загінула і ад святатацкай, злой волі; але больш за ўсё загінула іх у выніку выключнага раўнадушша і невуцтва (...) Калі я быў ужо настаўнікам у тутэйшай гімназіі, то аднойчы выявіў наступны факт: казённыя дровы дрэнна гарэлі, і вось вартаўнікі пры распальванні звярталіся па дапамогу да паперы, якую здабывалі, вырываючы аркушы з фаліянтаў, якія знаходзіліся ў настаўніцкім пакоі не ў шафах, а проста на паліцах. Менавіта тады загінула некалькі тамоў каштоўнага піярскага выдання "Збору канстытуцый", тады ж загінула і шмат тамоў Вялікай Французскай Энцыклапедыі" (231). У сваіх лекцыях Сапуноў таксама падрабязна знаёміў студэнтаў з тымі мерамі па ахове помнікаў, што прадпрымаліся ўрадам Расійскай імперыі, пачынаючы яшчэ з XIX ст. Тым не менш, на зацікаўленне гісторыяй прыватных асобаў, дзякуючы актыўнай пазіцыі якіх было ўратавана шмат помнікаў даўніны, уладныя структуры заўсёды паглядалі скоса. "Амаль адзіныя ў нас працаўнікі на ніве этнаграфічнай, археалагічнай і гістарычнай – гэта настаўнікі,– казаў Сапуноў. – Але да самага апошняга часу лёс гэтых самаахвярных працаўнікоў навукі быў вельмі цяжкі. Ці можна паверыць, што пастаўлены на чале асветы ўсяго беларускага краю казаў незабыўнаму нашаму этнографу М.Я.Нікіфароўскаму літаральна наступнае: "Пабочныя заняткі Вашыя (г.зн. працы па этнаграфіі) – гэта крадзёж казённага часу". Тое ж было сказана і мне. А нябожчыка Е.Р.Раманава "для карысці службы" ганялі па ўсіх беларускіх губернях, чым ён быў даведзены да цяжкага становішча: пераведзены з Магілёва ў Віцебск, знаходзячыся ў выключна складаных абставінах, ён вымушаны быў прадаць сваю багатую калекцыю прыладаў каменнага веку, сабраную ў Беларусі, у Лейпцыг: у Расіі пакупніка не знайшлося..." (232)

Пасля рэвалюцыі дзейнасць археалагічнага інстытута ў Віцебску ўсё больш і больш ускладнялася. Дзяржава выдаткоўвала мізэрныя сродкі на ягонае ўтрыманне. Так, па словах Сапунова, у 1922 г. Наркамасветы выдзяляў грошы на аплату працы толькі трох штатных адзінак, і сродкі гэтыя дзяліліся паміж усімі выкладчыкамі ВАМАІ (233). Маскоўскі археалагічны інстытут быў зачынены ў 1922 г. у сувязі з закрыццём усіх археалагічных інтытутаў у РСФСР. Разам з тым было ліквідавана і ягонае Віцебскае аддзяленне.

Пасля закрыцця ВАМАІ ў Віцебску засталася яшчэ адна вышэйшая навучальная ўстанова – педагагічны інстытут, рэарганізаваны ў 1918 г. з настаўніцкага інстытута. У траўні 1923 г. ён зноў перацярпеў рэформу і быў ператвораны ў Вышэйшы педагагічны інстытут. У 1922-1923 навучальным годзе лектарам сацыяльна-гістарычнага аддзялення тут пачаў працаваць прафесар Сапуноў.

На пачатку яму даручана было чытаць курс лекцый па гісторыі Заходняй Расіі. Курс быў разлічаны да канца навучальнага года (чэрвеня 1923 г.) і складаўся з 40 лекцый. У Дзяржаўным архіве Віцебскай вобласці захавалася наступная ягоная праграма, распрацаваная Сапуновым: "1) Што такое Беларусь і хто такія беларусы? (2 л.); 2) Кароткая характарыстыка беларуса (1л.); 3) Бібліяграфія Беларусі (1 л.); 4) Межы беларускага племя; статыстыка, мова і літаратура; гісторыя Заходняй Расіі (10 л.); 5) Віцебская губерня: межы (да 1917 г.) і прастора; статыстыка і этнаграфія; горы, рэкі, азёры і балоты; лясы, расліннае пакрыва, лекавыя расліны; мінеральныя воды; клімат, глеба, геалагічная будова, карысныя выкапні; земляробства, жывёлагадоўля, садаводства і агародніцтва; прамысловасць заводская і фабрычная, кустарныя промыслы; гандаль. Гісторыя Віцебска: палітычнае і грамадскае жыццё; горад (miasto) і замкі; рэлігійнае жыццё; культурнае жыццё; плошчы, вуліцы, масты і інш. Павятовыя гарады Віцебскай губерні (16 л.); 6) Магілёўская губерня (2 л.); 7) Смаленская губерня (2 л.); 8) Мінская губерня (2 л.); 9) Віленская губерня (2 л.); 10) Гродзенская губерня (1 л.); 11) Ковенская губерня (1 л.)" (234).

Аднак раптам здарылася тое, чаго гісторык ніяк не чакаў. За паўгода да сваёй смерці ён пісаў: "Я быў такі шчаслівы, што на старасці гадоў дажыў да адраджэння Беларусі, калі ні "сепаратызм", ні "сімпатыі да Беларусі" не сталі ўжо лічыцца крамольнымі. Але тут здарылася яшчэ горшая бяда! Калі я канстатаваў факт малога знаёмства шырокіх мас з назваю "Беларусь", то апынуўся ледзь не ворагам адраджэння дарагой бацькаўшчыны: мне не дазволена было чытаць у Педагагічным інстытуце лекцыі па гісторыі Беларусі, дзеля якой я, у меру маёй моцы і магчымасцяў, працаваў больш за 40 гадоў і гісторыю якой я выкладаў на працягу 10 гадоў. Такім чынам, я трапіў, так бы мовіць, з агню ды ў полымя. Мне дазволена было (пасля, аднак, дастаткова доўгага прамежку часу) чытаць толькі лекцыі аб старажытнасцях Беларусі, на што выдзелена было 2 гадзіны ў тыдзень і за што я атрымліваю 18 руб. у месяц... Ці можна існаваць на гэтыя сродкі пры цяперашняй дарагоўлі на ўсе прадукты і кватэры?.. Калі б не велікадушная дапамога добрых людзей, то мне з сям'ёй (сам – трэці (235)) давялося б ледзь трымацца" (236).

Сапраўды, курс беларускіх старажытнасцяў у Віцебскім педінстытуце быў мізэрным і па колькасці адведзеных на яго гадзін, і па велічыні заробку, які ён даваў выкладчыку. Аднак Сапуноў ставіўся да яго з усёй сур'ёзнасцю і адказнасцю навукоўцы. Ва ўступнай частцы да праграмы курса "Старажытнасці Беларусі" ён пісаў: "Помнікі даўніны падзяляюцца на славесныя (жывыя), пісьмовыя і рэчавыя. Менш за ўсё пашчасціла помнікам рэчавым. Менавіта па гэтай прычыне я на працягу бягучага 1923-1924 акадэмічнага года і спыніўся на помніках рэчавых, да таго ж, гістарычных. Ва ўсіх сферах вывучэння Беларусі існуе шэраг вельмі істотных прабелаў. Жніво, такім чынам, вялікае, працаўнікоў жа пакуль мала. Вось на гэтыя працы трэба прыцягваць студэнтаў Педагагічнага Інстытута. Тэарэтычна падрыхтаваныя, разумеючыя ўсю важкасць такога роду працы, натхнёныя гарачай любоўю да дарагой адраджаючайся радзімы, яны, натуральна, прынясуць вялікую карысць у распрацоўцы рознага кшталту навуковых пытанняў, геаграфічных, этнаграфічных, археалагічных, эканамічных і г.д." (237).

У канцы 1923 г. ў Віцебск трапіла паштоўка з наступным адрасам: "Беларускае этнаграфічнае таварыства. Witebsk, Russland", адпраўленая са Славянскага інстытута пры Лейпцыгскім універсітэце. У паштоўцы дырэктар інстытута пісаў аб вялікай цікавасці сярод замежных навукоўцаў да беларускага культурнага руху ўвогуле і прасіў даслаць працы віцебскага таварыства, якія яму "было б вельмі прыемна распаўсюдзіць у Германіі". Паколькі арганізацыі з азначанай назвай у Віцебску па-просту не існавала, невядома, колькі б часу тая паштоўка блукала па розных калідорах улады, пакуль нехта не прыпісаў на ёй больш дакладны адрас: "Педагагічны інстытут, прафесару Сапунову" (238). Хутчэй за ўсё, гэта быў проста дасведчаны чалавек, які ведаў пра ўдзел Сапунова ў працы былой этнаграфічнай камісіі пры ВАМАІ і новага этнаграфічнага гуртка пры педінстытуце.

31 снежня 1923 г. арганізацыйная камісія Віцебскага вышэйшага педагагічнага інстытута накіравала ў Дзяржаўны навуковы савет хадайніцтва аб зацвярджэнні Аляксея Сапунова на пасадзе прафесара ВПІ па кафедры ўсеагульнай гісторыі (гісторыі Заходняга краю) (239).

На пасяджэнні савета сацыяльна-гістарычнага аддзялення інстытута 26 лютага 1924 г. разглядалася пытанне аб увядзенні на другім курсе прасемінарыя па рускай гісторыі з ухілам у гісторыю Беларусі, вядзенне якога было даручана прафесару Сапунову (240). Гэта было зноў-такі ўсяго некалькі гадзінаў заняткаў на тыдзень. Выкладчык прапанаваў студэнтам, што запісаліся на семінар, распрацоўку наступных тэмаў: "Веча", "Статутныя граматы", "Граматы на Магдэбургскае права", "Галоўнейшыя стадыі ў развіцці саслоўяў на Беларусі", "Цар Іаан Грозны і Беларусь", "Беларусь пад уладай Масквы ў часы цара Аляксея Міхайлавіча" (241).

На пасяджэнні савета сацыяльна-гістарычнага аддзялення 13 траўня 1924 г. абмяркоўвалася пытанне аб неабходнасці ўвядзення для студэнтаў "эпізадычнага курса" па гісторыі Беларусі. Дзеля гэтай мэты меркавалася запрасіць якога-небудзь навукоўца з Мінска, аднак справа не зладзілася. Тады для чытання курса быў запрошаны "знаўца мясцовага краю А.П.Сапуноў" (242).

У фондах Віцебскага абласнога краязнаўчага музея захаваўся рукапіс "Курса беларусазнаўства", які Сапуноў чытаў студэнтам педінстытута. У гэтых тэкстах выразна праглядаюцца складаныя погляды даследчыка на праблему самастойнасці гістарычных лёсаў Беларусі. Прынамсі, гэтага пытання Сапуноў кранаўся і ў ранейшых сваіх працах. У "Гістарычным нарысе Віцебскай Беларусі" ў 1911 г. ён пісаў: "Тут, на Белай Русі, у вялікіх князёў і цароў маскоўскіх было заўсёды шмат шчырых сяброў; тут ніколі не знікала думка пра роднасць з праваслаўнаю Вялікаю Руссю" (243). У цэлым шэрагу прац таго ж перыяду Сапуноў праводзіў думку аб тым, што "беларуская народнасць – адна з асноўных народнасцяў рускага племя", праўда, толькі таму, што "самі вялікарусы пастолькі рускія славяне, паколькі яны беларусы!" (244). Каб лепш зразумець гэты складаны тэзіс, які дадаў немалую блытаніну ў тэрміналогію навукоўцы, звернемся да ягонага артыкула "Хто такія беларусы?", які ён падрыхтаваў у 1924 г. для газеты "Паведамленні Віцебскага губкама РКП і губвыканкама". "Такім чынам, па маім меркаванні, – пісаў Сапуноў,– на пастаўленае пытанне ("Хто такія беларусы?" – *Л.Х.*) можна адказаць так: Беларусь, або так званая Русь літоўская (сабраная князямі літоўскімі), як кажа праф. М.К.Любаўскі, "была спрадвечная Русь, якая сядзела на старым карані і ніколі не губляла сваёй гістарычнай спадчыны". Значыць, Беларусы – спрадвечныя Рускія без дамешку іншародніцкай крыві. Што ж тычыцца Русі Вялікай, або як называлі яе іншаземцы, "Масковіі", то Вялікарусы або "Маскавіты" толькі пастолькі рускія, паколькі ў іх цячэ кроў беларуская. (Узгадаем меркаванні І.Е.Забеліна, акад. А.І.Сабалеўскага і акад. А.Шахматава пра каланізацыю крывіцкімі плямёнамі ўзбярэжжаў Акі і Верхняй Волгі, населеных фінскімі плямёнамі). Мы так любім азірацца на Захад; паглядзім жа, ці няма там чаго-небудзь падобнага. Аказваецца, нешта

аналагічнае ёсць і там. Вось дзве краіны: Франконія (прырэйнская правінцыя Баварыі) – вобласць чыста нямецкая, і Францыя – старажытная Галія. І той, і другой краіне імя дало нямецкае племя Франкі. Але хто ж надумаецца трактаваць з аднолькавага пункту погляду этнаграфію і гістарычныя лёсы гэтых дзвюх краін?" (245) Такім чынам, гэтае выказванне дае нам падставы сцвярджаць, што ў сваіх працах Сапуноў праводзіў ідэю нацыянальнай адметнасці беларусаў, якіх ён, тым не менш, лічыў больш рускімі, чым самі рускія. Пры гэтым частае выкарыстанне тэрмінаў "Русь", "рускі" сёння вельмі ўскладняе разуменне сапраўднага сэнсу выказванняў гісторыка і сведчыць пра недастатковую дакладнасць і акрэсленасць ягонай пазіцыі. Аляксандр Цвікевіч адносіў Аляксея Сапунова да ліку даследчыкаў, якія балансуюць на мяжы "заходне-русізму" і беларускага нацыянальнага руху (246), і прыведзенае вышэй выказванне віцебскага гісторыка, думаецца, цалкам пацвярджае гэтую характарыстыку.

Не менш супярэчлівыя выказванні былі ў Сапунова і па іншых пытаннях. Пасля ўжо згаданай вышэй палымянай прамовы з трыбуны III Дзяржаўнай Думы аб неабходнасці прадставіць беларусам права на самавызначэнне, у дакладзе 1910 г. "Беларусь і беларусы" ён называе "выключна неабходную справу" аб'яднання беларусаў сілай цэнтраімклівай, накіраванай на ўмацаванне дзяржавы, у адрозненні ад цэнтрабежных сіл аб'яднання палякаў, літоўцаў і яўрэяў. "Умацаванне нацыянальнай самасвядомасці сярод беларускай масы,– пісаў Сапуноў, – несумненна прывядзе да больш цеснага яднання яе з астатняй Руссю" (247). Вытлумачыць такія супярэчлівыя выказванні гісторыка вельмі складана.

Зайздросную паслядоўнасць віцебскі летапісец дэманстраваў толькі ў пытанні непрызнання ролі ўніі ў працэсе станаўлення гістарычнай самасвядомасці беларусаў. У адной з лекцый "Курса беларусазнаўства", цытуючы выказванне В.Ластоўскага з "Кароткай гісторыі Беларусі" аб тым, што ўнія ў канцы свайго існавання стала сапраўднай народнай верай, Сапуноў безапеляцыйна заяўляў: "Дарэмна даказваць, што гэта – чысты абсурд" (248). Падыход да пытанняў рэлігійнага жыцця беларусаў з пазіцый артадаксальнага праваслаўя не зашкодзіў, тым не менш, Аляксею Парфенавічу на працягу ўсяго жыцця адносіцца да рэчаў уніяцкага культу перш за ўсё як да помнікаў гісторыі і мастацтва, а таксама паўсюдна садзейнічаць іх захаванню і ўратаванню.

1923-1924 навучальны год стаўся для Віцебскага пэдінстытута апошнім: у жніўні 1924 г. інстытут быў ліквідаваны. Ягоныя студэнты перабраліся ў Мінск і працягвалі адукацыю ў нядаўна створаным Беларускім дзяржаўным універсітэце, на сацыяльна-гістарычным аддзяленні якога гісторыю Беларусі ім цяпер выкладаў В.М.Ігнатоўскі, а семінарый па гісторыі і народнай гаспадарцы Беларусі вёў У.І.Пічэта. Сапуноў жа застаўся ў Віцебску – зноў без працы і дзяржаўнай пенсіі.

Яшчэ ў другой палове 1923 г. ў Віцебску пачалі рабіцца пэўныя захады па стварэнні мясцовага краязнаўчага таварыства. Аднак больш актыўна краязнаўчы рух разгортваўся ў сталіцах, найперш у Петраградзе (паводле тагачаснага адміністрацыйнага падзелу Віцебск уваходзіў у склад РСФСР). Аляксей Сапуноў актыўна супрацоўнічаў з Цэнтральным бюро краязнаўства пры Расійскай Акадэміі навук: у траўні 1923 г. быў абраны ягоным сябрам-карэспандэнтам; на працягу лета таго ж года даслаў у Петраградскае аддзяленне ЦБК паведамленне аб стане краязнаўчай працы на Віцебшчыне і даклад "Віцебская губерня і яе месца ў Беларусі"; атрымаў запрашэнне для ўдзелу ў працы 5-й сесіі ЦБК, якая павінна была адбыцца ў студзені 1924 г. Яго па-ранейшаму хваляваў лёс помнікаў культуры, таму праз Акадэмію ён узбудзіў хадайніцтва аб прыняцці мер да аховы старажытнай сядзібы ў маёнтку Сухадрэва Віцебскай губерні (249).

1 лютага 1924 г. адбыўся "папярэдні сход па пытаннях арганізацыі ў Віцебску Таварыства краязнаўства". Стваралася яно пры губернскім аддзеле народнай адукацыі, і хоць зарэгістравана было толькі бліжэй да восені таго ж года, усю вясну вялася досыць інтэнсіўная падрыхтоўчая праца, удзел у якой прымаў і Аляксей Парфенавіч. Ён стаў адным з 20 заснавальнікаў таварыства, а таксама ўдзельнічаў у абмеркаванні бягучых спраў і выпрацоўцы статута. Так, на пасяджэнні культурна-гістарычнай секцыі арганізацыйнага бюро Віцебскага таварыства краязнаўства 10 лютага 1924 г. было прынята рашэнне набыць бібліятэку Сапунова краязнаўчага характару і перавыдаць ягоныя навуковыя працы (250). Гісторык перадаў сябрам таварыства бібліяграфічны паказальнік прац па вывучэнню Віцебшчыны (251), а таксама пералік уласных прац па яе гісторыі, за што на агульным сходзе 2 сакавіка быў прывітаны доўгімі апладысментамі (252). На агульным сходзе таварыства 20 траўня 1924 г. абмяркоўвалася сітуацыя, звязаная з тым, што ў мінскіх газетах была ўзнята кампанія за закрыццё Віцебскага педагагічнага інстытута і перанясенне яго ў Мінск, "як непатрэбнага па фінансавых цяжкасцях". Прафесар Сапуноў разам з

іншымі сябрамі таварыства выступіў супраць гэтага, абгрунтоўваючы сваё меркаванне тым, "што з закрыццём пёдінстытута знікае ўсялякая магчымасць навуковага даследавання і навуковай распрацоўкі пытанняў краязнаўства ў Паўночна-Усходняй Беларусі" (253).

Практычна з пачатку 1920-х гадоў па сваім матэрыяльным становішчы Сапуноў знаходзіўся на мяжы жыцця і смерці. Аднак толькі ў лістападзе 1923 г. на старонках газеты "Савецкая Беларусь" упершыню з'явіўся артыкул М.Мялешкі пад назваю "Трэба дапамога", дзе ўвага грамадскасці была прыцягнута да таго цяжкага становішча, у якім у апошнія гады жыў прафесар: "А.П.Сапуноў з прычыны сваёй старасці, адзіноты і хваробы вачэй апынуўся ў вельмі дрэнных матар'яльных умовах, якія ў апошні час дайшлі да немажлівага існавання (...) Патрэбна гэтаму заслужонаму старыку, убеленаму сівізной, найхутчэйшая дапамога ад беларускага грамадзянства, адкідываючы яго ўласныя погляды ў мінулым на жыццё і ацэніваючы яго ўклады ў навуковую скарбніцу Беларусі" (254). Гэты невялічкі газетны артыкул Аляксей Парфенавіч уклеіў у свой асабісты альбом і старэчымі нязграбнымі літарамі дадаў пад ім поўны скрухі і горкай іроніі каментар па латыні: "Канец увенчвае справу!.."

18 студзеня 1924 г. "Савецкая Беларусь" надрукавала яшчэ адзін артыкул М.Мялешкі "Новыя працы праф. А.П.Сапунова", у якім аўтар зноў крануў пытанне надзвычай цяжкага становішча віцебскага навукоўцы: "А.П.Сапуноў вельмі дрэнна відзіць, з прычыны хваробы вачэй, пішыць пад лупай і па бойкіх вуліцах ня можа хадзіць без павадыра. Да ўсяго гэтага А.П.Сапуноў апынуўся ў страшэннай беднасці. Страціўшы, па старасці, магчымасць служыць, ён ня мае цяпер абсалютна ніякіх сродкаў да жыцця. З прысланай у Інспекцыю навуковых устаноў ягонай заявы вее цяжкім жахам. У сваіх прыватных лістох Аляксей Парфенавіч апісвае нечалавечыя пакуты, якія яму даводзіцца пераважываць пад старасць... І чакае час, калі смерць збавіць яго ад гэтай нядолі..."

У сакавіку 1924 г. быў выдадзены дэкрэт ЦВК РСФСР аб перадачы БССР 16 паветаў з пераважна беларускім насельніцтвам. Віцебск увайшоў у склад Беларусі, і лёс ды асоба прафесара Сапунова, зрэшты, трапілі ў поле ўвагі беларускіх уладаў (255). Шкада толькі, што адбылося гэта занадта позна. Цэнтральны архіў пры ЦВК БССР на пачатку красавіка 1924 г. збіраўся правесці нараду архіўных работнікаў Беларусі, у якой былі запрошаны прыняць удзел сябры Упраўлення Цэнтрархіва БССР, старшыня Наркамасветы, загадчыкі павятовых аддзяленняў Цэнтрархіва, па адным прадстаўніку ад Віцебскага і Магілёўскага архіўных бюро, а таксама персанальна прафесары У.Пічэта і Б.Брэжга, Д.Даўгяла, С.Некрашэвіч, У.Краснянскі, Я.Дыла, І.Сербаў і прафесар А.Сапуноў (256). Паехаць на нараду апошні, на жаль, не меў ніякай ні фізічнай, ні матэрыяльнай магчымасці.

Летам 1924 г. Сапунова як спецыяліста ў музейнай справе разам з У.Краснянскім, А.Брадоўскім і М.Багародзкім запрасілі на нараду знаўцаў музеяў у Віцебску, дзе планавалася абмеркаваць праблемы ўратавання экспанатаў дзесяці існаваўшых на той час у горадзе музеяў (257). Але і сюды ён прыйсці ўжо не змог, цяжкая хвароба і нястача не ведалі ні спачування, ні літасці.

Зрэшты, Савет народных камісараў БССР па прадстаўленні Наркамасветы 1 кастрычніка 1924 г. прызначыў прафесару А.П.Сапунову пажыццёвую персанальную пенсію па стаўцы адказнага работніка 17 (найвышэйшага) разраду тарыфнай сеткі (100 рублёў у месяц). Здавалася б, гаротнаму жыццю навукоўцы надыйшоў канец. Аднак гэта быў толькі прывід дабрабыту: на наступны дзень, 2 кастрычніка, у 10 гадзін вечара Сапуноў памёр.

## Спадчына і памяць

Так усёпранікальная смерць перапыніла пакутлівую старасць віцебскага гісторыка, збавіла ад клопатаў аб "хлебе надзённым", а разам з тым і ўратавала ад новай немінучай бяды – ярлыка "нацдэма" і "ворага народа".

Пастановай Савета народных камісараў БССР усе "рукапісы, кнігі, карціны, рэчы старажытнасці і мастацтва, якія засталіся пасля смерці А.П.Сапунова", былі абвешчаны нацыянальнай каштоўнасцю і падлягалі перадачы ў Мінск у Інстытут Беларускай культуры. Інбелкультам жа выдзяляліся 300 рублёў на пахаванне, а 50% пенсіі, прызначанай гісторыку, павінны былі пакінуць за ягонай удавой (258). Для арганізацыі пахавання з Мінска прыехаў намеснік загадчыка Цэнтрархіва Міхась Мялешка, колішні студэнт Сапунова, які вучыўся ў Віцебску на археаграфічным факультэце археалагічнага інстытута.

Пахавалі Аляксея Парфенавіча на Трайчанскіх могілках, якія да нашага часу не захаваліся. Амаль адразу ж пачала працаваць камісія па разбору матэрыялаў, што засталіся пасля смерці прафесара. У яе

склад увайшлі Міхась Мялешка ад Інбелкульта, Уладзімір Краснянскі ад аддзела народнай адукацыі, Даніла Васілеўскі ад работнікаў асветы і ўдава Сапунова Марыя Іпацеўна. Праз некалькі дзён Васілеўскі ў газеце "Савецкая Беларусь" змясціў нататку аб дзейнасці гэтай камісіі, у якой пісаў: "Матэрыялу, асабліва рукапісаў і здымкаў са старасвецкіх грамат засталося ад нябошчыка столькі, што камісія прапрацавала над іх учотам цэлых тры дні. Увесь матэрыял разбіты на такія групы: рукапісы: 1)друкаваныя і недрукаваныя; 2) перапіска і біяграфічныя матэрыялы; 3) бібліятэка; 4) рэчы старыны і мастацтва і т.п. Да пачатку працы камісіі Віцебскае Краязнаўчае Таварыства на сваім пасяджэнні ўхваліла ўтварыць у сябе куток А.Сапунова. Камісія пастанавіла ўтварыць куток праф. А.Сапунова ў Віцебскім аддзяленні Дзяржаўнага музэю. Дзеля гэтага прызначаны ўсе тыя рэчы абстаноўкі Сапунова, якімі ён карыстаўся ў сваім працавітым жыцці (...) Бібліятэка А.Сапунова захавалася толькі часткова: у час хваробы і голаду нябошчык прадаваў сваю бібліятэку па кнігах. Купцы і аматары куплялі ў яго найбольш ходкія кнігі; гэтым тлумачыцца тое, што ў яго бібліятэцы дужа мала кніжак па марксізму і сацыялістычнаму руху, а сустракаюцца кнігі па анархізму. Кніг зарэгістравана 577 тамоў. Найбольш каштоўны гістарычны аддзел, у якім сабраны амаль што ўсе кнігі па гісторыі Беларусі, якія выходзілі за апошнія сто гадоў. Шмат малюнкаў, здымкаў з гравюр і грамат "Віцебскай старыны", "Ракі Заходняй Дзвіны". Многа каштоўных клішэ з помнікаў беларускай старасвеччыны на Усходняй Беларусі" (259).

Спіс асабістых рэчаў, якімі карыстаўся Сапуноў "у сваім працавітым жыцці", складзены камісіяй, быў вельмі сціплым: некалькі партрэтаў і фотаздымкаў маці, брата, жонкі Марыі Іпацеўны (народжанай Талоцкай), некалькі фотаздымкаў мяжы XIX – XX стагоддзяў (выкладчыкаў Віцебскай Аляксандраўскай гімназіі, дэпутатаў Дзяржаўнай Думы ад Віцебскай губерні і г.д.), некалькі алейных палотнаў з відамі Усвятаў, Віцебска і Полацка, алейны партрэт селяніна Віцебскай губерні пэндзля мастака Кісялёва. З "інвентару адзення, абутку і інш. рэчаў" – канторка (пісьмовы стол), фатэль, дзве асабістыя пячаткі, падстаўка для пер'яў, ручка, пер'е і алоўкі, акуляры, лупа, кніжная разная шафа работы Сапунова (падарунак да дня нараджэння жонкі Марыі Іпацеўны), сандалі (апошнія), халат (працоўны), капялюш (саламяны), фуражка, турэцкая феска (падарунак А.С.Бірулі), ножык (260).

Мялешка забраў з сабою ў Інбелкульт біяграфічныя матэрыялы Сапунова, а таксама ненадрукаваныя рукапісы "Гісторыі г.Віцебска" і "Пісцовых кніг Веліжа, Неўля, Себежа, Езярышча, Усвята". Усё астатняе было запакавана ў пяць скрынак (у адной – рукапісныя матэрыялы, у чатырох іншых – клішэ і рэпрадукцыі прадметаў даўніны) і дзве каробкі (з фотаздымкамі), апячатана пячаткай з надпісам "Режицкого судебного пристава" і пакінута ў кватэры нябожчыка да спецыяльнага далейшага распараджэння ІБК. Былі апячатаны таксама тры шафы з кнігамі (261).

15 кастрычніка 1924 г. ў Мінску адбылося пасяджэнне гісторыка-археалагічнай секцыі Інбелкульта, ахвяраванае памяці прафесара А.П.Сапунова. З дакладам "А.П.Сапуноў і яго навуковая дзейнасць" на ім выступіў прафесар Уладзімір Іванавіч Пічэта. Ён спыніўся на ацэнцы найбольш значных прац гісторыка і заўважыў, "што дзейнасць Аляксея Парфенавіча адзначаецца тым, што ў кожным з яго твораў вельмі многа фактаў з гістарычнага жыцця Беларусі, аб якіх ніхто не ведаў". Пэўную тэндэнцыйнасць прац віцебскага гісторыка ён тлумачыў цяжкімі ўмовамі працы, створанымі вялікадзяржаўнай цэнзурай, а таксама адсутнасцю сродкаў на выданне. "Каб А.П.Сапуноў пісаў свае працы, – казаў Пічэта,– так, як ён разумеў усе гістарычныя падзеі, то спадзявацца на друк іх Аляксей Парфенавіч не мог пры строгай цэнзуры 80-х гадоў XIX ст. Дзякуючы гэтаму, прыходзіцца чытаць творы Аляксея Парфенавіча між радкоў і карыстацца тымі заўвагамі аўтара на дакументы, скарыстаныя для той ці іншай працы". Адзначаючы каштоўнасць перадсмяротнага твору "Гісторыя г.Віцебска", дакладчык сказаў: "Чарговае заданне ў гісторыі Беларусі – гэта вывучэнне гісторыі кожнага з гарадоў Беларусі паасобку, дзякуючы чаму "Гісторыя Віцебска", напісаная такім масцітым вучоным, якім быў А.П.Сапуноў, патрабуе хутчэйшага выдання (...) Сапуноў ніколі не паўтараў у сваіх творах чужых думак, прытрымліваючыся прыказкі "лепш сваё горшае, чым чужое лепшае". Ён пракладваў на працягу сваёй дзейнасці вехі для беларускай гісторыі, без якіх немагчыма было б ісці наперад. У творах Аляксея Парфенавіча адчуваецца свежасць матэрыялу, які будзіць навуковую думку даследчыка. У асобе А.П.Сапунова Беларусь страціла не толькі знатака краю, але і даследчыка, які стварыў эпоху ў гісторыяграфіі Беларусі. Да А.П.Сапунова гісторыя Беларусі была чысты аркуш паперы, ён адзін з першых пачаў яго запісваць. Як Ключэўскі ў Маскоўшчыне, Антановіч на Украіне, так А.Сапуноў побач з імі зрабіў эпоху ў гісторыі Беларусі. Неабходна напісаць поўную манаграфію аб жыцці і дзейнасці А.П.Сапунова, гэта будзе помнікам, адбіваючым яго заслугі перад Беларуссю і падзякай маладога пакалення за працы Аляксея Парфенавіча Сапунова, высвятляючыя мінулае жыццё, эканоміку і этнаграфію нашай краіны – Беларусі" (262).

Напісанне манаграфіі было дару"ана Пічэце, аднак тагачасная інтэнсіўная навуковая і грамадская дзейнасць (ён быў рэктарам і прафесарам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, старшынёй гісторыка-археалагічнай камісіі Інбелкульта, сябрам ЦВК БССР, у 1925 г. браў удзел у з'ездзе польскіх гісторыкаў у Познані, у 1927 г. меў навуковую камандзіроўку ў Чэхаславакію, у 1928 г. ўдзельнічаў у міжнародным кангрэсе гісторыкаў у Осла і г.д.) не дазволілі яму адразу зрабіць гэтага. У 1930 г. Пічэта быў арыштаваны і абвінавачаны ў вялікадзяржаўным шавінізме, беларускім буржуазным нацыяналізме і празаходняй арыентацыі. Адбыўшы ссылку ў Вятцы і Варонежы, у 1935 г. яму дазволена было пераехаць у Маскву, дзе ён працаваў у ВНУ і Іcтытуце гісторыі АН СССР.

У Віцебску тым часам акруговы выканаўчы камітэт 21 кастрычніка 1924 г., не чакаючы асобных распараджэнняў Інбелкульта, загадаў Краснянскаму тэрмінова забраць маёмасць прафесара Сапунова з кватэры ягонай удавы і перавезці ў царкоўна-археалагічны музей, загадчыкам якога быў Уладзімір Гаўрылавіч (263). У лістападзе 1924 г. царкоўна-археалагічны музей разам з іншымі віцебскімі зборамі ўвайшоў у склад Віцебскага аддзялення Беларускага дзяржаўнага музея (зараз – Віцебскі абласны краязнаўчы музей), і спадчына Сапунова, такім чынам, апынулася ў ягоных фондах. Як адзначалася ў дакладзе для Акруговага з'езда Саветаў, гэта былі: "а) кніг – 730 назваў; б) друкаваных твораў ягоных – 50 назваў; в) ягоных рукапісаў і сабранага ім рукапіснага матэрыялу – 200 назваў; г) рэпрадукцыі помнікаў Полацка-Віцебскай старыны – 192 назвы; д) фатаграфіі – 328 штук; е) клішэ – 245 штукі; ж) дыапазітываў – 100 штук і інш." (264).


Краязнаўца Дз.Р.Газін разам са школьнікамі на адкрыцці памятнага знака А.П.Сапунову на месцы былога фальварка Кахоўка ў вёсцы Сакольнікі Мазалаўскага сельсавета. 6 кастрычніка 1999 г.

Марыю Іпацеўну Сапунову хваляваў лёс тых, матэрыялаў, што былі ўзяты пасля смерці мужа ў Мінск. 25 студзеня 1925 г. яна звярнулася да загадчыка Віцебскага аддзялення Беларускага дзяржаўнага музея з наступнай пісьмовай заявай: "Нябожчык муж мой А.П.Сапуноў пры жыцці сваім неаднаразова выказваў жаданне, каб усе ягоныя рукапісы, ягоныя друкаваныя экземпляры прац, рознага кшталту рэпрадукцыі і клішэ да іх і ўвогуле ўся ягоная навуковая маёмасць не вывозілася б з г.Віцебска, застаючыся ў горадзе вечным помнікам ягонай навуковай працы на карысць роднага горада. Таму я знаходжу, што нацыяналізацыя навуковай маёмасці майго мужа і перадача яе ў Віцебскае аддзяленне Дзяржаўнага Беларускага Музея цалкам адпавядае волі нябожчыка; я ж са свайго боку вельмі прашу Вас прыняць меры да таго, каб рукапісы-аркушы "Гісторыя г.Віцебска" і прыкладзеныя да яе "Пісцовыя кнігі", матэрыялы для біяграфіі мужа і асабістая ягоная перапіска, узятыя старшынёй камісіі па нацыяналізацыі маёмасці памерлага А.П. – у Мінск, былі пасля выкарыстання іх таксама вернуты ў Віцебскі Музей для захавання іх разам з навуковай і інвентарнай маёмасцю" (265). На жаль, ні воля Сапунова, ні пажаданне ягонай удавы не былі выкананы, а наадварот, з музея ў Мінск хутка былі дадаткова высланы некаторыя сапуноўскія рукапісы, аб чым мы ўжо згадвалі ў раздзеле пра гісторыю стварэння "Віцебскай даўніны". Ні раней, ні пазней узятыя з Віцебска рукапісы назад ужо не вярнуліся.

Тым часам перададзеную ў музей навуковую спадчыну Сапунова пачалі пакрыху выкарыстоўваць: для чытання цыкла лекцый у падшэфнай частцы дыяпазітывы з сапуноўскай калекцыі ў часовае карыстанне браў мастак Зінові Горбавец; "камплект рэпрадукцый гістарычных і палеаграфічных здымкаў" быў перададзены з музея кабінетам Ветэрынарнага інстытута і Белпедтэхнікума, а калекцыя "рэпрадукцый па полацка-віцебскай даўніне" – Полацкаму краязнаўчаму таварыству (266). Як бачым,

шмат у каго было жаданне нешта атрымаць ад сапуноўскае спадчыны, і толькі Даніла Васілеўскі ў кастрычніку 1925 г. даслаў у музей "для захоўвання ў кутку імя Аляксея Парфенавіча" бібліяграфію Віцебшчыны, складзеную прафесарам на пачатку 1924 г. для Віцебскага краязнаўчага таварыства, архіў гэтага таварыства, "у працы якога А.П. прыняў вельмі значны ўдзел" і сшытак з матэрыяламі да гісторыі Бешанковіч, сабраныя К.Буцянёвым. "Пажадана, каб усе гэтыя рукапісы нікуды з музею не выдавалі і з Віцебску не вывазілі",– напісаў ён у канцы свайго ліста (267).

У Віцебску прафесара Сапунова памяталі і шанавалі. На агульным сходзе Віцебскага краязнаўчага таварыства 18 кастрычніка 1924 г. У.Краснянскі прачытаў даклад "Музэйныя помнікі старадаўніх Віцебскіх Рамесніцкіх Організацыяў" і прысвяціў яго памяці Аляксея Парфенавіча. 27 красавіка 1925 г. краязнаўчым таварыствам быў арганізаваны вечар памяці Сапунова, на якім прысутнічала каля 300 чалавек, у тым ліку і ўдзельнікі першай краязнаўчай канферэнцыі, што праходзіла ў Віцебску з 25 па 27 красавіка. Кароткім уступным словам вечар распачаў старшыня Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства Мікола Каспяровіч. Потым прафесар музычнага тэхнікума сыграў жалобны марш, пасля чаго Мікалай Багародзкі прачытаў даклад "Аляксей Парфенавіч Сапуноў і значэнне яго прац па даследаванню Віцебшчыны", у якім, апроч усяго іншага, акрэсліў і асабістыя рысы гісторыка: "Аляксей Парфенавіч жыў габінэтным працоўным жыццём, разлічваючы часам па строга азначанаму пляну, так што яго сябры й добрыя знаёмыя ведалі, што не заўсёды можна яго бачыць, нават у яго дома, хаця ён і быў дома. Пустых разгавораў ён ня любіў, забаваў не прызнаваў, да сваіх сяброў заходзіў толькі тады, калі ня было шумных сходаў і не заседжваўся пазней 9 гадзін вечару. Асабліва ажыўляўся, калі гутарка падымалася аб Беларусі, беларусах, гістарычным іх мінулым і сучасным становішчы. Ён прызнаваў асобную самастойнасць беларускае культуры, славянскую чыстакроўнасць у беларусе і трагічнае мінулае Беларусі. Гардзіўся сваім сялянскім пахаджэннем, рамяством сваіх продкаў кажамяк" (268). Пасля заканчэння афіцыйнай часткі на вечары выступалі са спевамі студэнты музычнага тэхнікума і беларускі хор Сплендара. Спявалі "Полацк", "Каціўся вяночак", "Бульбу" і інш. (269). Па сутнасці, гэтая імпрэза сталася апошнім вялікім публічным мерапрыемствам перад дзесяцігоддзямі занядбання славутага імя гісторыка з Віцебска.

У 1932 г. Віцебскае акруговае таварыства краязнаўства было ліквідавана, а многія ягоныя сябры рэпрэсіраваны. Змрочныя гады сталінізму перапынілі натуральны ход развіцця беларускай гістарычнай навукі і нацыянальнага адраджэння, у кантэкст якога, нягледзячы на пэўныя агаворкі, так удала патрапілі шматгадовыя навуковыя напрацоўкі Аляксея Парфенавіча. Марксісцкая гістарыяграфія, засяроджаная пераважна на прадузятым асвятленні сацыяльных працэсаў у грамадстве, не мела ніякай цікавасці да прац Сапунова, які, да таго ж, меў сур'ёзныя, з яе пункту гледжання, плямы на сваёй біяграфіі.

У пасляваенны перыяд першую вялікую публікацыю пра Аляксея Сапунова зрабіла ў 1957 г. беларускі гісторык Ніна Іванаўна Дарафеенка (270). У 1960-я гады з'явіліся публікацыі рэдактара выдавецтва "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя" Мікалая Камінскага (271) і віцебскага краязнаўцы Аркадзя Падліпскага (272). У 1980-я гады дзякуючы выхаду цэлага шэрагу прац, прысвечаных гісторыі краязнаўства Беларусі, імя А.П.Сапунова паволі пачало вяртацца ў беларускую навуку. У 1987 г. рашэннем Віцебскага гарвыканкама была зроблена быццам бы добрая справа: 3-я Валадарская вуліца ў горадзе перайменавана ў вуліцу Сапунова. Шкада толькі, што знайсці яе ў блытаніне ўскраінных вулак Віцебска не так проста, ды і не кожны нават карэнны жыхар тых мясцін зможа вам растлумачыць, хто такі быў гэты А.П.Сапуноў.

На канец 1980-х – пачатак 1990-х гадоў прыпала аднаўленне прымусова ліквідаванага беларускага краязнаўчага руху. У студзені 1991 г. пачало сваю дзейнасць Віцебскае абласное краязнаўчае аб'яднанне (273), якое 30 сакавіка 1991 г. правяло дзень ушанавання памяці А.П.Сапунова. Да гэтай падзеі быў прымеркаваны выхад цэлай серыі друкаваных матэрыялаў пра выдатнага знаўцу края, змешчаны на старонках мясцовых перыёдыкаў (274). Там жа, зрэшты, упершыню пабачыла свет і "Кароткая характарыстыка беларуса", напісаная Сапуновым (275). Імпрэза пачалася раніцай 30 сакавіка з паніхіды па Аляксею Парфенавічу, якая была адслужана ў Пакроўскім саборы. Адтуль жа пачалася і пешаходная экскурсія "Сапуноўскія мясціны ў Віцебску". На другую палову дня былі запланаваны Першыя Сапуноўскія чытанні, месцам правядзення якіх стаў Беларускі Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа. Там жа была разгорнута выстава, падрыхтаваная па матэрыялах асабістага архіва Сапунова з фондаў Віцебскага абласнога краязнаўчага музея, якая выклікала вялікую цікавасць наведвальнікаў, бо ўсе прадстаўленыя рэчы публічна экспанаваліся ўпершыню. Выступленні мінскіх ды віцебскіх навукоўцаў і краязнаўцаў завяршыліся канцэртам беларускай народнай песеннай спадчыны ў выкананні ўдзельнікаў фальклорнага калектывы Багатырскага сельскага дома культуры Полацкага

раёна, якія прадставілі купальскія, жніўныя, талочныя, радзінныя і вясельныя песні ў тым выглядзе, як дагэтуль яны яшчэ гучаць у народзе. Удзельнікамі Першых Сапуноўскіх чытанняў у Віцебску быў прыняты зварот да Віцебскага гарадскога Савета народных дэпутатаў з прапановай увекавечыць памяць Аляксея Парфенавіча. Было прапанавана на месцы дома ў былым Духаўскім завулку, дзе доўгія гады жыў Сапуноў, і на будынку былой мужчынскай Аляксандраўскай гімназіі ўладкаваць мемарыяльныя знакі, а таксама надаць адной са школ Віцебска імя краязнаўцы. (У дужках заўважым, што прапановы краязнаўцаў, якія хоць і былі сустрэты з вялікай прыхільнасцю гарадскімі ўладамі, так і засталіся толькі "добрымі намерамі").

Другія Сапуноўскія чытанні адбыліся ў Віцебску 17 чэрвеня 1995 г. і былі прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння М.Я.Нікіфароўскага. Прайшлі яны ў абласной бібліятэцы, і чынны ўдзел у іх арганізацыі прынялі Віцебскі абласны краязнаўчы музей і абласное аб'яднанне пазашкольнай работы з падлеткамі.

У 1995 г. ў Віцебску быў створаны краязнаўчы фонд імя А.П.Сапунова, старшынёй якога стаў Аркадзь Міхайлавіч Падліпскі, аўтар кнігі пра Сапунова "Летапісец Віцебшчыны", якая выйшла ў серыі "Нашы славутыя землякі" (Мн., 1993). Фонд займаецца папулярызацыяй дзейнасці гісторыка, а таксама рознага кшталту краязнаўчай працай. Пры ягоным садзейнічанні восенню 1999 г. ў вёсцы Сакольнікі Мазалаўскага сельсавета, на месцы былога фальварка Кахоўка быў адчынены памятны знак А.П.Сапунову. Віцебскі краязнаўца Дзмітры Газін прысвяціў жыццю знакамітага гісторыка ў Кахоўцы сваю брашуру "Сапуновские сокровища" (Віцебск, 1998).

І гэта, відаць па ўсім, яшчэ не канец гісторыі жыцця Аляксея Сапунова.

***Літаратура і крыніцы:***


1. Ведомость Департамента мануфактур и внутренней торговли о фабриках и заводах Белоруссии. 1823 г. // Белоруссия в эпоху феодализма. Т.3. Мн., 1961. С.342.
2. Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т.VIII. Часть 1. Витебская губерния. СПб., 1852. С.222.
3. Віцебскі абласны краязнаўчы музей (далей – ВАКМ), КП 7285(1).
4. ВАКМ, КП 7285(1)/7.
5. НГАБ, ф.2635, воп.1, спр.1638.
6. Тамсама, арк.239-240.
7. Памятная книжка Витебской губернии на 1866 год. СПб., 1866. С.124.
8. М.Багародзкі. А.П.Сапуноў і значэньне яго прац па дасьледаваньню Віцебшчыны. // Віцебшчына. Пад рэд. М.І. Касьпяровіча. Т.1. Віцебск, 1925. С.76.
9. Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці (далей – ДАВВ), ф.1947, воп.1, спр.11, арк.71.
10. ВАКМ, КП 7285(1)/7.
11. Стукалич В.К. А.П.Сапунов. К 25-летию его ученой и литературной деятельности. Витебск, 1905. С.1.
12. Звесткі прыводзяцца паводле ўспамінаў Ефрасінні Міхайлаўны Плясковай (народжанай Сапуновай), якія былі запісаны аўтарам дадзенага матэрыялу ў м.Усвяты 5 чэрвеня 1986г.
13. Памятная книжка Витебской губернии на 1889 год. Витебск, 1889.
14. НГАБ, ф.2635, воп.1, спр.1638, арк.9.
15. ВАКМ, КП 7285(1)/7.
16. У трэцюю частку радаводных кніг уносілася выслужанае на грамадзянскай службе дваранства. Асабістае дваранства ў Расійскай імперыі надавалася пры дасягненні 9-га класа "Табелі аб рангах", патомнае—4-га класа (сапраўдны стацкі саветнік). Арыгінал пасведчання аб наданні А.П.Сапунову патомнага дваранства захоўваецца ў фондах Віцебскага абласнога краязнаўчага музея (КП 7285/3).
17. Сярод іх быў і беларускі паэт Элегі Францішак Карафа-Корбут (псеўданім Вуль), што пакінуў горад разам з жонкай, бацькам, маці і малодшым братам Вільгельмам, вучнем пятага класа Віцебскай гімназіі. Пра гэта гл. у кн.: Пачынальнікі. Укладальнік Г.Кісялёў. Мн., 1977. С.262-264; 368-376.
18. А.П.Сапунов. Историческая записка 75-летия Витебской гимназии. Витебск, 1884. С.72-73; 161-162.
19. ВАКМ, КП 7285 (1).
20. НГАБ, ф.2554, воп.1, спр.186, арк. 4; 24 адв.; 46 адв.
21. ВАКМ, КП 7285 (3).
22. Тамсама.
23. НГАБ, ф.2554, воп.1, спр.208, арк. 71-72; 91.
24. ВАКМ, КП 7285 (3).
25. НГАБ, ф.2554, воп.1, спр.194, арк. 65.
26. ВАКМ, КП 7295/14, арк.9.
27. Тамсама, арк.10.
28. НГАБ, ф.2554, воп.1, спр.207, арк.52.
29. Тамсама, арк.66.
30. НГАБ, ф.2554, воп.1, спр.207, арк.72 адв.; спр.210, арк.32, 38 адв.; спр.216, арк.8 адв.
31. НГАБ, ф.2554, воп.1, спр.210, арк.36-36 адв.
32. А.П.Сапунов. Историческая записка 75-летия Витебской гимназии. С.120.
33. ВАКМ, КП 7295/14, арк.23.
34. НГАБ, ф.2554, воп.1, спр.212, арк.82 адв.; спр.216, арк.22-22 адв.
35. Каган Ю.М. И.В.Цветаев. Жизнь, деятельность, личность. М., 1987. С.16.
36. Васілеўскі Васіль Рыгоравіч – заснавальнік навуковага візантыязнаўства. Пра яго гісторык Ф.І.Успенскі пісаў: "Я не ведаю нікога ні да Васілеўскага, ні пасля яго, хто б валодаў такімі магчымасцямі папулярызаваць сваю навуку".
37. Бястужаў-Румін Канстанцін Мікалаевіч – займаўся распрацоўкай пытанняў крыніцазнаўства, што ў пэўнай

мая стрыечная сястра Хелен Фрэнклі – жыве ў Ізраілі і з'яўляецца дырэктарам цудоўнага запаведніка біблейскага ландшафту. Ганна Тумаркіна была малодшай сястрой Майсея Тумаркіна, майго прадзядулі з боку бацькі, і знаходзілася ў блізкіх стасунках з маім дзедам Аляксандрам Тумаркіным, які быў яе пляменнікам і быў усяго толькі на 10 год маладзейшы. Я адчуваю асаблівую роднасную сувязь з Ганнай (хоць я яе ніколі не бачыла, а памерла яна тады, калі мне было 6 год), бо з усіх Тумаркіных, жыццё якіх я вывучала, мы з ёю адзіныя прафесары.


Ніна Тумаркіна, прафесар гісторыі Уэлслі Коледжа, ЗША

Мае бацькі – Поль (названы так у гонар свайго прадзеда, бацькі Ганны Тумаркінай, Палтыеля Тумаркіна) і Сюзана Тумаркіны былі двойчы выгнаннікамі, якія спачатку з'ехалі з імператарскай Расіі ў еўрапейскія сталіцы, а пазней – у перыяд паміж дзвюма сусветнымі войнамі – у Нью-Йорк. Яны былі ўдзячныя Амерыцы за тое, што яна дазволіла ім пабудаваць тут сваё жыццё пасля таго, як бальшавікі зрабілі яго немагчымым на радзіме, а нацысты – у Еўропе. Тым не менш, мае бацькі захавалі і перадалі дзецям сваю еўрапейскую культуру, а таксама пераканалі нас у тым, што не ангельская, а руская з'яўляецца нашай роднай мовай. У дзяцінстве, якое прайшло ў Нью-Йорку, у першыя гады пасля Другой сусветнай вайны адным з маіх самых вялікіх задавальненняў быў агляд скрынак з сямейнымі фотаздымкамі, якія бацькі захоўвалі на верхняй паліцы ў спальні. Сярод шматлікіх фотаздымкаў незнаёмых нам родных (большасць з якіх загінула падчас Халакосту) мы з маёй памерлай сястрой Машай не знаходзілі нічога больш прывабнага, чым строгія партрэты на цвёрдым кардоне ўрачыстай жанчыны ў старамоднай сукенцы, пра якую бацька казаў, што гэта наша дваюрадная цётка Ганна Тумаркіна, першая жанчына-прафесар у Еўропе. Разам з Машай мы хіхікалі над халодным і мужападобным тварам на фотаздымку: ён быў далёкі ад ідэалу жаночай прыгажосці, распаўсюджаным тады ў свеце і ўвасобленым у вобразе Мэрылін Манро (на якую Ганна Тумаркіна была мала падобная).

Мае брат і сястра знайшлі кожны свой шлях у справе прыймання або непрыймання ўплыву нашай вялікай сям'і і яе гісторыі. Я была вельмі падатлівым і цалкам зрусіфікаваным дзіцём, якое, аднак, часам ненавідзела тое, што яно – іншаземец і магло пагражаць перайсці вуліцу і ў адзіноце пайсці па супрацьлеглым баку Брадвея, калі маці зараз жа не пакіне размаўляць з ім па-руску. І гэтае дзіця вырасла ў прафесара рускай гісторыі, аўтара дзвюх кніг пра Савецкі Саюз. Як і Ганна Тумаркіна, якая ўсё сваё жыццё правяла ў сваім велічным універсітэце, я чвэрць стагоддзя правяла на кафедры гісторыі Уэлслі Коледжа, жаночай навучальнай установы недалёка ад Бостана. (Хілары Клінтан і Мадлен Олбрайт – дзве нашыя самыя знакамітыя выпускніцы, але я не вучыла іх – дзеля гэтага я занадта маладая!)

З цягам часу мой вопыт ва Уэлслі, дзе ў духу інтэлектуальнай узаемадапамогі было выхавана столькі жанчын, час ад часу прымушаў мяне па-новаму зірнуць на жыццё і кар'еру Ганны Тумаркінай, якая на працягу 45 год выкладала ва ўніверсітэцкім асяроддзі, у якім дамінавалі мужчыны. Асабістае жыццё Ганны праходзіла ў большай ступені ў таварыстве іншых жанчын-інтэлектуалак пры падтрымцы вялікай сям'і, якая раз'ехалася па ўсім свеце ў неспакойнай першай палове XX стагоддзя. У мінулым годзе я яшчэ больш адчула сваю блізкасць да Ганны і зведала яе значна лепш, таму што яна павінна стаць адным з галоўных персанажаў маёй новай кнігі, над якой я зараз працую, кнігі пра гісторыю жыцця некаторых маіх продкаў, якія нарадзіліся ў Расійкай імперыі і эмігрыравалі ў Еўропу і Злучаныя Штаты да пачатку Другой сусветнай вайны. Першы раздзел гэтай кнігі будзе прысвечаны Ганне Тумаркінай.

Як і мае бацькі, бабуля, дзядуля і ўсе іншыя продкі, Ганна паўсюль была іншаземкай. Бацька Ганны, мой прапрадзядуля, Палтыель Тумаркін быў набожным артадаксальным яўрэем, які з цягам часу стаў больш свецкім. Ганна была адной з малодшых дачок у ягонай шматлікай сям'і, разам з якой у раннім дзяцінстве пераехала з Дуброўны Магілёўскай губерні ў бесарабскі горад Кішынёў, дзе існаваў асяродак

касмапалітычнай яўрэйскай эліты. Ва ўзросце 17 год яна паехала вучыцца ў Берн, дзе і пражыла амаль усё астатняе жыццё. Надзеленая незвычайным розумам, яна праявіла таксама незвычайную ўпартасць і самаахвярнасць, якія дазволілі ёй, нягледзячы на трайную перашкоду – яна была іншаземкай, жанчынай і яўрэйкай – атрымаць у Берне філасофскую адукацыю, надрукаваць вялікую колькасць кніг і артыкулаў на самыя розныя тэмы ад Спінозы да Хайдэгера і стаць першай жанчынай-прафесарам у Еўропе, якая мела права прымаць экзамены і весці доктарскія дысертацыі.

Мне хацелася б быць сёння разам з вамі, каб прадстаўляць сям'ю Тумаркіных, але розныя сямейныя абавязацельствы зрабілі гэта немагчымым. Яшчэ больш мне хацелася б, каб мы змаглі вярнуць Ганну Тумаркіну ў звыклую для яе аўдыторыю і засыпаць яе пытаннямі: "Адкуль з'явіліся Ваша ўпэўненасць і імкненне, што натхнілі Вас на такую напружаную працу? У чым былі крыніцы шчасця і няшчасця ў Вашым жыцці? Чым была для Вас Ваша яўрэйская спадчына: аддаленым успамінам ці, хутчэй, крыніцай духоўнай сілы? Ці жадалі Вы калі-небудзь выйсці замуж і мець дзяцей або Вы былі задаволены жыццём без дзяцей у сяброўстве Вашай кампаньёнкі і сяброўак-жанчын? Як Вы перажылі Другую сусветную вайну, падчас якой загінула так шмат Вашых сямейнікаў і Вы самі аслабелі з-за цяжкай хваробы? Да каго або да чаго звярталіся Вы за суцяшэннем і натхненнем?"

Мяркую, што сёння ўвечары Ганна не адкажа ні на воднае з маіх пытанняў. Але калі б яна была тут, яна была б рада, сапраўды ўражана (хоць, падазраю, цяжка было б уразіць прафесара Ганну Тумаркіну) тым гонарам, якім акружыў яе імя горад Берн. Калі я маю права выказаць удзячнасць ад яе імя, я хацела б падзякаваць пані Францыску Роггер за яе нястомную пошукавую працу і за тое, што яна напісала цудоўную біяграфію Ганны Тумаркінай, якая нядаўна пабачыла свет у яе кнізе "Der Doktorhut im Besenschrank", за яе вялікадушную дапамогу ў маіх уласных даследаваннях пра Ганну Тумаркіну, а таксама за тую працу, якую яна выканала, хадайнічаючы перад уладамі горада Берна аб увекавечванні славы маёй стрыечнай бабулі, надаючы вуліцы яе імя.

Шлю вам свае самыя сардэчныя пажаданні, а бессмяротны дух Ганны Тумаркінай віншую з Днём нараджэння.

З павагай

Ніна Тумаркіна, прафесар гісторыі Уэлслі Коледжа" (3).

*(Пераклад ліста з ангельскай мовы Вольгі Жыхаравай).*

Праз шмат год прафесар Ганна Тумаркіна вярнулася ў Берн, да муроў роднага ўніверсітэта. Калі ж яна цяпер вернецца на радзіму?

***Літаратура і крыніцы:***

1. НГАБ, ф.2151, воп.1, спр.153, арк.4 адв. - 5.
2. Выказваю шчырую падзяку спадарыні Моніцы Банькоўскі (Цюрых, Швейцарыя) за дапамогу ў атрыманні і перакладзе з ангельскай мовы вышэй прыведзеных звестак аб сям'і Тумаркіных.
3. Выказваю шчырую падзяку спадарыні Францысцы Роггер за прадастаўленне копіі гэтага ліста, а таксама ўсіх матэрыялаў, якія тычацца біяграфіі Ганны Тумаркінай і ўрачыстасцяў, якія адбыліся ў Берне 16 лютага 2000 года.




Радавод Ганны Тумаркінай

*Анатоль ФЕДАРУК*

# КУЛЬТУРНА-ГІСТАРЫЧНАЯ КАШТОЎНАСЦЬ І СУЧАСНЫ СТАН ШЛЯХЕЦКІХ СЯДЗІБАЎ ВІЦЕБШЧЫНЫ

Шляхецкія сядзібы ў мінулым з'яўляліся адным з найбольш выразных культурных і гаспадарчых асяродкаў на Беларусі. Вядомы яны паводле археалагічных раскопак на тэрыторыі краю з XI – XII стст. Найбольш вядомая старажытная сядзіба размяшчалася на Браслаўшчыне на гарадзішчы Рацюкі, непадалёк ад феадальнай вёскі, мела плошчу 0,2 га і паходзіла з XI ст. (1).

Шляхецкая сядзіба прайшла вельмі доўгі, амаль каля тысячагоддзя, шлях развіцця і ўдасканалення, эвалюцыянуючы ад простага старажытнага двара да ўзорных рэнесансавых залажэнняў, пазней – да велічных ансамбляў часоў барока, ракако, класіцызму, рамантызму, эклектыкі і мадэрну. Таму сядзібы – гэта асаблівыя старонкі нашай гісторыі і культуры. Яны звіваліся як радавыя гнёзды шматлікімі пакаленнямі. На працягу двух стагоддзяў, напрыклад, Лапацінскія валодалі Лявонпалем і Сар'яй, Дзеражынскія – Козечкамі, Дамейкі – Сітцамі, Храптовічы – Бешанковічамі. Каля трох стагоддзяў Гедройцам-Юрагам належалі Раманішкі, а Ваўжэцкім – Відзы. Амаль чатырыста гадоў род Цеханавецкіх валодаў Бачэйкавам.

Гістарычны ланцужок продкаў абавязваў берагчы радавую спадчыну. У традыцыях роду, пераемнасці пакаленняў нараджалася святасць адносін да яе, складваўся асобны матэрыяльны і духоўны свет сядзібы.

Фарміраванне сядзібаў, іх прыгажосць і каштоўнасць звязаны са шляхтаю, гэтым незвычайным прывілеяваным саслоўем на Беларусі. Сярод уласнікаў сядзібаў віцебскага краю – прадстаўнікі такіх знакамітых родаў, як Агінскія, Валадковічы, Ваўжэцкія, Гільзены, Грабніцкія, Дзеражынскія, Дамейкі, Зяновічы, Козел-Паклеўскія, Корсакі, Лапацінскія, Пшэздзецкія, Броэль-Плятары, Суліствоўскія, Сапегі, Тызенгаузы, Храптовічы, Цеханавецкія і інш.

На працягу стагоддзяў галоўным абавязкам шляхты была абарона Радзімы. Шляхціц павінен быў першым скласці галаву за караля, вялікага князя і свой народ. Правы і прывілеі шляхты былі зацверджаны Статутамі Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага 1529, 1566 і 1588 гг. Прадстаўнікі шляхецкіх родаў займалі высокія службовыя пасады, са зброяй у руках баранілі Радзіму ад ворагаў, выконвалі абавязкі дыпламатаў, будавалі замкі, храмы і палацы, стваралі друкарні і школы.

Са шляхецкімі сядзібамі звязана яшчэ адна адметная з'ява – калекцыяніраванне, якое пазней дало пачатак музейнай справе на Беларусі. Найбольш каштоўныя зборы меліся ў маёнтках Лапацінскіх (Лявонпаль, Сар'я), Цеханавецкіх (Бачэйкава), Гільзенаў (Асвея), Валадковічаў (Іванск), Нітаслаўскіх (Бігосава), Храпавіцкіх (Кахановічы), Плятэраў (Бяльмонт), Тызенгаузаў (Паставы).

Кожная сядзіба мела свой парк, сад. Сядзібныя паркі ствараліся для роздуму, адпачынку, паэтычных летуценняў, вучоных заняткаў, правядзення святаў, прыёму гасцей. Парк павінен быў выклікаць здзіўленне рэдкімі экзатычнымі раслінамі, птушкамі ці жывёламі. Таму ў парках меліся аранжарэі, вальеры, звярынцы. У аранжарэях багатых маёнткаў паспяхова вырошчваліся розныя дэкаратыўныя расліны, цытрусавыя культуры. У Лескавічах, напрыклад, культывавалася спаржа, у Асвеі – ананасы, дыні, кавуны і вінаград (2). Сад з усёй разнастайнасцю раслін і жывёлаў задумваўся як падабенства Сусвету, як асобны мікрасвет, рай ці Эдэм.

Апроч усяго сказанага, у сядзібах праходзіла чалавечае жыццё з усімі яго радасцямі і смуткамі. Былі тут піры і шумныя балі, феерверкі, выезды на паляванне, водар мёду, спелых яблыкаў і варэння, якое штолета варылася ў запас пад квітнеючымі ліпамі. Тут быў свой лад жыцця, свае традыцыі і парадкі, якія выпрацоўваліся стагоддзямі.

---

Федарук Анатоль Тарасавіч, доктар біялагічных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М.Танка. Займаецца пытаннямі інтрадукцыі і акліматызацыі раслін, а таксама садова-паркавага мастацтва Беларусі. Аўтар кніг "Древесные растения садов и парков Белоруссии" (Мн., 1980), "Опыт интродукции древесных лиственных растений Белоруссии" (Мн., 1985), "Садово-парковое искусство Белоруссии" (Мн., 1989), шматлікіх публікацый.

Але ж лёс цудоўнай спадчыны аказаўся цяжкім. Большасць сядзібаў Віцебшчыны была амаль або зусім страчана. З ліку 270 інвентарызаваных намі ў 1997 годзе захавалася 143 (52,9%, прычым, рознай ступені захаванасці). Усе без выключэння ацалелыя сядзібы істотна змяніліся. Парушана іх прасторавая арганізацыя, часцей за ўсё, страчаны палацы, сядзібныя дамы, малыя архітэктурныя формы, змяніўся склад паркавых насаджэнняў, перасталі функцыянаваць водныя сістэмы.

Фарміраванне сядзібаў праходзіла ў рэчышчы развіцця агульнаеўрапейскай культуры, таму іх каштоўнасць вызначаецца перш за ўсё наяўнасцю выразных стылёвых рысаў. Рысы таго ці іншага стылю прасочваюцца ці проста больш менш добра адлюстраваны ў 85 сядзібах. Сярод іх тры сядзібы часоў барока (Лявонпаль, Норыца, Бачэйкава), якія засталіся амаль некранутымі больш познімі напластаваннямі. З іх лепш за ўсё захаваўся Лявонпаль, збудаваны брэсцкім ваяводам Тадэвушам Лапацінскім у формах позняга барока. Асаблівую цікавасць выклікае сядзіба Цеханавецкіх у Бачэйкаве, у планіроўцы якой выразна бачны рысы французскага класіцызму, садовыя стылёвыя прыёмы самога А.Ленотра, будаўніка велічнага Версалю.

Паркі дзевяці барочных сядзібаў былі перапланаваны з прыходам пейзажнага стылю. Гэта Кахановічы, Гняздзілавічы, Сітцы, Козечкі, Смаляны, Заазер'е, Каменполле, Лескавічы і Двор Нізгалава. Найбольш тыповым аб'ектам пераходнага перыяду з'яўляецца сядзіба ў Бешанковічах, закладзеная Ірэнеем Храптовічам, камергерам пецярбургскага двара.

Каля трэцяй часткі сядзібаў Віцебшчыны (27,2%) маюць характэрныя рысы эпохі класіцызму і рамантызму. Сярод іх такія найбольш вялікія і ў мінулым, бадай што, найпрыгажэйшыя сядзібы, як Сар'я, Крыкалы, Асвея, Бігосава, Старая Беліца, Іванск, Дзедзіна (усе яны са страчанымі палацамі).

Найбольш шматлікая група сядзібаў (50,4%) была закладзена ў часы эклектыкі. Лепшымі з іх з'яўляюцца сядзібы з пейзажнымі паркамі Межава, Бяздзедавічы, Опса, Лынтупы, Рацэва, Варапаева, Забайкал, Юзэфполле, Двор Ваbooронічы і інш.

Ступень захаванасці сядзібаў, як ужо адзначалася, розная. Па гэтаму крытэрыю яны класіфікаваны намі як сядзібы, фрагменты сядзібаў, паркі, фрагменты паркаў і адзінкавыя фрагменты. Разгледзім у такім парадку сучасны стан сядзібаў рэгіёна.

1. *Сядзібы.* Адносна добра захавалася 35 сядзібаў. У іх выразна праглядаюцца асаблівасці планіроўкі, сядзібныя дамы або іншыя архітэктурныя пабудовы, таксама вадаёмы і паркі. Да гэтай катэгорыі аднесены сядзібы Межава, Бяздзедавічы, Двор Нізгалава, Лявонпаль, Відзы Лаўчынскія, Арэхаўна, Опса, Ідолта, Каменполле, Лынтупы, Германавічы, Гарадзец, Бешанковічы, Обаль, Старая Беліца, Бігосава, Дзедзіна і інш. Яны з'яўляюцца адной з самых значных частак культурнай спадчыны Віцебскай вобласці.

2. *Фрагменты сядзібаў* складаюць параўнальна невялікую групу з 19 аб'ектаў. У іх страчаны цэласнасць агульнай планіровачнай пабудовы і многія сядзібныя элементы. У адных з іх, напрыклад, захаваліся палацы, часткова дрэвастоі і вадаёмы (Паставы, Юрцава), у другіх – сядзібныя дамы і дрэвастоі (Пішчалава, Чарнаручча, Лукі, Галошава) (іл.1) або ў асноўным толькі гаспадарчыя пабудовы, дрэвастоі ды алеі (Полцева, Станіслававa, Валкалата, Двор Таронкавічы, Ворань, Ліпкі, Горкі і інш.).

Іл. 1. Галошава. Сядзібны дом (парадны фасад)



3. *Паркі.* Ад 17 сядзібаў захаваліся амаль што адны толькі паркі з вадаёмамі ці воднымі сістэмамі. Яны страцілі асноўныя архітэктурныя пабудовы, часта істотна зменены, аднак большасць з іх з'яўляецца ўзорамі садовага мастацтва. Гэта паркі эпохі класіцызму і рамантызму (Бяльмонт, Сар'я, Асвея, Крыкалы, Іванск), часоў барока (Бачэйкава, Норыца, Сітцы, Заазер'е) і эклектыкі (Варапаева, Рацэва, Забайкал, Бярозаўка, Казімірава і інш.).

4. *Фрагменты паркаў.* Многія былыя сядзібы (усяго іх адзначана 14) захаваліся толькі часткова ў выглядзе асобных фрагментаў

паркаў, якія ўключаюць дрэўныя масівы, алеі, вадаёмы ці водныя сістэмы. Гэта Чырвоны Двор недалёка ад Здраўнёва, Кахановічы, Гарнакі, Дабрыгоры. Некаторыя з іх вылучаюцца асаблівай прыгажосцю краявідаў (напрыклад, Падоршчына, Дубраўка).

5. *Адзінкавыя фрагменты.* Ад большасці сядзібаў (44) засталіся толькі асобныя, часта нязначныя фрагменты: алеі, групы і масівы дрэваў, вадаёмы, рэшткі забудоў (Карлаўка, Язвіна, Івоніна, Юзэфова, Мнюта, Галубічы) або асобныя архітэктурныя пабудовы (напрыклад, сядзібныя дамы ў Мазалаве, Расонах, Шаркаўшчыне, спіртзаводы ў Параф'янаве, Вялікіх Стайках, гаспадарчыя пабудовы ў Турове, Селішчы, Пагошчы і інш.).

А зараз зробім кароткі агляд сучаснага стану сядзібаў, сядзібных паркаў і пабудоў.

Сядзібы ўпрыгожваюць перш за ўсё дрэвы, якія ўтвараюць групы, масівы розных памераў, растуць адзінкава ці ў выглядзе алеяў. У складзе дрэвастояў нешматлікія старыя дрэвы, што захаваліся з часоў закладкі паркаў. Яны вызначаюцца памерамі, вабяць формай кроны і прыгажосцю (іл.2). Дамінуюць у насаджэннях дрэўныя расліны апошніх 50-70 гадоў, якія ўтвараюць часта суцэльны ярус вышынёй да 20 метраў, звычайна з двух полагаў. У шчыльных дрэвастоях дрэвы вызначаюцца гонкасцю, кроны складаюцьтолькі 1/8 – 1/10 частку ствалоў. Назіраецца працэс дыферэнцыяцыі і адпаду ва ўмовах рэсурсных недахопаў, асабліва святла. Дрэвастоі паркаў перажываюць сукцэсійны працэс, бескантрольную замену старых фітацэнозаў новымі. Найбольш актыўная пазіцыя ў замене належыць ясеню, клёну, ліпе, якія ўтвараюць самкнёныя насаджэнні павышанай шчыльнасці. Падрост распаўсюджваецца нярэдка па ўсім парку, часта суцэльна пакрывае паляны, былыя партэры, пазбаўляе парк перспектыў. У выніку фарміруюцца новыя фітацэнозы. Паркі набываюць рысы лесапаркавых масіваў. Дэкаратыўны стан новых цэнозаў добры, але ж змяняецца былы склад насаджэнняў, планіровачныя рысы паркаў, іх былая ландшафтная выразнасць і індывідуальнасць. Новыя дрэвастоі з'яўляюцца добрай асновай для фарміравання насаджэнняў з паркавымі рысамі шляхам асвятляльных і ландшафтных высечак. Яны патрабуюць таксама мэтанакіраванага абавязковага дагляду.

Іл.2. Гняздзілава. Фрагмент парку



Апроч сказанага, у парках істотна змяніўся, збяднеў таксанамічны склад насаджэнняў. Зніклі амаль усе хвойныя расліны (сасна, яліна), стала зусім мала раслін іншаземных, так званых інтрадуцыраваных. А менавіта за кошт іх у мінулым стваралася такая адметная рыса паркаў, як біялагічная разнастайнасць, і нездарма паркі лічыліся часткай Сусвету.

З ліку рэдкіх дрэўных раслін у парках адзначаны 42 таксоны, 78 месцазнаходжанняў. Найбольш цікавымі і каштоўнымі з'яўляюцца сасна кедравая еўрапейская 'Columnaris', бяроза адвіслая 'Crispa', вольха шэрая 'Laciniata' (Двор Нізгалава), клён вастралісты 'Schwedleri', ляшчына звычайная 'Fuscorubra' (Відзы Лаўчынскія), вяз шурпаты 'Gamperdownii' (Друя), вяз шурпаты 'Exoniensis' (Баравое), ліпа амерыканская 'Macrophylla' (Залессе), ліпа крымская (Рудня, Старая Беліца), сасна чорная аўстрыйская (Козечкі, Псуя), піхта сібірская (Высокае, Рудня, Горкі, Дубраўка), клён палявы (Бачэйкава) і інш. Незвычайнымі памерамі (вышыня – да 35-36 м, дыяметр ствала – 100-106 см) і прамаствольнасцю ўражвае лістоўніца польская ў парку Сар'я. Параўнальна часта сустракаецца таксама якасны від – лістоўніца Сукачова.

На жаль, амаль страчаны парк у Вялікіх Лётцах, дзе яго ўладальнікам прафесарам У.У.Адамавым была сабрана вялізная калекцыя раслін – цэлы батанічны сад. Па звестках на 1 снежня 1910 г., у садзе мелася 344 назвы дрэўных, 664 травяністых і споравых раслін. Калекцыя садовых формаў складала да 400 назваў. Акрамя таго, у аранжарэі мелася каля 300 відаў трапічных і субтрапічных раслін. Сад быў вядомы ў Еўропе, выдаваў дылектус. Творчыя сувязі па яго фарміраванні падтрымліваліся з вядомымі батанікамі таго часу Я.К.Кесельрынгам, К.М.Вагнерам, Р.Ф.Німанам, Х.Я.Гобі, А.Д.Ваейкавым,

В.Вільмарэнам і інш. (3) Зараз з рэдкіх раслін тут захаваліся адзінкавыя віды і культывары: туя заходняя ‘Spiralis’, трэскун амурскі, маліна водарная, ліпа буйналістная, бузіна чорная, бэз венгерскі. Усяго на сядзібе адзначана 46 дрэўных таксонаў.

Кожная сядзіба – гэта шматлікі збор разнастайных пабудоў, аб’яднаных адзінай логікай планіровачнага рашэння ў адпаведнасці з пануючым стылем. Архітэктурныя збудаванні мелі ў сядзібах асаблівую каштоўнасць, з’яўляючыся перш за ўсё кампазіцыйнымі цэнтрамі, дамінантамі, акцэнтамі перспектыў. Усяго намі ў сядзібах Віцебшчыны інвентарызавана 4 палацы, 27 сядзібных дамоў і 146 пабудоў, у асноўным гаспадарчага прызначэння. Большасць з іх патрабуе капітальнага рамонту. Добра ўпарадкаваны ў апошні час сядзібны дом у Двары Варонічы, адноўлены дом у Опсе. Узорны выгляд прыняла прыватызаваная афіцына ў Высокім. Былы дом упраўляючага ў Обалі ўдала прыстасаваны пад музей Обальскага камсамольскага падполля.

Трэба адзначыць, што ў апошні час у сядзібах вобласці назіраецца страта многіх архітэктурных каштоўнасцяў. Пазбавіўшыся вокнаў і дзвярэй, руйнуюцца выдатнейшыя ўзоры эпохі класіцызму – палацы ў Бігосаве, Дзедзіне, Мазалаве. Зусім знікла драўляная частка эклектычнага дома ў Высокім. Згарэў шыкоўны класіцыстычны палац Грабніцкіх у Обалі. Працягвае разбівацца познекласіцыстычны палац Свяцкіх у Старой Беліцы. У аварыйным стане знаходзяцца флігелі ансамбля Цеханавецкіх у Бачэйкаве і г.д.

Іл.3. Відзы Лаўчынскія. Глінабітная абора



У сядзібах страчаны амаль усе афіцыны, капліцы, малыя архітэктурныя формы. Толькі часткова захаваліся капліцы ў Манькавічах і Гняздзілаве, добра адрамантавана капліца ў вёсцы Кіякова (Докшыцкі раён). Толькі ў асобных сядзібах захаваліся брамы або іх фрагменты (Лявонпаль, Варапаева, Гняздзілава, Сар’я) і агароджы. Брама ў Лескавічах (Шумілінскі раён) арыгінальна вырашана ў выглядзе пралётнай аркі ў цэнтры жылой забудовы. Велічнасцю вылучаецца манументальная барочная брама ў Сітцах, дзе маецца таксама грунтоўная агароджа, але больш позняга часу. На вачах губляецца адна з самых арыгінальных агароджаў у Опсе, якая спалучае пілоны з гранітных блокаў і незвычайна сплянаваны штыкетнік. Поўнасцю страчана ў апошні час агароджа Варапаеўскага парку.

Структурнай часткаю сядзібаў з’яўляліся гаспадарчыя двары з разнастайным наборам пабудоў: стайні, валоўні, кароўнікі, лямусы, амбары, гумны, хлявы, пуні, клеці, адрыны, кузні, млыны, бровары, малочныя і нават цэлыя малаказаводы. Яны будаваліся з разнастайнага найбольш таннага мясцовага матэрыялу. Звычайна гэта было дрэва. Драўляныя клеці ўзорнай работы захаваліся ў Валкалатах і Тураве (Сенненскі раён). У Селішчах (Ушацкі раён) клець вылучаецца маляўнічай паглыбленай на 2 метры адкрытай галерэяй. Тут жа маецца, відаць, адзіны на Беларусі драўляны двор для работнікаў маёнтка, які складаецца з трох зрубаў.

Сталі рэдкасцю так званыя глінабітныя гаспадарчыя пабудовы, даволі моцныя, цёплыя і ўтульныя (Відзы Лаўчынскія, Двор Пліна) (іл.3). Найбольш трывалымі і шырока распаўсюджанымі былі пабудовы з мясцовага каменю (колатага, валуноў або буту), якія ўпрыгожваліся так званай кладкай “з разынкамі”. Прыгожай фактурай вылучаюцца, напрыклад, сцены чатырох гаспадарчых пабудоў у Горках (Расонскі раён), складзеныя з вялікіх колатых камянёў. Большасць будынкаў гэтага тыпу страціла дахі, амаль не выкарыстоўваецца і разбураецца.

У другой палове XIX – пачатку XX стст. у краі вельмі распаўсюджанай стала так званая цагляная архітэктура, мастацкая выразнасць якой дасягалася выключна якасцямі мастацкай кладкі. Гэтыя рысы надзвычай выразна адлюстраваны ў адзіным ацалелым ад сядзібы Станіслававa (Лёзненскі раён) гаспадарчым будынку, а таксама ў будынках рознага прызначэння ў Іванску, Бяздзедавічах, Полцеве, Каштылянаўшчыне, Старой Беліцы і інш. У гэтых формах на пачатку XX ст. узводзіліся вялікія П-падобныя

або прамавугольныя ў плане замкнутыя фермы з брамамі і ўнутранымі дворыкамі (Каменполле, Кіякова, Бяздзедавічы). Адзін з такіх ансамбляў, лепш за ўсё выражаных структурна, але вельмі забруджаны зараз, захаваўся ў Азерцах (Глыбоцкі раён). У Каменполлі ад падобнай пабудовы, цяпер пазбаўленай даху, застаўся толькі адзін аб'ём (звяно) з разнастайным дэкорам – псеўдагатычнымі вежачкамі, псеўдарызалітамі, неарэнесансавым афармленнем дзвярных праёмаў і інш. (іл.4).

У некаторых маёнтках знаходзяцца добра прыдатныя для сучаснага выкарыстання складаныя пабудовы былых вінакурных заводаў і бровараў. Яркія ўзоры прамысловай архітэктуры канца XIX – пачатку XX стст. маюцца ў Старой Беліцы, Полцеве, Гарадцы, Бярозаўцы. Па ўзору аднаго з пецярбургскіх заводаў з цэглы, часанага каменю і буту ў Вялікіх Стайках (Гарадоцкі раён) у 1905 г. быў пабудаваны велічны бровар “Баварыя”. Зараз пустуе, хоць мае добры стан і вызначаецца мастацкімі рысамі, броварны комплекс у Двары Таронкавічы (Лепельскі раён). Ён мае ансамблевы выгляд, уключае два вадаёмы і пабудаваны з часаных камянёў з выкарыстаннем дыхтоўнай чырвонай цэглы ў абкладцы кутоў і праёмаў.


Іл.4. Каменполле. Стайня (парадны фасад)

У некаторых сядзібах захаваліся не толькі адзінкавыя гаспадарчыя будынкі, але і амаль што цэлыя гаспадарчыя двары, якія маюць асаблівую каштоўнасць (Кіякова, Лескавічы, Рацэва, Азерцы, Каштылянаўшчына). Яны адлюстроўваюць характар і ўзровень гаспадаркі ў мінулыя часы. Бадай, лепш за ўсё да сучасных патрэбаў прыстасаваны двор у Гарадцы (іл.5). Тут узвышаецца адна з найпрыгажэйшых абораў, зробленая з чырвонай цэглы і колатых камянёў. Яна мае вышыню ад зямлі да канька даху 12 метраў, на франтоне змешчана выява галавы каровы і надпіс “1897 ANNO”. Двор у Міхалполлі самавольна разабраны ў апошні час.

Асаблівай павагі заслугоўваюць мемарыяльныя сядзібы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю знакамітых у галіне мастацтва, гісторыі і навукі людзей. Такіх сядзібаў намі адзначана 12. На жаль, толькі адна з іх – Здраўнёва – функцыяніруе як мемарыяльны музей І.Я.Рэпіна. Астатнія трэба аднесці да катэгорыі забытых. Ступень іх захаванасці розная. Напрыклад, Сурвілішкі (радзіма Зыгмунта Чаховіча) і Кахоўка А.П.Сапунова зусім не захаваліся. Для такіх сядзібаў, як, скажам, Хруцкі Двор (сядзіба І.Ф.Хруцкага) цяжка вызначыць нават дакладнае месцазнаходжанне. Страчана таксама сядзіба Рыпінскіх у Кукавячыне. Не ўдалося знайсці сядзібу Ражаншчына Аляксандра Семянтоўскага, беларускага этнографа і археолага. Нязначныя фрагменты дайшлі да нашых дзён ад сядзібаў вядомага садавода, калекцыянера і селекцыянера Я.К.Мароза ў Фатыні; удзельніка Крымскай і руска-турэцкай войнаў, генерал-лейтэнанта, кавалера шматлікіх ордэнаў і медалёў У.П.Вітторфа (Чырвоны Двор); вядомага географа і палеантолага І.Д.Чэрскага (Свольна); паэта і фалькларыста І.Е.Храпавіцкага (Кахановічы); віцебскага губернскага пракурора, віцэ-губернатара, публіцыста і мяркуемага аўтара “Энеіды навыварат” І.А.Манькоўскага (Мазалава). Адносна добра захаваліся сядзібы ўдзельніка і кіраўніка паўстання 1794 г. Тамаша Ваўжэцкага (Відзы Лаўчынскія), мастака Альфрэда Ромера (Каралінаў), а таксама скульптара і ўдзельніка абодвух паўстанняў Генрыха Дмахоўскага (Забалацце).

Мемарыяльнасць сядзібаў абавязвае зберагчы нават руіны пабудоў, рэшткі фрагментаў, пні дрэваў, перасохлыя вадаёмы, фрагменты страчаных дарог – наогул усё, што прынята называць краявідным абліччам мемарыяльнага аб'екта.

Сучасны стан сядзібаў не можа не хваляваць. Вядома, што яны пацярпелі ў гады вайны. Разбураюцца яны і ад часу, але горш за ўсё, калі гінуць па прычыне раўнадушных адносінаў сучаснікаў. Катастрафічнае разбурэнне сядзібнага асяроддзя адбываецца перш за ўсё ў выніку ўвядзення безсістэмнай забудовы (Паставы, Лынтупы, Іванск, Арэхаўна, Лётцы, Бешанковічы і інш.). Асабліва неспрыяльнай з'яўляецца жылая ўласніцкая забудова, якая займае былыя парадныя партэры і цэнтральныя паляны паркаў (Сар'я, Дзедзіна, Бяльмонт, Сурвілішкі, Двор Варонічы, Межава, Забайкал, Двор Жары і інш.). У сувязі з падобнай

забудовай практычна страчана ў апошні час эклектычная сядзіба Юзэфова (Шаркаўшчынскі раён).

На стан паркаў адмоўна ўплывае выпас і прагон жывёлы (Двор Жары, Старая Беліца, Бачэйкава, Кіякова, Рацэва, Чырвоны Двор і інш.). Прыстасаваннем для летняга загону жывёлы знішчаецца парк Хадароўка (Докшыцкі раён).

Сядзібы, асабліва паркі, адмоўна рэагуюць на парушэнне водных сістэм, што вядзе да зменаў гідралагічнага рэжыму тэрыторыі з аднаго боку, а з другога са стратай вадаёмаў змяняюцца кампазіцыйныя планіровачныя асаблівасці паркаў і іх ландшафтная выразнасць (Бачэйкава, Дзедзіна, Каменполле, Раманішкі, Бігосава, Асвея, Козечкі, Рудня, Двор Чэрапіта, Двор Пліна і інш.).

Таксама неспрыяльнымі для паркаў з'яўляюцца змяненні навакольнага прыроднага асяроддзя, забудова прылягаючых тэрыторый. Пры гэтым паркі і сядзібы наогул страчваюць відавыя акцэнты і далягляды. Напрыклад, забудовай знішчаны не толькі пейзажны парк у Юрцаве, але і пазбаўлены элементарных сувязяў з навакольным асяроддзем псеўдагатычна-рэнесансавы палац князёў Любамірскіх.

Даць абгрунтаванне сітуацыі, што склалася ў рэгіёне, цяжка, але яшчэ цяжэй знайсці яе практычнае вырашэнне. Відавочна адно: культура памяці сведчыць аб культуры нашага жыцця, аб адносінах да спадчыны. Альтэрнатывы помнікі не маюць. Старадаўнія сядзібы павінны жыць, прыносіць карысць, радаваць вока. Для гэтага трэба пераасэнсаваць нашы адносіны да культурна-гістарычнай спадчыны, зразумець чыста па-чалавечаму іх каштоўнасць. З ліку сядзібаў Віцебшчыны намі выдзелена 80 аб'ектаў, якія заслугоўваюць атрымання статуса помніка мясцовага або рэспубліканскага значэння. У дадатковы спіс уключана яшчэ 26 перспектыўных аб'ектаў.

Іл.5. Гарадзец. Флігель (фрагмент бакавога фасада)



Для зберажэння акрэсленых помнікаў трэба неадкладна вызначыць іх сучаснае функцыянальнае выкарыстанне, гаспадароў, акрэсліць у натуры гістарычныя межы, на падставе якіх устанавіць ахоўныя і буферныя зоны. Адначасова трэба па-гаспадарску ўпарадкаваць сядзібы. На першым этапе іх аднаўлення выкарыстоўваецца метад кансервацыі (4). Ён прадугледжвае выкананне разнастайных прац, якія павінны ў першую чаргу зняць фактары, што вядуць да разбурэння помніка. Перш за ўсё неабходны рамонт дахаў пабудоў, а таксама брамаў, агароджаў і дамбаў. Неабходна правесці асвятляльныя і санітарныя рубкі сярод дрэвастояў паркаў, упарадкаваць дарогі, падсыпаць і спланаваць зруйнаваныя паркавыя мясціны. Трэба змагацца (шматразовым скошваннем) з буйным пустазельным разнатраўем, якое запаланіла закінутыя паркі. У гістарычных межах кожнага помніка і ягонай ахоўнай зоны трэба забараніць розныя віды будаўніцтва, разбіўку агародаў, ворыва, выпас жывёлы, самавольныя пасадкі. Трэба наогул ачысціць гістарычную тэрыторыю ад смецця, па магчымасці знесці чужародныя малакаштоўныя сучасныя збудаванні, якія парушаюць кампазіцыйную цэльнасць сядзібаў, захламляюць іх тэрыторыю.

Вядома, усё гэта патрабуе шмат клопатаў і намаганняў, асабліва з боку мясцовых уладаў, і будзе звязана з пэўнымі фінансавымі выдаткамі. Але ўсё гэта трэба неадкладна і абавязкова рабіць. Без увагі і дагляду гіне любое чалавечае стварэнне. Старадаўнія сядзібы трэба не проста аднаўляць, але і прыстасоўваць да культурных і гаспадарчых мэтаў краіны.

***Літаратура і крыніцы:***


1. Шыдлоўскі К.С. Архітэктурная спадчына Браслаўшчыны: гістарычна-архітэктурны нарыс. Мн., 1996.
2. НГАБ, ф.2635, воп.1, спр.311, арк.543-544.
3. Адамаў У.У. Бальшалетчанскі сад. У зб.: Віцебшчына. Т.1. Віцебск, 1925, с.173; Федорук А.Т. Древесные растения садов и парков Белоруссии. Мн., 1980.
4. Ильинская Н.И. Восстановление исторических объектов ландшафтной архитектуры. Л., 1984, 151 с.; Инструкция по восстановлению старинных парков – памятников садово-паркового искусства в Белорусской ССР. РСН 35-78. Мн., 1979, 106 с.; Инструкция по организации зон охраны недвижимых памятников истории и культуры. М., 1986, 15 с.

*Валеры ШЫШАНАЎ*

# НЕВЯДОМАЕ ЗДРАЎНЁВА

Не так даўно ў Траццякоўскай галерэі была зроблена рэнтгенаграма партрэта Надзеі Рэпінай, які быў выкананы яе бацькам у Здраўнёве ў 1900 годзе. Праца гэтая вядома пад назвамі "На сонцы", "Пад парасонам" і неаднаразова прыцягвала ўвагу мастацтвазнаўцаў. Таму немалое здзіўленне выклікала тое, што на рэнтгенаграме, "пад парасонам" бачных зроку налажэнняў фарбы, хавалася выява ганка здраўнёўскага дома мастака (1). Больш таго, партрэт Надзеі быў не адзіны. "Мы тут всё пишем: я с Нади уже два этюда написал," – паведамляе мастак у лісце да дачкі Веры ад 30 чэрвеня 1900 г. (2).

Гэтыя адкрыцці яскрава ілюструюць стан нашых ведаў аб жыцці і творчасці Іллі Рэпіна. Ваяўнічы савецкі рэалізм узнёс Рэпіна на свае сцягі, і пад імі знікла ўсё тое, што супярэчыла дагматам. І толькі зараз з'явілася магчымасць здзейсніць прароцтва Аляксандра Бенуа і падыйсці да мастацтва XIX ст., як да раскопак, якія адкрыюць велізарныя каштоўнасці (3). Даследчыкі, мастацтвазнаўцы ўжо працуюць у гэтым напрамку (4). Але Здраўнёва, за рэдкім выключэннем (5), нібыта "terra incognita" для расійскіх даследчыкаў.

Анекдатычны выпадак: у Маскве была выпушчана дзіцячая мазаіка з карцінай Рэпіна "Восеньскі букет", суправаджальны тэкст да якой сведчыць, што Здраўнёва знаходзілася ў ... Ліпецкай губерні. І гэта пра месца, дзе мастак напісаў шэраг выдатных і вядомых прац, і з якім ён і ягоная сям'я былі звязаны амаль 40 гадоў!

Але і беларускія даследчыкі і мастацтвазнаўцы грашаць памылкамі, і, зноў-такі, за рэдкім выключэннем (6), крочаць за ранейшымі публікацыямі перапіскі ды іншых матэрыялаў (7). А той ужо велізарны апублікаваны пласт дакументаў, як аказваецца,– толькі бачная частка айсбергу жыццёвай спадчыны мастака, і каб убачыць астатняе, трэба паглыбіцца ў сховішчы архіваў і музеяў.

Гэты артыкул не мае мэты паказаць усю панараму гісторыі Здраўнёва. Ён – спроба адкрыць невядомыя старонкі жыцця маёнтка, за будзённасцю якога і кароткай згадкай у лістах выступаюць чалавечыя лёсы ў плынях быцця.

## "КУПИЛ! И В ВОСТОРГЕ – ПРЕКРАСНЫЙ УГОЛОК!..."

"Купил! И в восторге – прекрасный уголок!...Теперь все мысли там," – першыя ўражанні пра Здраўнёва, якія знайшлі адлюстраванне ў перапісцы Іллі Рэпіна (8).

Між тым, дакладна невядома, як здарылася, што мастак прыехаў набываць маёнтак менавіта на Віцебшчыну. Прычым, Рэпін вёў пошукі даволі працяглы час, але ўсё вырашылі літаральна некалькі дзён. 26 красавіка 1892 г. І.Рэпін паведамляў А.Жыркевічу, што яшчэ не набыў сабе «куток» (9), але ўжо 7 траўня ў лісце Т.Талстой пісаў, што 1 траўня быў паблізу Віцебска і набыў маёнтак (10). Што стала штуршком для такога маланкавага вырашэння справы?

На жаль, на гэтае пытанне не дае адказу даволі вялікі комплекс дакументаў, якія ілюструюць працэс набыцця мастаком Здраўнёва. Сярод іх – пасведчанне на права набыцця маёнтка ад віцебскага губернатара ад 1 чэрвеня 1892 г., уводны ліст на права валодання ад 12 лютага 1893 г., купчая-распіска С.А.Яцкевіч аб атрыманні грошай за маёнтак ад 5 чэрвеня 1892 г. (11), прашэнне І.Рэпіна да віцебскага губернатара ад 30 траўня 1892 г., пасведчанне аб дабранадзейнасці мастака і ягонай сям'і ад пецярбургскага граданачальніка ад 12 траўня 1892 г., абавязацельства Рэпіна выконваць правілы валодання зямельнай маёмасцю ў Заходнім краі ад 3 чэрвеня 1892 г.(12).

Сярод гэтых дакументаў не захаваліся выпісы з Купчай кнігі Віцебскага натарыяльнага архіва па Віцебскаму павету за 1893 г., не захавалася сама кніга і існуе толькі архіўная копія, зробленая ў кастрычніку 1940 г. і знойдзеная ў Дзяржаўным архіве Віцебскай вобласці (ДАВВ). Яна і данесла да нас яшчэ некаторыя абставіны справы: "Тысяча восемьсот девяносто второго года июня пятого дня явились к Владимиру Павловичу Сомову Витебскому нотариусу в контору его на углу Большой

Шышанаў Валеры Аляксеевіч, старшы навуковы супрацоўнік музея-сядзібы І.Я.Рэпіна "Здраўнёва". Займаецца комплекснымі даследаваннямі па тэме "Рэпін і Беларусь", вывучэннем беларуска-рускіх культурных сувязяў канца XIX - пачатку XX стст., а таксама гісторыі рускіх фінансаў мяжы XVIII - XIX стст. Аўтар шэрагу артыкулаў у навуковых і навукова-папулярных выданнях.

Могилевской и Задуновской улиц, в доме Витенберг, лично ему известные и к совершению актов законную правоспособность имеющие: помещица София Авксентьевна Яцкевич и императорской академии художеств Академик Илья Ефимович Репин, живущие в имении "Софиевка" Витебской губернии и уезда, в сопровождении лично ему известных и законоправоспособных свидетелей крестьянина Петра Николаевича Дунченка и Витебских мещан Мовши Иоселева Эйдельмана и Израеля Гиршева Кобыльницкого, живущих в г. Витебске, 1-й за рекой Витьбой, в доме Будзько, 2-й по Грязной улице, в доме Соснера и 3-й по Задуновской улице в своём доме, с объявлением, что они, София Яцкевич и Илья Ефимович Репин, совершают купчую крепость на следующих условиях: я, София Яцкевич, продала ему, Илье Репину, собственно мне принадлежащее недвижимое имение "Софиевка", состоящее в 3-м стане Витебского уезда и губернии в количестве удобной и неудобной земли сто восемь десятин тысяча двести квадр. саженей, более или менее, сколько скажется в натуре. Ничего не оставляя за собою со всеми находящимися в нём жилыми и нежилыми строениями, лесами, водами, рыбными ловлями, фруктовыми деревьями и всякого рода угодьями в границах нам продавщице и покупщику известных, коковое имение "Софиевка" досталось мне Яцкевич из владения Николая Арбузова по данной крепости, выданной из Витебской соединённой палаты уголовного и гражданского суда двадцатого февраля тысяча восемьсот семьдесят восьмого года за № сто восьмым и вводу во владение учиненному судебным приставом той же палаты Онопоренко тринадцатого марта тысяча восемьсот восьмидесятого года. А взяла я, Яцкевич, с него, Репина, за продаваемое моё имение всего денег 12 тысяч рублей, с коей суммы пошлины и все расходы по совершению сей купчей крепости платить покупщику." Акт гэты быў зацверджаны 2 студзеня 1893 г. (13).


Здраўнёва (Сафіеўка) на плане маёнтка Койтава, 1875 г. Захоўваецца ў фондах РДАСА.

Ілля Яфімавіч вярнуў маёнтку старую і больш распаўсюджаную назву "Здраўнёва" і вельмі многа надаваў увагі добраўпарадкаванню свайго ўладання. Умацаванне каменнай кладкай берага Дзвіны, добраўпарадкаванне лесу, будоўля новых і рамонт старых гаспадарчых пабудоў, перабудова галоўнага сядзібнага дома, пасадка вакол саду палос бярэзніку, таполяў, ельніку, арэшніку, разбіўка ліпавай алеі, уладкаванне сажалкі – усё гэта змяніла аблічча Здраўнёва і надало маёнтку асаблівую прыгажосць і ўтульнасць (14).

Рэпін даволі падрабязна апісвае жыццё маёнтка і заняткі жыхароў у сваіх лістах, і тыя з іх, што адрасаваны выдатным дзеячам культуры і іх родным, апублікаваны і шырока цытуюцца, але ліставанне сям'і мастака ў значнай ступені застаецца незапатрабаваным. Між тым, гэта надзвычай цікавая крыніца, якая яшчэ пра многае можа паведаміць.

Так, 24 ліпеня 1895 г. Рэпін, занепакоены адсутнасцю сваёй дачкі Веры, якая гасцявала ў Мамантавых у Абрамцаве, распавядае ёй у лісце: "У нас тут всё копошется и старается сколько может. На дворе кладут погреб и старый Сольнес спускается туда пошатываясь: он даже однажды (выдзелена І.Рэпіным – *В.Ш.*) влезал на нашу башню; один раз был в лесу. Серьёзно занят планом нашего государства и даже начал фасад дворца. Женя катается в навозе как сыр в масле. Недавно была толока. Юра тоже малец в роде Стефана, в лаптях <...> Карпо босиком, по колено в жидком навозе, с трубкой в зубах <...> заломя шапку, сурово до свирепости делает своё дело. Они втроём ходили в Пелёнки за 18 вёрст, там ночевали и назад пришли с Мельяном <...> В этом году была сильная вода. Как много спасла моя набережная! Около купальни, где не было ея, отвалило и унесло сажени четыре. Ольха, что стояла на горке против купальни уцелела. В Тякове снесло огороды, у попа ригу. Вода подымалась в вапенницу – мой буд<удущий> мавзолей. Валька Артам<онов> рассказывал как отлично удерживает лёд моя

набережная. Крыло ударяет прямо в наше Ай-Петри и лезет на дыбы до самой скамеечки и яблони... А теперь после дождей опять вода очень высоко стоит. Купальня вся в воде по крышу, привязанная на верёвке и с камнями внутри: поднялась до начала моей бруковки; два полсаженя скалы для погреба стоят уже в воде по маковку <...>

На дворе выстроили навес, ещё не кончен; поставили штакет. На некоторых вишнях выспевают вишни <...> Снегурка вышла прекрасная корова: видная, красивая – даёт три гарнца в день. Танька околела после родов. Бычок Руслан тот великолепный – картина! Краля тоже дивно хороша и ещё не тельна.



І.Я.Рэпін. Фота С.Юркоўскага. Віцебск, 1893 г.(?).

Поклонись, пожалуйста, всем и Васнецову. Вчера мы жгли на горе большой костер и катки; Стефан, Юра Карпо и Женя стали на Старике в курень и мало спали. Впрочем, Юра совсем не спал – чуть свет на охоту со Стефаном и убил сегодня куропатку и зайца.

Сейчас Женя с Маней принесли из лесу огромное блюдо крупнейшей земляники – хотят делать вино. Вчера Мариана из Лущихи принесла 20 фунтов.

Теперь мы купаемся прямо с берега. Раздеваемся на жирных камнях вроде стула и по зеленейшей муравке на дно воды, всё время пока можешь идти. Вода валит со страшной быстротой: пароходы по течению стрелой несутся, лайбы тоже. Зато против течения бечевой лайбу тянут едва 25 челов<ек>. Всё больше с хлебом. Хлеб здесь опять дорожает. Невель страшно выгорел. Теперь у нас на всех верхних балконах поделаны скамейки для спанья. Опять работали Рувим с Ицкой; сделали ещё перед крыльцом на дворе две скамеечки. Сарай строят русские плотники – хорошие люди.

Перед твоим окном расцвели иван-да-марья. Таня посадила тебе незабудок и сегодня с Манькой принесла каких-то очень интересных цветков от под Шишлы, где-то там нашли, посадили – луковичные, но какие-то болотные. Дубок мой, Рафаель. Желтеет что-то, а другой, маленький, я думал, что совсем засох; вдруг он только теперь пустил листья <...>

Моя мастерская оказалась вышиною менее 5-ти аршин. Холст пришлось повернуть и изменить всю композицию и это оказалось даже к лучшему." (15)

У намаляванай Рэпіным карціне здраўнёўскага жыцця сярод дзеючых асобаў, названых сваімі імёнамі (Таня, Юры – дзеці мастака; Жэня – пляменнік; Карпа, Стэфан – працаўнікі), пад імем галоўнага персанажа п'есы Г.Ібсэна «Будаўнік Сольнэс» хаваецца цесць Рэпіна, акадэмік архітэктуры Аляксей Іванавіч Шаўцоў. Менавіта ягоныя акварэлі «фасадаў палаца» захавалі воблік ператворанага здраўнёўскага дома. Многае дае ліст для разумення "тапанімікі" сядзібы. "Вапенніца-маўзалей" – тая самая яма для выпальвання вапны на беразе Дзвіны, пра жаданне быць пахаваным ў якой гаварыў Рэпін Жыркевічу (16). У сваім дзённіку Жыркевіч узгадваў і "Ай-Петры", "Манблан", "Кратэр Везувія" (17). І калі цяпер вядома, што "Ай-Петры" знаходзілася на беразе ракі і, верагодна, гэта быў велізарны камень, то, магчыма, пад іншымі напышлівымі назвамі хаваецца дзірваністая горка для пазіравання пад вокнамі рэпінскай майстэрні ("Манблан") і дзірваністая круглая лаўка ў садзе з пасаджанымі вакол яе вішнямі ("Везувій") (18). На жаль, не захаваліся і невядома дзе раслі дубкі, якія пасадзіў Рэпін.

У другім лісце мастак паведамляе пра іншыя славутасці сядзібы і заняткі яе жыхароў: "Купите непременно крокет; площадка наша очень хорошая, гладкая, хотя покатая. Юра на ней закатывает на велосипеде.

А веник как вырос: совсем – березовая роща – и вообще там очень симпатичное местечко.

Надя уже играет с нами в городки и "здорово запаливает" совсем по-мужыцки, она здесь поздоровела сразу на вид." (19)

Здраўнёва стала для Іллі Рэпіна тым кутком, які ён упершыню змог назваць з уласцівым мастаку гумарам "нашай дзяржавай". І гэта быў сапраўды ягоны свет, які прыносіў радасці і смутак, але заўсёды даваў магчымасць схавацца ад гарадской мітусні і дакрануцца да жыватворнай моцы зямлі.

Менавіта тут талент Рэпіна здабыў новае дыханне, якое ўвасобілася ў карцінах "Восеньскі букет", "Беларус", "На Заходняй Дзвіне. Узыход сонца" і ў шматлікіх працах, якія дазволілі майстру заняць пачэснае месца ў кваяцістай палітры мастацтва XX стагоддзя.

## "ЖИЛЬЁ ПРОСТОЕ, НО СИМПАТИЧНОЕ..."

Будаўніцтва галоўнага дома набытай Рэпіным сядзібы ў першапачатковым выглядзе адносіцца да 80-х гадоў XIX стагоддзя (20). Безумоўна, невялікі, просты аднапавярховы дом не мог задаволіць мастака ні з эстэтычнага, ні з практычнага боку. І таму на працягу 1893-1895 гадоў Рэпін заклапочаны перабудовай дома ўжо на свой густ і патрэбу. На пачатку ліпеня 1893 г. Ілля Яфімавіч піша сваёй вучаніцы Веры Вяроўкінай: "Я из скучного, неустроенного, прозаичного дома здесь затеял устроить удобное жильё простое, но симпатичное, приспособленное к обстоятельствам и местности. Расширить мастерскую, осветить всё светом сверху. Посреди дома возводится башня, настоящая башня, с зубцами, балконами, террасами и комнатами для жилья и гостей и лестницами для всходов." (21)

На наш погляд, вытокі архітэктурных прыхільнасцяў Рэпіна ў гэты час патрэбна шукаць у захапленні мастака "шчаслівай эпохай Адраджэння", якое гучыць у знакамітых "Лістах пра мастацтва" (канец 1893 г.): "В архитектуре я не могу себе представить ничего лучше византийско-романского стиля Италии средних веков. XI, XII, XIII и XIV века оставили самые лучшие образцы зодчества <...> Его размеры грандиозны не до колоссальности, пропорции частей угаданы с божественной простотой и изяществом <...> Сколько в них молодости, наивности и энергии! В общем здание дышит единством общей идеи – веры и восторга." (22)

Рамантычны настрой пераносіў Рэпіна са Здраўнёва ў краіну мрояў: "Из этой тесноты, сутолоки и прозы жизни меня потянуло в мир Данта. Мне представилось, как этот преследуемый судьбой гений Италии, после долгих мытарств по бесконечным безднам Ада, удручаемый невыразимым воплем страдания грешивших душ, попадает наконец в Чистилище..." (23)

Фантазія майстра малюе на берагах Дзвіны Везувій, Манблан, постаці Рафаэля і "прэрафаэлітаў". Просты драўляны дом ператвараецца ў палац, у лаканічным абліччы і аздабленні якога выступае спроба Рэпіна выявіць правобразы форм, развіццё якіх акрэсліла стылістычныя асаблівасці розных архітэктурных традыцый, і ў гэтым мастак дасягае вышынь сапраўднага мастацкага сінтэзу.

Моцным сродкам мастацкага ўздзеяння становіцца рытмічны эфект чаргавання светлых і цёмных палос у афарбоўцы будынка.Гэты прыём, вядомы з антычнасці, меў шырокае распаўсюджанне ў сярэднявечнай візантыйскай, арабскай, закаўказкай, рускай, іспана-маўрытанскай архітэктуры і ў інкрустацыйным стылі раманскай архітэктуры Тасканы ў XI-XIII стагоддзях.

Аналізуючы архітэктуру рэпінскіх "Пенатаў", А.Стрыгалёў адзначае, што "па ступені радыкальнай фармальнай смеласці і непрадузятасці <...> Рэпін выступае як свайго роду стыхійны архітэктурны авангардыст – задоўга да з'яўлення архітэктурнага авангарда ў Расіі" (24). І, верагодна, не будзе перабольшваннем аднесці пачатак шляху Рэпіна ў гэтым напрамку да здзяйснення архітэктурных фантазій мастака ў Здраўнёве.

Між тым, знешняе аблічча і інтэр'ер рэпінскага дома адзначаюцца адсутнасцю тэатральнасці, штучнасці: "Вообще всё здесь самое простое, деревянное, – впрочем, камин кирпичный, штукатуренный просто без изразцов. Даже мебель самую простую мне сделает плотник из ольхового дерева," – піша мастак (25). На жаль, на вядомых фотаздымках можна ўбачыць толькі майстэрню Рэпіна ў Здраўнёве, але і яны не даюць поўнага ўяўлення аб гэтым памяшканні (26). Таму прыходзіцца задаволіцца больш-менш падрабязнымі слоўнымі апісаннямі ў перапісцы і ўспамінах (27).

А.І.Шаўцоў. Сядзіба І.Я.Рэпіна Здраўнёва. Выгляд з боку гаспадарчага двара. Акварэль, 1896 г.





А.І.Шаўцоў. Сядзіба І.Я.Рэпіна Здраўнёва. Выгляд з боку сада. Акварэль, 1895 г.

У кастрычніку 1993 г. жыхарка вёскі Лушчыха, былая вучаніца здраўнёўскай школы, Марыя Мікалаеўна Аксіневіч (1916 года нараджэння) у размове з аўтарам гэтага артыкула распавядала, што сцены рэпінскага дома былі распісаны: палявыя кветкі, рамонкі, лес, рака, людзі, якія загаралі на беразе; конь, намаляваны на дзвярах, што пасля разбурэння дома доўгі час былі ў хаце нейкага селяніна. Пра роспіс у доме было вядома і раней, але амаль ніякіх падрабязнасцяў пра сюжэты (28). Здавалася, усе гэтыя ўспаміны з далёкага дзяцінства жанчыны так і застануцца амаль паданнем. Таму сапраўдным цудам выглядае тое, што пасля працяглых пошукаў у архіве знойдзены адказ Вярхоўскага валвыканкама на запыт Віцебскага павятовага камунаддзела ад 22 сакавіка 1923 г. з наступным апісаннем: "В фол. Здравнёво имеется дом, построенный по проекту художника И.Е.Репина с башней на верху и его мастерской, в мастерской имеется его архитектуры с живописью на нём клеевыми красками на камине "Подданство Малороссии Богданом Хмельницким", автопортрет самого художника, на стене имеется картина Ю.И.Репина, вид тропических стран и на дверях два местные пейзажа и голова лошади работы Ю.И.Репина. Фол. Здравнёво расположен на красивом живописном месте, на правом берегу реки Западной Двины, от усадьбы до просёлочной дороги имеется живая из ёлок аллея." (29)

Узгаданы роспіс на каміне мае яшчэ некалькі назваў: "Багдан Хмяльніцкі верхам на кані перад натоўпам" (30), "Багдан Хмяльніцкі, які абвяшчае ахову хрысціянскай рэлігіі" (31). Некаторае ўяўленне дае адзін са здымкаў майстэрні, на якім унізе ў авале над топкай каміна відаць яшчэ і выява галавы сабакі Пегас, пра якога ўзгадвае ў сваіх успамінах пляменніца жонкі мастака Л.А.Шаўцова-Спарэ (32). На жаль, адзінае, што захавалася ад роспісаў дома мастака – рэпінскі роспіс на дзвярной філёнцы "Птушка Сірын" (1892 г.), якая знаходзіцца ў музеі-кватэры І.Бродскага ў Пецярбургу.

У сваіх успамінах пра абсталяванне дома Марыя Аксіневіч, а за ёй Арцём Шаўроў (33), гаварылі і пра нейкія бюсты, фрагменты скульптуры ("нявеста з кучаравымі валасамі ў кветках", "гіпсавыя рукі, ногі, часткі тулава"). Сапраўды,Таццяна Іллінічна таксама ўзгадвала пра разбітыя падчас разбурэння панскіх маёнткаў у 1917 г. гіпсавыя статуі з рэпінскай майстэрні – "Венеру і анатомію" (34). Але, як высветлілася, у ліпені 1920 г. для Здраўнёўскай школы па хадайніцтву валана і Т.І.Рэпінай-Язевай з маёнтка Мазалава былі перададзены два гіпсавыя бюсты, якія не ўяўлялі асаблівай мастацкай каштоўнасці і былі патрэбны школе ў якасці мадэляў для заняткаў па маляванню (35).

Цікавая гісторыя і тых нешматлікіх прац І.Рэпіна, якія захоўваліся Т.І.Рэпінай-Язевай у Здраўнёве ў 1920-я гады. У 1929 г. Віцебскі гістарычны музей набыў у Таццяны Іллінічны шэраг прац яе бацькі: "Спакушэнне" (1890-я гады, накід вуглём да карціны "Спакушэнне Хрыста"), акварэлі "Тры пальмы" (1883-1884, ілюстрацыя да верша М.Ю.Лермантава), "Марак" (1883-1884), "Конік" (1883-1884), "Запарожац" (1878-1888), "Кабзар" (1878-1888, інш. назвы: "Запарожац з бандурай", "Казак Мамай"), "Пажарнік" (1883-1884) (36). Яшчэ адзін эцюд "Запарожац" Т.І.Рэпіна-Язева ў знак удзячнасці даслала летам 1930 г. А.П.Тарханавай-Антакольскай у Ленінград (37).

Былі і тры больш значныя жывапісныя працы: партрэт Ю.І.Рэпіна ў дзяцінстве (1882, ДТГ); аўтапартрэт І.Я.Рэпіна, выкананы ў Фларэнцыі (1887, ДТГ); сямейны партрэт Т.І.Рэпінай-Язевай з мужам і дзецьмі (1905, прыватны збор, Японія). Перад ад'ездам у Фінляндыю Т.І.Рэпіна-Язева прадала гэтыя працы Траццякоўскай галерэі і праз 6 год, адгукаючыся на шырокавяшчальнае прызнанне Рэпіна ў СССР, пісала крытыку і калекцыянеру У.Ф.Зеелеру: "Это теперь, когда папа для них уже безвреден. А давно ли, когда я была в Третьяковской галерее и предлагала им купить папин автопортрет (мне нужны были деньги для заграничного паспорта), они предложили мне 200 рублей <...> и сказали при этом: "Нам нужны новые молодые художники, а Репина нам довольно, уже и так вынесена часть в подвалы!!" Теперь же этот портрет стоит на мольберте, украшенный цветами! Видел бы папа, отбрил бы он их." (38)

Значна пазней, у 1951 годзе, дачка мастака з абурэннем даведалася і аб тым, што яе "Сямейны партрэт" быў прадany з галерэі ў Амерыку (39). Падарожжа карціны мела працяг: у канцы 1980-х яна была прададзена з аукцыёна "Сотбіс", а ў 1993 годзе з аукцыёна "Крысціс" за адзін мільён долараў працу набыла японская кампанія "Росартсан" (40).

## "И К НАМ НАЕХАЛО МНОГО ГОСТЕЙ..."

З дакастрычніцкіх часоў у друку існуе меркаванне, што Рэпін, калі жыў у Здраўнёве,"з суседзямі амаль ні з кім знаёмства не вадзіў", і адзінымі субяседнікамі мастака былі сяляне (41). Здавалася б, і сам Рэпін у лісце да Т.Л.Талстой дае для гэтага падставы: "Соседей я ещё не видел и знакомиться никакой охоты не имею ни с кем." (42)

Але жыццё ўнесла свае карэктывы, і іншыя (на жаль, больш ускосныя) сведчанні даюць магчымасць сцвярджаць, што на Віцебшчыне сям'я Рэпіных мела даволі шырокае кола знаёмых.

Так, на некаторай адлегласці ад Здраўнёва мелі невялікія зямельныя надзелы вядомыя віцебскія краязнаўцы Уладзімір Казіміравіч Стукаліч – фальварак Падваліца (Кляновічы) і Аляксей Парфёнавіч Сапуноў – фальварак Кахоўка.


І.Я.Рэпін. Казанне Язафата Кунцэвіча. Малюнак, 1893 г. Музей "Атэнеум", Хельсінкі.

У перапісцы Рэпіна Стукаліч узгадваецца аднойчы – 18 жніўня 1893 г. "Нейкі беларус, адвакат Стукаліч" падараваў мастаку сваю кнігу "Белоруссия и Литва" (Віцебск, 1893), зацікавіў гісторыяй забойства Іасафата Кунцэвіча падчас міжканфесійнага канфлікту 1623 года ў Віцебску. Ілля Яфімавіч пэўны час працаваў над гэтай тэмай, выканаў некалькі малюнкаў. Усё выглядае даволі эпізадычна. Між тым, у спісах кніг бібліятэкі мастака ў "Пенатах" акрамя "Белоруссии и Литвы" згадваецца яшчэ адна праца Стукаліча – "Краткая заметка о белорусском наречии" (Віцебск, 1895) (44). Быў Рэпін і сярод тых, каму ў пошуках падтрымкі апантаны патрыёт Віцебска даслаў сваю брашуру "К вопросу об устройстве университета в Витебске" (Витебск, 1903) (45). Такім чынам, візіт "нейкага беларуса" ў Здраўнёва меў працяг.

Верагодна, цікаўнасць Рэпіна да гісторыі Беларусі і Літвы стала прычынай яго знаёмства з Сапуновым. На жаль, і ў гэтым выпадку сведчанняў аб развіцці іх адносін няшмат. У Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі захаваўся невялічкі рэпінскі альбом для малявання перыяду 1895-1896 гадоў, на адным з лістоў якога простым алоўкам зроблена паметка: "Алексей Парфёнович Сапунов". Вядомы ліст Рэпіна да Сапунова з удзячнасцю за падараваныя кнігі "Витебской старины" (7 студзеня 1897 г.). Мастак шкадаваў, што перад ад'ездам не здолеў застаць гісторыка ні на ягонай дачы, ні ў Віцебску (46).

Кнігі Сапунова захаваліся ў "Пенатах". Гэта І і V тамы "Витебской старины" і не менш знакамітая "Река Западная Двина" (Віцебск, 1893). Самавітыя фаліянты аднолькава аформлены – цёмна-сінія пераплёты з глыбокім залатым цісненнем. Верагодна, каб выказаць асабістую павагу да мастака, Аляксей Парфёнавіч знарок пераплёў свае выданні. На тытульным лісце кожнага тома "Старины" надпіс: "Высокоуважаемому И.Е.Репину от А.Сапунова. Витебск, 22 сент.1897 г." У сваю чаргу, у Сапунова захоўваўся фотаздымак Рэпіна, які выканаў вядомы віцебскі фатограф Сігізмунд Юркоўскі каля 1893 г. (47).

Перапіска, якая ўзнікла з-за прамашкі служачага паштова-тэлеграфнай канторы, захавала сведчанне аб знаёмстве І.Рэпіна з вядомым віцебскім калекцыянерам, прысяжным паверaным Вацлавам Пятровічам Федаровічам (1848-1911).

Так, у верасні 1897 г. Рэпін у знак спачування з нагоды смерці сына даслаў жонцы А.Жыркевіча Кацярыне Канстанцінаўне малюнак “Хрыстос, які бласлаўляе дзяцей”. Але з-за вялікага наплыву кліентаў паштовы чыноўнік не адразу аформіў адпраўленне, а схаваў бандэроль з малюнкам у стол і забыўся пра яе. І толькі праз амаль 20 дзён, калі, па просьбе Рэпіна, на пошту прыйшоў яго “знаёмы прысяжны паверани Федаровіч”, бандэроль была адаслана адрасату (48).



І.Я.Рэпін. Беларус. Палатно, алей, 1890-я гады. Зараз месцазнаходжанне невядома, да 1941 г. захоўвалася ў прыватным зборы ў Кіеве.

З’явіліся сярод знаёмых Рэпіных і навакольныя землеўладальнікі: ”У попа новый прекрасный конёк. Мы были у них раз после обедни с дидом и встретили там м<ада>м Витторф с дочерью и с тех пор не видались. Коссов ко мне раз приезжал и я был у них в Витебске.” (49)

Вацлаў Фёдаравіч Косаў з’яўляўся віцэ-старшынёй Віцебскай суполкі сельскіх гаспадароў і быў адным з буйных землеўладальнікаў Віцебшчыны. Сын В.Ф.Косава Мар’ян у 1920-я гады займаў пасаду консула Польшчы ў Фінляндыі і неяк звярнуўся да Рэпіна з лістом, з якога вынікаюць некаторыя абставіны сустрэч бацькі з мастаком: ”Милостивый государь Илья Ефимович. Подбодренный советом г-на Леви (50), которого я сегодня встретил на выставке, равно как и бывшим нашим соседством по имениям (Койтово – Подберезье) осмеливаюсь обратиться к Вам с нижеследующей просьбой.

Сохранив ещё здесь одну картину, которая по всем признакам принадлежит кисти Рубенса и желая в этом ещё больше убедиться, я припомнил со слов моего отца Вацлава Фёдоровича Коссова, что после смерти бывшего владельца картины Виктора Пыковского (около 1895 г.) Вы были так любезны дать свои ценные указания при разделе большой его коллекции картин между наследниками (между прочим, были там ещё: портрет графини Литта Лампи, голова Христа – Брюллова, картина Вувермана и тогда якобы не имели сомнения в подлинности картины Рубенса). Премного был бы Вам теперь благодарен, если удалось бы Вам восстановить вышесказанное в памяти и об этом сообщить мне.

Присовокупляю следующие подробности: картина представляет трапезу, во время которой женщина вносит на подносе голову Иоанна Крестителя. Все сидящие за столом по одеянию и выражению лиц – типы библейских времён, кроме центральной фигуры за столом, в которой легко узнать жену Рубенса в шляпе. Картина видимо переносилась на новое полотно с большим искусством: заметен белый фон как-будто гипсовый между полотном и красками, а также и известные позднейшие поправки.

Подписи, конечно, заметить никакой невозможно, но картина находилась в старинной раме, на которой виднелась подпись: ”P.Rubens”.

Осмеливаюсь беспокоить Вас письмом, но так как очень желал бы получить хоть в общих чертах пару слов Вашего ответа до времени отъезда г-на Леви из Гельсингфорса, а моего предстоящего выезда в Париж.” (51)

Доўгі час Рэпіны падтрымлівалі добрыя адносіны са сваімі бліжэйшымі суседзямі – сям’ёй генерал-лейтэнанта Уладзіміра Паўлавіча фон Віттарфа (1835-1907(?)), уладальнікамі маёнтка Чырвоны Двор. Уладзімір Паўлавіч паходзіў з дваран Маскоўскай губерні, прымаў удзел у руска-турэцкай вайне 1877-1878 гг. у складзе Заходняга атрада пад начальніцтвам генерала І.У.Гуркі, які асабліва вызначыўся ў баявых дзеяннях (52).

Чырвоны Двор быў даволі вялікім маёнткам з цудоўным паркам і садам на беразе возера (53). Гаспадары спрыялі адкрыццю ў 1893 г. пры маёнтку школы граматы, у якой пэўны час выкладала малодшая дачка фон Віттарфа Алена Уладзіміраўна (54). Менавіта з ёй працяглы час падтрымлівала сяброўства Вера Рэпіна. У ліпені 1908 г. ў Чырвоным Двары была асвечана царква, для якой Таццяна Рэпіна напісала абраз Святой царыцы Алены (55). Але пазней уладальнікаў Чырвонага Двара чакалі непрыемнасці: ”15-го мы были в Красном Дворе, – піша Т.Рэпіна бацьку ў ліпені 1917 г.– Конечно, теперь после пожара у них иначе всё, скромное угощение, ведь раньше море бывало разливаное. С прислугами здесь очень трудно, все такие отчаянные, что они до сих пор не нашли и Арсин сам ставит самовар, Варвара Вас<ильевна> накрывала и стряпала, а Влад<имир> Ив<анович> по утрам убирает кровати и варит кофе.” (56)

Распасцёрліся сяброўскія сувязі Рэпіных і ў суседнюю Курынскую воласць. Тут у маёнтку Хляўеншчына, які належаў генеральскай дачцэ Кацярыне Мікалаеўне Дамецці, адбываліся самадзейныя прадстаўленні для народа: "Вера тут о спектакле хлопочет: сегодня с Надей и матерью поехали вёрст за 14 на репетицию, в Хлевенщину. Хотят разыграть "Не так живи, как хочется." (57)

Сям'і мастака быў знаёмы і ўладальнік маёнтка Хамякова Лявонцій Іванавіч Дэйбнэр: "Видели мы Дейбнера с женой. Он теперь предводитель дворянства и уже седой, как лунь." (58)

Шмат вядома пра сяброўства Рэпіных з сям'ёй святара Слабадской царквы Дзмітрыя Мікалаевіча Дзяканава (1858-1907), але наведваў Ілля Яфімавіч і Курынскую царкву, ведаў яе святара Пятра Сямёнавіча Гнядоўскага (1863-1930).

Пасля асвячэння 14 верасня 1895 г. царквы ў Курыне "Полоцкие Епархиальные Ведомости" паведамлялі: "При конце работ посетил храм Его Превосходительство, господин Начальник губернии с супругою и сопровождавшими его чиновниками, который, тщательно осмотрев хотя ещё и не вполне оконченные работы, высказал свое одобрение и похвалу. В числе посетителей были также и соседские помещики, из которых профессор Академии художеств И.Е.Репин делал свои указания и замечания иконописцу, клонившиеся к более правильному написанию икон." (59)


І.Я.Рэпін. Паненка ў вёсцы. Палатно, алей, 1898 г. Месцазнаходжанне невядома.

Наведвалі родныя мастака Курына і пазней: "Вчера мы ездили к обедне, на кирмаш в Курино, там был храмовый праздник Покрова. Был крестный ход, служили три священника, народу было масса. После обедни зашли к отцу Петру, он всё такой же, немного потолстел и поседел и завел себе патефон." (60). У 1911 г. Таццяна Рэпіна ахвяравала Курынскай царкве абраз "Маленне аб чашы" ўласнага пісьма (61).

Між тым, у гады савецкай улады лёс айца Пятра склаўся трагічна. У палітданясенні ад 28 лістапада 1929 г. Віцебскі акруговы аддзел ГПУ пад грыфам "Совершенно секретно" паведамляў: "Группа кулаков Куринского с/совета, Витрайона и округа, желая устроить восстание, подговорили попа Куринской церкви Гнедовского подать в с/совет заявление об отказе от церкви, которое им было подано 19-го ноября. Приблизительно числа 15-16 ноября на квартире попа Гнедовского устраивалось тайное собрание кулаков, где заранее обсудили план проведения восстания. Все эти кулаки разъезжали по деревням и призывали крестьян прийти в церковь 21-го ноября "для защиты веры", мотивируя тем, что коммунисты придут отнимать церковь.

21-го ноября с.г. около церкви в с.Курино собралось свыше 500 чел., чего ещё никогда и не было. После богослужения поп явился в с/совет и сказал: "Хотите присутствовать, а то у меня не хватает смелости." К церкви пошел избач Рычажников, учитель Кошелев и др. Когда они подошли к церкви, поп заплакал и сказал: "Православный народ, я больше с Вами разговаривать не могу, вот вам представители коммунистической партии, они с вами будут говорить", – и сам убежал. В это время в толпе раздался голос кулака Капустина – "Эй, бабы, что смотрите на этих антихристов, которые пришли отнимать церковь, бейте их, защищайте нашу веру." Толпа начала волноваться. Вторым кричал Петров Моисей – "Давите этих коммунистов, чего стоите, что они пришли грабить церковь." Выходки со стороны кулаков, призывающие толпу громить, организованы были во всех концах толпы, со стороны указанных выше кулаков. Женщины подняли крик, толпа народу набросилась на Рычажникова. Рычажников и учитель Кошелев начали уговаривать толпу успокоиться, объясняя данный проступок провокацией со стороны Гнедовского. Настроение толпы выражало, что она вполне подготовлена, чтобы грабить кооператив, с/совет и т.д.

Капустин кричал: "Несите керосин, будем палить с/совет и кооперацию." Шварнов Петр кричал: "Не выпускайте живыми этих антихристов, давите их там, чтобы следа не осталось, надо смести эту заразу с земли" и т.д. В толпе раздавались крики: "Громи, стреляй их, пали кооператив, бей коммунистов" и т.д. Начали толкать Рычажникова, благодаря чему все представители с/совета бежали.

Толпа осталась одна и начала между собою митинговать.” (62)

Праз некаторы час натоўп разышоўся, і за справу ўзяліся органы пакарання. Айцец Пётр быў арыштаваны і на пачатку 1930 г. расстраляны. З іншых затрыманых па справе шэсць чалавек былі сасланы ў “Паўночны край” на 5 год, чацвёра атрымалі 5 год канцлагеру. Сем’і ўсіх асуджаных былі высланы, а маёмасць канфіскавана (63).

Здраўнёва не стала значным культурным цэнтрам, вядомым мецэнатствам, майстэрнямі народных промыслаў, калекцыямі, знакамітымі наведвальнікамі і гэтак далей. Але Рэпін прымаў у сядзібе сваіх вучняў А.Г.Яўленскага, І.М.Трапічнікава, К.А.Вяшчылава, М.Я.Барысава. Гасцявалі тут і шматлікія родзічы, сябры, знаёмыя мастака.

Асабліва шматлюдна і весела было ў Здраўнёва на Іллін-дзень (20 чэрвеня па старым стылі). Традыцыя адзначаць імяніны Рэпіна захоўвалася нават і тады, калі мастак ужо жыў у “Пенатах”.

## “ЗДРАВНЁВО ТАК ПОХОРОШЕЛО...”

З канца 1890-х гадоў Рэпін менш часу праводзіў у Здраўнёве і прычынай таму былі не толькі інтарэсы мастацтва, але і разрыў з першай жонкай Верай Аляксееўнай і захапленне Наталляй Барысаўнай Нордман-Северавай, на імя якой у 1899 годзе мастак набыў сядзібу “Пенаты” пад Пецярбургам.

Здраўнёва нават абцяжарвае Рэпіных і на пачатку 1900-х гадоў узнікае думка аб продажы маёнтка. У адказ на прапанову бацькі, Таццяна Рэпіна піша: “Ведь т<а>к, правда, никто из нас не любит Здравнёво и проку в нём никакого нет – ни имение, ни дача. А к<а>к подумаешь, что продавать, т<а>к жалко становиться – вишнёвая рощица,...набережная и башня... ко всему уже есть привычка. Да и затрачено на него сколько !! Право, папа, посоветовать ничего не могу да и боюсь. А вот относительно Карла, по-моему, ты напрасно т<а>к думаешь – в Здравнёве никогда у нас не могут дела идти хорошо. Какое же можно вести хозяйство, когда всем распоряжаться приходится за глаза? Надо отдать справедливость – мы в Здравнёве не больше к<а>к “дачники” и нам в пору не имение, а дача и Карл тут ни при чем: раз хозяев нет, все прахом.” (64)

Аднак Ілля Яфімавіч вырашыў прадаць Здраўнёва толькі часткова, прычым, адгукаючыся на просьбу сялян вёскі Цякава, саступіў 81 дзесяціну менавіта сваім малазямельным суседзям на прыймальных для іх умовах. Бюракратычнае вырашэнне справы і разлікі з сялянамі цягнуліся вельмі доўга – ад першага ліста сялян ад 11 студзеня 1903 года да канца 1912 года (65). Сярод шматлікіх папер прыцягвае ўвагу ліст Рэпіна ад 28 снежня 1912 г., у якім узгадваецца хутар Арэшнік “з пабудовамі”, які быў прададзены Нікіфару Кіндзяеву (66). Раней пра існаванне гэтага хутара было невядома, няма і дакладных звестак аб тым, дзе знаходзілася сама мясцовасць.

І.Я.Рэпін у майстэрні ля каміна. Здраўнёва. Фота 1895 г. (?). Захоўваецца у фондах НБА РАМ.



Частка сядзібы, якая засталася, была аддадзена ў арэнду латышу Карлу Эзергаілу, які з канца 1890-х гадоў быў упраўляючым маёнткам. Арэндная дамова Рэпіна з Эзергаіламі (ад 6 красавіка 1904 г.) цікавая пералікам пабудоў, што дае магчымасць уявіць аблічча гаспадарчай зоны сядзібы: “Постройки в означенном имении один барский дом, одна семейная изба, конюшня и ледник и телятный сарай под одной крышей, один флигель, возовня, амбар и кормовая под одной крышей, два сарая или пуни для корма, один скотный двор крытый, одна парница, одна рея и ток и пристройка под одной крышей, один сарай для соломы, одна баня с предбанником под одной крышей, одна молотильня с машиной и конным приводом в четыре лошади, одна поветка.” (67)

Верагодна, каб вырашыць нейкія гаспадарчыя пытанні, Рэпін апошні раз наведаў Здраўнёва ў 1904 годзе. 11 чэрвеня мастак піша А.Жыркевічу з Пецярбурга: “В Здравнёве я был очень короткое время – ездил с Юрой <...> Здравнёво так похорошело за то время, что мы его оставили. Я очень рад, что мы его не продали как намеревались. Я написал в духовной, что завещаю это имение Министерству земледелия с тем, чтобы там была устроена практическая сельскохозяйственная школа для бедных детей.” (68) Запавету мастака не наканавана было здзейсніцца.

Нягледзячы на тое, што ўмовы жыцця ў сядзібе не вызначаліся раскошай, Здраўнёва ўсё ж засталося месцам летняга адпачынку для родных мастака. Больш за ўсіх жыла ў маёнтку і займалася гаспадаркай Таццяна Рэпіна. У лістах да брата яна піша: “ Мне папа неск<олько> раз предлагал взять на себя заботу о Здравнёве. Я, Юрася, ужасно люблю Здравнёво и за эти года к<а>к-то привыкла к нему и знаю уже там всё (...) Веду хозяйство экономно, к<а>к могу. Хозяйство я очень люблю и моя всегдашняя мечта жить самостоятельно в деревне и лето и зиму с Тасей. Но теперь уже нельзя, ей надо в гимназию.” (69)

Асабістае жыццё Таццяны Іллінічны склалася няўдала. У 1901 годзе яна выйшла замуж за ваеннага інжынера Мікалая Генадзевіча Язева. У 1902 годзе ў маладой пары нарадзілася дачка Таццяна, якую, каб адрозніваць ад маці, родныя называлі Тасяй. Праз некалькі год з’явілася другая дачка – Любачка. Але жыццё Любачкі было кароткім, і смерць дзіцяці стала глыбокай псіхалагічнай траўмай для бацькі. 9 чэрвеня 1908 года Таццяна Іллінічна паведамляе Рэпіну: “Ты спрашиваешь меня к<а>к теперь с Н<иколаем> Ген<надьевичем>? Все тоже, на него надеяться нельзя и я с осени буду искать себе какую-нибудь работу или место. Он же говорил, что на него т<а>к повлияла смерть Любочки, что он опустился и что там работы очень мало да всё ремонты.” (70) Сям’я распалася, але і пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, да самай смерці ў 1928 г., Мікалай Генадзевіч дапамагаў сваёй былой жонцы і дачцэ (71).

Прадвесцем цяжкіх для Здраўнёва часоў стала Першая сусветная вайна. У студзені 1915 года Карл Эзергаіл вымушаны быў адмовіцца ад арэнды маёнтка, паколькі яго сына Яна забралі ў войска. Новым арандатарам стаў селянін Цімафей Бадзейка (72).

Летам 1916 г. Вера Рэпіна разам з маці адпачывала ў Есентуках. А па дарозе назад, на пачатку жніўня, затрымалася ў Здраўнёве: “В 4 дня были в Витебске. Встретила Таня. Опять знакомые улицы, дома и жидочки в изобилии, ползучий трамвай нас довёз к постоялому двору. Разместили вещи и помчались, налегке, на крылатых лошадях Тимофея (73). Он очень рад был, расспрашивал нас как и что и все рассказывал обо всем очень характерно. Одну лошадку его зовут “Апромобиль” (“дюже шибко бежит”), а купил у беженцев за 8 руб., другая “Ероплан”, летит с быстротой поезда, худенькая на вид, – “но Боже мой, як быстро”. Уже и звёздочка “Вечерняя заряночка” показалась на небе (как говорит Тимофей про звезду Венеру). Проехали Песковатик и Разувайку промчали, Коссовых (74) и т.д., всё так знакомо. У Анны Ивановны (75) кони стали и они все высыпали на дорогу, поздоровались, поговорили и помчались дальше. Мимо Койтова и еловой аллеи (как выросли ели в 2 сажени) вкатили в Здравнёво <...> Тася нас встретила на крыльце и Наташа, и Ефим (сын Тимофея). Тася поправилась и повзрослела. Опять знакомые стены с Юриной

І.Я.Рэпін у майстэрні. Здраўнёва. Фота 1895 г. (?). Захоўваецца у фондах НБА РАМ.



картиной и чучелами. Ночь чудная была! На утро смотрели как разросся сад! Ты бы не узнал свои дубки "Прерафаэлиты" (76) – это дубы, а серебристые тополя, в 2 обхвата украшают сад! Ск<олько> груш, крыжовника, а яблок совсем нет – цвет помер. Побежали на речку, шёл пароход. (Тася говорила, когда мелко матросы толкают пароход стоя в воде! А спереди идет другой матрос и показывает дорогу, что глубже.) Были и в бывшем лесу, с молодыми ёлочками, ещё есть земляника и черники. У пней подошла девочка, Тарасова Полька 8-ми лет, пасла свою корову на горе Маслёхе. Как хорошо, тихо и приятно было дома, после сутолоки наёмных комнат." (77)

Пранізлівай настальгіяй і шчымлівай безвыходнасцю чэхаўскіх п'ес гучыць зараз гэты ліст – ліст з апошняга лета старой Расіі.

## АКАЯННЫЯ ДНІ

Рабаванне памешчыцкіх маёнткаў падчас Кастрычніцкай рэвалюцыі, як вядома, набыло масавы характар. Здраўнёва пацярпела ў меншай ступені, чым іншыя маёнткі, але "народны гнеў" не абмінуў і яго.

Аднавіць сапраўдны ход падзей зараз цяжка, бо і ва ўспамінах сведкі – селяніна Рыгора Васілевіча Каруннага – існуе дзве версіі. Паводле першай, "в день Октябрьской революции на усадьбу И.Е.Репина в "Здравнёво" собрали крестьян д.Тяково и Лущихи и решили: всё, что принадлежит Репину не трогать, в доме Репина организовать школу, а арендатору предложили уехать и забрать своё личное имущество. Дом закрыли, а ключи на сохранение отдали крестьянину из дер.Тяково Корунному Василию. На второй день из волости приехали и ключ у Корунного забрали. Хотя в эти дни автору этих строк было 9 лет, хорошо помню и был сам очевидцем, как накладывали возы и увозили из дома Репина мебель и разное имущество сынки знатных отцов волости. Даже внутренние замки из шкафов и буфетов, и камодов повынули. Ясно одно, что тем волостным служителям не интересно было сохранить имущество Репина для народа, а растаскать."

Паводле другога запісу, усё адбывалася так: "В день революции нам в деревню сообщили, что революция. И все срочно пошли в имение "Койтово" для разбора и раздела. Стихийно народ из наших деревень пошел в имение "Койтово". В том числе и я, одел старые отцовские сапоги, солдатскую стёганку, солдатскую шапку и тоже устремился в имение "Койтово". Когда мы пришли к имению "Койтово", то там около помещичьего дома был настоящий базар: <тянули> кто стол, кто стулья, кто шкаф и всякую помещичью утварь. Помещика не было. Он в имении бывал только летом. Урядник, который нёс службу в имении "Койтово", ночью удрал, а приказчик имения сам тянул себе домой, что мог из имения помещика <...> После имения "Койтово", идя домой, крестьяне д.Тяково и Лущиха решили зайти в Здравнёво и посмотреть, в каком состоянии и сохранности дом и имущество И.Е.Репина. Крестьяне потребовали, чтобы арендатор Тимофей Бадейко дал им ключ и посмотрел, в каком состоянии имущество и вещи внутри дома. Арендатор подчинился, ключ выдал, крестьяне осмотрели, что было в доме. Мебель была местного изготовления, часть плетеная, летнего типа, серванты с посудою, одно большое зеркало и фортепьяно. Никто, ничего из имущества в доме Репина не взял. Так и решили ничего не трогать, сохранить, а в доме организовать школу. Так как бывшая школа в 3-х километрах в Кр<асном> Дворе в 1916 году сгорела и дети нигде не учатся. Ключ от дома Репина отдали на сохранение моему отцу Корунному В.А. Однако вечером к нам прибежал арендатор Бадейко с требованием отдать ему ключ, что приехали с Верховской волости и требуют ключ. Отец отвечал, что народ дал ему ключ на хранение и без ведома народа он ключ не отдаст. Как выяснилось, никто из волости не приезжал и ключа не требовал, и ключ от дачи Репина хранился до весны 1918 г. и потом был передан Верховскому волисполкому." (78)

Т.І.Рэпіна-Язева з дачкой Тасяй. Фота каля 1910 г.



Яшчэ адну версію развіцця падзей паведаміла Т.І.Рэпінай-Язевай А.І.Дзяканава. Па яе словах, натоўп марадзёраў разбіў шыбы рэпінскага дома і гіпсавыя скульптуры ў майстэрні, пабраў увесь посуд. Але падаспелыя цякаўцы спынілі марадзёраў, вярнулі маёмасць і зачынілі дом, а ключ аддалі арандатару, які і перадаў яго А.І.Дзяканавай (79).



М.Г.Язеў і Т.І.Рэпіна-Язева. Фота пачатку 1900-х гадоў.

Так ці інакш, але калі Т.І.Рэпіна-Язева са сваёй дачкой у ліпені 1918 года, ратуючыся ад голаду, пераехала з Петраграда ў Здраўнёва, ёй было месца для прытулку. 22 кастрычніка 1918 г. Т.І.Рэпіна-Язева піша з Петраграда ў "Пенаты": "Дорогие папа, Надя, к<а>к давно я вас не видела, к<а>к хотелось бы хоть на один день попасть к вам, всех повидать и Юрочку...

Но хлопотать о пропуске очень долгая история, я могла приехать только на несколько дней, чтобы довезти вам хлеба (10 пуд. муки) и взять свои шубы. Зимовать буду с Тасей в Здравнёве и надо спешить туда, чтобы устроить запасы провизии на зиму иначе могу пропустить время и тогда останусь ни с чем. Тася осталась там пока у Анны Ив<ановны>, а когда я вернусь водворимся в Здравнёвск<ом> доме. Часть его я отдала под школу, т<а>к спокойнее будет жить и отапливаться будет для школы и не т<а>к одиноко и жутко. Хочу сама принять участие поставить рисование и письмо: зимой всё равно я свободна, а с весны опять (если не будет перемен) начну полевые работы. Меня причислили в качестве батрака и вместе с семьёй Анны Ив<ановны> мы обработали и засеяли под озимые 14 пуд. ржи. Сжали же 52 пуда. Из них наделили меня, Тасю и дали на засев, а остальные по твёрдой цене (22р.80к.) раздали малоземельным. Помещиков там не осталось ни одного хозяина; хотели и меня, к<а>к бывшую владелицу удалить, но волостной крестьянский комитет вступился за меня: "Это, – говорят, – не помещица, а дочь Репина. Репин никогда помещиком не был и с доходов земли не жил, а, наоборот, сам много приносил, с него и мы разжились, а сейчас они голодают, и она приехала сюда сама работать." Т<а>к меня и не тронули. Тяковцы всё лето прямо трогательно относились ко мне; то один, то другой тащут булку хлеба или четверть молока, а то и прямо поджаренную "яешню" на сале, даже сахару дарили, и всё даром, ни за что копейки не брали; обижались если к кому в гости не успевала зайти: "Як же-ж это мы сыты, а вы не? Дужу Таньку жалко, похудала." В Новгороде же с провизией было под конец тоже что и в Петрогр<аде> – ничего нет, ели жмыху. И я решила отзимовать с Тасей в Здравн<ёве>. Конечно, всё же ни за что поручиться нельзя. Может быть вдруг свыше придёт распоряжение и надо будет выезжать. Да и тяковцы, бог их знает надолго ли их расположение??... Но пока что, было очень хорошо. Все работы мы сделали сами. В 5 ч<асов> встанешь и в поле, в 7 – я домой затоплю печь, поставлю обед и в 8 снедаем, потом опять работы, в час обедали и до вечера, до сумерек опять в поле. Керосину не было и ужинали при костерке. Физически здорово уставала, руки т<а>к ломило и пальцы т<а>к одеревеньвали, что иголки не чувствовала в руках, видишь её, а не осязаешь. Но зато в душе была такая отрада и воля, что всё это нипочём. Радостно, что всё дело-то с природой: землёй так хорошо пахнет!.. Вот если бы Надечку туда!! Она и мне помогла бы и сама была бы довольна. Я поеду поживу и если моё положение там устроится, обязательно буду просить тебя, папа, выпустить Надю ко мне. Денег там расходится очень мало, только на мыло, да на такие потребности, бумага. Хотя этот год у меня ничего кроме хлеба нет, но тяковцы обещали дать овса и ячменя. Я и съезжу теперь, чтобы сделать этот запас, пока у них не отобрали. А с весны засеем огород и картофель. Корову мне обещала поставить на зиму Анна Ив<ановна> (у них две). А после надо будет свою заводить, но это очень дорого. Сейчас корова стоит 2, 3 тысячи... Да и пока что рисковано покупать. Истратить мне вот много пришлось на поездку сюда и перевозку хлеба. Вышло 700 р. Главное же, трудно было выхлопотать все разрешения. Отсюда мне прислали бумаги туда с твоей заметкой. Но это от Северной коммуны, а там Западная ком<муна> и на основании этих бумаг, я хлопотала там в Витебске; опять рассмотрели и хором при мне сказали: "Репина надо уважить", – другим же всем отказ, потому что Витебская губерния вообще сама себя не прокармливает. Председ<атель> сейчас же подписал: "Отпустить". Тогда, в волости, потом на право провоза и везде к<ак> скажешь: "Мука" – все в ужасе и что невозможно, но к<а>к скажешь, что для Репина, т<а>к все двери открыты. Вот к<а>к чтут твоё имя! Здесь на вокзале долго не выдавали, масса

формальностей, от каждого учреждения надо было представить бумагу и вот недели полторы пришлось мне проболтаться то туда, то сюда пока собрали все документы. Тогда выдали мне ящик мой. На Троицком мосту, постовой милиционер увидал ящик и опять: "Стой! Что везёшь?" – "Мука." – "Верни!" Опять достаю все бумаги и тогда еду дальше. Теперь мука здесь, часть Вера возьмет для себя, а отправку к Вам я уже поручаю ей, потому что боюсь дальше здесь оставаться. Пожалуй, эти хлопоты труднее самой жатвы. Везде очереди и "приходите завтра" и к<а>к скажешь: "Мука, 10 пуд<ов>",– т<а>к в ответ: "Ну и не фунта не получите", – но когда посмотрят бумаги, т<а>к сейчас же: "Ах для худ<ожника> Репина? – и идет дело дальше. А здесь какой голод, ничего нет, а что есть, то цены!!.. Придётся Тасе пропустить эту зиму. Хотя она в 7-й класс и должна была уже кончать, но ничего одним годом позже, зато будем спокойны и сыты. О вас мне рассказала Вера. Очень, очень хотела бы я попасть хоть на один денек повидаться с вами со всеми, но что делать? Не могу. Крепко целую вас всех. Всего, всего хорошего. Таня." (80)

Не ведала тады Таццяна Рэпіна, што шлях да бацькоўскіх "Пенатаў" будзе доўгім і поўным выпрабаванняў.

## "В НАШЕМ ДОМЕ ШКОЛА..."

"В Здравнёве в нашем доме школа, и дочь Татьяна Язева и внучка Татьяна Дьяконова – учительницы, а муж внучки Дьяконов – учителем," – так Ілля Рэпін апісвае становішча сваіх родных у Беларусі ў лісце да ўкраінскага гісторыка Д.І. Яварніцкага 7 красавіка 1928 года (81).

"Крайняя неабходнасць" адкрыцця школы ў Здраўнёве была выяўлена на пасяджэнні Вярхоўскага валаснога савета па народнай адукацыі 24 чэрвеня 1918 года (82). 4-м жніўня датавана заява жыхароў вёсак Цякава, Аўсюкова і Лушчыха ў валана аб адкрыцці школы ў рэпінскім маёнтку. Але, як уваходзячы, гэты дакумент датаваны толькі 30-м жніўня (83). Тады ж адбылася сходка сялян, пратакол якой паведамляе: "Мы, нижеподписавшиеся, граждане жители им.Койтово, Здравнёво, д.д.Лущихи, Тяково и Авсюково, собравшись на общей сходке, имели суждение о том, что в нашей местности не имеется поблизости начальной школы. Число же детей школьного возраста значительно (до 50 человек). Школы же ближайшие стоят на расстоянии пяти и более вёрст, так что в зимнюю пору посылать детей в школу на таком расстоянии крайне неудобно, а иногда, во время метелей и сильных морозов, и совсем невозможно, что нас крайне удручает и мы продолжаем оставаться во тьме, желание же учить детей у нас крайне велико, а потому мы, обсудив всё вышеизложенное и выслушав доклад члена волостного совета по народному образованию тов. Лемеша о том, что в районе Верховской волости с 1 сентября с/г предполагается открыть новую школу, а потому мы, единогласно, постановили: просить волостной совет по народному образованию о том, чтобы предполагающаяся к открытию новая школа была открыта непременно в нашем районе, а именно в ф.Здравнёво, где имеется вполне подходящее под школу помещение, которое мы обязуемся своими силами отремонтировать что потребуется, заготовить или доставить откуда потребуется парты, доставить или заготовить дрова, а также принимаем на себя мойку полов.

Ещё ходатайствуем, чтобы в это училище был переведен учителем Иван Дмитриевич Дьяконов, состоящий ныне в краснодворском училище, как человек нам известный, местный и добросовестный, которому мы смело, без колебаний, доверяем воспитание наших детей." (84)

Гэтым жа 30-м жніўня датавана заява самой Т.І.Рэпінай-Язевай: "Заявляю, что я представляю помещение под начальную школу в ф.Здравнёво бесплатно и претензий к занятию этого помещения на 1918/19 учебный год иметь не буду." (85) Безумоўна, энтузіязм сялян і ўладальніцы дома спрыяў прыняццю валана 3 верасня 1918 г. пастановы аб задавальненні хадайніцтва. Школьныя классы размясціліся ў двух пакоях галоўнага сядзібнага дома і флігелі.

1-га верасня Іван Дзяканаў пачаў заняткі. Сярод настаўнікаў, якія кароткі час працавалі ў Здраўнёўскай школе, вядомы Наталля Стэфанаўна Бычонак (15 студзеня – 1 верасня 1919 г.), Лявонцій Уладзіміравіч Слупскі (1 верасня – снежань 1920 г.) і Іосіф Максімавіч Касарэнка (1 кастрычніка 1919 г. – пачатак 1920-х гг.(?)), які некаторы час таксама займаў пасаду старшыні Вярхоўскага валана (86).

У звестках пра дату паступлення на пасаду настаўніцы Т.І.Рэпінай-Язевай ёсць разыходжанні. Так, у яе асабістай картцы (1921 г.) пададзена 1 студзеня 1919 г. (87). Аднак, большага даверу, відаць, заслугоўвае копія ліста Віцебскага павятовага аддзела народнай адукацыі ад 25 студзеня 1919 г. з паведамленнем аб прызначэнні Таццяны Іллінічны з 1 лютага трэцім штатным настаўнікам у Вярхоўскую школу з выкладаннем малявання як у Вярхоўскай, так і ў Здраўнёўскай і Глодніцкай школах (88). 1 верасня 1919 года, пасля пераводу Н.Бычонак у Мікалаеўскую школу, Т.І.Рэпіна-Язева

стала штатным настаўнікам школы ў Здраўнёве (89). Пра расклад яе ўрокаў дае звесткі асабістая картка: у 1 групе – усе прадметы, у 2, 3, 4 – маляванне, у 4 – нямецкая мова.

Цікава, што падчас выкладчыцкай працы, у чэрвені 1921 г., Т.Рэпіна-Язева спецыяльна была камандзіравана ў Петраград, каб прывезці каля трохсот адзінак належаўшых ёй кніг, якія былі перададзены ў Вярхоўскую бібліятэку (90). Аднак 12 жніўня 1922 года Таццяна Іллінічна была звольнена па невядомых прычынах (91).

На 1919-20 навучальны год у Здраўнёўскай школе ўзнікла неабходнасць адкрыцця трэцяга камплекта. Скарыстаўшы гэтыя абставіны, Таццяна Мікалаеўна Язева падала заяву аб дазволе заняць месца настаўніцы. У сваю чаргу, валана хадайнічаў за яе перад павятовым аддзелам і асабліва падкрэслівалася: "Она (Т.М.Язева – *В.Ш.*) является желательной учительницей не только для волостного отдела, но и для населения данного района, как проявившая много знания и любви к делу, помогая в прошлом учебном году учащим данной школы." (92) У фондзе Віггубана (ДАВВ) захавалася асабістая справа Т.М.Язевай (1922 г.). У ёй усяго два дакументы: копія пасведчання аб заканчэнні 6 класаў гімназіі і асабістая картка. У справе І.Д.Дзяканава (1923 г.) – копія пасведчання аб заканчэнні Віцебскай духоўнай семінарыі (1918 г.), выпіска з метрычнай кнігі аб нараджэнні (1908 г.), асабістая картка (1921 г.), анкета-фармуляр (1923 г.) (93).

З 1922 па 1925 год Таццяна Мікалаеўна і Іван Дзяканаў выкладалі ў Здраўнёўскай школе ўдваіх. Але вясной 1925 г. Тасю чакалі непрыемнасці – у валана данеслі, што настаўніца была на споведзі ў царкве. Пра разбіральніцтва па справе Т.І.Рэпіна-Язева паведамляе ў "Пенаты": "Прежде всего они были поражены её признанием, что она (Т.М.Язева – *В.Ш.*) действительно верит и была в церкви, а затем согласились на то, чтобы она верила к<а>к угодно, но не исполняла бы обрядов, говоря, что у них имеется донос нашего латыша за подписью шести тяковцев и что она безрезультатно будет молиться богу, а они вольны придать значение этому доносу или нет. Но она сказала, что она знает, что её могут сократить и на это идёт. Они обещали ей прислать литературы с теорией Дарвина, надеясь, что она образумится, на что она сказала: "Пожалуйста," – но, что ей вера дорога не по догматам, но по чувству. На этом пока кончили. Видно им не хочется её сокращать, но служащие теперь не имеют права посещать церковь." (94)

Пасля гэтага справа Таццяны Мікалаеўны разглядалася 22 чэрвеня на пасяджэнні Камісіі па ўкамплектаванні школ Кузняцоўскага раёна, якая вырашыла наступнае: "Сократить тов. Язеву Татьяну по должности учительницы Здравнёвской школы с 1 октября с.г., вследствие сокращения комплекта в школе. Ввиду того, что тов. Язева выполняет все христианские обряды, воздержаться от назначения Язевой Татьяны в другую школу в качестве учительницы и предложить ей место технического работника в учреждениях Наробраза не исключая из Союза Рабпрос." (95)

Т.М.Язева. Фота 1921 г.(?). Захоўваецца ў фондах ДАВВ.



Зноў пытанне было ўзнята 6 жніўня на бюро Кузняцоўскага райкама КПБ. Яго пастанова была наступнай: "Ввиду того, что школьная работница т.Язева фанатично религиозно настроена, что отрицательным образом действует на деревенскую молодёжь, просить через Окружком КПБ – комфракцию Рабпрос о снятии Язевой со школьной работы." (96) Нягледзячы на гэта, Таццяна Мікалаеўна ўсё ж атрымала пасаду справавода ў Храпавіцкай школе, але 1 кастрычніка 1925 г. звольнілася, як адзначана ў загадзе, па ўласным жаданні (97).

Такім чынам, Іван Дзяканаў застаўся адзіным настаўнікам і адначасова загадчыкам Здраўнёўскай школы (98).

У ДАВВ выяўлена значная колькасць дакументаў, якія звязаны з вырашэннем гаспадарчых пытанняў па Здраўнёўскай школе. Гэта перапіска аб забеспячэнні школы абсталяваннем, падручнікамі, дровамі, размеркаваннем адзення, цукерак паміж вучнямі,

матэрыяльным становішчы настаўнікаў. Асабліва кранаючы дакумент – раздатачная ведамасць на аддзенне і абутак з яшчэ няўпэўненымі дзіцячымі подпісамі (99).

Захаваліся дзве справы, якія цалкам прысвечаны Здраўнёўскай школе (100). Яны цікавыя тым, што ў іх знаходзяцца вопісы маёмасці, якія дазваляюць уявіць сціплае абсталяванне школы: 14 партаў, 1 школьная дошка, 10 чарніліц, 2 вядры, кубкі для вады і школьная пячатка. Багацей выглядаюць спісы падручнікаў і наглядных дапаможнікаў. У іх – табліцы па прыродазнаўству, батаніцы, біялогіі, карты Расіі, паўшар'еў, Віцебскай губерні, глобус і як абавязковыя атрыбуты – партрэты Леніна, Рыкава, Луначарскага, Троцкага, Зіноўева. Пасля таго, як у сакавіку 1924 года частка Віцебскай губерні ўвайшла ў склад БССР і пачалася палітыка беларусізацыі, выкладанне ў Здраўнёўскай школе стала весціся на беларускай мове. У спісах маёмасці з'явіліся партрэты Чарвякова, Ігнатоўскага, Адамовіча, беларускія падручнікі, сярод якіх легендарныя "Пачатковая граматыка" Я.Лёсіка, "Лемантар" С.Некрашэвіча, "Кароткі нарыс геаграфіі Беларусі" А.Смоліча, "Беларуская граматыка" Б.Тарашкевіча, "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" І.Ігнатоўскага.

У сярэдзіне 1920-х гадоў рэпінскі дом стаў амаль непрыгодны для пражывання, і для школы быў пабудаваны новы будынак, у якім заняткі працягваліся да нападу Германіі на СССР.

## ЗАЛОЖНІКІ

У 1925 годзе паэт Іван Савін (сапраўднае прозвішча Савалайнен, 1899-1927) даслаў Рэпіну ў "Пенаты" рукапіс "Чёрной книги", у якой былі сабраны матэрыялы пра ганенні на рэлігію і святароў у Савецкай Расіі. Мастак вельмі высока ацаніў рукапіс, але адмовіўся ад актыўнага ўдзелу ў выданні. І на тое былі падставы: "Относительно моих проклятий большевикам, – піша Рэпін, – я просил бы их выпустить – и "погромче нас были витии", не стоит... У меня там в Совдепии есть заложники: дочь и внучка (учительницы), у внучки уже трое правнуков моих. Полуограбленные они обречены на переселение. И вот, обиженные власти погонят их зимою, куда-нибудь в Сибирь... Кто же их нраву может перечить?!.." (101)

Сапраўды, блізкія мастака, па класіфікацыі бальшавіцкіх уладаў, траплялі ў разрад "класава чужых элементаў" , што ставіла іх у поўную залежнасць ад літасці вярхоў. Таму і "мімавольны эмігрант" Рэпін пры ўсёй варожасці да бальшавікоў кожны раз павінен быў апеляваць да іх, каб неяк палепшыць становішча "роднай яму сям'і".

Між тым, атмасфера ў "новай вёсцы" адзначалася вялікай сацыяльнай напружанасцю, чаму спрыялі як ідэалагічныя ўстаноўкі і сацыяльна-эканамічныя эксперыменты ўладаў, так і зямельны голад, не пераадолены паслякастрычніцкім землеўпарадкаваннем. Здраўнёва на доўгі час стала арэнай сутычак супрацьлеглых інтарэсаў розных сем'яў, для кожнай з якіх зямля была найважнейшым сродкам існавання.

Яшчэ да пачатку Першай сусветнай вайны ў Здраўнёве на правах батракоў пасялілася сям'я Антона і Ганны (у дзявоцтве – Крамін) Капытовых з 6 чалавек: дзеці – Аляксандр, Мікалай, Ліда, маці Антона – Ірына (102).

У ліпені 1918 года Вярхоўскі валасны зямельны аддзел адвёў надзел зямлі ў маёнтку Антону Капытову і Аляксандру Дзяканаву. Аднак пасля звароту Т.І.Рэпінай-Язевай сям'я А.Дзяканава вымушана была перасяліцца ў Слабаду (103). У тым жа годзе каля 5 дзесяцінаў пашы і 3 дзесяціны сенакосу было перададзена сялянам вёскі Цякава Яфіму Зайцаву і Сцяфану Крывенку (104).

У 1919 годзе з'явіліся новыя прэтэндэнты на зямлю. У сям'і Ганны Капытовай (муж якой быў прызваны ў Чырвоную Армію, а ў 1920 г. памёр ад ранаў) знайшоў прытулак латыш Аўгуст Кляво (105). 14 чэрвеня 1919 г. атрымала надзел ў Здраўнёве і пасялілася ў кухні рэпінскага дома сям'я Івана Цвяткова з 6 душаў (106). Ужо 21 верасня савет Здраўнёўскай школы вымушаны быў прасіць валана хадайнічаць аб высяленні І.Цвяткова з дому, паколькі было патрэбна памяшканне для вучнёўскай чайной і школьнай прыслугі (107).

Але гэта быў толькі пачатак зацяглага канфлікту. У красавіку 1920 года Вярхоўскім валземаддзелам была ўзнята справа 6 цякаўскіх сялянаў, якія хадайнічалі аб надзеле іх зямлёй са здраўнёўскага фонду і высяленні І.Цвяткова і Г.Капытовай з маёнтка. Савет Здраўнёўскай школы патрабаваў высялення Капытовых, паколькі было неабходна пашырэнне школы ("классы переполнены учащимися") (108). У выніку каля 3 дзесяцінаў з садам былі выдзелены школе; 3,75 дзесяцінаў атрымала Т.І.Рэпіна-Язева; каля 4 дзесяцінаў адыйшло Капытовай і Цвяткову; каля 4,75 – іншым сялянам.

Вясной 1921 г. канфлікт перайшоў ў другую фазу. Адной з прычын гэтага было змяненне сямейнага становішча некаторых жыхароў Здраўнёва.

У другой палове 1920 г. Аўгуст Кляво ажаніўся з Ганнай Капытовай і да 1924 г. іх сям'я павялічылася



Групавы здымак у Здраўнёве. Сідзяць (злева направа): дырэктар Віцебскага музея Я.І.Васілевіч (?), Кірыл Дзяканаў, Т.І.Рэпіна-Язева, Галіна і Валянцін Дзяканавы. Стаяць (злева направа): І.Д.Дзяканаў, Т.М.Язева-Дзяканава з сынам Раманам на руках. Фота 1929 г.

яшчэ на двух "едакоў" – сына Вікарда і дачку Розу. 10 студзеня 1921 г. адбылося вяселле Івана Дзяканава і Тасі Язевай (109) і неўзабаве з'явіліся на свет праўнукі Рэпіна: у 1922 г. – Валянцін, 1923 г. – Кірыл, 1925 г. – Галіна, 1928 г. – Раман (110).

Пачатак новаму перадзелу дала заява І.Дзяканава ад 2 красавіка 1921 г., у якой ён спрабаваў рэалізаваць свае права на зямлю, як член сям'і Т.І.Рэпінай-Язевай, і прасіў валземаддзел прырэзаць яму паўдзесяціны зямлі ад надзела І.Цвяткова на падставе таго, што той "имеет в дер. Маслёхах собственную землю, которую тоже пашет и является зажиточным крестьянином (имеет лошадь, одного жеребёнка годовика, 2 коровы, 10 овец, 2 свиней), при этом живя в Здравнёве он ничего не поддерживает, а наоборот разрушает постройки и из этого видно, что этот кусок земли является для него не главным для жизни, а побочным, к тому же, не только в свободное от работ время, но и в рабочее, мало сам бывает в Здравнёве, большую почти часть находится в д.Маслёхах, здесь же за недосмотром всё лето его скот производит потравы." (111) Супраць Цвяткова адзіным фронтам выступаюць Аўгуст Кляво і 13 цякаўскіх сялянаў. Але Цвяткоў не здаваўся і падаваў скаргі ў шматлікія інстанцыі рознага ўзроўню зноў і зноў, спрабуючы адстаяць свой надзел. У заяве камандзіру 6 заградатрада ён нават даказвае "класавую прыроду" пакутаў: "Теперь я не знаю, что мне делать, обращался куда только можно было, но ничего не выходит. Это я объясняю тем, что председатель земотдела Ласкин, он кулак имеет 40 десятин земли и благодаря это<му> нам бедным нельзя ничего сказать, кулаки нас давят." (112)

Камандзір заградатрада адаслаў скаргу ў Вітгубземаддзел, які перадаў яе ў павятовы земаддзел. Туды ж 12 ліпеня 1921 г. Цвяткоў падае новую скаргу з новымі абвінавачваннямі: "Отведенная земля в количестве 3-х дес. под школу, так же не обрабатывается самими школьными работниками и владельцами им. Здравнёво, а отдаётся в пользование посторонним лицам <...> Весь хлеб и солома увозится, и земля не удобряется <...> Граждане д.Тяково все имеют землю, которая у многих пустует, заросла кустами, которую легче разработать и этим принести не малую пользу себе и государству." (113)

У сваё апраўданне жыхары Здраўнёва і Цякава дасылаюць у павятовы земаддзел сваю петыцыю: "В Здравнёве пахотной земли около 12 десятин, а всего удобной и неудобной 27 десятин. Часть этой земли в количестве 2,5 дес. отведены под школу и она обрабатывается беднейшими родителями учащихся и таким образом это является поддержкой слабых и беднейших учеников. Другая часть земли в количестве 4 дес. земли отведены на семью Т.Репиной-Язевой как владелицы фольв.Здравнёво и обрабатывается собственным трудом. Остальная же пахотная земля в количестве 5-6 десятин распределена между малоземельными гр. дер. Тяково и батраком А.Кляво <...> Цветков яровых хлебов в Здравнёве не пахал и просим во избежание дальнейших потрав Цветковым лугов, которые кормят наш скот, возможно скорее рассмотреть дело и выселить его из фольв. Здравнёво." (114)

14 ліпеня 1921 г. Калегія павятовага земаддзела пастанавіла выселіць Цвяткова ў маёнтак Руба. Гэтая пастанова была пацверджана на пасяджэннях Калегіі Вітгубземаддзела 12 лістапада 1921 г. і Асобай камісіі па разгляду спрэчных зямельных спраў 3 лютага 1922 г. (115). Але І.Цвяткоў не спяшаўся з выездам са Здраўнёва. 9 студзеня 1922 года Т.І.Рэпіна-Язева зноў скардзіцца ў валземаддзел: "Цветков постановления этого не исполняет и до настоящего времени продолжает жить в ф.Здравнёво <...> Дом, где живёт Цветков, пришёл в полное разрушение и угрожает пожаром для всех построек, так как Цветков их не ремонтирует, а наоборот разрушает. Устройство Цветковым в доме, где он живёт банной печи, который пришёл в полную ветхость, например, вогнулись стены и обвис потолок, угрожает каждый день пожаром, который уничтожит все постройки, так как дом этот

с ними под одной крышей. На основании вышеизложенного, дальнейшее пребывание Цветкова в Здравнёве недопустимо, а потому прошу принять меры к скорейшему его выселению." Толькі пасля пастановы валземаддзела ад 10 красавіка 1922 г. Цвяткоў пакінуў Здраўнёва і пераехаў у маёнтак Руба, дзе меў надзел ягоны сваяк (116). Але і ў Рубе Цвяткоў не быў жаданым, і пачалося новае разбіральніцтва з новымі суседзямі (117).

У ліпені 1921 г. на два тыдні з Петраграда ў Здраўнёва прыехала Вера Рэпіна. У лісце да бацькі яна піша: "Прямо не верится, точно сон. Ехать было ужасно – как сельди в бочке, – но в Витебске на базаре нашла попутчика и вечером на <одно слово неразб.> доехала в Здравнёво: Таня, Тасенька и Ваня хозяйничают здесь! Таня шьёт сама и ещё одна сапожница помогает. Тасенька всё такая же худенькая – Ваня их единственный мужчина-помощник. Есть корова, лошадь и овечки – опять Здравнёво и лес – очертания, сад фруктовый, ск<олько> яблок и груш! – как приятно хоть немного побыть на траве и подышать свежим воздухом: огород надо полоть!

Танечка собирается писать тебе – лелеет эту мечту – подробно, всё, что завещанием твоим они так тронуты – но завещания теперь не имеют значения, а надо писать так, что: "Прошу Здравнёво оставить неприкосновенным, сохраняя и неразрушая его, как оно было – моего имени – охранителями же назначаю по своему желанию дочь Татьяну, внучку Татьяну и её мужа Ивана Дмитр.Дьяконова и заверить свою руку у ленсмана (118) и прислать сюда. Все крестьяне, волость и город Витебск помнят, вспоминают тебя за прошлое и всё сделают по желанию твоему." (119)

Як сведчыць ліст, цяжкі стан родных турбаваў Рэпіна, але невядома, ці мелі месца звароты мастака да ўладаў на працягу 1921-1922 гадоў, як гэта адбывалася пазней. Між тым, клопаты аб паляпшэнні ўмоў жыцця сям'і Т.І.Рэпінай-Язевай суправаджаліся довадамі аб неабходнасці аховы і захавання маёнтка і ягоных пабудоў – гэта былі першыя крокі да музеяфікацыі Здраўнёва.

Таццяна Рэпіна спрабуе дзейнічаць самастойна і падае прашэнне ў валземаддзел, які 7 снежня 1922 г. хадайнічае за яе перад павятовым земупраўленнем: "Вести правильное хозяйство дочь Репина не может, ввиду ограниченного количества земли, состоящей в ее использовании, а равно извлекать средства на производство необходимого ремонта <...> Ввиду ограниченного количества земли, с целью создать культурное хозяйство и тем поддержать культурную, красивую усадьбу, волзу считает необходимым им.Здравнёво оставить в пользовании дочери художника Репина – Татьяны Репиной с её семьёй." (120)

15 і 20 лютага 1923 года аддзел па справах музеяў і ахове помнікаў мастацтва, даўніны і прыроды Наркамасветы РСФСР дасылае спачатку ў Віцебскі губвыканкам (121), а потым і ў Віцебскі губкамунаддзел адносіну аб ахове Здраўнёва з просьбай "охранить как дом, так и художественное собрание в нём находящиеся (так у тэксце – *В.Ш.)*, предметы которого не могут быть не перемещены, не изъяты без ведома и особого на то разрешения отдела по делам музеев." (122)

4 траўня ў аддзел па справах музеяў паступае ліст самога Рэпіна, у якім мастак нешматслоўна апісвае становішча сваіх родных у Здраўнёве і звяртаецца па дапамогу: "Прошу отдел музеев, не найдёт ли он возможным охранять, под непосредственным ведением моей дочери Татьяны Ильиничны Репиной-Язевой, содействуя ей необходимым ремонтом, – дома-школы, а также найти возможным прибавить им земли." Прымаючы меры, музейны аддзел 5 чэрвеня зноў турбуе Віцебскі губвыканкам (123). Хвалі здраўнёўскай справы на працягу некалькіх год разыходзяцца па шматлікіх установах (124).

25 жніўня 1923 г. ў Маскве атрымалі адказ упаўнаважанага па справах музеяў Віцебскай губерні, у якім адзначалася: "Дом и все надворные постройки фольварка "Здравнёво" требуют капитального ремонта, на что проживающая там Т.И.Репина средств не имеет и ремонт не производится. В начале революции дом подвергался ограблению, но в настоящее время, восстановились хорошие отношения Т.И.Репиной-Язевой с местными жителями и нельзя ожидать в дальнейшем ограблений или каких-либо эксцессов.

Местное население видит в семье Т.И.Репиной народников по духу. Получает советы в области гигиены и сельского хозяйства, так что принятия особых мер к охране усадьбы не требуется, тем не менее о важности усадьбы и значении имеющихся там художественных ценностей – сообщено Верховскому исполкому и Витгубкоммунотделу, какими сделаны соответствующие распоряжения об охране усадьбы и её содержимого, и кроме того "Здравнёво" будет находиться на учёте и под наблюдением Вит.Губмузея." (125)

На новы запыт аддзела па справах музеяў пра стан сядзібаў Віцебскай губерні ад 11 кастрычніка 1923 г. быў дадзены адказ, які сведчыць пра змяншэнне ўвагі да Здраўнёва: "Приняты меры охраны на основании отношения Отдела. Витгубоно, за неимением средств и сотрудников не могло на месте составить опись

художественных предметов и принять научных мер охраны." (126)

Пытанне аб павелічэнні зямельнага надзелу сям'і Т.І.Рэпінай-Язевай таксама вырашалася вельмі складана і выклікала канфлікт з суседам А.Кляво.

У барацьбе за зямлю зацікаўленыя бакі звяртаюцца ў інстанцыі featureрознага ўзроўню: Т.І.Рэпіна-Язева – у Віцебскае павятовае земупраўленне, А.Кляво – у Храпавіцкія валасныя земаддзел і земкамісію. З-за гэтага вясной 1923 года пачынаюцца два паралельныя працэсы.

Па заяве Кляво, 17 ліпеня адбылося судовае пасяджэнне валземкамісіі, якая знайшла справу "няяснай" і адклала "для правядзення мясцовага абследавання" (127). Таццяне Іллінічне пашчасціла болей. Яе справа слухалася на адкрытым судовым пасяджэнні камісіі павятовага земупраўлення 2 жніўня 1923 г. "Апелятарша Рэпіна" прасіла пакінуць за ёй увесь надзел, які складаў каля 14 дзесяцінаў зямлі, паколькі "постройки приходят в разрушение и ремонтировать их не представляется возможности, ввиду того, что центр занят посторонними лицами, которые не заинтересованы в сохранении данного участка, как исторической редкости." Камісія пастанавіла правесці развярстанне зямлі на хутарскія надзелы, звёўшы землі "к одному месту с тем, чтобы из остальной земли пользования гр.Репиной и свободной ещё неиспользованной образовать вокруг усадьбы культурный центр" (128).

Гэта была перамога Рэпіных-Дзяканавых. Усе далейшыя заявы А.Кляво, цякаўскіх сялянаў Яфіма Зайцава і Сцяфана Крывенкі і разбіральніцтва па іх у траўні-чэрвені 1924 года былі дарэмнымі (129). У ліпені 1924 г. у Здраўнёве было праведзена землеўпарадкаванне, паводле праекта якога надзел Рэпіных-Дзяканавых склаў 15,45 дзесяцінаў, Аўгуста Кляво – 4,72 дзесяціны (130). Да таго ж, Кляво павінен быў у трохгадовы тэрмін выехаць з будынкаў, якія займаў у Здраўнёве. Праект быў зацверджаны 21 сакавіка 1925 г. (131).

Але ўпарты латыш усялякімі спосабамі дамагаўся рэваншу. 5 сакавіка 1925 г. Таццяна Іллінічна піша ў "Пенаты": "А ещё мы очень волнуемся в связи с новым распоряжением о выселении помещиков (бывш<их>) с участков земли, кот<орой> они пользовались. Выселяют в Архангельск<ую> губ. и в Сибирь <...> Много драм. Мы хотя к числу помещиков никогда не принадлежали, т.е. никогда не жили на доходы с имения, но стараниями латыша, что живёт во дворе, нас занесли в список и теперь надо усиленно хлопотать, чтобы не попасть по этапу. Ваня был в земельном отд<еле>. Там поразились, к<а>к могли нас записать! Советовали писать в Москву (в центр) и в Минск (наша белорусская столица). Мы составили бумаги и пошлём от себя, но было бы много надёжнее, если бы и ты, папочка, написал с своей стороны в Москву Народному Комиссару Земледелия <...> Я знаю к<а>к ты не любишь писать и неприятно тебе просить, но твоё слово может многое сделать" (132).

Знойдзеныя дакументы сведчаць, што звесткі пра былых памешчыкаў збіраліся ўладамі па загаду ад 25 лістапада 1924 г., і ў спісах, якія былі пададзены 29 студзеня 1925 г. Мікалаёўскім сельсаветам, значыцца Таццяна Рэпіна (133). Яшчэ да вядомага дэкрэта ЦВК і СНК СССР ад 25 сакавіка 1925 г. аб высяленні былых памешчыкаў, з'явілася аналагічная пастанова ЦВК і СНК БССР ад 31 студзеня 1925 г., якая ставіла мэту канчатковага выкаранення выпадкаў эксплуатацыі. Да таго ж, пад "памешчыкамі" разумеліся ўсялякія былыя буйныя землеўладальнікі і іх бліжэйшыя родзічы незалежна ад саслоўнага паходжання, якія жылі ў належаўшых ім да рэвалюцыі гаспадарках (134).

Невядомыя ўсе абставіны дзейнасці А.Кляво па "высяленню былых памешчыкаў", але захавалася ягоная заява ад 12 сакавіка пракурору Віцебскай акругі, якая вытрымана ў адпаведных танах: "Гражданке Язевой, жене бывшего офицера старой армии, на одну душу представлено 10 дес., к тому же ещё школьному работнику Диаконову на 4 души 4,5 дес., под школой 2,5 дес. тоже пользуются. Считая таковое явление в отношении земли ненормальным и несправедливым, можно сказать, привилегированным, по-видимому судя, потому что гражданка Язева является дочерью бывш<его> художника Репина. Принимая во внимание, то обстоятельство, что по праву революций, никаких привилегированных семей населения быть не должно, а должны быть лишь одне равные граждане, в силу вышеизложенного, прошу прокурора объявить по данному делу протест." (135)

Спрабуючы абараніць сваіх родных, І.Я.Рэпін звяртаецца з лістом ад 14 сакавіка 1925 г. да наркама земляробства РСФСР А.П.Смірнова. Нягледзячы на тое, што Рэпін выступаў у ролі просьбіта, ён дазволіў сабе даволі куслівы пастскрыптум: "По поводу моего 80-ти летняго юбилея (1924 г. июль) мне сделали милости – Революционное Правительство, в виде 250 руб., благодарю – лично не нуждаюсь я. Ограждение моих близких от переселения и лишения земли было-бы мне высшей наградой." (136) На лісце ёсць адзнака – "Срочно" – і апарат наркама дзейнічаў аператыўна. Быў падрыхтаваны ліст да ЦВК Беларусі з просьбай зрабіць распараджэнне аб невысяленні дачкі Рэпіна (137).

Новыя непрыемнасці чакалі Рэпіных-Дзяканавых пасля пастановы аб абрэзцы зямельных надзелаў, плошча якіх была болей гранічных нормаў. Ліст у "Пенаты" ад 9 траўня 1925 года распавядае: "Опять собрались все тяковцы и латыши, много было шуму и крика, все хотели прибавку и именно в Здравнёве, но излишек у нас был определён в размере 4 дес. И комиссия решила отдать его в одни руки хутором <...>, но мы рады были, что не латышу, кот<орый> больше всех старался о своей прибавке и хотя на этот раз не было его злорадного торжества <...> Анна (жонка А.Кляво – *В.Ш.*) вечно сидит в их крыльце, насторожив уши <...> и продолжает пускать про нас по деревне самые невероятные слухи, называя всех крестьян, кот<орые> ей не верят и защищают нас, "панскими собачками." (138) Аднак пасля заяў Т.І.Рэпінай-Язевай і І.Д.Дзяканава ў пастанове ад 9 ліпеня 1925 г. Кузняцоўская райземкамісія прызнала, што гаспадарка Рэпінай-Язевай абрэзцы не падлягае і адмяніла акт Мікалаеўскага сельсавета (139).

Пытанне аб высяленні родных Рэпіна разглядалася 31 ліпеня на пасяджэнні прэзідыума Кузняцоўскага райвыканкама. Адгукаючыся на адносіну Наркамата земляробства і хадайніцтва Т.І.Рэпінай-Язевай, прэзідыум пастанавіў: "Райисполком не возражает против оставления Репиной-Язевой в усадьбе её отца и передаче ей оставшихся построек." (140) Зварот А.Кляво да пракурора таксама не даў станоўчых для просьбіта вынікаў (141).

Праз некалькі год Т.І.Рэпіна-Язева ўзгадвае пра свайго суседа: "1-го июля кончился срок латышского житья в нашем дворе, но они, конечно, ещё сидят и выпрашивают подождать, что у них ещё не готовы постройки. Ведь 3 года прошло, к<а>к им отвели отдельный хутор на горе-то, но он всё ещё не может докончить маленькую хатёнку, потому что все деньги пропивает." (142)

Між тым, стаўленне бальшавіцкіх уладаў да Рэпіна нагадвала тактыку "бізуна і перніка": з аднаго боку ўсялякімі пасуламі мастака схілялі да вяртання на радзіму; з другога – бязлітасна секлі ў друку, нават за заступніцтва за стары правапіс. У лісце ад 6 верасня 1925 г. Таццяна Іллінічна паведамляе ў "Пенаты": "На днях в газете "Известия" была ругательная статья на папу по поводу его статьи в "Руле" за старую орфографию. И карикатура в виде его же карт<ины> "Иван Грозный". Папа вместо Грозного обнимает и поддерживает вместо царевича книгу с надписью "Старая орфография", у которой руки и ноги уже скелета. Но ведь Грозный сам убил царевича, а здесь совершенно обратно. Весьма возможно этот гнев против папы обратится и на нас, но что ж делать? Кривить душой и мы не будем." (143)

У канцы чэрвеня 1926 г. з санкцыі ўладаў "Пенаты" наведала прадстаўнічая дэлегацыя савецкіх мастакоў на чале з І.І.Бродскім. Мастакі "адкрылі вочы" Рэпіну на жыццё ў Савецкай Расіі і пераконвалі вярнуцца (144). Ілля Яфімавіч не надта паддаваўся на ўмаўленні, але, верагодна, у размовах было ўзнята пытанне і пра Здраўнёва, бо неўзабаве Рэпін звяртаецца з лістом да К.Я.Варашылава: "Высокопоставленный Товарищ Климентий Ефремович. Долго я не смел писать Вам, но необходимость заставила. Дело серьёзное.

В жизни мне везло и я никогда не просил. Мой труд меня обеспечивал: и я имел уже имение, собственную кв<артиру> в Питере и, несмотря на разраставшуюся семью, имел уже в Государств<енном> и Московско-Купеческом банках – около 200 тыс. рубл. зол. <...> Но настали времена лютые: деньги отобрали, из имения оставили только 4 десятины, в дом поселили латышей, хотя была и школа, где преподавали моя дочь и внучка <...> Искусство моё уже – никому <ненужно>.

После 81 года жиз<ни> дряхлость – ни имения, ни денег. Но у меня ещё были друзья. Стали звать меня в Питер, даже приезжали. Наконец говорили: хлопочите, вам возвратят ваше имение и деньги и кв<артиру> в Питере. Указали даже на могучего, хотя и молодого ещё деятеля. Этот всё может, да только он и может. Этот деятель Вы, Климентий Ефремович. Простите.

Престарелый художник Илья Репин. Автор "Бурлаков" и "Запорожцев".

8 верасня Варашылаў перадаў рэпінскі ліст Сталіну з наступнай запіскай: "Дорогой Коба! Посылаю тебе письмо Репина для ознакомления. Очень прошу, если это тебя не затруднит, черкнуть пару слов по этому поводу. Имея твоё мнение на этот счёт легче и скорее решить это дело в П<олит> б<юро>. Уезжаю завтра. Желаю настоящей, стальной поправки. Жму руку. Ворошилов." Наўскасяк, алоўкам была напісана рэзалюцыя: "Клим! Я думаю, что Совласть должна поддержать Репина всемерно. Привет. И.Сталин. 8/IX-26." (145)

Рэпін не вярнуўся... Між тым, ягоных родных у Здраўнёве чакалі некалькі адносна спакойных гадоў, якія прайшлі ў клопатах аб гаспадарцы, дзецях. Стары дом зрабіўся зусім непрыдатным для жыцця і, з напружаннем усіх сіл, да 1929 года ўдалося пабудаваць новы (146).

## "РЕПИН ТЕПЕРЬ НАМ..."

1929 год адзначаны абуджэннем цікавасці да Здраўнёва з боку супрацоўнікаў Віцебскага гістарычнага музея. У Т.І.Рэпінай-Язевай былі набытыя рэпінскія працы. Перад святам Кастрычніцкай рэвалюцыі планавалася адкрыць выставу, прысвечаную 85-годдзю мастака, на якой экспанаваліся б набытыя працы і працы з прыватных калекцый Віцебшчыны (147). Супрацоўнік музея М.М.Багародскі ў сваім артыкуле распавядаў пра здраўнёўскія сезоны Рэпіна, намеры зрабіць у музеі "мастацкі куток" з ягоных прац і лічыў неабходным, з павагі да мастака, унесці Здраўнёва ў план школьнага будаўніцтва (148).

Але пасля "рабкораўскага налёту" на музей, 30 лістапада ў газеце "Віцебскі пралетары" з'явіўся артыкул, які ашаламляе разбуральнай сілай барацьбітоў за "пралетарскую культуру". Кідаюцца ў вочы раздзелы вялікага артыкула: "Живопись с графским уклоном", "Безвкусица и клопиный быт", "Гнездо шовинизма и национализма", "Ни слова о классовом лице Репина"... У чым толькі не абвінавачвалі старога майстра! Узгадалі ўсё: і прапаганду лозунга "Мастацтва дзеля мастацтва", і "гадкие плевки мутной стариковской слюны "варварам-большевикам", і "старческие бессильные слёзы" ў абарону старой арфаграфіі, і адмову ад прымірэння падчас візіту ў "Пенаты" савецкіх мастакоў. Зразумела, што на "дзіцячы лепет" Багародскага аб увазе да "Здраднева" (так у артыкуле – *В.Ш.*) быў адказ: "Этого ещё недоставало!" (149). Дырэктар музея Я.І.Васілевіч і супрацоўнікі спрабавалі абараняцца ад навалы, але ўсё марна – праз нейкі час усе старыя супрацоўнікі былі звольнены.

Маятнік гульні бальшавіцкіх уладаў з Рэпіным рушыў у іншы бок. І гэта адбылося яшчэ вясной 1928 года, калі на прапановы К.Н.Злінчэнкі аб пасрэдніцтве ў перамовах з мастаком М.І.Калінін адказаў: "Репин теперь нам не нужен" (150). Сапраўды, такі рэзкі і незалежны ў думках чалавек, як Рэпін, быў непатрэбны і небяспечны для ўлады, якая зрабіла страх, хлусню і крывадушша спосабамі свайго існавання. У тым жа 1929 годзе ў эміgranцкім друку прыводзіліся антысавецкія выказванні І.Я.Рэпіна: "Людей, отрицающих главные права жизни, ставящих грабёж в принцип жизни, я не считаю за людей, достойных уважения" (Сегодня. Рига. 1930. №271. 2 октября.); "Илья Репин здесь в Куоккала называет большевиков разбойниками и убийцами и что он совершенно не собирается переехать в Советскую Россию" (Возрождение. Париж. 1929. №1521. 1 августа.); "Отвечая на приветствия он (І.Я.Рэпін – *В.Ш.*) сказал, что его глубоко возмущает последнее известие из Москвы – снос часовни Иверской Божьей Матери, и всё повторяет: "Эти негодяи будут наказаны..." (Возрождение. Париж. 1929. №1533. 13 августа).

На краіну накочваўся новы вал рэпрэсій і чыстак, які не абмінуў і Здраўнёва. На блізкіх Рэпіна зноў пайшлі даносы з абвінавачваннямі ў эксплуатацыі наёмных рабочых, недастатковай увазе да заняткаў у школе з-за занятасці гаспадаркай, адсутнасці ў школе антырэлігійнай прапаганды (151). За даносамі пачаліся праверкі. У адным з лістоў Т.І.Рэпіна-Язева перадае дыялог І.Д.Дзяканава з інспектарам: "Ваня сказал: "Вам известно, что я окончил Дух<овную> семин<арию>, а т<а>к же, что отец мой был священником. Батькам же говорил, что причастие зараза. Они же возражали, что тогда и на собраниях зараза. И просили не давать их детям читать "дужу дренных книжек, где ругают бога". Т<а>к рассуждают батьки, а старшие ученики просят Ваню устроить спектакль на 1-е мая (среду, на Страстную) и говорят: "А если не успеем выучить, то в Страстную субботу поставим". Однако в Витебске хотели закрыть собор для увеселительного учреждения, но красноармейцы и рабочие этого предложения не подписали, бабы же устроили бунт и дело пошло на рассмотрение в Москву". (152)

Восенню 1929 года, з пачаткам кампаніі па абкладанню індывідуальным падаткам заможных і сацыяльна-варожых гаспадарак, пачаліся новыя пакуты для сям'і Рэпінай-Язевай. Індывідуальнае абкладанне было цяжкім не толькі з фінансавага боку, з яго выцякала і пазбаўленне выбарчых правоў і пагроза раскулачвання і дэпартацыі. Ніякія довады Таццяны Іллінічны аб неабходнасці выкарыстання ў іх гаспадарцы наёмных рабочых і прыслугі з прычыны яе кепскага здароўя, вялікай колькасці дзяцей і недастатковага ліку працаздольных не мелі выніку. 1 кастрычніка Віцебская акруговая падатковая камісія зацвердзіла абкладанне жыхароў Здраўнёва ў індывідуальным парадку (153).

Адчуваючы пагрозу, Таццяна Іллінічна пачынае шукаць шляхі для выезду з СССР (154). З замежжа родныя таксама ўсяляк садзейнічаюць гэтым намаганням. Знаёмы Рэпіных у Рызе Георгій Гегер (155) актыўна спрабуе арганізаваць выезд Рэпіных-Дзяканавых праз Латвію і з гэтай мэтай вядзе перамовы з савецкім паўпрэдам у Рызе А.І.Свідзерскім, а той з наркамам замежных спраў М.М.Ліцвінавым (156). З Ленінграда дапамагае Алена Паўлаўна Тарханава-Антакольская (1868-1932), пляменніца вядомага скульптара (157).

На пачатку 1930 года са Здраўнёва прыйшлі вельмі трывожныя весткі. 23 лютага парыжская эміграцкая газета "Возрождение", а за ёй рыжская "Сегодня" ў артыкуле "Месть большевиков Репину" паведамілі: "По словам приехавшей из России дамы, большевики решили отомстить И.Репину, категорически отказавшемуся

вернуться в пределы СССР. По телеграмме из Витебской губернии была арестована дочь Репина, 60-летняя старуха, работавшая на крестьянском наделе, выделенном ей из конфискованных у художника земельных владений. Дочь И.Репина была отправлена в тюрьму, где и находилась в течение нескольких дней.

Когда она была освобождена, то выяснилось, что все находившиеся в её домике картины её знаменитого отца украдены, мебель поломана и даже разбита на куски печь, так что дом оказался совершенно непригоден для жилья, и престарелая женщина буквально выброшена на улицу." (158)

У поўным адчаю лісце Т.І.Рэпінай-Язевай дзеянні ўладаў выглядаюць меней вар'яцкімі, але не меней жудаснымі: "Папуля, дорогой, пишу вам из латвийского консульства, они переправят это письмо не почтой, и потому я могу написать всё открыто. Герман Андреевич Пунга – латвийский консул здесь в Витебске – сейчас так поддержал меня, обещая уведомить вас. Он знает Черткова (159) – в Москве, и был у тебя в Пенатах. Я плачу от счастья, что нашла защиту.

Папуля, Веруня, хлопочите о нашем переезде. И ничего не пишите нам по почте. За каждое глупое неосторожное слово нам грозит опасность вплоть до расстрела. Вдруг всё имущество наше описали вплоть до рубашки, даже детские одёжки. На днях будет конфискация и выселение нас. А дней 5 назад мне принесли повестку, чтобы я возила лес. Я поехала в Сельсо<вет> заявить, чтобы они взяли мою лошадь, но что сама я не в силах возить. Они спросили мою фамилию. Обыскали карманы и попросили войти в комнату, кот<орую> заперли на ключ. И там я сидела до ночи, а в это время они поехали в Здравнёво с обыском, искали серебра. Нашли 3 серебряных ложечки, взяли и ломаный брелок! Затем они уехали на нашей лошади, а Тася пешком побежала за ними с узелком еды для меня. Был трескучий мороз. Она чуть дошла. И вот тогда меня выпустили, велев расписаться, что я никуда не выеду до опроса в ГПУ. Я решилась съездить в Вит<ебск> и обратиться в Латвийское консульство (финляндск<ого> здесь нет). И вот не верю счастью человеческого общения. Хлопочите о нас всех. Ваня вычеркнут из Союза (160) и из учителей. Хотя всё население за него. Все наши мытарства за то, что мы в прошлом году держали прислугу, хотя Ваня как служащий имел право на это, но нас обложили индивидуально, и вот волчий паспорт, и кругом просто стон.

Гонение началось вдруг, никто не ожидал такого быстрого конца. Петра Семеновича Куринского (161) – расстреляли, продержав в тюрьме. Всего не опишешь. Молимся Богу о спасении. Ваша Таня." (162) Латвійскае консульства ў Віцебску на пэўны тэрмін стала сувязным звяном паміж "Пенатамі" і Здраўнёвым.

У гэты час (20 і 23 лютага 1930 г.) цынічна гучаць звароты новага кіраўніцтва віцебскага музея да раённых уладаў аб перадачы музею абразоў пэндзля Рэпіна з зачыненай Слабадской царквы, твораў мастака са Здраўнёва "ў выпадку нацыяналізацыі іх", а таксама рэпінскіх малюнкаў, якія, па чутках, меліся ў І.Касарэнкі і гаспадарка якога таксама была абкладзена індывідуальным падаткам (163).

Дом І. Я. Рэпіна ў Здраўнёве. Фота 1929 г.



Між тым, парыжская трактоўка падзеяў у Здраўнёве вельмі напалохала Г.К.Гегера, які лічыў, што гэта можа падштурхнуць улады да новых выпадаў супраць родных Рэпіна, і спрабаваў адвесці падазрэнне ў дачыненні мастака да публікацыі (164). Але, здаецца, шуміха ў заходнім друку спрыяла адваротнаму.

2 сакавіка А.П.Тарханава-Антакольская мела размову з А.В.Луначарскім, які ўзяўся "ўсё ўрэгуляваць" (165). 6 красавіка Луначарскі звяртаецца да Варашылава: "Дорогой Клементий Ефремович! Прочтите прилагаемые сведения о семье Репина. Вы принимали в нём участие. Не напишете ли Вы в През<идиум> Белор<усского> ЦИК, чтобы не расследовали дело. По-моему, совершенно лишний скандал – раскулачивать дочь Репина! <...> Я уже обращался по этому делу к Авелю Софроновичу (Енукідзе – *В.Ш.*), но не знаю как он реагировал." (166)

Таварышы Енукідзе і Варашылаў рэагавалі, і справа пайшла па інстанцыях Масквы, Мінска, Віцебска (167). Захавалася тэлефанаграма Віцебскага райвыканкама ў акрвыканкам ад 27 красавіка: "Віцебскі РВК паведамляе, што гаспадарка Рэпінай Язені (так у дакуменце – *В.Ш.*) Мікалаеўскага с/с мае зямлі 12 дзесяцін, каней 2, кароў 3, едакоў 7, працуючых 2, прамяняе сталы наёмны труд – адну пастаянную батрачку і прымяняе сэзонный труд зовыш нормы, за што абкладзена індывідуальным с/г падаткам – 159 р.75 к., які зацверджаны прэзідыумам РВК ад 4 красавіка 1930 г. Гаспадарка Рэпінай не раскулачана і сем'я не выселена".

У адказе ЦВК БССР Віцакрвыканкам паведамляе: "Абкладанне гэтай гр-кі (Т.І.Рэпінай-Язевай – *В.Ш.*) індывідуальным падаткам з'яўляецца правідловым." (168)

Але барацьба працягвалася. У вырашэнні лёсу родных Рэпіна ўдзельнічалі М.І.Калінін, А.Д.Стасава, М.М.Галадзед (169). Верагодна, пасля звароту М.І.Калініна да Віцебскага акрсавета (сакавік 1930 г.) было перагледжана пытанне адносна індывідуальнага падатку (170). 19 траўня В.І.Рэпіна піша А.П.Тарханавай-Антакольскай: "Сегодня получили письмо от Тани, что с них сняли индивидуальный налог, было собрание с/с Николаевского и все единогласно высказались за них! Вообще, мы слышали, что до осени многих оставили в покое." (171)

Пагроза дэпартацыі мінула, але атрымаць дазвол на выезд яшчэ працяглы час не ўдавалася. І.Д.Дзяканава збіраліся перавесці на новае месца працы і чакалася, што туды прыйдзецца пераехаць усяму сямейству (172).

Усё ж цуд адбыўся. Недзе ў канцы ліпеня родныя Рэпіна пакінулі Здраўнёва і 7 жніўня прыбылі ў "Пенаты". Таццяна Іллінічна піша аб гэтым: "С собой нам не позволили взять ни копейки. Багаж – также, только самое необходимое из одёжи. Но мы готовы были ехать и в одних рубашках, только бы спастись от этого ужаса смерти над головой <...> У нас от ликвидации Здравнёва (в 2 дня) было 5 1/2 тыс. руб. Мы старались накупить вещей, но купили только мехов<ые> шубы и Ване 1 костюм – больше не было ничего ни в Москве, ни в Питере, и за все переезды, оплаты паспортов и пр<очее> и пр<очее>." (173)

Радасць сустрэчы ў "Пенатах" была азмрочана цяжкім станам на вачах змарнеўшага бацькі, ягонай смерцю 29 верасня 1930 года, складанымі адносінамі паміж нашчадкамі і назіраннямі за "бязрадасна мізэрнай фізіяноміяй" рускай эміграцыі. "Оттуда, из СССР, – піша Таццяна Іллінічна ў жніўні 1931 года, – мы вырвались хотя и скелетами, но полными надежд и энергии, а здесь с булками и сахаром, но по горло в нравственных помоях мы, как-то душа захлопнулась. Какая-то духовная апатия ко всему явилась. Не радует ничто. Может выехавши из этого болота, пройдёт этот сплин. Бог знает." (174)

У канцы верасня 1931 года сям'я Рэпіных-Дзяканавых пераехала ў Францыю і там, набыўшы невялікі дамок і кавалак зямлі, у працах і турботах пачала ўладкоўвацца на новым месцы.

*P.S. Аўтар выказвае шчырую падзяку за дапамогу ў рабоце над тэмай віцебскім даследчыкам Яўгеніі Кічынай, Дзмітрыю Газіну, супрацоўнікам музея-сядзібы "Пенаты", супрацоўнікам музеяў і архіваў Віцебска, Мінска, Пецярбурга і Масквы.*

***Літаратура і крыніцы:***

1. Виктурина М.П. Неизвестное о хорошо известном // Наука в России. 1995. № 4. С. 62, 64, 66.
2. Сектар рукапісаў Дзяржаўнага Рускага музея (далей – СР ДРМ), ф.119, воп.1, адз.зах.1, арк.21 адв.
3. Александр Бенуа размышляет... М., 1968. С. 194.
4. Гл., напрыклад: Илья Ефимович Репин: К 150-летию со дня рождения. Сб. статей. СПБ.: ГРМ, 1995; Ельшевская Г.В. Илья Репин. М., 1996; Тезисы докладов и сообщений на конференции "Духовный мир России в творчестве И.Е.Репина". К 150-летию со дня рождения художника. М.: ГТГ, 1994.
5. Гл.: Москвинов В.Н. Репин в Здравнёве // Новое о Репине. Л.,1969. С. 385-392; Теркель Е.А. И.Е.Репин и Здравнёво (документы из собрания ГТГ) // Белорусско-русское культурное взаимодействие конца XIX – начала XX в.: Материалы научной конференции. Витебск, 1995. С.85-97; Семья И.Е.Репина в письмах Т.И.Репиной-Язевой: Вступительная статья и комментарии И.А.Доронченкова. Публикация И.А.Доронченкова и И.А.Савкина // Ежегодник Рукописного отдела Пушкинского дома на 1991 год. СПБ., 1994. С. 252-308; Пенаты, 1930. Письма Т.И.Репиной-Язевой. Вступ.ст. и примеч.

И.А.Дорониченкова. Публикация И.А.Доронченкова и И.А.Савкина//Наше наследие.№ 31.1994.С.49-55; Доронченков И. Преданья русского семейства...//Час пик. СПБ. 1994. № 31. 10 августа. С.15.
6. Кичина Е.М. И.Е.Репин и Здравнёво. В обретении и разлуке. Изд. <2-е>, перераб. и доп. Витебск, 1994.
7. Гл., напрыклад: Палеес С. Рэпін у Беларусі // Полымя. 1955. № 10. С. 142-151; Падліпскі А.М. Здраўнёва: тут жыў І.Я.Рэпін. Мн., 1995; Харэўскі С. І.Рэпін. Беларус // Наша ніва. 1997. 21 крас. № 15-16. С. 16.
8. Ліст І.Я.Рэпіна І.Р.Тарханаву ад 3 траўня 1892 г. (И.Е.Репин. Письма к Е.П. Тархановой-Антокольской и И.Р.Тарханову. М., 1937. С.29).
9. Репин И.Е. Письма к писателям и литературным деятелям. 1880-1929. М., 1950. С. 91.
10. И.Е.Репин и Л.Н.Толстой. Переписка с Л.Н.Толстым и его семьёй. М., 1949. Т. 1. С. 57.
11. Навукова-бібліяграфічны архіў Расійскай Акадэміі мастацтваў (далей – НБА РАМ), ф.25, воп.1, адз.зах.1549, арк.4, 5, 7-8.
12. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей – НГАБ), ф.1430, воп.1, спр.41209, арк.424-429. Апублікавана, гл.: Яцкевіч З. Матэрыялы, звязаныя з І.Я.Рэпіным у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь // Беларуска-рускае культурнае ўзаемадзеянне канца XIX – пачатку XX ст. Віцебск, 1995. С. 130-138.
13. Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці (далей – ДАВВ), ф.289, воп.1, спр. 19, арк.36 і адв. Першы друкаваны асобнік архіўнай копіі быў выдадзены 5 кастрычніка 1940 г. беларускаму мастацтвазнаўцу С.Палеесу (1898-1964), на той час супрацоўніку Дзяржаўнай карціннай галерэі БССР. Аўтар выказвае падзяку А.Трусавай за звесткі пра знаходжанне дакумента.
14. Гл. таксама: Шишанов В. Печальные юбилеи "Здравнёво" // Витебский курьер. 1998. 23 февр. С. 3; Шишанов В. Здравнёво. Исторический облик и музеефикация усадьбы// Матэрыялы II Міжнароднай канферэнцыі па праблемах музеефікацыі ўнікальных гістарычных тэрыторый. Полацк, 1996. С. 38-44.
15. СР ДРМ, ф.119, воп.1, адз.зах.1, арк.9-12 адв. У тых радках ліста, дзе гаворыцца аб змене кампазіцыі карціны з прычыны недастатковай вышыні майстэрні, верагодна, маецца на ўвазе карціна "Спакушэнне Хрыста". Гл. пра гэта: Жиркевич А.В. Встречи с Репиным // Художественное наследство. Репин. М., 1948. Т.2. С. 164. "Рувим" — магчыма, узгадваецца яўрэй Рувім Хасін, які прымаў удзел у будаўніцтве рэпінскага дома. Гл.: Кто строил усадьбу Репина// Мишпоха. 2000. №7. С.131-132.
16. Жиркевич А.В. Встречи с Репиным. С.172.
17. Там же. С.164.
18. Горка і лаўка ўзгадваюцца ў лістах унучкі І.Рэпіна Т.М.Дзяканавай (Віцебскі абласны краязнаўчы музей (далей – ВАКМ), н/в 8738, КП 18423/1, 1977 г.)
19. Ліст І.Я.Рэпіна В.І.Рэпінай ад 11 траўня 1897 г. (СР ДРМ, ф.119, воп.1, адз.зах.1, арк.14 адв.)
20. Ліст Т.І.Рэпінай-Язевай В.І.Рэпінай ад 31 сакавіка 1928 г. (НБА РАМ, ф.25, воп.2, адз.зах.803, арк.6)
21. Ліст І.Я.Рэпіна В.В.Вяроўкінай ад 4 ліпеня 1893 г. (Художественное наследство. Репин. М., 1948. Т. 2. С. 201).
22. Репин И.Е. Далёкое близкое. Изд. 5-е. М., 1960. С.415.
23. Ліст І.Я.Рэпіна В.В.Вяроўкінай ад 4 чэрвеня 1893 г. (Художественное наследство. Репин. Т. 2. С. 201).
24. Стригалёв А. Не архитекторы в архитектуре // Великая утопия. Русский и советский авангард 1915-1932. Москва – Берн, 1993. С. 266.
25. Ліст І.Я Рэпіна В.В.Вяроўкінай ад 26 чэрвеня 1894 г. (Художественное наследство. Репин. Т. 2. С. 206).
26. НБА РАМ, ф.25, воп.1, адз.зах.1664, арк.9, фота №54; арк.10, фота №62.
27. Гл.: Кичина Е.М. Указ. соч. С. 36-37.
28. Ліст Т.М.Дзяканавай Н.Д.Лахно ад 16 лютага 1977 г. (ВАКМ, н/в 5534/2); ліст І.Я.Рэпіна В.В.Вяроўкінай ад 29 жніўня 1895 г. (Художественное наследство. Репин. Т. 2. С. 206).
29. ДАВВ, ф.1231, воп.1, спр.52, арк.83 і адв. Гл. таксама: Шишанов В. Там пела птица Сирин // Віцебскі рабочы. 1999. № 43. 17 апр. С. 3.
30. Ліст Т.М.Дзяканавай Г.В.Каруннаму, 1977 г., без чысла і месяца (ВАКМ, н/в 8738).
31. Жиркевич А.В. Встречи с Репиным // Художественное наследство. Т. 2. С. 161.
32. Новое о Репине. Л.,1969. С.153.
33. Шаўроў Арцём Сідаравіч (1918-1996) – сын С.І.Шаўрова, селяніна, які пазіраваў І.Рэпіну для карціны "Беларус" (1892 г.)
34. Кичина Е.М. Указ. соч. С. 39.
35. ДАВВ, ф.1947, воп.1, спр.3, арк.45, 136 і адв.
36. ДАВВ, ф.1947, воп.1, спр.43, арк.2 і адв.; ВАКМ, н/а, ф.3, спр.7, арк.1. З гэтых прац захаваліся: "Конік", "Запарожац" (ВАКМ), "Спакушэнне" (Нацыянальны мастацкі музей Беларусі). Даціроўка прац па: Каталог выставки произведений И.Е.Репина. М.,ОГИЗ-ИЗОГИЗ, 1936. С.87, 99. У "Спісе музейных экспанатаў і рэчаў музейнага значэння па аддзелу дзяржаўна-грамадскага быту", які быў складзены каля 1930 г., адзначана, што эскіз "Спакушэнне" быў падараваны дачкой І.Рэпіна. Аб шляхах набыцця іншых прац мастака звесткі не падаюцца ( ВАКМ, н/а, ф.6, спр.1, арк.128адв. Аўтар выказвае вялікую падзяку В.Рогач за інфармацыю аб змесце дакумента).
37. Ліст Т.І.Рэпінай-Язевай А.П.Тарханавай-Антакольскай ад 21 ліпеня 1930 г. (СР ДРМ, ф.124, воп.1, адз.зах.9, арк.5).
38. Цыт. па: Семья И.Е.Репина в письмах Т.И.Репиной-Язевой... С. 265.
39. Ліст Т.І.Рэпінай-Язевай У.Ф.Зееллеру ад 8 чэрвеня 1951 г. (Семья И.Е.Репина в письмах Т.И.Репиной-Язевой... С. 265-266); Падліпскі А.М. Згад. сач. С. 54.
40. Вэлкенайр Э. Репин за рубежом // Наше наследие. 1994. № 31. С. 43-44; Лобанов-Ростовский Н. Снова аукцион. Снова потери? // Культура. 1993. № 23. 11 июня. С. 1; Филатова Л. Куда "ушёл" Репин... // Культура. 1993. № 26. 3 июля. С.1; Иванова Н. "Семейный портрет": судьба картины и персонажей// Семья (Москва). 1999. №52. С.20-22.
41. Евг. Б. Об И.Е.Репине // Витебский вестник. 1913. № 175, 6 авг. С. 3; Ратгауз С. Репин в Белоруссии // Рабочий. 1936. № 140. 24 июня.
42. Ліст І.Я.Рэпіна Т.Л.Талстой ад 10 чэрвеня 1892 г. (И.Е.Репин и Л.Н.Толстой. Т.1. С.62.)
43. Ліст І.Я.Рэпіна У.В.Стасаву ад 18 жніўня 1893 г. (И.Е.Репин и В.В.Стасов. Переписка. М.– Л., 1949. Т.2. С.192).
44. НБА РАМ, ф.25, воп.1, адз.зах.355, арк.14 адв. Кніга "Белоруссия и Литва" захавалася ў фондах музея-сядзібы "Пенаты". На ёй дарчы надпіс: "Высокоуважаемому Илье Ефимовичу г.Репину. В.Стукалич. г.Витебск, 1893 год".
45. Подлипский А. Университет в Витебске // Народнае слова. 1998. 12 лют. С.5. Пра У.К.Стукаліча гл. таксама: Падліпскі А. Летапісец Віцебшчыны // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1978. № 1. С. 26-27; Акуневіч В.І. У.К.Стукаліч як прадстаўнік "заходнерускай" плыні ў грамадскай думцы Беларусі канца XIX – пачатку XX ст. // Беларуска-рускае культурнае ўзаемадзеянне. С. 45-50.

46. Арыгінал захоўваецца ў ВАКМ (КП 7285(3)/142). Ліст апублікаваны, гл.: Кичина Е.М. Указ. соч. С.68-69.
47. У 1996 г. здымак быў падараваны ўдавой С.Палееса Нацыянальнаму мастацкаму музею Беларусі. На адвароце здымка аўтограф А.П.Сапунова. Гл.: Вусава Н. Вяртанне рэдкага фотаздымка // Літаратура і мастацтва. 1996. № 21. 24 мая. С.14.
48. Дзяржаўны музей Л.М.Талстога, інв. №64159-64163. Аўтар выказвае вялікую падзяку Н.Г.Жыркевіч-Падлескіх за дазвол пазнаёміцца з гэтымі дакументамі. У 1924 г. зборы прыватнага музея В.Федаровіча былі перададзены ў Віцебскі губернскі музей. Аб В.Федаровічу гл.: Абрамава И. Коллекционер// Витебский курьер. 1998. 14 апр. С.3.
49. Ліст І.Я.Рэпіна В.І.Рэпінай ад 24 чэрвеня 1895 г. (СР ДРМ, ф.119, воп.1, адз.зах.1, арк.12 адв.). "Поп" – верагодна, Д.М.Дзяканаў, святар царквы ў с.Слабада. "Дид" – так родныя звалі А.І.Шаўцова.
50. Ляві Васіль Філіпавіч (1878-1953) – юрыст, мастак-дылетант, займаўся арганізацыяй выстаў і продажам прац І.Я.Рэпіна ў 1920-я гады.
51. НБА РАМ, ф.25, воп.1, адз.зах.809, арк.1 і адв.
52. Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў, ф.400, воп.12. спр.22104, арк.274-282.
53. Газин Д.Р. Краснодворский помещик // Жыццё Прыдзвіння. 1997. 19, 23 ліпеня.
54. Полоцкие Епархиальные Ведомости (далей – ПЕВ). 1893. № 3-4. 1-15 февр. С. 108.
55. Лісты Т.І.Рэпінай І.Я.Рэпіну ад 30 чэрвеня і 9 ліпеня 1908 г. (НБА РАМ, ф.25, воп.1, адз.зах.1087, арк.12 адв., 14)
56. Ліст Т.І.Рэпінай І.Я.Рэпіну ад 17 ліпеня 1917 г. (НБА РАМ, ф.25, воп.1, адз.зах.1087, арк.52 адв.)
57. Ліст І.Я.Рэпіна С.В.Рэпінай-Сазонавай, 1897 г. (Аддзел рукапісаў Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі, ф.50, адз.зах.80, арк.2). "Не так живи, как хочется" – назва п'есы А.М.Астроўскага.
58. Ліст В.І.Рэпінай І.Я.Рэпіну ад 14 жніўня 1911 г. (НБА РАМ, ф.25, воп.1, адз.зах.1080, арк.8).
59. ПЕВ. 1895. № 20. 15 авг. С.993.
60. Ліст В.І.Рэпінай І.Я.Рэпіну ад 2 кастрычніка 1908 г. (НБА РАМ, ф.25, воп.2, адз.зах.1077, арк.2).
61. ПЕВ. 1911. № 50. 11 дек. С.448.
62. ДАВВ, ф.10051, воп.1, спр.745, арк.84 і адв.
63. Усе пакараныя па справе былі рэабілітаваны ў парадку выканання ўказа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 16 студзеня 1989 г. "Аб дадатковых мерах па аднаўленню справядлівасці ў адносінах ахвяр рэпрэсій, меўшых месца ў перыяд 30-40-х – пачатку 50-х гадоў".
64. Ліст Т.І.Рэпінай І.Я.Рэпіну ад 30 снежня 1901 г. (НБА РАМ, ф.25, воп.1, адз.зах.1087, арк.23-24).
65. НБА РАМ, ф.25, воп.1, адз.зах.778, 1366, 1553.
66. НГАБ, ф.2675, воп.1, спр.478, 1309. Гл. таксама: Кичина Е.М. Указ. соч. С. 19-20.
67. НБА РАМ, ф.25, воп.1 , адз.зах.1551, арк.7-10.
68. Репин И.Е. Письма к писателям и литературным деятелям. 1880-1929. С.171.
69. Лісты Т.І.Рэпінай Ю.І.Рэпіну ад 29 верасня 1910 г. і 24 чэрвеня 1912 г. (НБА РАМ, ф.25, воп.1, адз.зах.2176, арк.26, 43 адв.).
70. НБА РАМ, ф.25, воп.1, адз.зах.1087, арк.13 адв.
71. Тамсама, воп.2, адз.зах.803, арк.3 адв.
72. Тамсама, воп.1, адз.зах.1087, арк.44-45.
73. "Тимофей" – Цімафей Бадзейка, арандатар маёнтка Здраўнёва.
74. "Песковатик" – гістарычная назва раёна ў паўночна-ўсходняй частцы Віцебска. "Разувайка" – назва прыгараднай вёскі. "Коссовых"– па шляху ў Здраўнёва знаходзіўся маёнтак Падбярэззе, якім валодалі браты В. і П.Косавы.
75. "Анна Ивановна" – Ганна Іванаўна Дзяканава (1857-1930), жонка святара Д.Дзяканава.
76. Пад "прэрафаэлітамі" Рэпін меў на ўвазе фларэнтыйскіх мастакоў ранняга Адраджэння.
77. Ліст В.І.Рэпінай І.Я.Рэпіну ад 3 жніўня 1916 г. (НБА РАМ, ф.25, воп.1, адз.зах.1084, арк.69-71 адв.).
78. Корунный Г.В. Описание бывшего дом И.Е.Репина в Здраванёве. (ВАКМ, н/в 7569. Рукапісныя нататкі,1980 г.); Корунный Г.В. О некоторых моментах жизни И.Е.Репина в "Здравнёве". (ВАКМ, н/в 5534/4. Рукапісныя нататкі, другая палова 1970-х гг.).
79. Кичина Е.М. Указ. соч. С.39-40.
80. НБА РАМ, ф.25, воп.2, адз.зах.415, арк.4-9 адв.
81. Репин И.Е. Избранные письма. 1867-1930. М., 1969. Т.2. С.399.
82. ДАВВ, ф.91, воп.1, спр.64, арк.15 адв., 16.
83. Тамсама, спр.63, арк.26.
84. Тамсама, арк.27 і адв.
85. Тамсама, арк.25.
86. Тамсама, ф.91, воп.1, спр.75, арк.1 і адв; ф.2262, воп.1, спр.133, арк.47.
87. Тамсама, ф.221, воп.2, спр.67, арк.15.
88. Тамсама, ф.91, воп.1, спр.75, арк.3.
89. Тамсама, спр.74, арк.40.
90. Тамсама, ф.221, воп.2, спр.60, арк.20. Гл. таксама: Шишанов В. Из Петербурга библиотека Репина переехала в Верховье// Народнае слова. 1998. 22 студ. С.5.
91. ДАВВ, ф.91, воп.1, спр.85, арк.35 адв.
92. Тамсама, ф.221, воп.2, спр.67, арк.2-3.
93. Тамсама, ф.246, воп.2, спр.320, 992.
94. Ліст Т.І.Рэпінай-Язевай у "Пенаты" ад 9 траўня 1925 г.( Архіў нашчадкаў Рэпіна ў Францыі. Ксеракопія – ВАКМ, н/в 10054/5).
95. ДАВВ, ф.734, воп.1, спр.75, арк.10-11.
96. Тамсама, ф.10051, воп.1, спр.145, арк.194.
97. Тамсама, ф.734, воп.1, спр.27, арк.186; ф.1019, воп.1, спр.23, арк.50.
98. Загадчыкам школы І.Д.Дзяканаў стаў 15 лютага 1922 года, калі ў сістэме асветы пачалі ўводзіць гэтую пасаду. Гл.: ДАВВ, ф.221, воп.1, спр.156, арк.3 адв.
99. ДАВВ, ф.91, воп.1, спр.75, арк.10-11. Колькасць вучняў у Здраўнёўскай школе ў перыяд з 1918 па 1930 г. хісталася ад максімальнай – 77 чал. (1919-1920 навуч. год) – да 35 чал. (1926-1927 навуч. год).
100. ДАВВ, ф.91, воп.1, спр.75 "Дело №9 Верховского волоно по Здравнёвской школе. Нач. 25 янв. 1919 г., оконч. 28 июля 1922 г."; ф.571, воп.1, спр.464 "Дело о состоянии Здравнёвской начальной школы Николаевского с/с. Нач. 27 янв. 1925 г., оконч. 24 июля 1927 г."
101. Репин И. Два неопубликованных письма. Публикация, предисловие и примечания В.Синкевич// Грани. 1990. №155. С.157.
102. ДАВВ, ф.1655, воп.1, спр.43, арк.3; ф.91, воп.1, спр.14, арк.63.

103. Тамсама, ф.94, воп.1, спр.293, арк.3.
104. Тамсама, арк.4.
105. Тамсама, ф.734, воп.1, спр.54, арк 582.
106. Тамсама, ф.191, воп.1, спр.451, арк.36.
107. Тамсама, ф.91, воп.1, спр.75, арк.14.
108. Тамсама, ф.1655, воп.1, спр.43.
109. НБА РАМ, ф.25, воп.2, адз.зах.424, арк.3.
110. ДАВВ, ф.246, воп.2, спр.320, арк.4,5. Як сведчаць анкеты, І.Д.Дзяканаў лічыў сябе беларусам па нацыянальнасці і, такім чынам, па бацьку праўнукі Рэпіна – беларусы (ДАВВ, ф.246, воп.2, спр.320, арк.4, 5).
111. Тамсама, ф.191, воп.1, спр.451, арк.19-20 адв.
112. Тамсама, арк.12.
113. Тамсама, арк. 8 і адв.
114. Тамсама, арк.34.
115. Тамсама, арк.56,3.
116. Тамсама, ф.91, воп.1, спр.100, арк.5 і адв., 63-64 адв.
117. Тамсама, ф.91, воп.1, 100, арк.82; ф.1447, воп.1, спр.18, арк.105-106а адв.
118. "Ленсман" – службовая асоба фінскай адміністрацыі.
119. Ліст В.І.Рэпінай І.Я.Рэпіну ад 24 ліпеня 1921 г. (НБА РАМ, ф.25, воп.2, адз.зах.424, арк.26-27). З дапамогай К.І.Чукоўскага Вера Рэпіна атрымала фінскую візу і 3 красавіка 1922 г. выехала да бацькі ў "Пенаты". Гл.: Доронченков И.А. Петроград-Куоккала. Через границу. 1920-е годы// Минувшее: Исторический альманах. 19. М.-СПб., 1996. С.230.
120. ДАВВ, ф.91, воп.1, спр.102, арк.108-109 адв.
121. Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі (далей – ДАРФ), ф.А-2307, воп.3, спр.163, арк.6; ВАКМ, н/а, ф.3, спр.4, арк.52.
122. ДАВВ, ф.1231, воп.1, спр.52, арк.89.
123. ДАРФ, ф.А-2307, воп.3, спр.297, арк.284-285 адв. У НБА РАМ (ф.25, воп.1, адз.зах.1554, арк.1-3 адв) захаваліся два чарнавікі рэпінскага ліста ў аддзел па справах музеяў некалькі іншага зместу – адзін недатаваны, другі ад 19 красавіка 1923 г., якія з нязначнымі скарачэннямі апублікаваны (гл.: Кичина Е.М. Указ.соч. С.23-25).
124. ДАВВ, ф.1231, воп.1, спр.52, арк.82-89; ф.94, воп.1, спр.124, арк.112; ф.734, воп.1, спр.111, арк.246; ф.246, воп.1, спр.88, арк.32, 34. Гл. таксама: Теркель Е.А. Указ.соч. С.92-95.
125. ДАРФ, ф.А-2307, воп.3, спр.297, арк.276 і адв. Змест дакумента грунтуецца на адказе Вярхоўскага валвыканкама ад 22 сакавіка 1923 г., урывак з якога змешчаны вышэй.
126. ВАКМ, н/а, ф.3, спр.4, арк.29, 30.
127. ДАВВ, ф.94, воп.1, спр.293, арк.1-3.
128. Тамсама, ф.71, воп.1, спр.252, арк.2 і адв.
129. Тамсама, ф.94, воп.1, спр.293, арк.4-9.
130. Тамсама, ф.71, воп.1, спр.252.
131. Тамсама, ф.734, воп.1, спр.27, арк.133 адв.
132. Архіў нашчадкаў Рэпіна ў Францыі. Ксеракопія – ВАКМ, н/в 10054/4.
133. ДАВВ, ф.734, воп.1, спр.55, арк.1467, 1473-1474.
134. Тамсама, ф.71, воп.1, спр.49, арк.158.
135. Тамсама, ф.734, воп.1, спр.54, арк.582-583 адв.
136. З некаторымі скажэннямі тэксту арыгінала апублікавана, гл.: Беляков С.Т. Прошение И.Е.Репина и заявление И.Ф.Шаляпиной// Советские архивы. 1989. №3. С.89-90.
137. Расійскі дзяржаўны архіў эканомікі, ф.478, воп.13, адз.зах.336, арк.4-9 адв.
138. Архіў нашчадкаў Рэпіна ў Францыі. Ксеракопія – ВАКМ, н/в 10054/5.
139. ДАВВ, ф.264, воп.2, спр.123.
140. Тамсама, ф.734, воп.1, спр.27, арк.132, 133 адв.
141. Тамсама, спр.54, арк.581.
142. Ліст Т.І.Рэпінай-Язевай І.Я.Рэпіну ад 9 ліпеня 1927 г. (НБА РАМ, ф.25, воп.2, адз.зах.415, арк.24 адв.)
143. Архіў нашчадкаў Рэпіна ў Францыі. Ксеракопія – ВАКМ, н/в 10054/6.
144. Гл. таксама: Чуковская Е. Почему Репин не приехал в СССР?// Литературная газета. 1997. 11 июня. №23. С.12.
145. Расійскі дзяржаўны архіў сацыяльна-палітычнай гісторыі (далей – РДАСПГ), ф.74, воп.1, спр.297, арк.3 і адв. Апублікавана: Бондарева Т.И., Купча Э.А. Возвращение не состоялось...// Советские архивы. 1991. №3. С.65-73.
146. НБА РАМ, ф.25, воп.2, адз.зах.415, арк.21 і адв.; адз.зах.1157, арк.3 адв.
147. ДАВВ, ф.1947, воп.1, спр.44, арк.88 адв.
148. Богородский Н. К 85-летию художника И.Е.Репина// Заря Запада. 1929. №179. 7 авг. С.4.
149. Майоров Р. Музейное кладбище// Віцебскі пралетары. 1929. 30 ліст. №276. С.2. Да 10-годдзя са дня смерці І.Я.Рэпіна, 17 верасня 1940 г. Віцебскі аблвыканкам прыняў пастанову аб прысваенні Здраўнёўскай школе імя мастака, аднаўленні рэпінскага дома і ўстаноўкі бюста мастаку ў Здраўнёве. Хадайніцтва аб гэтым было накіравана ў Вярхоўны Савет і СНК БССР (ДАВВ, ф.1966, воп.12, спр.10, арк.27). Гл. аб гэтым: Иванова Т. Маленький штрих витебской Репинианы// Віцебскі рабочы. 2000. 25 красавіка. №48. С.3.
150. Гл.: Губанов А. "Репин теперь нам не нужен"// Российские вести. 1992. 6 окт. №66. С.2; Бондарева Т.И., Купча Э.А. Указ. соч. С.66-68. Злінчэнка (Назараў-Работнікаў) Кірыл Паўлавіч (1870-1947) – удзельнік рэвалюцыйнага руху, працаваў у Бюро па друку пры СНК, у РОСТА, Музеі Рэвалюцыі, займаўся літаратурнай дзейнасцю.
151. ДАВВ, ф.511, воп.1, спр.490, арк.577-580. Гл. таксама: Кичина Е.М. Указ. соч. С.30-31.
152. Ліст Т.І.Рэпінай-Язевай у "Пенаты" ад 12 красавіка 1929 г. (Архіў нашчадкаў Рэпіна ў Францыі. Ксеракопія – ВАКМ, н/в 10054/9).
153. ДАВВ, ф.118, воп.2, спр.9, арк.43 адв.
154. Ліст Т.І.Рэпінай-Язевай у "Пенаты" ад 15 снежня 1929 г. (Архіў нашчадкаў Рэпіна ў Францыі. Ксеракопія – ВАКМ, н/в 10054/13).
155. Гегер Георгій Карлавіч (1880 - ?) – літаратар, аўтар артыкулаў пра І.Я Рэпіна, камісіянер пры продажы прац Рэпіна ў Латвіі.
156. Лісты Г.К.Гегера Рэпіным (НБА РАМ, ф.25, воп.2, адз.зах.152, 682). Гл.: Семья И.Е Репина в письмах Т.И.Репиной-Язевой. С.261-263.
157. НБА РАМ, ф.25, воп.2, адз.зах.839.

158. Возрождение (Париж). 1930. 23 февр. №1727. С.2.
159. Чарткоў Уладзімір Рыгоравіч (1854-1936) – выдавец, публіцыст, знаёмы І.Я.Рэпіна.
160. Маецца на ўвазе прафесійны саюз працаўнікоў асветы.
161. Гнядоўскі Пётр Сямёнавіч (1863-1930) – святар царквы ў сяле Курына. Пра яго гл. вышэй.
162. НБА РАМ, ф.25, воп.2, адз.зах.415, арк.30-31 адв. Датуецца па паштоваму штэмпелю Куоккалы 20 лютага 1930 г.
163. ДАВВ, ф.1947, воп.1, спр.32, арк.39, 48. У памяць аб сваім бацьку, які памёр у Здраўнёве і быў пахаваны на могілках сяла Слабада (1894 г.), І.Я.Рэпін напісаў для Слабадской царквы ў імя Раства Прасвятой Багародзіцы (пабуд. 1739 г.) два абразы: "Хрыстос з чашай" (1894, ВАКМ) і "Маці Боская з дзіцём" (1895-96, ВАКМ). У абразах Рэпіна можна знайсці ўздзеянне ўспамінаў аб сумеснай працы мастакоў над царквой у маёнтку С.І.Мамантава "Абрамцава" (1881-82 гг.). Твар Хрыста абраза са Слабады вельмі падобны на рэпінскі "Нерукатворны Спас" з Абрамцава, а пастава дзіцяці на слабадскім абразе Маці Боскай некалькі нагадвае абраз В.М.Васцяцова "Маці Боская з дзіцём". Пасля таго, як Васняцоў выкарыстаў свой абраз у роспісе Кіеўскага Уладзімірскага сабора (1885-96 гг.), гэты тып выявы Маці Боскай набыў вялікую папулярнасць і ў шматлікіх варыянтах і копіях распаўсюдзіўся па Расіі. Напрыклад, у 1906 годзе Віцебскаму катэдральнаму сабору быў падараваны такі абраз працы мастака М.І.Верхатурава (ПЕВ. 1907. №37. 15 декабря. С.980-981).
164. Ліст Г.К.Гегера В.І.Рэпінай ад 27 лютага 1930 г. (НБА РАМ, ф.25, воп.2, адз.зах.682, арк.7адв - 7а).
165. Ліст А.П.Тарханавай-Антакольскай І.Я.Рэпіну ад 2 марта 1930 г.(НБА РАМ, ф.25, воп.2, адз.зах.494, арк.42).
166. РДАСПГ, ф.74, воп.1, спр.297, арк.22 і адв. Гл.: Бондарева Т.И., Купча Э.А. Указ. соч. С.70.
167. ДАВВ, ф.118, воп.5, спр.23, арк.230-233.
168. Тамсама, арк.232, 233.
169. Аб гэтым падрабязней гл.: Кичина Е.М. Указ. соч. С.33-34; Теркель Е.А. Указ. соч. С.95-96; Семья И.Е.Репина в письмах Т.И.Репиной-Язевой. С.262-265. Стасава Алена Дзмітрыеўна (1873-1966) – пляменніца вядомага крытыка, грамадскі і палітычны дзеяч, у 1927-37 гг. старшыня ЦК МАДР СССР, член ЦВК СССР. Галадзед Мікалай Мацвеевіч (1894-1937) – партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР, старшыня СНК БССР у 1927-37 гг.
170. Ліст Г.К.Гегера І.Я.Рэпіну ад 26 красавіка 1930 г. (НБА РАМ, ф.25, воп.2. адз.зах.152., арк.22 адв.).
171. СР ДРМ, ф.124, воп.1, адз.зах.8, арк.22.
172. Ліст Т.І.Рэпінай-Язевай у "Пенаты" ад 19 ліпеня 1930 г. (Архіў нашчадкаў Рэпіна ў Францыі. Ксеракопія – ВАКМ, н/в 10054/14).
173. Ліст Т.І.Рэпінай-Язевай Л.М.Карсавінай ад 31жніўня 1930 г. Цыт. па: Семья И.Е.Репина в письмах Т.И.Репиной-Язевой. С.267-268.
174. Ліст Т.І.Рэпінай-Язевай Л.М.Карсавінай ад 18 жніўня 1931 г. Цыт. па: Семья И.Е.Репина в письмах Т.И.Репиной-Язевой. С.296.

драўляны, а таму ўзімку вельмі ўтульны і цёплы. Зрэшты, усе Цялошы былі ўтульнымі і цёплымі аж занадта. І таму, безумоўна, Каруся замуж не выйшла з-за таго, што таксама амаль ніколі з Цялошаў не выязджала. Якім цудам дзве старэйшыя сястры знайшлі мужоў – я растлумачыць не бяруся. Таму і Зыгмунт Пачобут нідзе не вучыўся, "бо нашто і дзеля чаго? Гаспадарка, дзякаваць Богу, ёсць, маем з чаго жыць, то дзеля чаго па свеце гузакі набіваць?"

Цёця Лёля – іх маці – была крыху іншага характару. Мела яна, як і ўсе ў сям'і, вялікую дабрыню, але дабрыню актыўную. Апроч таго, яна рухалася – ездзіла да дачок у Мінск і Віцебск, не раз адведвала і нас у Барку. Я нават памятаю, што некалі сфатаграфаваў яе ў Барку ў парку пад старым дрэвам – як жа тыпова, як прыгожа яна выглядала на тым фотаздымку! Галоўная яе прывабнасць, паўтараю, заключалася ў дабрыні і лагоднасці, што лучыліся з твару. Схільнасць да хуткіх узрушэнняў праяўлялася на ім часцей за ўсё ў выразе вуснаў і дрыжачым падбародку. Гэтая ўсмешка, поўная асалоды, што з'яўлялася на яе таўставатых вуснах, пры заклапочаных вачах лучылася абаяльнасцю, якую немагчыма выказаць словамі. Здаецца, такая самая была мая бабка, маці маёй маці, малодшая сястра цёці Лёлі, Соф'я. Той жа самы выраз, тую ж самую салодкую ўсмешку мела і мая маці. Той жа выраз часта з'яўляўся і на тварыку майго першага сынка – Алеся – якога забрала смерць праз гадок жыцця.

Ах, гэтыя Цялошы, Цялошы! Хадзілі там за ракамі, за грыбамі, дзядзька Стэфан вёў у сад пад найлепшыя дрэвы, ездзілі ў лес у чарніцы, ажыну і арэхі. Розныя хваробы лячылі толькі хатнімі сродкамі, верылі ў "замовы", прыводзілі "замоўшчыка" на пацукоў. Набывалі разнастайныя дробязі ў вандруючых венграў, хадзілі глядзець на цыганскія абозы. У агародзе раслі рэзеда, гарошак і браткі, ружы, лаванда і герань, увосень квітнелі астры. Збіралі ліпеньскі мёд, гатавалі цудоўныя канфіцюры з ачышчаных агрэсту і парэчак, салілі агуркі, рыжыкі, рабілі марынаваныя баравікі і грузды, якія пазней у смятане былі цудоўнай закускай. Нічога не чыталі, нават газет, а лісты, якія прыходзілі, прыносілі толькі сямейныя навіны.

Пэўны рух у Цялошах выклікалі толькі прыезды радні, бо як тут не ездзілі да суседзяў, то і суседзі Цялошаў не адведвалі. А не ездзілі да суседзяў не таму, што не жадалі, ці з якіх яшчэ сур'ёзных прычынаў – толькі ад ляноты. Куды-небудзь выбрацца, нават на станцыю, якая ў апошнія часы знаходзілася на адлегласці некалькіх вёрст (калі была пракладзена чыгунка, якая злучыла праз Віцебск і Воршу Пецярбург з Кіевам) – гэта было мерапрыемства, што перавышала сілы насельнікаў Цялошаў. Яны выкарыстоўвалі розныя прычыны, абы толькі адкруціцца ад усялякай язды: або коні закульгалі, або абручы з колаў пазвальваліся, або "фаэтон" быў у рымара, або фурман захварэў, або ішоў дождж. Усяго за чатыры вярсты ад Цялошаў штодзень праходзілі два экспрэсы: з Кіева ў Пецярбург і зваротны, са спальнымі вагонамі, вагонамі-рэстаранамі, вялікасвецкай, а часам і замежнай публікай... За 17 вёрст мелі станцыю іншай чыгункі, Рыга-Арлоўскай, а значыць – Рыгу, Палангу, Балтыку на адлегласці адной ночы... За 15 вёрст была Ворша на чыгунцы Брэст-Масква, а значыць – Варшава, Берлін, Парыж... І нягледзячы на гэта, пры такім цудоўным геаграфічна-камунікацыйным размяшчэнні, пры вялікіх матэрыяльных магчымасцях, якія ўсё ж такі маглі забяспечыць 6 тысяч дзесяцінаў лесу, Цялошы жылі як ціхі, заняпалы аканомскі фальварак, без якой-небудзь большай амбіцыі, без хоць бы найсціплай прэтэнзіі. Заўсёды і вечна адно і тое ж пытанне, адзін і той жа адказ пры кожнай магчымасці: "А дзеля чаго? А нашто? – Абыйдзецца цыганскае вяселле без марцыпанаў, абыйдзецца і без нас".

Я, аднак, люблю Цялошы ў маіх успамінах. Нават калі быў дзіцём, я адчуваў пануючую там простасць, нежаданне ўсялякай фанабэрыі, сціпласць, поўную асабістай годнасці, дабрыню, шчырую зычлівасць і моцна закаранелае пачуццё сямейнай салідарнасці. І зараз, калі я думаю пра Цялошы, ацэньваю тую моцную маральную апору, якую яны давалі родным. І адначасова пэўную абаяльнасць, якую мела тое вольнае, бесклапотнае жыццё. Мае дзіцячыя пачуцці, як гэта часта здараецца з дзецьмі, належалі хутчэй да сферы інстынкту або інтуіцыі, аднак у сталым узросце я даведаўся пра факты, якія пацвердзілі мае ранейшыя ўражанні.

Другую дачку Фелікса Пачобута – Кацярыну, цётку Касю – я ведаў мала. Памятаю яе, аднак, як вельмі прыгожую, манументальную, унушальную. З тае прычыны часта паўтаралася, што яна добра носіць сваё імя – канечне, не меліся на ўвазе звычкі Кацярыны II. Яна выйшла замуж за земскага абывацеля Леапольда Букоўскага, якога я, бадай, ніколі і не бачыў, валадара маёнтка Шаруты на Віцебшчыне. Там панавала, здаецца, атмасфера, падобная да цялошскай. Дзеці цёткі Касі таксама неяк дрэнна ладзілі сваё жыццё. Яе сын Мікалай, як я ўспамінаю, ажаніўся недзе каля 1910 года з Марыяй з Багдановічаў.

Пра трэцюю і чацвёртую дачку Фелікса Пачобута, маю родную бабку Соф'ю і яе сястру, мачаху маёй маці, бабку Эмілію, мне выпадае напісаць, калі буду акрэсліваць жыццё маіх бацькоў.

* * *

Самы старэйшы з гэтага пакалення Пачобутаў – дзядзька Антоні, паўстанец 63 года – скончыў юрыдычны факультэт у Дорпаце. За ўдзел у паўстанні ён быў зняволены. Пасля турмы вымушаны быў пайсці працаваць, таму што ягоныя бацькі збяднелі. "Служыў" ён амаль усё жыццё ў праўленнях розных чыгунак Расіі (у апошні час – Пецярбургска-Віндаўскай) і дасягнуў у гэтай працы ў Пецярбургу высокага рангу і поўнай матэрыяльнай незалежнасці. Ён быў старым кавалерам і амаль усё жыццё правёў у Пецярбургу. Жыў ён вельмі прыстойна, прыкладна, ціха – зручна, аднак сціпла. Таварыскія адносіны ён абмяжоўваў да мінімума, у грамадскім жыцці асабліва не ўдзельнічаў, зводзіў гэты ўдзел да грашовых сум, якія ахвяраваў на розныя дабрачынныя мэты. Падкрэсліваю гэтую асаблівасць таму, што ўсе польскія калоніі ў Расіі – у Пецярбургу, Маскве, Харкаве, Саратаве і іншых гарадах цэнтральнай Расіі, а таксама ў Сібіры, Туркестане, на Каўказе – складаліся пераважна з людзей, якія ўскосна або непасрэдна былі ахвярамі паўстанняў і якія арганізавалі ў гэтых расійскіх цэнтрах грамадскае польскае жыццё, дабраахвотна прыняўшы на сябе разнастайныя грамадскія польскія абавязкі. Гэта было выказванне салідарнасці з Айчынай і, канечне, падсвядомае жаданне захаваць народную культурную традыцыю.

Антоні Пачобут у маладосці наведаў Падолле і нешта там, добра я не ведаю што, рабіў. У гэтыя далёкія часы ён пасябраваў з сям'ёй Юрэвічаў, пра якую любіў доўга апавядаць. Ён тады шмат ездзіў верхам, да канца жыцця захаваў моцную цікаўнасць да коней і асаблівае замілаванне – да арабскіх. Жыў ён як гадзіннік. Усё і заўсёды рабіў у свой час, пунктуальна, без хвіліны адхілення. Апранаўся ён вельмі акуратна, насіў толькі дарагое адзенне і боты з найлепшай скуры, карыстаўся паслугамі толькі першакласных дастатчыкаў, краўцоў, шаўцоў.

Ён быў невялікага росту, рана ссівелы, заўсёды ружовы, здаровы, усмешлівы, ветлівы, пачцівы. Я бачу яго ў прыгожым бабровым каўняры (іншых футраў на каўнярах не ўжываў), з палкай з навершшам са слановай косці, у коцікавай шапцы і высокіх, зробленых на заказ, ботах. Калі ўлетку ён бываў у нас у Барку, то заўсёды крытыкаваў маю верхавую язду. Ён указваў мне на тое, што я занадта зацягваю каня, і тады неадменна на даляглядзе з'яўляўся пан Юрэвіч як узор шляхецка-кавалерыйскай годнасці. У сям'і яго заўсёды шанавалі і паважалі. Быў ён "превосходительством" (эксцэленцыяй). Ездзіла гэтая эксцэленцыя па ўсіх чыгунках у вагоне першага класа, маючы цэлае купэ ў сваім распараджэнні. Пры гадзінніку ён насіў вялікую колькасць так званых "жэтонаў" – гэта былі разнастайныя залатыя юбілейныя медалі, якія выдаваліся работнікам чыгункі вышэйшага рангу і якія давалі права на тэрыторыі ўсёй Расіі карыстацца купэ першага класа. І за мяжой гэтыя эксцэленцыі карысталіся рознымі прывілеямі. Мне гэта вельмі імпанавала, ды і не толькі мне. Больш за ўсё дзядзьку Юзафу Пачобуту, які глядзеў на старэйшага брата як на паўбога. Вышэй за яго ў ягоных вачах стаяў можа толькі Вітольд Славінскі, пэўны час Караль Свяцкі і, зрэшты, мой бацька.

Антоні Пачобут лічыўся, асабліва пасля смерці свайго швагра Стэфана Пачобута, апекуном і галавою сям'і. Гэта быў тытул не тытулярны. Выконваў ён яго з пачуццём адказнасці і сваіх магчымасцяў. Калі памёр бацька маёй маці і мая бабка Эмілія засталася з двума дзецьмі і з сумай толькі ў 10 тысяч рублёў, дзядзька Антоні прымаў удзел у яе лёсе і дапамагаў ёй. Заўсёды ён дапамагаў і свайму малодшаму брату Юзафу. У яго ў Пецярбургу жыў падчас вучобы ва ўніверсітэце старэйшы сын Юзафа Артур. Ён даваў грошы на патрэбы і другога сына Юзафа Міхала Пачобута. Дапамагаў ён таксама шмат каму яшчэ. І рабіў гэта заўсёды з усмешкай, спакойна, ветліва.

Безумоўна, гэта быў шляхетны і добры чалавек, аднак, разам з тым, нейкі бясколерны, нейкі "стэрылізаваны". Ён меў, калі ўваходзіў у салон, быццам бы шырокія жэсты, смяяўся ўсім тварам і быў чуваць ягоны гучны рогат. Левай рукой ён ляпаў па плячы асобу, з якой вітаўся, а правай ножкай пастукваў па левай. Быў чысцюткі, белы, ружовы, смяяўся, але цікавага ці сапраўды важнага і забаўляльнага ніколі, у маёй, прынамсі, прысутнасці, не сказаў. За адным толькі выключэннем – я маю на ўвазе два ягоныя апавяданні з часоў маладосці. Першае – пра адну конную прыгоду на Украіне або на Падоллі. Моладзь у маёнтку, дзе ён знаходзіўся ў якасці госця, невядома з якой нагоды задумала пакпіць з яго. Яму далі наравістага каня, які заўсёды закідваў галаву назад, намагаючыся ўдарыць вершніка і скінуць яго з сядла. Такі конь мог нават забіць чалавека. Як толькі дзядзька Антоні апынуўся ў сядле, конь пачаў свае манеўры і не жадаў рушыць. Панічы і паненкі са смехам паехалі, пакінуўшы маладога чалавека ў такім непрывабным становішчы. Антоні, зрэшты, прымусіў каня сысці з месца, аднак праз пару крокаў той зноў пачаў свае выбрыкі. Дзядзька меў цяжкую скураную плётку са сталёвым прутом. Не маючы магчымасці даць рады каню і, нарэшце, страціўшы цярпенне, ён ударыў яго з усёй сілы гэтай плёткай паміж вушэй. Конь заваліўся. Дзядзька пайшоў дадому. Калі моладзь

вярнулася і з іранічнымі ўсмешкамі пачала пытацца, дзе ж застаўся конь, ён адказаў: "Ляжыць каля рава на полі". "Што гэта значыць?" "Можаце пайсці і паглядзець". Яны пайшлі і праз хвіліну вярнуліся збянтэжаныя, таму што знайшлі мёртвага каня.

Другое апавяданне крыху больш рэзкае, аднак яно вельмі забаўным чынам адлюстроўвае пэўныя традыцыйныя дэталі вясковага жыцця. Як вядома, на польскай вёсцы – і так было, напрыклад, у Кароне ажно да нядаўніх часоў – у маёнтках не толькі сціплых, але часта нават і вялікіх каналізацыя была рэдкасцю, таму прыбіральні ў большасці былі вельмі прымітыўныя. Я памятаю і такія маёнткі, у якіх – верагодней за ўсё, з поглядаў гігіенічных, з-за дбальнасці аб чысціні паветра ў доме – гэтыя прыбіральні знаходзіліся на вуліцы і мелі выгляд будак, схаваных дзе-небудзь на задворках, у кустах або паміж дрэваў, часта за якім-небудзь плоцікам. Як вядома, нават перад самай вайною, бадай, найважнейшы клопат аднаго са знакамітых нашых прэм'ераў быў звязаны з праблемай грамадскай гігіены ў Польшчы, уласна кажучы, з прыбіральнямі, якія сталі вядомымі пад назвай "славойкі".

Калі ў двары адбываліся вялікія прыёмы, асабліва балі, прыезжыя госці не заўсёды мелі магчымасць даведацца, дзе шукаць тую прыбіральню. Часта яны адчувалі сябе збянтэжанымі і таму мусілі карыстацца бліжэйшымі агародамі і паркамі. Так і мой дзядзька Антоні як маладзён аднойчы на нейкім балі адчуў гвалтоўную патрэбу сваёй натуры і прысеў недзе ў кустах, у цемры.

Раптам ён пачуў галасы нейкіх паненак. Адна з іх выбегла з дому, хутка прадралася праз кустоўе і, відавочна, з прычыны цемры, да якой вочы яе яшчэ не змаглі прызвычаіцца, стаўшы тут жа над дзядзькам Антоніем падняла свае балёвыя спаднічкі. Не бачачы для сябе іншага паратунку, дзядзька зрабіў жэст самаабароны – пляснуў па адпаведнай, высунутай у яго накірунку частцы цела. Паненка перапалохана крыкнула і ў імгненне вока ўцякла. Дзядзька Антоні не мог па прыгожанькіх паўшар'ях пазнаць іх уладарку. Аднак ён пазней даведаўся, хто была гэтая паненка, якую напаткала такая фатальная прыгода, таму што тая паненка была так глыбока ўражана атрыманым пляскачом, што ўцякла ў пакой, расплакалася там і, здаецца, на балі ўжо ўвогуле не паказалася. Яе далейшая адсутнасць была вытлумачана дрэнным адчуваннем. У той жа час дзядзька аб гэтай прыгодзе нікому не расказаў, усё захаваў у таямніцы і нават праз шмат гадоў, апавядаючы гэтую гісторыю, ніколі прозвішча паненкі не называў.

Гэтыя апавяданні неяк не адпавядалі таму вобразу ягонай асобы, што застаўся ў маім уяўленні і памяці. Былі яны, аднак, праўдзівыя, тым больш, што адносіліся да ягонай маладосці, у той час, як мае вочы бачылі ўжо старога, які ад усіх сваіх перажыванняў згас і змяніўся.

Лісты, якія ён пісаў на свята Божага Нараджэння, на Вялікдзень, імяніны або з прычыны сямейных здарэнняў, былі пісьменныя, напісаныя прыгожым, роўным почыркам, але зноў жа, дзякуючы нечаму нейкія стэрыльныя, за выключэннем старапольскіх абаротаў, якія на заканчэнні ліста ў пэўным сэнсе нагадвалі ягоны гучны рогат пры вітанні, трохі нечаканы, трохі ненатуральны. Трэба, аднак, прызнаць, што ён стала рабіў, і гэта яму ўдалося, свой уласны стыль, стыль асабісты.

Усё жыццё, як я ўжо згадваў, ён заставаўся халасцяком. У Пецярбургу ён меў нейкую сяброўку, дзесяткі гадоў правёў з ёю, але нікому нідзе яе не паказваў, нікому пра яе не казаў ні слова. Я чуў пра яе толькі ад Артура, які жыў у яго ў часы студэнцтва. Ён бываў за мяжой, ездзіў для пацехі на курорты, але таксама ніколі ніякіх падрабязнасцяў пра тыя падарожжы ад яго я не чуў, як, прынамсі – і гэта дзіўна – і пра ягоны ўдзел у паўстанні.

Калі бываў у нас, я бачыў, што ён чытаў шмат і ахвотна, аднак вялікай начытанасці, відаць, не меў, хоць пры выпадку мог працытаваць вялікія ўрыўкі з "Пана Тадэвуша", з Сыракомлі і нават са Славацкага, чаго я, напрыклад, ніколі не ўмеў і не ўмею (Тадзя Федаровіч усяго "Пана Тадэвуша" ведаў на памяць, хоць ніколі літаратурай не цікавіўся).

У карты ён не гуляў. Непрыстойнасцяў ніколі не распавядаў і слухаць аповяды такога кшталту не любіў. Любіў ён паляванне, меў прыгожыя стрэльбы, але заўсёды сцвярджаў, што з маладосці найбольш упадабаў сабе паляванне "пана Юрэвіча" з хартамі.

Бацькоў маіх ён надзяляў вялікай сімпатыяй, майго бацьку глыбока паважаў. Зрэшты, мой бацька з усімі сваякамі маёй маці жыў не толькі ў згодзе, але і ў сапраўды вялікай дружбе. Усіх іх (як бы ўласную сям'ю) мой бацька падтрымліваў матэрыяльна, дапамагаў, не аднаго юнака на ногі паставіў, не адно дзіця выхаваў, не аднаго хворага выхадзіў. Ахвяруючы на гэтыя мэты свае матэрыяльныя сродкі, якія ў другой палове ягонага жыцця ў Расіі сталі сапраўды неабмежаванымі, на працягу ўсяго жыцця ён кіраваўся ва ўсіх такога роду справах сапраўды выключнай дабрынёю – таму і сваякі маёй маці яго паважалі, глыбока шанавалі, і ягоны аўтарытэт у гэтым асяродку ніколі нікім не аспрэчваўся.

Дзядзька Антоні праводзіў у нас у Барку доўгія тыдні. Мы любілі ягоныя наведванні, бо гэта быў, нягледзячы ні на што, прыемны, ціхі, ахайны і шляхетны дзядок. Але мяне ён, калі я падрос, не вельмі любіў, таму што я пачаў дазваляць сабе пэўнае зневажанне старога, выказваў погляды, якія яго ўражвалі, падсмейваўся з некаторых ягоных старэчых звычак. Напрыклад, звычайна пасля абеду або вячэры перад тым, як устаць з-за стала, апошнім глытком вады, гарбаты або віна ён паласкаў свае вусны і потым выпіваў гэты глыток. Я лічыў гэта, можа і слушна, дрэннай звычкай, але няслушна дазваляў сабе пераглядкі з сёстрамі або Тадэкам. І гэта раздражняла старога. Моладзь у гэтых адносінах не мае фантазіі. Калі яна чуе аб смерці, то заўсёды, як аб нечым, што датычыцца старэйшых, і, канечне, не ўяўляе сабе пакутаў старасці, тым больш тужлівых для тых, каму лёс або прырода дазваляюць на даўжэйшы час захоўваць жыццядзейнасць і жаданні маладосці. Дзядзька Антоні, напэўна ж, сваіх вуснаў такім чынам не паласкаў, калі быў у маім або Тадэкавым узросце.

Апошнія гады перад смерцю ён правёў у Барткушках, дзе яму не было соладка дзякуючы тагачаснаму ўпраўляючаму і ягонай сям'і. Гэтыя паны Гіжыцкія, тыповыя падпанкі з паўднёвых крэсаў, поўныя пыхі, фанабэрыі і самых бязглуздых прэтэнзій, хоць самі страцілі ўсё, нічаму, аднак, не навучыліся і не падсаладзілі рэшту жыцця беднаму старому, пазіраючы на яго з пагардаю. Уздыхнуць ён мог толькі ў час наведвання майго бацькі, які яго і Гіжыцкіх мог асадзіць і заўсёды ставіў на адпавядаючае кожнаму месца. Гэта была вялікая здольнасць і ўменне майго бацькі.

Дзядзька Антоні захаваўся ў маёй памяці ў сваім апошнім выглядзе – старога ў мундзіры і канфедэратцы ветэрана 63 года, якія замянілі бабровыя каўняры і коцікавыя шапкі "его превосходительства". Так на прыканцы жыцця вярнуўся да сваёй маладосці гэты малады і стары паўстанец. Эксцэленцыя засталася ўнутры. Часта бывае так, што невядомы нам артыст, творца нашых лёсаў, таксама цешыцца цыклічнай кампазіцыяй.

Наступны з роду Пачобутаў – Мікалай, жанаты з Соф'яй Масальскай-Сурын з Кіеўшчыны – вучыўся праву, аднак навуку не скончыў і быў нейкі час віцебскім маршалкам. Меў ён маёнтак Хацімль на Віцебшчыне. Адна ягоная дачка – Леанціна – выйшла замуж за Вітольда Корвіна-Паўлоўскага, другая – Ванда – старэйшая, была за вядомым літаратарам Войцехам Шукевічам, братам Мацея, паэта і літаратара, прыяцеля Матэйкі. Абодва нарадзіліся ў Швецыі, што не перашкодзіла ім быць гарачымі патрыётамі, якія глыбока зрасліся з польскай культурай. Аб'ядноўвала іх цеснае сяброўства з Выспянскім, Пшыбышэўскім, Рыдлем. Цётка Ванда Шукевіч не раз расказвала нам (гэта пацвярджае ў сваім лісце да мяне мая кузіна Ванда Завадская, дачка Адама Шафкоўскага і Марылі Пачобут) пра вяселле Рыдля ў Брановічах, на якім яна была, і шмат іншых падрабязнасцяў, што тычацца "Маладой Польшчы".

Мікалай Пачобут меў яшчэ адну дачку – Марыю, якая памерла незамужняй, а таксама сыноў Яна і Напалеона. Ян валодаў нейкімі маёнткамі на Палтаўшчыне і памёр у час Варшаўскага паўстання ў Аляксандра Пачобута (брата маёй маці) ў Варшаве. Яна я не памятаю ўвогуле, а Напалеона – трохі, пасля пары спатканняў і па фотаздымку. Ён дарэчы насіў сваё імя – бародка надавала яму надзвычайнае падабенства з Напалеонам III.

Аднак бліжэй за ўсіх я ведаў Леанціну Паўлоўскую і яе мужа. Гэта былі шляхетныя людзі. Ён быў інжынерам і паходзіў, бадай, з Кангрэсаўкі. Яны цудам ацалелі пасля апошняй вайны, ва ўсялякім разе яна, таму што жылі ў Варшаве. Іх адзіным шчасцем і адначасова пакутай стаў адзіны сын – разнавіднасць вундэркінда, з'ява ў сям'і Пачобутаў наогул рэдкая. Хлопец гэты знешне і ў пэўных рысах характару падманліва быў падобны на Гогаля – праўда, толькі мне ў сям'і прыходзіла ў галаву такая асацыяцыя, ды і то з прычыны маіх прафесійных ведаў. Кажу – толькі ў пэўных рысах, маючы на ўвазе яго заўчаснае развіццё. Безумоўна, Гогаль таксама гэтым адзначаўся, але малодшага Паўлоўскага, хоць, аднак, ён і не стаў Гогалем (зрэшты, хто можа зраўняцца ў развіцці свайго таленту з Гогалем?), вылучала зусім выключная начытанасць. Дастаткова сказаць, што ва ўзросце 15 гадоў ён прачытаў Шапэнгаўэра і ведаў урыўкі з яго. Памятаю, калі я выкладаў пасля Брусселя ў Кракаве, а сям'я мая жыла ў Варшаве і таму амаль кожны тыдзень я бываў у сталіцы – малодшы Паўлоўскі, гэты выключны сярод Пачобутаў "інтэлектуал" прыходзіў на размовы да свайго кузэна-прафесара. Фармальна ён быў маім кузэнам, аднак розніца ва ўзросце ператтварала кузэна-прафесара ў дзядзьку-прафесара. Гэты малады "філосаф", на жаль, заўчасна памёр ад сухотаў у Швейцарыі (у Давосе ў 1935 годзе), дзе ягоныя бацькі, адмаўляючы сабе ва ўсім, утрымлівалі сына ажно да канца ягонага жыцця. Ягоныя спекулятыўныя інтарэсы неяк добра лучыліся з практычнымі, таму што ён эксплуатаваў сваіх бацькоў не горш, чым Гогаль сваіх. Аднак я яго любіў і нават вельмі, бо ён меў незвычайны розум. Адкуль такая кветка вырасла на пачобутаўскім дрэве? Ці абавязаны ён гэтым Паўлоўскім, ці мо раптоўна азваўся ў ім наш астраном Марцін Адляніцкі-Пачобут – аднак жа апошні быў ксяндзом?

Праўда, такая з'едлівая заўвага пасля роздуму ўва мне самім абуджае вялікае сумненне, бо я даведаўся, што адзін з сыноў Адама Шафкоўскага Аляксандр ( а ён таксама Пачобут па кудзелі) зараз не толькі выдатны будаўнічы інжынер у Вроцлаве, але і "прыватны" астраном па прызванні, адзіны не навуковец сябра Польскага Астранамічнага таварыства. Ён праводзіць самастойныя доследы ва ўласнай абсерваторыі на даху свайго дома, прымае ўдзел ва ўсіх сходах і з'ездах астраномаў, валодае выключнымі здольнасцямі.

У сувязі з гэтымі сумненнямі прыгадваецца мне таксама Нора Шчэпаньска са сваімі вершамі і п'есамі, Соф'я Федаровіч, якая здабыла сабе такое высокае становішча ў лонданскім мастацкім асяродку, мая сястра, якой скульптурнае мастацтва прынесла такі вялікі трыумф у Парыжы, Італіі і Амерыцы, ну і, нарэшце, мая маці з яе цудоўным музычным талентам і выключнай інтэлігентнасцю.

Падобна на тое, што сіла пачобутаўскай расы не вычарпалася, што "гайдучкі" Фелікса і цялошскі квіетызм не былі адзіным праяўленнем пачобутаўскай фантазіі. Зрэшты, можа быць, што рабіў гэта і ўплыў іншай крыві — крыві па мячы.

* * *

Трэці па парадку — Браніслаў, хутчэй, сярэдняй вартасці, але поўны абаяльнасці чалавек. Талстой некалі напісаў пра аднаго са сваіх знаёмых, што той "быў бы найгоршым мярзотнікам, калі б не ягоная жарсць да хартоў". Антоні Пачобут быў чалавекам узорным, але чалавекам без захаплення — і можа, уласна, таму хутчэй нудным, і нават можа не столькі мала сімпатычным, колькі мала прывабным, апроч, безумоўна, вялікіх асабістых вартасцяў. Напэўна, разам з катастрофай паўстання ў ім згаслі парыванні маладосці, а навязанае яму жыццё адсунула ў цень ягонае яркае мінулае. Браніслаў ні ў якім сэнсе не быў узорным — і жарсці яму не бракавала. Ва ўсіх адносінах, асабліва ў таварыстве, ён быў надзвычай прыемны, прывабны, мілы. Гуляка неверагодны, шалапут, бабнік, гулец, заўзяты паляўнічы, гурман, п'яніца — сапраўды не ведаю, што тут можна яшчэ дадаць.

Я любіў яго бязмерна, і ў многіх адносінах ён імпанаваў мне бясспрэчна.

Ён стаў чыгуначнікам. Нягледзячы на тое, што скончыў толькі гімназію, ён дайшоў да пасады віцэ-дырэктара (як паляк ён не мог быць дырэктарам) "матэрыяльнай службы" дзяржаўнай Маскоўска-Брэсцкай чыгункі. Гэта была таксама "эксцэленцыя", і эксцэленцыя, якая падарожнічала не інакш, як асобным вагонам-салонам. Становішча, што ён займаў, мяркую з упэўненасцю, давала яму вельмі высокія прыбыткі, якія прыхарошвалі ягонае жыццё, не зусім, як я ўжо казаў, прыкладнае.

Шалапут гэты, аднак, калі яму пасля сарака гадоў службы на Маскоўска-Брэсцкай чыгунцы прапанавалі ўступіць у Саюз рускага народа, падаў у адстаўку і перайшоў на паўночную чыгунку.

Высокі, вельмі прыгожы, ва ўсялякім разе, панскі, прадстаўнічы, дабрадушны, вясёлы, з шырокімі жэстамі, раздаючы направа і налева чаявыя, заўсёды дасканала апрануты, з разнастайнымі вытанчанасцямі, такімі, як сінія смокінгі, прыгожыя англійскія шэвіёты, шатландская бавоўна — ён выглядаў як сапраўдны Эдуард VII, на якога ў сталым веку стаў, зрэшты, вельмі падобны. У Парыжы, дзе бываў час ад часу, ён рабіўся прадметам авацый: у розных кабарэ, рэстаранах і іншых установах, якія, як вядома, Эдуард VII стала наведваў (так, напрыклад, у знакамітым парыжскім "Шабанэ" яшчэ ў мой час, паміж войнамі, звычайна паказвалі любімы пакой Эдуарда VII і ложак, якім ён карыстаўся), прымалі дзядзьку Браніслава за Эдуарда VII. Ён быў заўсёдным госцем у лепшых маскоўскіх рэстаранах, вядомым і агульным улюбёнцам у кожным кабарэ, у кожным гуртку венгерскіх ды цыганскіх танцорак і харыстак. Вядомая ў свой час у Маскве спявачка кабарэ салістка Аквамарына была ягонай утрыманкай. Ён еў, піў, паляваў, фліртаваў, траціў грошы і крыху працаваў — такім было ягонае жыццё.

Польскасць ён захоўваў слаба, павярхоўна. Па-польску размаўляў добра, польскія традыцыі і звычаі ведаў, шанаваў, культываваў і любіў. Напрыклад, напярэдадні Нараджэння Хрыстова неадменна бываў у нас (пасля смерці жонкі), і смяротнай абразай для яго было б, калі не быў бы да нас запрошаны. Пры Велікодным стале ён быў заўсёды адным з найбольш актыўных і вясёлых гасцей. Аднак на гэтым ягоная польскасць і заканчвалася, далей ён жыў у расійскім свеце і жыццём расійскім, маскоўскім. Ён не бачыўся ні з кім з польскай калоніі, толькі ў святы хадзіў у касцёл і часам прыязджаў да нас у Барок, часцей за ўсё на паляванне на качак або на аблогі на ваўкоў.

Я памятаю два эпізоды з майго жыцця, звязаныя з ім. Адзін — паляўнічы. Ён падараваў мне некалі цудоўную стрэльбу "Лебяды" (знакамітая чэшская фабрыка зброі), якую я атрымаў ад яго ў прыгожым палісандравым футарале. Гэта была курковая дубальтоўка, выкананая на фабрыцы для

нейкай з парыжскіх выстаў (можа 1900 года?), дзе яе і набыў мой дзядзька. Гэта быў цуд гравіроўкі: паляўнічыя сцэны, адлюстраваныя на ёй, былі шэдэўрам гравёрнага мастацтва. Біла гэтая стрэльба выдатна, бо ствалы "Лебяды" былі добрыя. Ва ўпрыгожанай скрынцы знаходзіліся ўсялякія патрэбныя да чысткі зброі і да падрыхтоўкі набояў прылады, таксама цудоўныя, выкананыя з прыгожай сталі. Гэты прэзент ён зрабіў у нейкі дзень – проста так, без усялякай нагоды, шырокім жэстам, які заўсёды і паўсюль быў характэрны для яго. Прапала для мяне гэтая стрэльба праз бальшавікоў, яе скраў, здаецца, наш малодшы лёкай беларус Яўген, хлопец з вёскі пад Барком, які ведаў, у якім месцы на гарышчы ў Маскве я яе схаваў.

(...) Дзядзька Браніслаў ужо з маладосці быў вядомым жартаўніком і гарэзай. Яшчэ хлопцам, калі ягоны бацька маршалкаваў у Віцебску, ён дазваляў сабе розныя выбрыкі. Адной летняй ноччу ён арганізаваў з прыяцелямі конную прагулку ў адамавых строях. Другім разам тыя ж самыя панічы паставілі на нейкай вялікай плошчы шырму з надпісам: "Уваход 5 капеек". Уваходзілі з аднаго боку, а выходзілі з другога. Кожны прабіваўся, заінтрыгаваны, пабачыць, што ж там за шырмай. Выходзіў жа са смехам, нікому, аднак, нічога не апавядаючы – на гэта, уласна кажучы, панічы разлічвалі, і ў гэтым заключаўся ўвесь жарт.

Што ж адбывалася за шырмай? Дзядзька Браніслаў трымаў у руках нешта, загорнутае ў хусцінку, і кожнаму, хто заплаціў 5 капеек пры ўваходзе і ўжо знаходзіўся ўнутры, паказваў той скрутак. Ён выцягваў з хустачкі адну лапку шчаняці і казаў: "Здаецца, што гэта сабачка, аднак жа не". Другую лапку – і зноў заяўляў: "Здаецца, што гэта сабачка, аднак жа не". І так далей, усе чатыры лапкі і хвост. Зрэшты, раздавалася апошняя заява: "Здаецца, што гэта сабачка, аднак жа гэта сучка." Сяляне бавіліся каля той шырмы выдатна.



Здымак, зроблены ў Барку ў другой палове 1900-х гадоў.
Стаяць (злева направа): Марыля Лядніцкая, Вацлаў Лядніцкі, Тадэвуш Федаровіч.
Сядзяць (злева направа): Соф'я Федаровіч, Артур Пачобут, Вацлаў Контрым

Аднойчы на балі, цалкам у стылі талстоўскага бацькі-гусара, пра якога, безумоўна, дзядзька Браніслаў не ведаў, "асістыраваў" ён прыгожай паненцы. На дэкальтэ яна мела залаты крыжык на ланцужку, які вісеў досыць нізка. Раптоўна дзядзька Браніслаў нахіляецца над дэкальтэ ўражанай панны, якая падняўшы рукі і адхіляючыся назад, выкрыкнула: "Што вы робіце?" – цалуе яе ў дэкальтэ паміж грудзей, дзе вісеў крыжык, і спакойна заяўляе: "Я цалую Хрыста, укрыжаванага паміж двума разбойнікамі".

Калі ён прыязджаў да нас у Барок на паляванне – часта праводзіў там пару дзён, аднак начаваў у сваім вагоне (наша станцыя Катынь знаходзілася ля самай брамы парку). Гэты найцудоўны вагон меў спальнае дзядзькава купэ, лазню, гасцявыя купэ і вялікі салон, дзе елі, гралі ў карты, седзячы ў зручных фатэлях. Вагон утрымліваў таксама, канечне ж, купэ кандуктара і купэ кшталту невялікай кухні. Я не ведаю, чаму ён лічыў за лепшае праводзіць ноч у вагоне, а не ў нас. Зараз я мяркую, што ён, напэўна, вазіў з сабою адну са сваіх прыяцелек, з якой праводзіў ноч больш прыемна, чым у нашым доме. Аднак пару разоў ён браў мяне ў свой вагон, і пару разоў, такім чынам, я рабіў начное падарожжа з Барка да Масквы. Не маю патрэбы адзначаць, якое гэта было для мяне задавальненне.

Дзядзька Браніслаў быў жанаты, і жонку ягоную я памятаю досыць добра, хоць памерла яна заўчасна, бадай, яшчэ ў XIX стагоддзі. Ажаніўся ён з паннай Ліксо, дачкой вядомага віцебскага фабрыканта. Сям'я Ліксо была рускай праваслаўнай сям'ёй латышскага паходжання. Цётка Пачобутава мела імя Вольга. Гэта была вельмі шляхетная, высокага росту кабета, спакойная, з рашучым і цвёрдым характарам, разам з тым надзеленая рысамі мудрай памяркоўнасці, якую выпрацавала ў ёй сумеснае жыццё з такім мужам.

Яны мелі дзве дачкі – абедзве вельмі высокія, з вельмі ладнымі формамі, зграбныя, з тонкімі косткамі і звязкамі, дасканала складзеныя. Абедзве, канечне ж, праваслаўныя. (Перад Канстытуцыяй 1905 года

Расія распрацавала сістэму русіфікацыі сваіх нацыянальных меншасцяў пры актыўнай дапамозе праваслаўнай царквы. Дзеці ад змешаных шлюбаў, нават калі ніхто з бацькоў не быў праваслаўным, павінны былі быць ахрышчаны па праваслаўным абрадзе. Асабліва для палякаў такі стан рэчаў быў крыніцай клопату і смутку. Яны часта спрабавалі абыйсці яго з дапамогай розных выкрутасаў, што было, несумненна, вельмі небяспечна як для бацькоў, так і для дзяцей).

Малодшая – Зінаіда, якую называлі Зінай – брунетка, больш прыгожая і больш інтэлігентная з выгляду, чым старэйшая Вольга, якую ўсе называлі Люняй, пасля заканчэння пансіёна паступіла ў Пецярбургскі ўніверсітэт на медыцынскі факультэт, які і скончыла. Тады як раз пачаўся час, калі кабеты ўсё часцей сталі атрымліваць вышэйшую адукацыю. Гэта была вельмі салідная, паважная, улюбёная ў сваю прафесію працаўніца і, натуральна, абсалютна зрусіфікаваная, аднак, як кабета выхаваная, прагрэсіўная, ліберальная (калі казаць пра яе палітычныя погляды), вельмі талерантна скіраваная ў нацыянальным сэнсе. Яна ведала польскую мову і ахвотна яе ўжывала. З сям'ёй бацькі яе звязвалі добрыя адносіны, хоць крэўных тых яна бачыла досыць рэдка. Падчас вучобы яна жыла ўвесь час у Пецярбургу, потым, ужо пасля трыццаці гадоў, выйшла замуж за выдатнага маскоўскага акуліста, рускага, доктара Страхава, сур'ёзнага ўрача і вельмі прыстойнага чалавека, з якім жыла ў Маскве. Яна бывала з мужам за мяжой. Апошні раз я бачыў яе каля 10 год назад (тут я прытрымліваюся старога календара маіх мемуараў), калі яна з-за мяжы вярталася да бальшавікоў, дзе стала жыла.

Не думаю, што яна калі-небудзь бывала на вёсцы, ці то ў Пачобутаў, Славінскіх, Свяцкіх або Багдановічаў. Яна бачыла і ведала галоўным чынам нас, свайго дзядзьку Антонія ў Пецярбургу і дзядзьку Юзафа Пачобута, які вельмі часта прыязджаў да нас, да сваіх братоў Браніслава і Антонія, а таксама да сыноў Артура і Міхала, што жылі ў Маскве, і да сваёй дачкі Марылькі, якая выйшла замуж у Маскве.

Зіна наведвала наш дом у Маскве і ў Барку досыць часта, але непараўнальна радзей, чым яе старэйшая сястра Люня, якая з нашага дому перад сваім замужжам, уласна кажучы, не выходзіла. Зіну звязвалі адносіны блізкага сяброўства з абодвума яе кузэнамі, Артурам і Міхалам. Я любіў яе, як і ўсе ў сям'і, і пазней, у маладосці, цаніў яе прагрэсіўнасць, адсутнасць усялякага шавінізму, лагодную і спакойную паблажлівасць да грамадскіх, а таксама нацыянальных людскіх рысаў. Яе расійскасць была чыста побытавая, пазбаўленая ўсялякай агрэсіўнасці. Уласна кажучы, гэта была, калі казаць па-расійску, касмапалітка.

Пры ўсіх, безумоўна, вельмі каштоўных рысах Зіны, Люня была больш цікавай і, на маю думку, больш багатай асобай. Такая ж, як Зіна, высокая, калі казаць пра твар, безумоўна, менш прыгожая за Зіну, але затое фігуру яна мела вельмі добра складзеную, хоць і буйную, аднак без перабольшвання, далікатны колер твару, доўгія прыгожыя рукі, дасканалыя ногі. Была тонкая ў бёдрах, асабліва ў стасунку да свайго росту, і, здаецца, надзеленая тэмпераментам. Абедзве яны былі на нейкі дзесятак, а можа і болей гадоў маладзейшыя за маю маці, аднак, нягледзячы на гэта, асабліва Люню звязвала з маёй маці дружба, але дружба асаблівая.

Люня была яшчэ больш, нават, значна больш, руская, чым Зіна. У Зіне кожны мог бачыць, безумоўна, тыповую рускую інтэлігентку: яна адчувала і думала па-расійску, гэта зразумела, але зрабілася яна рускай сілай факту, я б сказаў, сілай абставінаў – Масква, школа, рэлігія стварылі яе ў гэтым сэнсе, аднак, не зрабілі з яе рускай імперыялісткі, рускай па праграме, яна не мела ў сабе рускага нацыянальнага імператыва. Як кабета наскрозь прагрэсіўная, адданая медыцыне, яна па-простуу ўвогуле не прымала да сэрца сваю нацыянальную адметнасць – была рускай і ўсё на тым. Люня – цалкам інакш. Усё рускае жыло ў ёй жыццём буйным, багатым. Рускасць перамагла ў ёй канчаткова, безапеляцыйна. Праваслаўе стала для яе жывой рэлігіяй, яна часта хадзіла ў царкву, спавядалася, прычашчалася, наведвала розных знаёмых манашак у манастырах, як тых, што жылі ў цэрквах у Маскве, так і пад Масквой. Яе вызначала агрэсіўная рускасць і нават варожасць да палякаў! Яна не любіла палякаў, адзінае выключэнне складалі мы, а разам з намі і ўвесь наш інтымны польскі свет. Найбольш блізкіх родзічаў і знаёмых палякаў, якіх бачыла ў нас у Маскве ці ў Барку, яна любіла і цаніла. Гэтае выключэнне было такім вялікім для яе, што і прывязанасць яе да нас зрабілася адкрыта жарстнай, нястрыманай, я б нават сказаў, афарбаванай пэўным эратызмам, паганскай. Мне не раз здавалася, калі я праглядаў яе лісты (гэта адносіцца да Кракава, калі я пачаў пісаць мемуары і меў у руках усю сямейную карэспандэнцыю), што яна доўгі час кахала майго бацьку, але, я ўпэўнены, падсвядома. Гэтае каханне не толькі не перашкаджала яе прыхільнасці да маёй маці, сапраўды пажыццёвай прыхільнасці без рэшты, без найменшай агаворкі, аднак, можа, нават, прыхільнасць тую ўзмацняла. Таксама адчула любасць яна і да нас, дзяцей. Як жа цешылася Люня з кожнага нашага поспеху, з кожнай нашай радасці! Яна была захопленай прыхільніцай красамоўнага таленту майго бацькі, цудоўныя спевы маёй маці

любіла без памяці, магла слухаць іх цэлымі гадзінамі з узрушэннем, са слязьмі, з душой, перапоўненай удзячнасцю. Як яна радавалася, калі аднойчы ў VII класе я напісаў нейкае вельмі ўдалае літаратурнае практыкаванне! Я добра памятаю гэтае практыкаванне на тэму: "Чаму вялікіх людзей нашчадкі ацэньваюць лепш, чым іх сучаснікі". Я пісаў яго з вялікім стараннем, адбывалася гэта ў час, калі ўва мне абудзіліся літаратурныя схільнасці. Успамінаю, што бацька зацікавіўся гэтым практыкаваннем, узяў яго да сябе, пачаў сам чытаць, пасля чаго, вельмі задаволены маёй працай, прачытаў яго ў голас некальком памочнікам, якія як раз былі ў ягоным кабінеце. Яно мела ў доме вялікі поспех, памятаю, зрэшты, што і ў гімназіі я атрымаў за яго пяцёрку з двума мінусамі — гэта была адна з чатырох пяцёрак, усіх з мінусамі, на цэлы клас — мы мелі вельмі патрабавальнага і строгага настаўніка. Падчас чытання ў доме знаходзілася і Люня, я ж сядзеў у сваім пакоі, усхвалявана чакаючы, што скажа бацька, ва ўсім для мяне найвышэйшы аўтарытэт. І вось не забудуся выбуху радасці Люні з тае прычыны. Яна ўварвалася ў мой пакой з крыкамі захаплення і запалу. У гэтым практыкаванні, як я прыпамінаю, сярод вялікіх людзей, якіх я прыгадаў у якасці прыкладаў, што ілюструюць тэму, я таксама ўспомніў Хрыста, як самы выразны прыклад. У той час я не быў знаёмы з тэалагічнымі праблемамі. Таксама яна радавалася, калі праявіўся, зрэшты, вельмі рана, вялікі скульптурны талент маёй сястры. Сапраўды, яна жыла нашым жыццём, радасцямі і клопатамі гэтага жыцця. Зрэшты, як успамінаю, ажно да канца сусветнай вайны клопатаў мы амаль не ведалі, былі абсалютна шчаслівыя. Выключэнне складалі толькі хваробы, ды і тыя адносна рэдка наведвалі нашу сям'ю, надзеленую ад прыроды дасканалым здароўем, якая, у дадатак, жыла ва ўмовах у сэнсе гігіенічным ідэальных з усіх бакоў, у здаровым клімаце, пад наглядам знакамітых лекараў, штогод наведваючы курорты, не кажучы ўжо пра здаровы лад нашага жыцця ў Маскве і на вёсцы, без усялякіх эксцэсаў, з шыкоўнай, але і вельмі рацыянальнай кухняй, без злоўжывання алкаголем, без тытуню, вяла лад жыцця заўсёды рухавы і насычаны рознага кшталту спартыўнымі заняткамі.



Вацлаў Лядніцкі на кабыле Манон у Барку. Фота 1910-х гадоў.

Люня не мела вышэйшай адукацыі (яна скончыла пансіён), таксама не была асабліва начытанай, хоць сваю рускую літаратуру ведала добра. Цікавілася яна, аднак, драматычным тэатрам, операй, музыкай, выяўленчым мастацтвам, мела вялікую прыхільнасць да народнага і ўжытковага мастацтва, таксама сама добра малявала на парцэляне, выпальвала па дрэве, займалася пераплётнай справай — канечне ж, па-аматарску, для ўласнага задавальнення.

Тэатр Станіслаўскага (знакаміты маскоўскі драматычны тэатр, да сённяшняга дня вядомы ва ўсім свеце) адыгрываў вялікую ролю ў яе жыцці. Яна мела там нейкія свае знаёмствы і заўсёды трапляла на прэм'еры — прывілей, які ў тыя часы атрымаць было вельмі цяжка. Адносіны з гэтым тэатрам у хуткім часе зрабіліся яшчэ больш сяброўскімі, бо ў 1908 годзе яна выйшла замуж за хірурга, які належаў да групы лекараў, што апекавалі гэты тэатр.

Рускую літаратуру, як я казаў, яна ведала добра і любіла яе. Аднак, улюбёнцамі яе былі пісьменнікі, якіх я ніколі асабліва не любіў, напрыклад, у першую чаргу, Чэхаў. Зрэшты, яна сама мела вялікае пачуццё гумару, здольнасці апавядальніка і, безумоўна, пачуццё літаратурнага стылю — яе лісты, заўсёды вялікія, дакладныя, вельмі рэалістычныя ў выкладанні ўсялякіх здарэнняў і ў той жа час сардэчныя, калі казаць пра яе пачуцці да нас, напоўненыя суцэльным доказам выразнага літаратурнага таленту.

Яна была ўпартая, заўзятая, часта нястрыманая ў сваіх эмоцыях і вельмі просталінейная. Нас яна любіла

і, як вынік, любіла нашых прыяцеляў і ненавідзіла кожнага, хто нядобразычліва ставіўся да нас. Такіх людзей у першай палове нашага жыцця амаль не было ні ў польскім, ні ў расійскім асяродку. З пачаткам вайны распачалося нацдэмаўскае ганенне на майго бацьку з усімі гнюснасцямі, якія нацдэмы дапусцілі ў адносінах да яго. Люня гэта глыбока адчувала, ведала пра гэта і ў душы праклінала не толькі нацдэмаў, але і ўсю Польшчу.

Свае варожыя адносіны да палякаў і да польскасці яна тлумачыла дваіста. Першая прычына была выпадковая і вельмі асабістая. Люня казала, што сваёй непрыхільнасцю да Польшчы абавязана свайму дзядзьку Юзафу Пачобуту. Вышэй я ўжо вычарпальна пісаў аб ім, тут адзначу толькі тыя ягоныя рысы, якія ў выпадку Люні адыгралі негатыўную ролю: неабвержнасць і жорсткасць. Як я ўжо ўспамінаў вышэй, ён глыбока шанаваў старэйшага брата Антонія, паўстанца 63 года. Брата Браніслава вельмі любіў, аднак павагі, якой надзяляў, напрыклад, Антонія, да яго не меў. Нягледзячы на ўсю сваю кампраміснасць, якая стала прычынай таго, што менавіта пад расійскім прыгнётам ён адчуваў сябе цалкам добра і, верагодней за ўсё, пра мінулае незалежнай Польшчы думаў мала, можа толькі рамантычна – жыў сабе жыццём Белай Русі і нашым маскоўскім жыццём – ён не мог успрыняць шлюбу Браніслава, і абедзве ягоныя праваслаўныя дочкі былі яму соллю ў воку. Ён глядзеў на іх як на нейкія дзічкі на шляхетным пладовым дрэве. Ён меў вельмі высокае меркаванне пра сям'ю Адляніцкіх-Пачобутаў і, натуральна, “веліч” гэтай сям'і была, на ягоную думку, пераважна польскай, звязанай з прыгожай мінуўшчынай, з Рэччу Паспалітай. Таму дзве праваслаўныя Пачобутаўны, якія гаварылі па-расійску і лічылі сябе рускімі, глыбока ранілі, дражнілі і гнявілі яго, прычым, што цікава, у значна большай ступені, чым паўстанца Антонія! У сваіх сутыкненнях з імі і іхнымі бацькамі ён прымусова навязваў ім польскасць як абавязак, як маральны і радавы абавязак. Ён імкнуўся змусіць іх да польскасці, нагаворваў на праваслаўе, папоў, царкву, навязваў польскае чытанне, не аднойчы сам, калі Люня і Зіна былі яшчэ дзяўчынкамі, вучыў іх польскай мове. Але рабіў ён гэта нязграбна, няўмела, гнявіўся, крычаў, высмейваў, асабліва Люню, за яе “тупасць” і адсутнасць здольнасцяў да навукі. Увогуле гэта была не тупасць, а ўпартасць, заўзятасць, абурэнне і злосць. Зіна, больш апатычная, грубая і лімфатычная, не прымала да сэрца крыкі і гнеў дзядзькі, затое Люня гадавала ў сабе крыўду, якая з гадамі ператварылася ў выразную антыпатыю да ўсяго польскага.

Другая, больш агульная, прычына гэтай антыпатыі была матывавана, безумоўна, a posteriori: Люня не магла зносіць пэўных рысаў польскага характару, якія, асабліва ў сутыкненні з рускім характарам, праяўляюцца больш выразна. Я ўжо шмат пра гэта пісаў у маіх працах, прысвечаных руска-польскай тэматыцы, таму не буду тут доўга пра гэта гаварыць. З аднаго боку польская пыха, а з другога “польскае падхалімства” – гэтыя рысы, па паняцці рускіх, характарызуюць нас. Рысы гэтыя вызначыла ўся вялікая руская літаратура – Талстой у першы перыяд свайго жыцця, Дастаеўскі, Тургенеў і шмат іншых, рысы гэтыя не раз падкрэслівала і заходняя літаратура.

Мушу дадаць, што і мой уласны вопыт пацвердзіў гэтую думку, бо нашае грамадства падчас абедзвюх войнаў і ў міжваенны час дало, на жаль, ажно занадта таму ўзораў.

Няма сумнення, што нешчаслівыя і ненармальныя палітычныя варункі, створаныя ў выніку падзелаў, катастрафічны заняпад старой магутнай і вялікай польскай дзяржавы, знявага, якую зведалі палякі ў сябе і за мяжой, развілі ў нашым народзе гэтыя рысы. Мне ўспамінаюцца словы Міцкевіча, звернутыя да Генрыеты Анквіч: “Доўгая няволя, цяжкае чужаземнае ярмо, навязанае якой-небудзь народнасці, з'яўляюцца не толькі страшэнным няшчасцем, якое месціцца ў слове “няволя”, але яшчэ больш страшэнны іх вынік тым, што калі яны доўга існуюць, то прыводзяць да заняпаду гэтага народа, пазбаўляюць яго рысаў шляхетнасці, робяць яго злосным, брудным, хцівым, меркантыльным, зайздросным. І толькі ў гэтым рэчышчы трэба шукаць плямы ганебнай схільнасці, што сталіся як бы другой натурай яўрэяў, грэкаў і нават у пэўным сэнсе італьянцаў. Мы шкадуем іх, але не асуджаем, бо хто ведае, ці не станем хутка самі такімі, калі нас не збавіць ад гэтага міласэрны Бог”.

(...) Люню не маглі змяніць ніякія дыскусіі, аргументы, вялікі аўтарытэт майго бацькі, якога яна абагаўляла, глыбока польская атмасфера нашага дому, шматлікія сем'і Пачобутаў і Багдановічаў – нішто не магло на яе паўплываць у сэнсе яе нацыянальнай арыентацыі. Яна размаўляла па-польску, аднак дрэнна і неахвотна; канечне, усё разумела, магла вольна чытаць, аднак не жадала гэтага.

Такімі ж самымі былі яе адносіны да каталіцкага касцёла – яна не любіла ксяндзоў. У нашым доме яна іх шмат спатыкала, раней у нас часта бываў маскоўскі дэкан кс.Оттэн, яшчэ часцей – ягоны наступнік кс.Антоні Васілеўскі, які мяне і маю сястру падрыхтаваў да першай камуніі і які заўсёды бываў у нас на куццю, а таксама асвячаў велікодны стол. Пазней дэкан кс.Зялінскі таксама не аднойчы бываў нашым госцем. Не раз у нас жылі біскупы Сымон, Цяпляк; у Барку нас часта адведваў біскуп Дзенісевіч.

Бываў у нас арцыбіскуп Шэмбек, а арцыбіскуп Роп у 1917 годзе правёў у нас у Маскве некалькі тыдняў. Люня, канечне ж, захоўвала адносна іх усе належныя формы пачцівасці: цалавала руку, імкнулася размаўляць з імі па-польску, аднак адчувалася, што яна прымушала сябе, бо нашага клеру не любіла. Выключэннем для яе быў толькі ксёндз арцыбіскуп Роп.

Мой бацька звычайна наймаў каго-небудзь для працы ў сваёй бібліятэцы. Гэта была сінекура (цёплае месцейка), якой карысталіся палякі самых розных гатункаў: студэнты ўніверсітэта, старэйшыя людзі, літаратары, палітыкі, як, напрыклад, Я.Куртаноўскі. Сінекура палягала на тым, што кожны год хто-небудзь складаў каталог бібліятэкі. Дзеля гэтай мэты ён працаваў дзве гадзіны ў салоне, з'ядаў з намі сняданак або абед і браў некалькі дзесяткаў рублёў штомесяц за сваю працу. Прысутнасць гэтых людзей у доме часта надакучвала нам. Некаторыя былі вельмі мілыя і любімыя намі. Аднак часам надараліся асобы менш прывабныя. Стамляла нас – маю маці, нас, дзяцей, і нашых гувернантак – гэтая пастаянная прысутнасць, уласна кажучы, чужых людзей, з якімі мы часта не мелі акрамя абеду ніякіх кропак сутыкнення.

(...) Калі падчас вайны наш дом з ранку і неаднойчы да позняй ночы захлынаўся хвалямі польскай эміграцыі, Люня значна аддалілася ад нас і штораз радзей нас адведвала. Зрэшты, была таксама іншая нагода для такога аддалення – яна працавала санітаркай у шпіталі Чырвонага Крыжа і аддавалася гэтаму занятку з усёй энергіяй сваёй жарснай натуры. Такім чынам яна ўжо не раз спаўняла свой патрыятычны абавязак: падчас руска-японскай вайны пасля заканчэння курсаў санітарак яна ў якасці сястры міласэрнасці накіравалася ажно на манджурскі фронт і заставалася там да канца вайны.


Аляксандр Лядніцкі (бацька Вацлава Лядніцкага). Фота 1900-х гадоў

Яна вызначалася вялікай улюблівасцю. Яна ўлюблялася ў шмат якіх супрацоўнікаў майго бацькі, натуральна, толькі ў рускіх; за аднаго з іх – Мікалая Іванавіча Анцыферава (гэта была постаць, зрэшты, вельмі забаўная) – у свой час ледзьве не выйшла замуж. Аднак замужжа ёй прыйшлося чакаць досыць доўга, толькі калі ўжо набліжалася саракагоддзе яна выйшла за ... шведа! Аднак за шведа цалкам зрусіфікаванага, Карла Карлавіча Івенсена. Гэта быў вельмі прыстойны, сумленны і ... вельмі нудны чалавек. Пасля заканчэння Маскоўскага ўніверсітэта ён застаўся асістэнтам-хірургам у клініцы Маскоўскага ўніверсітэта, дзе працаваў са студэнтамі і выкладаў. Ён выдаў дзесяць навуковых прац. Падчас руска-японскай вайны быў паранены ў лаайянскай бітве – тады пад ім быў забіты конь. Ён дасканала ведаў нямецкую мову – так, што калі бываў за мяжой, нямецкія лекары сцвярджалі, што ягоная нямецкая мова – гэта музыка ў параўнанні з сучаснай нямшчызнай. Гэта быў добры хірург, але пасрэдны чалавек. Пасля шлюбу яны адчынілі хірургічную лячэбніцу, галоўным адміністратарам якой стала Люня. Івенсен быў лютэранінам, аднак іхны шлюб, хоць ужо тады ў гэтым пытанні ў Расіі панавала вольнасць, адбыўся ў царкве, і, здаецца, Івенсен па жаданні Люні прыняў праваслаўе.

На працягу года быў адзін дзень, у які Люня ўсёй душой аддавалася нашым традыцыям і звычаям: пярэдадзень Божага Нараджэння. Яго святкавалі ў нашым доме вельмі ўрачыста і гэта быў сапраўды найцудоўнейшы ў нашым жыцці дзень. Рэдка калі бацькі падчас святаў Божага Нараджэння знаходзіліся не ў Маскве – два разы мы ездзілі ў Кракаў і Закапане (у 1904 і 1905 гадах), і бадай што аднойчы мой бацька праводзіў свята ў Канах, увесь астатні час мы заўсёды былі дома. Я ўжо апісаў гэты дзень у нашай сям'і, тут адзначу толькі, што куццю мы святкавалі па-крэсоваму.

Люня прыходзіла на свята са сваім бацькам, а потым і з мужам. З вялікім узрушэннем яна дзялілася з намі аблаткамі, са шчырай святасцю ела куццю, і ў гэты вечар мы ўвесь час размаўлялі па-польску. Івенсен нас раздражняў, асабліва мяне, сваёй расійшчынай і паблажліва-цікаўнай мінай, з якой вельмі асцярожна прыступаўся да куцці і ўсіх астатніх, дзіўных для яго страваў. Гэта мне псавала ўвесь святочны настрой. Я бачыў, што і бацька быў злы, маці засмучаная, бо ўсё ж такі па яе запрашэнні з'явіўся гэты госць. Люня ж старалася як магла, каб змякчыць прыкры эфект, выкліканы, зрэшты, без найменшага дрэннага намеру з боку таго пачціўца.

Аднойчы я націснуў на маці, каб іх на свята не запрашаць. Яна саступіла майму капрызу, якога я зараз вельмі саромлюся, бо, Божа мой, з майго боку гэта быў адзін толькі эгаізм – размова ішла толькі аб маім добрым настроі, аб маім задавальненні і ні аб чым больш. Люня смяротна абразілася. На працягу некалькіх тыдняў яна не паказвалася ў нас. І калі, нарэшце, дазволіла вымаліць у сябе прабачэнне, прызналася маёй маці, што ўвесь перадсвяточны вечар і першы дзень свята правяла ў слязах, з галаўным болем, што з мужам увогуле не размаўляла і не магла знайсці сабе месца ад роспачы, журбы, смутку і праніклівага пачуцця адзіноты.



Марыя Лядніцкая (маці Вацлава Лядніцкага) у Барку. Фота канца 1900-х гадоў

Некалькі разоў перад сваім замужжам яна ездзіла з маёй маці ў Парыж, а таксама зімой на Рыўеру ў Францыю, восенню ж – у Б'ярыцца. Падчас аднаго з гэтых падарожжаў, менавіта зімой, недалёка ад Барка сыйшоў з рэек іхны цягнік, і спальны вагон, у якім спалі мая маці і Люня, зваліўся з насыпу і перакуліўся! На шчасце, ні маёй маці, ні Люні нічога дрэннага не зрабілася, апроч толькі таго, што маці вельмі моцна ўдарылася. Праз некалькі гадоў яна памерла ад раку. Урачы дапускалі, што яе хвароба магла з'явіцца па прычыне менавіта гэтага выпадку.

Мая маці паміралa ў Варшаве на прыканцы 1922 года і памерла 5 студзеня 1923 года. Бацька, жадаючы ўцешыць яе апошнія тыдні, адправіў з Масквы ў Варшаву Люню, што было ў тыя часы нялёгкай справай ні для яе, ні для бацькі ў сэнсе пераадолення ўсіх палітычных цяжкасцяў. Люня прыехала без вагання і была з намі ў Варшаве да канца студзеня, даглядала маці разам з маёй сястрой з усёй клапатлівасцю, на якую толькі была здольная. Тады мы з'елі нашу "апошнюю" самотную куццю – маці ў той дзень адчувала сябе значна лепей і магла нават сядзець за сталом. Апошні пробліск прытомнасці, выкліканы быццам нейкім цудам, адбыўся напярэдадні Новага Года – мы ўсе прыйшлі да яе ложка, і адразу пасля дванаццатай гадзіны яна страціла прытомнасць і не прыходзіла ў сябе ажно да смерці. Люня паклапацілася пра падзел матчынай біжутэрыі паміж мною і маёй сястрой – да канца споўніла абавязкі перад маёй маці.

Я памятаю, што гэтае знаходжанне Люні ў Варшаве было цяжкім і па іншай прычыне. Гэта быў перыяд самых шалёных нападаў нацдэмаў на майго бацьку. Чаго толькі аб ім не гаварылі! Якой толькі брыдоты не пісалі! Адным з найчасцей паўтараных паклёпаў, якія разносіліся па ўсёй Варшаве, быў той, што бацька дзеля грошай ажаніўся ў Маскве з багатай рускай купчыхай, што мы, гэта значыць, мая маці, сястра і я, былі праваслаўнымі. Затэрарызаваныя дзікім нацдэмаўскім цкаваннем у прэсе, якое знішчала бацьку, а таксама адносінамі да яго значнай часткі варшаўскага грамадства, мы жылі пад прыгнётам і пастаяннай небяспекай таго, што рэха гэтых напасцяў азмрочыць апошнія хвіліны нашай каханай матулі, якая шмат гадоў цярпела пакуты, звязаныя са шлюбам яе ўласных бацькоў – і гэта магло быць выкарыстана нацдэмаўскімі паклёпнікамі. Прысутнасць Люні ў нашым варшаўскім доме з гэтай прычыны стала, уласна кажучы, небяспечнай – мы ўжо тады добра ведалі польскія языкі, якія не мелі літасці нават ля труны! Гэта ж было дадзена зведаць мне яшчэ раз ля трагічнай труны майго каханага бацькі!

Люня адчувала гэтую небяспеку і задала сабе з-за яе працу, вялікую працу ўдасканалення сваёй польскай мовы. Пры чужых, калі так здаралася, што яна вымушана была быць у іх кампаніі, яна размаўляла па-польску. Божа мой, уяўляю сабе, з якім пачуццём да "вольнай" Варшавы вярталася яна ў Маскву, пакідаючы нас у гэтым асіным гняздзе, якое, зрэшты, да смерці загрызла майго бацьку.

Прыгадаем, што літаральна ў снежні, 16.XII.1922, быў забіты прэзідэнт Нарутовіч. Гэтае забойства было страшэнным прыкладам таго, да чаго нацдэмы маглі давесці сваё непрытомнае цкаванне. Люня глядзела на ўсё, што адбывалася вакол нас, са зразумелым жахам і агідай.

Кожны год 5 студзеня ў гадавіну смерці маці да бацькі ў Маскву прыходзіла тэлеграма ад Люні, а пасля яе – доўгі ліст. Пасля смерці бацькі я атрымаў ад яе ліст, які не забуду ніколі – яе роспач і патэтычны гнеў да Польшчы не мелі межаў.

Яна падтрымлівала з намі кантакт, пакуль магла. Я памятаю яе лісты, у якіх яна пыталася пра маіх дзяцей, жонку, навуковую працу, натуральна, пра маю сястру Марылю, якую асабліва любіла. І, нарэшце, наступіла амаль дваццацігадовае маўчанне, выкліканае палітычнымі варункамі напярэдадні апошняй вайны і, канечне ж, самой вайной. Толькі тут, у Амерыцы, некалькі гадоў таму назад (бадай, у 1957 г.) я раптам атрымаў ад яе ліст. Гэта была вялікая неспадзяванка, бо я ўжо думаў, што Люня памерла.

(...) Перш за ўсё я паведаміў Люні пра смерць маёй сястры ў 1947 годзе. Колькі ж болю зноў выклікала ў яе гэтае паведамленне! Як падрабязна я вымушаны быў апісаць жыццё і смерць Марылі ў Амерыцы!

Мы з ёю перапісваемся да гэтага часу. Нічога ў пачуццях Люні не змянілася. Яе адданая дружба з нашай сям'ёй сканцэнтравалася на мне. У сваіх лістах яна ўвесь час вяртаецца ва ўспамінах да нашага дома ў Маскве, які і зараз там стаіць. Муж Люні памёр, яе сястра і швагер таксама памерлі. Перад смерцю Зіна адпісала ёй свой дом, які знаходзіцца непадалёк ад Масквы, і Люня праводзіць там лета. Зімой яна жыве ў Маскве, аднак нікога з агульных старых знаёмых і прыяцеляў там ужо няма. Апроч мяне яна перапісваецца з Артурам Пачобутам, які заканчвае сваё жыццё ў прытулку для састарэлых у Кельцах (...)

* * *

Найбольш тыповай, характэрнай і разам з тым пацешнай постаццю ва ўсёй сям'і Пачобутаў быў Юзаф, самы малодшы сын Фелікса. З усіх Пачобутаў з ім мы жылі бліжэй за ўсё, са старэйшага пакалення менавіта ён найчасцей бываў нашым госцем. Апроч таго, ягоны старэйшы сын Артур, які цесна зжыўся з намі, з 1903 г. быў памочнікам у майго бацькі і супрацоўнічаў з ім у Маскве ажно да 1918 г. як адвакат і паплечнік на ніве грамадскай дзейнасці. Малодшы сын Юзафа Міхал некалькі разоў праводзіў у нас у Барку летнія вакацыі, у Маскве ж, дзе ён скончыў тэхналагічны інстытут, часта, ажно да самага свайго шлюбу, бываў у нашым доме. Дачка Юзафа Марыя, так званая Марылька, вельмі прыгожая, недзе ў 1907 або 1908 г. выйшла замуж за супрацоўніка майго бацькі Адама Шафкоўскага. Гэта яшчэ больш звязала дзядзьку Юзафа з намі.

Як самы малады са свайго пакалення Пачобутаў, пра "бляск маршалкоўскага дома" і мінулае жыццё сваіх бацькоў дзядзька Юзаф ведаў ужо хутчэй з апавяданняў і можа таму больш за ўсіх сваіх братоў і сясцёр любіў апавядаць пра гэта. Ён рамантызаваў мінулае, і хоць яго амаль не ведаў і не мог памятаць, рабіў з яго свайго роду жыццёвую базу, аднак базу досыць асаблівага кшталту. У ім жыло нейкае няпэўнае паняцце пра веліч роду Пачобутаў увогуле і пра значэнне дома ягоных бацькоў у прыватнасці. Колькі разоў, як памятаю, ён казаў мне: "Людзі выхваляюцца старажытнасцю сваіх родаў, а калі быў пачатак Адляніцкіх-Пачобутаў – тое хіба аднаму Богу вядома!"

Ён вельмі выхваляўся гербам Пачобутаў "Пагоня". Генеалогію сваіх сучаснікаў ведаў адменна, усялякія сваяцтвы выводзіў у імгненне вока. Ён любіў успамінаць аб тым, што сярод продкаў ягонай жонкі (з дому Станішэўскай) былі Тышкевічы. Ён ніколі не забываўся пра астранома Марціна Адляніцкага-Пачобута, аднак значна болей за рэктара Віленскай Акадэміі яму імпанаваў нейкі Адляніцкі-Пачобут, шамбелян Станіслава Аўгуста. Можа быць, ён пераблытаў тытул "астранома яго каралеўскай міласці" з шамбелянам, а можа Марцін Адляніцкі-Пачобут таксама меў тытул шамбеляна. Канечне ж, не забываўся ён і пра згадку ў "Пане Тадэвушы".[4]

Я памятаю два ягоныя цудоўныя выбрыкі, звязаныя з Марцінам Адляніцкім-Пачобутам. Як я ўспамінаю, ён часта прыязджаў у Маскву або каб нас адведаць, або каб правесці некалькі тыдняў у сваіх дзяцей, або ў сувязі са сваім здароўем – ён меў некалі цяжкую аперацыю ў клініцы Маскоўскага ўніверсітэта. У Барку ён бываў кожны год па некалькі разоў. Мы часта бачылі яго ў Талачыне, таксама разам наведвалі Горы. Дык вось аднойчы, калі ён прыехаў у Маскву, а мне было каля 12 гадоў і я ўжо добра ведаў і разумеў сёе-тое наконт "велічы роду", з якога паходзіў па кудзелі, ён паведаміў мне, што я мушу ехаць з ім у Крэмль і наведаць музей у так званай Гранавітай і Зброевай палаце. Я некалькі здзівіўся, але ў сваю чаргу быў рады паглядзець маскоўскі арсенал, якога ў той час я яшчэ не ведаў.

Мы селі ў санкі і паехалі. У маскоўскім арсенале знаходзілася, як вядома, шмат польскіх памятак і рэчаў, у свой час забраных з Варшавы, Вільні ды іншых гарадоў. Мы хадзілі з дзядзькам па залах і ўважліва аглядалі кожную рэч. Аднак я бачыў і адчуваў, што дзядзька нешта спецыяльна шукаў, і, не знайшоўшы, пачаў выказваць нецярплівасць, нешта мармытаў, паціскаў плячыма, выяўляючы штораз большае незадавальненне. Я моўчкі хадзіў за ім. Раптам ён спыніўся, прыжмурыў вочы, углядаючыся ў

нейкі бюст, размешчаны досыць высока на паліцы, выцягнуў пенснэ, усклаў яго на нос і, раптам схапіўшы мяне гвалтоўным рухам за локаць, пацягнуў у накірунку да таго бюста. Ягоны твар выказваў узрушэнне і трыумф, аднак ён нічога не казаў. Ён спыніўся каля бюста і пачаў азірацца наўкола. Калі ён заўважыў, што вакол нас сабралося некалькі асобаў, ён адштурхнуў мяне ад сябе, тэатральным жэстам паказаў на бюст і на ўвесь голас раўнуў па-расійску: "Ну, смотри на своего деда!" Пасля чаго з выразам непераказнага задавальнення, пагарды, пыхі і трыумфу агледзеўся навокал. "Дзядзечка, чаму Вы гаворыце са мной па-расійску?" – запытаўся я нясмела. І дадаў: "А хто гэта такі?" "Эт! – буркнуў ён з непрыхаваным раздражненнем. – Гэта Марцін Адляніцкі-Пачобут, твой прадзед. Глядзі і вучыся..."

Толькі значна пазней я ўцяміў, чаму ён звярнуўся да мяне па-расійску: справа заключалася ў публічнасці, у тым, каб усе зразумелі! Зразумець гэта было не цяжка, бо ў наступныя гады ён зноў вазіў мяне ў арсенал абы толькі паглядзець на Марціна – і перад ягоным бюстам заўсёды паўтаралася тая ж самая сцэна.

Часам я пікіраваўся з дзядзькам: "Калі Марцін Адляніцкі-Пачобут быў ксяндзом, то як я магу быць ягоным праўнукам?" Угневаны дзядзька мне на гэта нічога не адказваў.

(З ліста Люні я зараз даведаўся, што яе ён таксама вазіў у Крэмль, каб паказаць бюст Марціна. І – рыса, характэрная для Люні, якая напісала мне: "Бюст мне не падабаўся – тыповы езуіцкі твар аскета").

Аднойчы ён прыехаў у Барок і са звычайным для сябе ажыўленнем пачаў апавядаць (а апавядаць ён любіў жарсна) пра знаёмых, крэўных, пра апошнія свае спатканні. Гэтых спатканняў ён заўсёды меў безліч, бо дзядзька Юзаф увесь час быў у дарозе. "Вось уявіце сабе, што еду я да пані Снядэцкай, да той, ведаеце, якая... – далей ішоў генеалагічны каментар. – Прыязджаю, вылажу з фаэтона, ажно тут сама пані Снядэцкая выходзіць на ганак і, убачыўшы мяне, кажа: "Снядэцкая вітае Пачобута..."

Эфект быў ашаламляльны, аднак толькі на твары дзядзькі Юзафа, які з узрушэннем – а ўзрушаўся ён і плакаў пры кожнай нагодзе, гэтаксама, як, прынамсі, гнявіўся і злаваўся – выціраў слёзы і трыумфальна смяяўся. Не тая Снядэцкая, не той Пачобут, але каму гэта шкодзіла? Сцэна была "гістарычная". І менавіта так дзядзька Юзаф яе адчуваў і разумеў, менавіта такой была ягоная пачобутаўская жыццёвая база.

Ягоныя апавяданні былі цудоўныя, асабліва са старых часоў. Ён пераказваў іх бясконца, таму я так добра іх памятаю. З гадамі ён ужо менш ахвотна іх апавядаў, дапытліва і незадаволена глядзеў на мяне праз сваё пенснэ, бо пачаў мяне падазраваць у ашуканстве і кпінах. Гэтага якраз і было крыху ўва мне ў адносінах да дзядзькі, але я хутка навучыўся (галоўным чынам дзякуючы бацьку, які цаніў у жыцці і ў людзях усё аўтэнтычнае, арыгінальнае, гістарычна-тыповае) захапляцца ў дзядзьку Юзафе ягонай непаўторнай тыповасцю.

Ягоным галоўным жыццёвым дэвізам было тое, што ён называў "знаходлівасцю", прычым, заўсёды вымаўляў гэтае слова з беларускім акцэнтам. Інакш кажучы, размова ішла аб таварыскім такце, аднак у гэтым утрымлівалася крыху і талстоўскага "le comme il faut" (пра Талстога дзядзька Юзаф ведаў няшмат, толькі тое, што ён быў "небяспечным анархістам"). Гэтая знаходлівасць стала лейтматывам аднаго з ягоных чароўных апавяданняў. Адбылося гэта ў часы ягонай ранняй маладосці, калі пасля паўстання 63 года пасля збяднення свайго бацькі ён вымушаны быў шукаць заробак і пачаць працаваць. Вышэйшай адукацыі ён не меў. Крыху ведаў французскую мову, быў добра выхаваны, але маёмасці не меў. Нешта трэба было рабіць, тым больш, што і пра шлюб яшчэ было цяжка думаць. Ён заняўся сельскагаспадарчым гандлем: набываў нейкіх валоў, пшаніцу і жыта на Валыні, Падоллі і Украіне і пасля прадаваў у сябе на Белай Русі. Таму ён пераязджаў ад двара да двара і такім чынам з аднаго боку спраўляў інтарэсы, а з другога вёў інтэнсіўнае таварыскае жыццё.

"Вось памятай, мой дарагі, – звяртаўся ён да мяне, – што найважнейшай рэччу ў жыцці з'яўляецца знаходлівасць. Кожны прыстойны малады чалавек заўсёды павінен мець у чамадане фрак і кашулю да яго. Без гэтага яму немагчыма рушыць з дому, бо хто ведае, якая аказія можа яго напаткаць. Без гэтага ў жыцці нічога не дасягнеш."

Успамінаю, што калі ён выдаваў сваю дачку, фаварытку і прыгажуню Марыльку за Адама Шафкоўскага, то выдаваў, так бы мовіць, "хваравіта", бо з-за Шафкоўскага яна адмовіла багатаму ўрачу Грахольскаму, таму што Шафкоўскі быў незаможны, таму што Шафкоўскі паходзіў ад "шафы", а Грахольскі "хоць і не граф, аднак усё ж Грахольскі" (я ніколі не разумеў, чым гарох лепшы за шафу). Гэтыя ж самыя максімы ён выкладаў свайму новаму зяцю, які быў адвакатам, і таму, згодна з расійскім судовым звычаем, выступаў у судзе ў фраку. "Без фрака ў чамадане нічога не дасягнеш," – урачыста прамаўляў дзядзька Юзаф. "Аднак я таму маю поспех, – парыраваў Шафкоўскі, – што маю ажно два фракі: адзін балёвы, а другі судовы." Дзядзька быў раз'юшаны.

“Вось, – працягваў ён далей сзае апавяданні, – ехаў я неяк па Падоллі да двору сям'і Х. Натуральна, меў у чамадане фрак, хоць ехаў па справах, аднак знаходлівасць – гэта найважнейшае ў жыцці... “Панічу, – пытае ў мяне мой фурман-яўрэй (едзем наёмнымі коньмі), – заедзем у карчму або ў двор?” “Хто ў карчму, а хто ў двор? У двор, дурань, у двор, што ты глупства пытаешся?” Прыехалі. Вылазім, а мне насустрач выходзіць камердынер у ліўрэі. “Ці дома пані падкаморая?”– пытаюся я. “А як далажыць?” Я ў тую ж хвіліну дастаю візітную картку, бо, бачыш, знаходлівасць – найважнейшая рэч (з цягам часу я сам у такіх выпадках рабіў Zwischenruf і ўстаўляў гэтую “знаходлівасць” да незадавальнення дзядзькі) і перадаю яе камердынеру. Кажу табе, што вярнуўся ён галопам, падскокваючы і нізка кланяючыся. Адчыніў дзверы, прапусціў мяне і кажа: “Пані падкаморая просіць пана дабрадзея ў салон.” Іду, здымаю адну пальчатку, бо, зважай, знаходлівасць – найважнейшая рэч у жыцці, і ўваходжу ў салон.

Што ж я бачу? На прыгожай канапе ўся ў карунках сядзіць пані падкаморая, занятая дамскім рукадзеллем. Убачыўшы мяне (а гэта была старэйшага веку сівая асоба) яна зняла акуляры, адклала працу, устала і ідзе мне насустрач, выцягнуўшы да мяне абедзве рукі. Я хуценька зняў з рукі другую пальчатку і наблізіўся да яе. А яна звярнулася да мяне з такімі словамі: “Каму не вядома Вашае прозвішча? Я вельмі рада, што неспасцігальны лёс прывёў да нас такога ганаровага і каханага госця з далёкай Літвы...” Я пацалаваў ёй абедзве ручкі і, прапанаваўшы сваю руку, правёў назад да канапы. Камердынер, які ішоў ззаду, хуценька падставіў мне фатэль. “Уся наша моладзь на пікніку, паехалі на конях, аднак на вячэру яны вернуцца, тады пане дабрадзею з імі пазнаёміцца. У нас шмат паненак, таму пан добра правядзе час.” Мы паразмаўлялі пра справы, пасля чаго яна, запрасіўшы мяне на вячэру, загадала камердынеру паказаць мне мой пакой.

Ідучы, я запытаў у камердынера, ці прыбіраюцца ў іх да вячэры. “Так, пане дабрадзею, паны апранаюць фракі,” – адказаў ён. Бачыш, што значыць знаходлівасць! Я ўвайшоў у пакой і выцягнуў з чамадана фрак і кашулю. Але трэба ж, я шукаю грудныя запінкі – няма! Што тут рабіць? Але што значыць знаходлівасць! Я хапаю чыстую насавую хустачку, нажнічкі, выкройваю кавалачкі палатна і абкручваю імі свае дарожныя запінкі – такім чынам, маеш гатовыя запінкі для фрака! (Я думаў пра сябе, што тыя запінкі мусілі быць не вельмі прыгожымі, тым не менш з радасцю слухаў далей).

Сыходжу я на вячэру – а там ройна. Паненак – мора, кавалераў старых і маладых – без ліку. Падкаморая прадстаўляе мяне паненкам і ўсім голасна кажа, што “мы прымаем госця знакамітага роду з Літвы”. Паны падыходзяць, пытаюцца, размаўляюць, ставяцца прыязна. Раптам бачу, што ўваходзіць нейкая ягамосць, якая з вялікай фанабэрыяй і пыхай вітаецца з прысутнымі. Я пытаюся: “Хто гэта?” “А гэта такі пыхлівец, – адказваюць, – які кожнаму падае два пальцы на прывітанне.” А я на гэта: “Ну, тады папярэдзьце яго, што калі ён падасць мне два пальцы, то я яму – толькі адзін”. “О, гэта ганарлівы і напышлівы ліцвін!” – сказалі ўсе.

Селі за стол. І вось раптам пад канец вячэры ўстае самы старэйшы па ўзросту пан, падымае свой кілішак і кажа: “Мы маем сярод нас знакамітага госця з Літвы. Ягонае здароўе, пані і панове! Няхай жыве!” Што рабіць? Трэба адказваць. Але што значыць знаходлівасць! Я быў чалавек малады, кемлівы і меў добрую памяць. Я ўстаю і выдаю ім па памяці ўвесь вершаваны тост таго ... ну ... ведаеш, якога паэта: “Дзякую вам за хлеба кавалак, гэткай гасціннасці нідзе я не ведаў,” – і гэтак далей. І ты ведаеш? Ніхто яго не пазнаў. Усе падумалі, што гэта імправізацыя. “Вось гэта паэт! Гэта ж другі Міцкевіч! Няхай жыве!” Энтузіязм, скажу я табе, быў неапісальны. Бачыш, што значыць знаходлівасць!”

Легкадумнасць, рамантычная легкадумнасць была найярчэйшай рысай дзядзькі Юзафа, прычым, з цягам часу ягоная ўласная легкадумнасць мусіла ператварыцца ў легкадумнасць, так бы мовіць, за чужы кошт. У гэтым караніўся пэўны элемент смутку, але з таго дзядзька Юзаф праблемы сабе не рабіў. Зараз я пакажу гэта на канкрэтных прыкладах.

Дзядзька Юзаф з часу свайго шлюбу і на працягу некалькіх наступных дзесяцігоддзяў жыў у Горах каля Чарэі, маёнтку, які, як я памятаю, узяў у арэнду ў сваёй крэўнай Людвікі Шляскай. Як я ўжо адзначаў, гэты маёнтак мог забяспечыць дзядзьку добры прыбытак, асабліва дзякуючы вельмі нізкай арэнднай плаце. Нягледзячы на гэта, дзядзька вечна быў у даўгах і заўсёды абмежаваны ў сродках. Так было, бо хоць ён ведаў гаспадарку і меў вельмі спрактыкаванае вока (яго часта запрашалі на ўсялякія сельскагаспадарчыя трансакцыі як добрага знаўцу; на працягу некалькіх гадоў ён працаваў таксатарам шкоды, нанесенай градам, у маскоўскім таварыстве страхавання ад граду, увесь час ездзіў ацэньваць маёнткі ў Каралеўстве і, апроч таго, быў знаўцам быдла і коней) – у сябе не гаспадарыў амаль што зусім, бо ніколі не меў на гэта часу – заўсёды быў у дарозе. У якой дарозе? Ад суседа да суседа, са шлюбу на пахаванне, з пахавання на хрэсьбіны, з хрэсьбінаў на срэбнае вяселле, з Гораў у

Беліцу, з Беліцы ў Талачын, з Талачына ў Барок. У Мілашоўскіх у Чарэі, паноў Нітаслаўскіх, Красіцкіх і Ястрабецкіх каля Чарэі бываў пастаянна, у нас у Маскве і Барку праводзіў цэлыя тыдні і нават месяцы. Даходзіла нават да таго, што быў ён хуткі на прыезд, аднак меней ахвоты меў на ад'езд, бо паддаваўся на ўгаворы і, прыехаўшы, напрыклад, на вечаровы "вінцік" да Вітольда Славінскага, сядзеў у Талачыне тыдзень або нават і два. Другімі словамі, як Аляксандр I "всю жизнь провел в дороге", а гаспадарка ... гаспадарка была на плячах .. кухара! Кухара Мацея. Гэты стары, "вечны" Мацей стаў ягоным фаварытам і пачуваў сябе ў Горах як шэры гусь. Гэта быў найвышэйшы аўтарытэт, усе мусілі яго слухацца, і ў першую чаргу затэрарызаваная дзядзькам ягоная жонка Марыня Пачобутава, з дому Станішэўская гербу "Побуг". Нарадзілася яна ў сям'і баранэсы Адэлі Унгерн фон Штэрнберг з Камянкі ў Інфлянтах. Славуты генерал таго ж прозвішча быў нейкім яе далёкім родзічам. Захаваліся лісты Адэлі з пансіёна ў Рызе, у якіх падрабязна апісваецца кожны праведзены дзень. У адным з іх яна апісала баль у Нясвіжы, на якім яна танчыла ў першай пары з тагачасным ардынатам. Падобна на тое, што яна была вельмі прыгожая і поўная прывабнасці. Яе муж, Юзаф Станішэўскі, скончыў Акадэмію мастацтваў у Пецярбургу. Ягоным апантаным захапленнем былі партрэты ў мініяцюры на слановай костцы. Яе праўнучка, Ванда Завадская, мела дзве намаляваныя ім мініяцюры – жонкі Адэлі і аўтапартрэт. На жаль, яны загінулі падчас Варшаўскага паўстання, і як мне нядаўна пісала мая кузіна, іх некалі агледаў знаўца антыкварыяту, які надзвычай імі захапляўся і прапаноўваў ёй вялізныя сумы.

Мар'я Пачобутава паходзіла, напэўна, з маёнтка Чарніца або Камянка. Славутыя Гаворы Станішэўскіх на Магілёўшчыне належалі яе брату.

Яе крэўным, між іншым, быў пазнейшы міністр Вацлаў Станішэўскі, які перад вайной жыў у сваім маленькім і вельмі занядбаным маёнтачку непадалёк ад Гораў. Гэта было сапраўднае "захалусце" – безнадзейна заняпалы кут, аднак гэты Ваця Станішэўскі, зрэшты, чалавек маласімпатычны, выбраўся з гэтага кута некуды ў Швейцарыю ці Германію, дзе вучыўся ў палітэхнічным інстытуце, а потым у Польшчы падняўся да высокіх пасадаў і шанавання.

Цётка Пачобутава была па натуры меланхолікам, схільнай да сухотаў, змучанай вялікай колькасцю дзяцей, пасіўнай і вечна плачучай асобай. Невыносны, гвалтоўны, надакучлівы і эгаістычны характар яе мужа цалкам скруціў яе ў барані рог і ператварыў у кабету на палову хворую фізічна і псіхічна. Яна мела пяцёра дзяцей – тры дачкі і двух сыноў. Заўсёды адна, пакінутая, аддадзеная на міласць Мацея і дзяцей, яна сядзела ў Горах і з трывогай чакала вяртання мужа. А той вяртаўся заўсёды на хвілінку і ледзь што – адразу рабіў скандалы: то "пані ездзіла ўчора ў Чарэю", то "пані сказала зарэзаць цяля" – навіны гэтыя даносіў Мацей.

Пазней навіны прыносіла фаварытка дзядзькі сярод дзяцей, самая малодшая ў сям'і дзяўчынка Марылька. Калі бацька вяртаўся, яна бегла да яго на калені і пачынала дакладаць: "Учора мама была ў цёці Багушэўскай! Заўчора мы з'елі кураня! Мама запрасіла на абед Станішэўскіх!" – і гэтак далей. Дзядзька слухаў, гладзіў Марыльку па галоўцы, а за вячэрай пачынаўся скандал.

Жонку сваю ён лічыў – у больш позні часы – вар'яткай, асобай, якая можа рабіць толькі глупствы ў доме, таварыстве і гаспадарцы. Цётка была так ім зацюканая і так замардаваная, што не аднойчы, відаць, ад страху перад ім або ў выніку "ўцёкаў ад сваёй сумнай штодзённай рэчаіснасці" да нейкіх аддаленых думак яшчэ больш сама павялічвала разнастайныя нонсэнсы.

Памятаю такую сцэну. Дзядзька напісаў доўгі, на чатыры старонкі, ліст да нейкай важнай дамы, што жыла па суседству, з нагоды шлюбу яе дачкі. Напацеўся ён добра, тым больш, што пісаў ліст ад уласнага імя і імя жонкі, якую, нягледзячы на тое, што яна не была дурніцай і мела значна лепшае за яго выхаванне, не лічыў здольнай да напісання ўласнага ліста, бо тая не мела дару "знаходлівасці". Яго вельмі гнявіла тое, што ён не мог на яе разлічваць. І вось пасля мазольнай "стылізатарскай" і каліграфічнай працы, увайшоўшы ў пакой з лістом у левай руцэ, пяром у правай і ў пенснэ на носе, пагрозліва пазіраючы на жонку з-пад шкельцаў, дзядзька сказаў: "Я прачытаю табе зараз ліст, паслухай і падпішыся."

Чытаў ён з пачуццём і расчуленасцю, выціраючы з вачэй слёзы і гучна смаркаючыся – ніякага "ўзрушаючага" і "ўзнёслага" тэксту, тым больш уласнага і тым больш чытанага ў голас не мог зносіць без слёз. Чытаў далей і часам голас ягоны зрываўся. Але, нарэшце, скончыў. Падсунуў жонцы паперу, абмакнуў пяро ў чарніліцу і паказаўшы месца, дзе яна павінна была паставіць свой подпіс, натуральна, упэўнены, што яна напіша "Марыя са Станішэўскіх Юзафава Адляніцкая-Пачобутава" – і абавязкова з двума "t" – сказаў: "Падпісвайся!"

Цётка, якая хутчэй за ўсё думала зусім пра іншыя рэчы, слухаючы прамову мужа, з мінай пакутлівай і адначасова адсутнічаючай, машынальна ўзяла пяро і падпісала ліст. Дзядзька ўзяў паперу ў рукі, пачаў дзьмухаць на свежы подпіс, потым паглядзеў на яго, быццам кантралюючы на ўсялякі выпадак. І ў той жа момант на ягоным твары адбілася здзіўленне, потым гнеў, потым бура гневу адбілася на гэтым твары!

З д'ябальскім выразам нянавісці ён працадзіў скрозь зубы: "Марыя з Нямірыч-Шчытаў Цеханавецкая! Чуеце? Яе завуць Марыя з Нямірыч-Шчытаў Цеханавецкая!"

Чаму цётцы прыйшло ў галаву так падпісацца, цяжка сказаць. Напэўна, падчас прамовы мужа яна думала пра Шчытаў і іх кузэнаў Цеханавецкіх... Ліст трэба было перапісваць. Божа мой! Што гэта была за сцэна!

Ад слёз узрушэння да гневу яго аддзяляў адзін толькі крок. Узгадваю сабе яшчэ адзін выпадак. Дзядзька знаходзіўся тады ў нас у Маскве. Адбылося гэта ў сталовай пасля падвячорку. Усе разыйшліся, засталіся толькі мая маці, бабка Эмілька, дзядзька і я. Пачалі размову пра шлюб Марыні Багдановічаўны з Букоўскім. Мая маці прынесла вялікі ліст, у якім Марыня паведамляла ёй аб сваім рашэнні выйсці за Букоўскага. Марыню звязвалі з маёй маці вельмі сардэчныя сяброўскія стасункі. Шлюб гэты быў, як я ўжо згадваў вышэй, досыць выключны, "парадаксальны", таму ліст быў крыху доўгі, падрабязна тлумачыў прынятае рашэнне і ўтрымліваў некалькі "кранальных" месцаў.

Маці аддала дзядзьку ліст для чытання і выйшла. Дзядзька ўзяў ліст, начапіў на нос пенснэ і пачаў чытаць. Я сядзеў за тым жа сталом, разглядаючы нейкую кніжку. Бабка Эмілька ў сваёй вечнай пелерыне стаяла, абапіраючыся локцямі на стол, уласна кажучы, ляжала і прыглядалася да дзядзькі.

Ён не любіў сваю сястру Эмільку. "Эгаістка, – казаў ён, – і лянівіца." Лаяліся яны паміж сабой часта, асабліва за картамі. Калі дзядзька Юзаф іграў у вінт, яна ахвотна давала яму парады, якіх ён ніколі не слухаў, з гневам яе адганяючы. Калі раскладаў пасьянс, што было ўлюбёным заняткам абодвух, бабка таксама пачынала яму радзіць. Часта пасьянс заканчваўся тым, што дзядзька, стрымліваючы ў сабе эмоцыі, выкліканыя яе ўмяшальніцтвам у гульню, моўчкі перамешваў карты і выходзіў з пакоя. Бабка была вострая на язык і плакала толькі ў выключных выпадках, часцей ад злосці. Дзядзька ж, як вядома, быў чалавекам буйным і выбуховым.

Такім чынам, ён чытаў. Паволі яго апаноўвала ўсё большае ўзрушэнне. На ягоных вачах паказаліся вялікія слёзы, якія суправаджаліся глыбокімі ўздыхамі. Ён выцягнуў хустку. Словам, узрушэнне зрабілася відавочным. У кульмінацыйны момант бабка Эмілька раптам запыталася сваім калючым галаскам: "Юзэфе, Юзэфе, але чаму ты плачаш?" Знішчальны позірк абрынуўся на яе з-пад пенснэ, пасля чаго дзядзька з нястрыманым шалам крыкнуў: "Таму што хачу!"

З таго часу гэтае "таму што хачу" зрабілася ў нас прыслоўем для азначэння пачобутаўскіх адносінаў да жыцця.

Хоць дзядзька Юзаф быў абмежаваны ў сродках, аднак – асабліва на пачатку сваёй таварыскай "кар'еры" – неяк даваў сабе рады і "трымаў фасон". Між іншым, гэта рэч адметная. У Горах ніколі не панавала заможнасць, але ў доме стаяла добрая старая мэбля, у сервантах было бачна шмат каштоўнай парцэляны і крышталю. І харчаваліся ў Горах добра, бо дзядзька Юзаф меў шалёны апетыт і разумеў у кухні. Ягонай улюбёнай закускай была салата з памідораў. У тыя часы памідоры не былі так распаўсюджаныя, як зараз. Таксама надыйшоў час, калі лекары раптам перасталі іх рэкамендаваць. Аднак дзядзька на гэта не звяртаў увагі. Заўсёды ён прывозіў з сабой з Масквы пару бутэлек найлепшага аліўкавага алею ад Елісеева (цудоўны гастранамічны магазін, можна нават сказаць, шыкоўны музей усялякіх дэлікатэсаў, пладоў, імпартнай садавіны, вустрыц, вінаў і цукерак). Гэты алей, прызначаны пераважна для памідораў, нікому нельга было кранаць без яго і стаяў ён у прыгожым ясеневым серванце ў ягоным кабінеце, за шклом, зачынены на ключ сярод прыгожых парцэлянавых філіжанак Vieux Saxe і Sevres. Бо і ў парцэляне ён разумеў. Аднак ён мусіў абмяжоўвацца, таму што пачалі падрастаць дзеці. Хлопцаў трэба было вучыць, дзяўчат – выдаваць замуж. І тут варта адзначыць: дзядзька Юзаф сваіх дзяцей "вывеў у людзі" – даў ім добрае выхаванне і адукацыю.

Вяртаюся, аднак, да ягонай легкадумнасці. У маёй памяці паўстае цікавае апавяданне майго бацькі пра пасляшлюбны візіт у Горы. Пасля пары дзён знаходжання там маіх бацькоў было вырашана ехаць у Цялошы, якія знаходзіліся далёка, нават вельмі далёка. Дзядзька меў толькі адну чацвёрку коней для фаэтона і адну пару для лёгкага вазка. Чацвярыком ездзіў, натуральна, дзядзька, парай – цётка. Так было заўсёды, да канца іх сумеснага жыцця. Аднак тым разам, зважаючы на маіх бацькоў, яму не выпадала ехаць чацверыком. Чацвёркай паехалі пані, парай – паны. Чацвярык паехаў больш кароткай, але цяжкай

дарогай, пара – больш доўгай, але лягчэйшай, так што ўжо адразу за брамай грамада разлучылася.

Дзядзьку страшна засмучала тое, што ён едзе парай, а не чацверыком, таму ў кожнага сустрэчнага халопа ён пытаў: "Ці ня відзіў ты маёй чацвёркі?" "Не, ня відзіў, паночку." Бацька мой са здзіўленнем звярнуўся да дзядзькі: "Дзядзечка, калі ж чацвёрка пайшла другой дарогай, то як халопы маглі яе бачыць?" "Эт, нічога ты не разумееш. Навошта гэты ёлуп будзе думаць, што ў мяне няма чацвёркі?"

І так было ажно да самых Цялошаў. Каля Цялошаў раптам затрымаліся. Дзядзька загадаў майму бацьку выйсці, нібыта каб трохі адпачыць. "Навошта? – запытаўся бацька. – Цялошы ж ужо недалёка." "Зараз убачыш, навошта."

Сапраўды, бацька ўбачыў. З боку Цялошаў прыімчаўся горскі чацвярык, але ўжо без паняў і без фаэтону. Пару выпраглі і замянілі чацверыком, яна паражняком пайшла сабе ў Цялошы. Такім чынам, дзядзька ўехаў, аднак жа, у Цялошы на чацверыку і са шчоўканнем пугі! Гэта таксама быў прыклад славутай "знаходлівасці"!

Бядак, у канцы жыцця ён ужо не едзіў чацверыком, а толькі тройкай з лейцамі. І я ніколі не забудуся, што гэта была за тройка. Ён сам пра яе казаў наступным чынам: "Ці паверыш ты, што я купіў гэтую тройку кабылаў на кірмашы за 75 рублёў!" "Кожную па 75 рублёў?" – пытаўся я ў роздуме. "Усіх трох разам за 75 рублёў!.. І бачыш, езджу і ўсім кажу "да пабачэння"!" – гэта азначала тое, што ён усіх абганяе.

Ён казаў праўду. Тыя клячы, якія каштавалі 75 рублёў і разам мелі, напэўна, 75 гадоў, ішлі як машыны 75 вёрст без перапынку, без поту і без найменшых адзнак стомленасці. Сапраўды, гэта былі сталёвыя кабылы!

Легкадумнасць ягоная была фантастычнай, як я ўжо казаў, рамантычнай, аднак караніўся у ёй пачатак смутку і іроніі. Легкадумнасць за чужы кошт, бо за ўласны яе ўжо не хапала: на "каму не вядома Вашае прозвішча" і "ці не бачыў ты маёй чацвёркі" ў дваццатым стагоддзі далёка заехаць цяжка. Род Пачобутаў, ягонае "даўняе, аднаму Богу вядомае" мінулае, не існуючы, "фантастычны" чацвярык, тост ... і гэтак далей, тым больш, што дзядзька Юзаф вымушаны быў жыць не ўласнай, а "чужой" веліччу. Таму што сродкі ягоныя былі малыя, таму што жыў з арандатарства, таму што не меў уласнага высокага становішча. Жыў, як я ўжо сказаў, "веліччу" іншых, выступаючы заўсёды нейкім імпрэсарыю для чужой, напрыклад, брата Антонія велічы.

Ніколі не забудуся наступнай сцэны. Абодва дзядзькі выязджаюць з Барка. Я праводжу іх на станцыю. Дзядзька Юзаф звычайна ездзіў у другім класе, а на гэты раз, зважаючы на "жэтоны" брата, вырашыў ехаць разам з ім у першым.

Падыходзіць цягнік. "Оберкандуктар", падаючы свістком сігнал на затрыманне, нягледзячы на сваю таўшчыню і вагу, зграбна і лёгка саскоквае з прыступкі вагона на перон станцыі. Прыкмячае нас з рэчамі і ветліва пытаецца, салютуючы: "В первый или во второй класс пожалуете?" "В первый," – з паважнай мінай, задраўшы ўгору нос і прыжмурыўшы вока гучна адказаў дзядзька Юзаф.

"Оберкандуктар" хуценька адчыняе дзверы вагона першага класа і з лёгкім паклонам, зноў салютуючы, стаіць ля прыступак. Дзядзька Юзаф прапускае наперад дзядзьку Антонія і, ужо ступіўшы на прыступкі, звяртаецца да "оберкандуктара", галавой паказвае на брата і кажа: "Большая шишка".

Доўгі час ён жыў "веліччу" Талачына і Славінскіх, потым надыйшла чарга яшчэ большай "велічы" Свяцкіх. Дзядзька Караль Свяцкі меў штогод сто тысяч рублёў са свайго цудоўнага лесу, аднак усіх гэтых грошай на сябе не траціў, а большую частку з іх укладаў у сваю сельскую гаспадарку і жывёлагадоўлю ў Беліцы, што прыбытку не прыносіла, бо вельмі шыкоўна ўтрымлівалася. Дзядзька Юзаф расказваў пра дзвесце тысяч гадавога прыбытку Свяцкага.

Пасля Свяцкіх прыйшла і наша чарга – майго бацькі. І ўжо на гэтай "велічы" дзядзька спыніўся да канца жыцця. Добра можна сабе ўявіць, што за фантазіі ён сабе выдумляў наконт прыбытку бацькі, ягоных адвакацкіх ганарараў, прыёмаў у нашым доме, а таксама брыльянтаў і футраў маёй маці! Некалькі разоў даводзілася яго стрымліваць, прасіць і пераконваць у тым, каб ён супакоіўся і не разносіў па свеце так недарэчна перабольшаныя лічбы і падрабязнасці. Але гэта не дапамагала – ён "рамантызаваў", быў "рамантыкам раскошы і багацця", якіх сам ніколі не зведаў і вакол якіх на працягу ўсяго свайго "жыцця ў дарозе" аціраўся. Як у Гогаля: гіпербала была ягонай стыхіяй, аднак стыхіяй ягонага "мастацтва жыцця"!

Я скончыў гімназію з залатым медалём. Дзядзька, даведаўшыся аб гэтым факце, адразу даслаў дэпешу (а пісаць у ёй можна было толькі па-расійску): "Поздравляю блестящего медалиста." Хутка ў Барку ён

даведаўся, што апроч залатога дзяржаўнага медаля я атрымаў таксама медаль Alliance Française за веданне французскай мовы і літаратуры. У нашай гімназіі давалі адзін такі медаль на цэлы клас пры выпуску. Гэта быў срэбны медаль і давалі яго ў нас таму, што, па-першае, наша гімназія была нечым выключным (пра гэта больш падрабязна я раскажу пазней), а па-другое, як раз тады прыязджаў нейкі французскі міністр. Дзядзька Юзаф адразу пачаў усім казаць, што я скончыў гімназію "з двума залатымі медалямі". Натуральна, ніхто гэтаму не хацеў верыць, бо ў ягонай версіі гэтая навіна выглядала толькі смешным перабольшваннем.

Ён меў шмат улюбёных выразаў. Канечне ж, усіх я не памятаю. Прыгадваю сабе толькі два найбольш часта ўжываныя, сутнасць якіх сведчыць аб іх эмпірычным характары: "Стварыў Бог і заплакаў" або "Ён спазніўся туды, дзе розум раздавалі". Так часта дзядзька казаў пра розных людзей, а пра не надта прыгожых жанчын часам гаварыў: "Калі б мы з ёю разам апынуліся на бязлюдным востраве, то памерлі б беспатомнымі."

Ён, дэспатычны і бескампрамісны, адных людзей вельмі любіў, а другіх не толькі не любіў, але і ўвогуле не заўважаў. І рашаючую ролю тут адыгрывала, трэба адзначыць, заможнасць. Для незаможных людзей ён мог быць сапраўды нязносным, пагарджаць імі. Калі чуў, што нехта, напрыклад, імкнуўся быць прынятым у багатым доме, а сам паходзіў са "сціплай сферы", упадаў у бязмежнае абурэнне: "Што, гэтая замухрышка, гэтае пятае кола ў возе будзе тут ацірацца?.." І зласліва смяяўся да ўпаду. Свет для яго падзяляўся на "большие шишки" і "замухрышки". Аднак асобна ад ўсяго гэтага стаялі сваякі, якім дазвалялася жыць на свеце, не будучы шышкамі, бо сваякі былі нечым іншым. У гэтым сэнсе ён быў лагодны, крэўныя сувязі былі для яго найважнейшай, адзінай жывой сувяззю паміж людзьмі. Бедных сваякоў ён дысцыплінаваў адносна "шышак" і са смехам, поўным іранічнага абурэння, асаджваў іх на сваё месца. Ён любіў бываць для іх пратэктарам і, зрэшты, меў тое, што называецца "добрым сэрцам". Быў шчодрым – і не толькі напаказ.

Свет уяўляўся яму строга іерархічным і дзядзька Юзаф шчыра верыў у непарушнасць гэтай іерархіі. Багацце магло быць атрымана ў спадчыну – і тады ўсё было зразумела, справядліва, у згодзе з арыстакратычным парадкам рэчаў. Магло яно быць вынікам асабістых талентаў і энергіі – і да такіх выпадкаў дзядзька адносіўся з разуменнем і павагай.

Я ўзгадаў тут "арыстакратычны парадак", у сувязі з чым належыць зрабіць пэўныя заўвагі, якія падкрэсліваюць вельмі характэрную рысу дзядзькі Юзафа. Ён быў сапраўдным польскім шляхціцам і ягоным класам была шляхта, зямянства. Апроч гэтага класа ў краі, дзе ён правёў большую частку свайго жыцця, былі халопы, адзіным прызначэннем якіх было жыць і працаваць у варунках, вызначаных ім Богам і прыродай. Над усім гэтым стаяла арыстакратыя, але пра яе дзядзька Юзаф увогуле мала думаў. Ён разглядаў арыстакратаў з вялікай далікатнасцю адносна сваіх з імі стасункаў, тэарэтычна разумеў іх больш высокае становішча, аднак ніколі не імкнуўся трапіць у іхны свет і жыў, моцна звязаны са сваім уласным класам.

Ён пісаў і размаўляў па-польску правільна, аднак, канечне, па-крэсоваму, з тыповай для Белай Русі і Літвы акцэнтацыяй на апошнім слогу, з тыповым змякчэннем зычных. Па-расійску размаўляў шпарка, але не было нічога больш смешнага, чым ягоная расійская мова! У ёй таксама праступала своеасаблівая акцэнтацыя, якая часта зусім змяняла расійскую мову.

Ён быў сярэдняга росту, раней насіў бараду, у апошнія гады – толькі вусы. Твар меў правільны, вельмі жывы, які добра перадаваў ягоныя эмоцыі. Выразнасць гэтага твару адпавядала інтанацыям голасу і спантаннай жэстыкуляцыі дзядзькі. У кампаніі ён вызначаўся весялосцю, запалам, які часам бываў гучным. Затое ў хвіліны спакою ягоны твар набываў нейкі хваравіта-разгарачаны выраз, тады асабліва вусны і вочы кранала меланхолія. Меў прыгожыя "пачобутаўскія" белыя рукі, вельмі ганарыўся імі і ахвотна ўсім паказваў.

Апантана дбаў пра форму і ўсіх сваіх дзяцей, унукаў і пляменнікаў заўсёды вучыў, як трэба, напрыклад, браць у руку філіжанку – двума або трыма пальцамі, астатнія павінны былі быць загнутыя і ад першых двух або трох адхіленыя. Што, аднак, не перашкаджала яму самому есці гучна і хціва – апетыт ён меў шалёны. Ён вельмі сапеў і хутка засынаў, прычым, храпеў самым катастрафічным чынам.

Алкаголем не злоўжываў ніколі. Славіўся вялікай мужчынскай сілай, таму што, ужываючы словы Рабле, "sa nature estoit forse grande". На гэтую тэму расказвалі розныя гісторыі. Адну з іх я чуў з вуснаў чароўнага Уладзіслава Замойскага, які сустракаўся з дзядзькам перад 1-й сусветнай вайной у сваім Рацэве і ў суседзяў.

Ён меў дзіўныя густы. Страшэнна любіў пах стайні і конскага гною. Я падзяляў гэтае пачуццё, аднак ніколі не захапляўся ім да такой ступені, як дзядзька. Часта пры мне ён, уваходзячы ў стайню, нюхаў конскае падхвосце і казаў мне, што "яно пахне лепш, чым найлепшыя парфумы". Таксама паўтараў: "De gustibus non est disputandum[5], бо і сабака сабаку пад хвастом лізандум."

(...) Як я ўжо казаў, ён адзначаўся не толькі мілай таварыскасцю, але, мушу дадаць, і шчодрасцю. Звычайна ён прывозіў з сабою разнастайныя прэзенты і надзяляў імі гаспадароў. Заўсёды быў гатовы дапамагчы кожнаму не толькі парадай (ён меў, усё ж такі, рэпутацыю добрага земляроба), але і грашыма, ахвотна выдаткоўваючы на гэта свой час і ўвагу. Усе гэтыя рысы пасавалі да ягонага таварыскага тэмпераменту і шчырай цікавасці да людзей. У сваёй ваколіцы, у губерні і нават па-за яе межамі ён ведаў кожнага і кожны ведаў "Юзіньку" Пачобута. З усімі быў на кароткай назе, з паловай – у блізкім або далёкім сваяцтве.

Нягледзячы на ягоныя такія відавочныя заганы і такія гратэскавыя смешныя рысы мы ўсе яго любілі і кожны ягоны прыезд быў для нас уцехай. Бацька мой, як я ўжо згадваў, шанаваў у дзядзьку Юзафу ягоную аўтэнтычнасць. І хоць не аднойчы ён не мог стрымаць усмешкі або нават і смеху, выкліканага маляўнічымі маніфестацыямі гэтага сентыментальнага тырана, смех бацькі ніколі не быў абразлівым, наадварот, ствараў атмасферу дабрадушнага паразумення і дабрыні, у якой дзядзька святкаваў у нас свае трыумфы. Паскаль казаў: "Чым больш хто мае розуму, тым больш арыгінальных людзей ён знаходзіць, звычайны ж чалавек розніцы паміж людзьмі не бачыць."

Памёр ён падчас рэвалюцыі 1917 года, у самы адпаведны для сябе час, калі свет, да якога ён належаў усімі часткамі сваёй натуры, быў змецены хваляй страшэннага расійскага хаосу.

Паўтаруся: заганаў дзядзька меў вельмі многа, аднак цяжкімі яны былі пераважна для самага блізкага ягонага атачэння. Як грамадская адзінка ў больш шырокім сэнсе гэтага слова ён не быў адмоўным тыпам. Ягоная прысутнасць ажыўляла кожную кампанію, а сімпатыя, якую амаль заўсёды ён заваёўваў, узбагачала той маленькі свет, да якога належалі крэўныя і прыяцелі дзядзькі Юзафа.

***Lednicki Wacław. Pamiętniki. T.I. Londyn, 1963. S.126-196.***

***Пераклад з польскай мовы Людмілы Хмяльніцкай.***

***Заўвагі:***

1 Ягонай – Юзафа Адляніцкага-Пачобута (тут і далей заўвагі перакладчыка).
2 Па-польску прозвішча пішацца як Poczobutt.
3 Дыспенса – дазвол на шлюб асобам, якія звязаны паміж сабой крэўнымі сувязямі.
4 Размова ідзе пра згадку пра Марціна Адляніцкага-Пачобута ў восьмай кнізе "Наезд" "Пана Тадэвуша" А.Міцкевіча:

"Быў рэктарам у нашай альма-матэр
Пачобут, ксёндз, вучоны і куратар
Абсерваторыі універсітэцкай –
Свяціла!..."
(пераклад Я.Семяжона)

5 Пра густы не спрачаюцца – лац.

*Эдвард ТЭРЛЕЦКІ*

# ЗВАРОТНАЯ ХВАЛЯ

## 1904–1918 гады

Віцебшчына і Магілёўшчына, крэсы, у гады майго дзяцінства, яшчэ перад 1-й сусветнай вайной, былі краем, "абдораным малаком і мёдам". На гэтых землях, заселеных больш чым на 85% беларусамі, было толькі каля 10% палякаў-асаднікаў, уласнікаў вялікіх абшараў зямлі і нешматлікіх у тыя часы прамысловых прадпрыемстваў. Цішыня і спакой панавалі на гэтай зямлі. Тут не было ні добрых дарог, ні мастоў на рэках, што плывуць праз яе. Адным словам, гэта быў свет, забыты ўсімі, і менавіта тут, у двары Ротніца Сенненскага павета на Магілёўшчыне, я і нарадзіўся.

Сядзіба Ротніца, уласнасць паноў Длужнеўскіх, месцілася над рачулкай Усвейкай, прытокам Ульянкі. Якой жа прыгожай была гэтая ваколіца! Усвейка, выплываючы з вялікага возера, што знаходзілася значна вышэй, прабягаючы праз сядзібу, падзяляла яе на дзве часткі і ўтварала вадаспад вышынёй каля 15 метраў. Над вадаспадам быў мост і па ім праходзіла дарога, якая злучала дзве часткі сядзібы. Памятаю, вясной, калі надыходзіў час нерасту шчупака (у сакавіку-красавіку), вада рачулкі перад вадаспадам кішэла гэтай рыбай, якая імкнулася пераадолець вадаспад, каб трапіць у возера, што было размешчана вышэй. Тады надыходзіў час палявання на яе восцямі.

Сярод аматараў гэтага спорта першым заўсёды быў мой бацька. Мастацтва лоўлі палягала на тым, каб трапіць восцем у шчупака вагой 2-5 кілаграмаў і, менавіта, у ягоны хрыбет, як гэта і сёння яшчэ робяць індзейцы ў сваіх рэзервацыях. Які ж гэта быў радасны час! Некалькі чалавек, якія добра ведалі справу, узброеныя восцямі, насаджанымі на доўгія шасты з доўгім жа шнурком ад рукаяткі, прывязаным да рукі, кідалі восці з высокага берага ў абранага шчупака, прычым, улічваўся кожны кідок. Потым вясёлая кампанія на чале з пераможцам з поўнымі кашамі шчупакоў скіроўвалася дадому на заслужаную пагулянку. Гэта былі часы, калі ў кожнай рачулцы была процьма рыбы, аб чым сёння можна толькі марыць.

Сядзібны дом знаходзіўся на высокім пагорку, які збоку густа парос дрэвамі. Пад'язная дарога да дому, як слімак, паўколам атачала пагорак. З паловы яго вышыні быў перакінуты пешаходны масток, з якога адкрываўся прыгожы краявід на возера, вадаспад і праплываючую ўнізе цудоўную Усвейку. Вакол сядзібы раскінуліся вялізныя сады і палеткі, а на небасхіле ўсё гэта атачалі непраходныя бары з іх адвечнымі жыхарамі: мядзведзем, расамахай, ласём, дзіком і паўсюдным ваўком. Гаспадар сядзібы пан Ян Длужнеўскі не шмат увагі прысвячаў маёнтку і жыў пераважна з лясной гаспадаркі, прасцей кажучы, з высечкі вялікіх дубовых лясоў. Ён любіў падарожнічаць па свеце, а ягонай жарсцю былі карты. Памятаю, аднойчы ноччу ў Вільні ён прайграў 40 тысяч рублёў (у тыя часы велізарныя грошы) і вялікую камяніцу на рагу Святаянскай вуліцы насупраць катэдральнага сабора. Тады мой бацька, арандатар сядзібы, вымушаны быў значна павялічыць высечку дубровы дзеля ганаровага пакрыцця доўгу свайго гаспадара.

Вось толькі гэткія падрабязнасці і засталіся ў памяці з тых гадоў.

У 1918 годзе, перад выездам з гэтых мясцін на Захад у Вільню, мой бацька працаваў адміністратарам маёнтка Сялец, уласнасці пані Цеханавецкай, якая жыла ў Лондане. (Нядаўна яе ўнук ахвяраваў музею ў Варшаве музейныя каштоўнасці вялікай вартасці).

Аб Сяльцы памятаю значна больш падрабязнасцяў, бо я быў ужо дарослым хлопцам (гадоў каля 15). Тут, як і ў Ротніцы, сядзіба знаходзілася на высокім узгорку, на беразе ракі Ульянкі, левым прытоку Заходняй Дзвіны. Вясной звычайна на 3-4 тыдні сядзіба была адрэзана ад усяго свету, пакуль, нарэшце, не заканчвалася паводка і бурлівыя патокі Ульянкі не сплывалі Дзвіной у Балтыку. Сядзіба, як і ў Ротніцы,

---

Аўтар мемуараў Эдвард Тэрлецкі жыве ў Варшаве. З'яўляецца ўнукам Фелікса Тэрлецкага, які нарадзіўся ў ваколіцах Друі і за ўдзел у паўстанні 1863 года быў сасланы ў Сібір. Э.Тэрлецкі скончыў Горную акадэмію ў Кракаве, працаваў на металургічных прадпрыемствах Польшчы. Напісанне мемуараў пад назвай "Зваротная хваля" было скончана аўтарам у 1994 годзе і ахоплівае найбольш цікавыя эпізоды з ягонага доўгага жыцця, пачынаючы ад пачатку XX стагоддзя да 1989 года. Рэдакцыя друкуе першую частку мемуараў, у якіх апісваецца жыццё аўтара на Віцебшчыне і Магілёўшчыне да 1-й сусветнай вайны і Кастрычніцкай рэвалюцыі.

з усіх бакоў была абкружана садамі, палеткамі і бязмежжам лугоў і бароў. Гаспадарка тут абапіралася галоўным чынам на выніку сялянскай працы, гадоўлю кароў (выраблялiся ўласныя галандскія сыры), а таксама гадоўлю пародзістых коней для верхавой язды ("рысакі" – расійскія арабы), якіх ахвотна набывала войска. На адлегласці каля кіламетра ад сядзібы, па абодвух баках дарогі, што вяла ў суседні двор Тарантова, уласнасць паноў Пшыбароўскіх, знаходзіліся дзве вялізныя ліпавыя пчалярні, вакол якіх унізе рос дзікі маліннік, а высока на шматвяковых ліпах былі падвешаны вуллі (выдзеўбаныя з калод). Кожны з іх над дашкам меў прывязаную тоўстай вяроўкай цяжкую калоду для аховы ад мядзведзяў, ласых на мёд. Звер, пабачыўшы перашкоду, што замінала яму дабрацца да мёду, адштурхоўваў яе ўбок штораз з большай заўзятасцю, але калода, вяртаючыся на сваё месца, біла ласага па ілбе і набівала такі гузак, што ён вымушаны быў адмовіцца ад свайго спакуснага намеру. Аднак гэта не заўсёды дапамагала, бо паміж старымі мядзведзямі былі "спецыялісты па ўзлому", якія ўзлазілі вышэй і перагрызалі вяроўку, на якой вісела калода, і тады ўжо мёд быў у лапах.

Плёны сельскагаспадарчай працы, асабліва галандскія сыры, водным шляхам – па Ульянцы і Дзвіне – ішлі ў Рыгу. Адтуль – у Англію, дзе жыла гаспадыня пані Цеханавецкая. І, такім чынам, на гэтых землях жыццё плыло павольна, нягледзячы на тое, што ішоў ужо трэці год 1-й сусветнай вайны. Толькі штораз часцей з далёкага фронту прыходзілі весткі пра паражэнні царскіх войскаў у сутычках з немцамі, а людзі ў чаканні невядомага ўвесь час вечарамі прыкладалі вушы да матухны зямлі, прыслухоўваючыся да адгалоскаў цяжкай зброі з фронту, што набліжаўся да нас. Восенню 1916 года раптам прыйшло распараджэнне аб неадкладнай эвакуацыі на ўсход усяго, што было назапашана ў маёнтку. Між іншым, гэта тычылася таксама спірту, які знаходзіўся ў шматлікіх броварах нашай ваколіцы. Адзін з самых вялікіх бровараў быў у маёнтку Іванск пана Валадковіча, які знаходзіўся на супрацьлеглым беразе Ульянкі на адлегласці прыблізна паўтара кіламетра ад нас. Улічваючы тое, што колькасць гэтага "дабра" была вялізнай, а магчымасці транспарціроўкі – аніякія (коней забрала войска), вырашана было ўвесь запас зліць у раку Ульянку. Наступствы  былі трагічнымі не толькі для рыбы ў небагатай рацэ (акурат у гэты час узровень вады быў нізкі), але таксама і для некаторых жыхароў суседніх вёсак. Справа заключалася ў тым, што на поле, праз якое праходзіў роў для спуску спірту, яшчэ з раніцы (а спуск адбыўся познім вечарам) прыйшло шмат сялянаў абодвух полаў з вёдрамі, якія чэрпалі з рову той "боскі" трунак. Некаторыя з іх так сабе дагадзілі, што з рову тырчалі толькі ногі п'яніц-аматараў, якія ўжо не мелі ўласных сіл, каб адтуль выбрацца. Адносна цвярозыя карысталіся тым, што п'яныя сваімі целамі стварылі своеасаблівую гаць для "боскага" трунку, што дазваляла ім хутчэй напаўняць прынесенае начынне. Спуск спірту доўжыўся два дні. На другі дзень у рове знайшлі некалькіх аматараў гэтага напою, якія ўжо не падавалі прыкметаў жыцця, і ў дадатак былі часткова падсмажаныя, бо нехта з іх у залюляным стане, імкнучыся распаліць "люльку", падпаліў спірт па ўсёй даўжыні рову. Уначы было ўражваючае відовішча, калі, не зважаючы на полымя, аматары гарэлкі ў тлеючых убраннях з вёдрамі працягвалі атакоўваць роў.

Рыба ва Ульянцы пацярпела значна болей, бо яе вялікая частка заўчасна трапіла на патэльні сялянаў з суседніх вёсак. Падпітая рыба на паверхні вады выраблялa такія фокусы, што з лёгкасцю аказвалася ў падстаўленых саках або звычайных кошыках. Фінал быў наступны: адбылося некалькі пахаванняў і яшчэ доўгі час ад жыхароў навакольных вёсак патыхала "боскім" трункам замест звычайнага самагону.

У гэтым жа годзе позняй восенню з'явіўся ў нас у маёнтку Сяльцы "25-ты чыгуначны атрад" пад камандаваннем варшавяніна паручніка З.Вільчынскага, які складаўся з 95% палякаў (падчас Кастрычніцкай рэвалюцыі ён папоўніў корпус ген.Доўбар-Мусніцкага ў Бабруйску). Атрад павінен быў будаваць пад'язныя дарогі і масты праз раку Ульянку для ўвесь час адыходзячых царскіх войскаў. Праз некалькі тыдняў пасля пабудовы моста з'явіліся немцы, а царскіх войскаў мы ўвогуле не бачылі. Салдаты пад уплывам агітацыі бальшавікоў, асабліва лозунга "Досыць вайны – кідай зброю і вяртайся дадому", кідалі зброю і пакідалі фронт. А немцы спакойна, павольным крокам, займалі тэрыторыі, якія іх цікавілі (значна далей, чым гэта было прадугледжана Брэсцкім мірам).

Атрад немцаў пад камандаваннем обер-лейтэнанта Лукаса кватараваў у нашым двары ажно да 1918 года, пакуль пасля паражэння, атрыманага на захадзе ад Антанты, не быў вымушаны адступаць "nach Faterland". Тады ж з імі таксама і палякі адыйшлі да Вільні. Аднак вернемся да часу Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Выпадкова я трапіў у Віцебску на мітынг: вялізная плошча, да краёў запоўненая слухачамі, у сярэдзіне – трыбуна. Хутка на трыбуну ўзыходзіць таварыш агітатар і кажа: "Пры камунізме будзеце мець усяго ўволю. Зойдзеш у краму і возьмеш тое, што табе трэба, і ніякіх грошай не

вычарпальная інфармацыя пра гаспадара майстэрні, прычым, усё прадэманстравана адпаведна функцыянальнай прыналежнасці, так, як на шыльдзе: без усякага сумнення, тут жыве мастак, тут працуе Пэн. Гэтая наўмысная дэманстратыўнасць паходзіць ад народнай культуры. Яна з'яўляецца ў адным з самых ранніх твораў, яна стане адметнай рысай усёй творчасці мастака.

У карціне "Ліст у Амерыку" сюжэтны пачатак выяўлены больш выразна, але тут таксама партрэтны вобраз пераважае ў кампазіцыі. У куту пакоя стары чалавек піша за сталом ліст пад дыктоўку жанчыны. Іх постаці абрэзаны і набліжаны да глядача, але погляды скіраваны адзін да аднаго. Жанчына намалявана ў профіль з вельмі выразным сілуэтам і плоскаснай мадэліроўкай аб'ёмаў. Экспрэсіўнасць дадзенага вобраза падкрэсліваецца лакальнымі плямамі зялёнай хусткі і чырвонай сукенкі. Пэн спалучае ў адзіную кампазіцыю партрэты, дапаўняе іх сціплым і дакладна прапісаным нацюрмортам на стале: папера, чарніліца, берасцяная скрыначка, і яшчэ больш сціплым краявідам у вакне з фрагментам жоўтага дома. Здаецца, сукупнасць усіх элементаў павінна даць жанравы вобраз, але ў памяці застаецца анфас і профіль старых людзей, што складаюць ліст у Амерыку. Сплошчанасць прасторы, формаў, непаслядоўна выяўленая перспектыва ў пастаноўцы стала, дэкаратыўнасць жывапісу – усё гэта прыкметы народнага мастацтва і яго экспрэсіўнай выразнасці . Шкада, што гэтыя творы амаль невядомыя, нідзе не рэпрадукуюцца і не выстаўляюцца . На мой погляд, яны вызначальныя для творчасці Пэна. Магчыма, гэткае ж эмацыянальнае супастаўленне мужчынскага анфаса і жаночага профіля ў ранняга Шагала ("Мой бацька", 1914 г.; графіка 1914 – 1915 гадоў) было інспіравана згаданым творам Пэна.

Свой рамесніцкі перыяд творчасці Юдэль Пэн не зважаў за мастакоўскі, і гэта адпавядала настроям часу. Эстэтычная каштоўнасць народнага жывапісу, яго спецыфіка будзе асэнсавана толькі на пачатку XX стагоддзя. Яго наўмысная стылізацыя будзе пашырана сярод авангардыстаў, яны пачнуць збіраць калекцыі шыльдаў. У творчасці Пэна народныя ідэалы і стэрэатыпы ўвесь час нібыта пераадольваюцца, але і неўпрыкмет фармуюць стыль мастака.

Навучанне ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў стала другой прафесійнай школай для Юдэля Пэна. Акадэмія ўдасканаліла яго талент партрэтыста, наблізіла да перадзвіжніцкай тэматыкі. Менавіта навучанне ў класе П.Чысцякова забяспечыла Ю.Пэну імідж мастака-акадэміста і добрага малявальшчыка. Пры больш уважлівым назіранні яго твораў можна заўважыць, што малюнак быў не бездакорны. Ён не заўсёды вытрымлівае прапорцыі ў пабудове постаці, яе ракурсных скарачэнняў, але затое падабенства мадэлі выдатнае. Відавочны сталы вопыт партрэтыста. У Акадэмію мастацтваў ён паступіў у дваццацісямігадовым узросце, ужо сфарміраваным творцам, і перавучвацца было вельмі складана. Таму пераважная большасць яго твораў – гэта паўфігура, дзе ўся ўвага канцэнтруецца на твары мадэлі. Калі ж рамкі партрэтнага жанра пашыраюцца, то за кошт нацюрморта, тэхніка напісання якога таксама была ўжо засвоена ў майстэрні мастака шыльдаў.

Між тым Пэн быў вельмі чуллівым і ўдзячным вучнем. Ён пераняў у Чысцякова і падзяліў з ім захапленне жывапісам майстроў XVII стагоддзя і перадусім творчасцю Рэмбрандта. Ён засвоіў педагагічную сістэму Чысцякова, знакамітую тым, што нягледзячы на патрабаванні ведаў мастак ніколі не дазваляў сабе навязваць вучню сваю манеру, а імкнуўся захаваць яго своеасаблівы талент. Нарэшце, у творчым метадзе Чысцякова Пэн знайшоў той кампраміс, які дапамог яму далучыцца да стылістыкі крытычнага рэалізму, стварыць шэраг твораў з выразным сацыяльным тыпажом і праблематыкай. Чысцякоў адхіляў натуралізм і дзеля яго пераадолення раіў на завяршальных этапах працы абагульняць форму: "Карціна не эцюд. Тут трэба пісаць больш вольна" (4) . У партрэце раіў: "Вочы, зрэнкі напішыце ва ўсю моц, каб як жывыя, а ўсё астатняе можна вольна" (5). Пэўна, гэтыя парады і дапамаглі Пэну набыць звычку дакладна выпрацоўваць твар, рукі і якую-небудзь дробязь, а агульнае аб'ёмна-пластычнае рашэнне пакідаць нераспрацаваным. Эфекты ілюзорнасці ў перадачы матэрыялу прысутнічаюць у большасці яго партрэтаў. Іх можна назіраць і ў атласным бляску гальштука "Аўтапартрэта з палітрай" (1898), і ў кантрасце добра высветленага адпрацаванага правага боку постаці з пластычна неадпаведнымі яму левым плячом і рукой "Старога з кошам" (1900), і ў завершанасці мадэліроўкі твару, спінкі крэсла ў партрэце І.Рабіновіча (1902).

Дадзеным прыёмам карысталіся ўсе вучні П.Чысцякова, але для мастака з дасканалай акадэмічнай падрыхтоўкай ён быў сродкам творчага абагульнення натуры, а для мастака з добра засвоенай школай "бытавога іканапісу" шыльдаў – сродкам спалучэння рэчавага свету ў адзіную кампазіцыю.

Добрай ілюстрацыяй рознасці разумення магчымасцяў гэтага прыёму дае супастаўленне творчасці М.Урубеля і Ю.Пэна, якія амаль адначасова вучыліся ў майстэрні П.Чысцякова і паслядоўна рэалізавалі парады свайго настаўніка, але дасягалі рознага эфекту. М.Урубель адштурхоўваўся ад рэалістычнай дэталі для жывапісна-пластычнага абстрагавання формы, Ю.Пэн з дапамогай аб'ёмнай і фактурнай мадэліроўкі якой-небудзь дэталі імкнуўся да знешняй пераканаўчасці вобраза. У 1900-х – 1910-х гадах ён больш-менш гарманічна спалучае фактурны натуралізм і жывапісную экспрэсію, але ўжо з 1920-х гадоў дэталёвасць адпрацоўкі формы і фактурныя эфекты пераважаюць, што разам з неглыбокім адчуваннем прасторы набліжае да народнага рамеснага жывапісу. Увогуле большасць яго кампазіцый яшчэ ў 1900-я – 1910-я гады маюць характар фрагментарнай "мантажнасці". Яны як бы складаюцца з традыцыйнага набору адпаведных для вобраза частак: твара, напісанага ў профіль ці анфас, кісці рукі і аднаго-двух ёмістых атрыбутаў. Добры ўзор таму "Аўтапартрэт у саламяным капелюшы" (1890-я гг.) і партэт Л. Шульмана (1898) .

Захапленне "перадзвіжніцтвам" узбагаціла творчасць Пэна сюжэтна-бытавым жанрам. Найбольш поўна ў сваёй адпаведнасці эстэтыцы крытычнага рэалізму яно было рэалізавана мастаком у карціне "Скасаванне шлюбу" (1907), якая мае разгорнутае шматфігурнае кампазіцыйнае рашэнне. Падмануты муж прывёў на суд сівабародых старцаў сваю вінаватую пакорлівую жонку і экспрэсіўным бездапаможным жэстам просіць іх парады. Тут падзея, а не рэчавае асяроддзе звязвае ў адзіны карцінны вобраз усе персанажы, што істотна адрознівае дадзены твор ад папярэдніх і наступных, пераважна апісальных карцін. Яе вялікія памеры сведчаць пра імкненне аўтара надаць сюжэту сацыяльна значны акцэнт. Драматызм сямейнага разладу быццам бы ілюструе крызіс патрыярхальных асноў грамадства, але ў вельмі дробным маштабе. Карціна ўспрымаецца вялікай жывапіснай ілюстрацыяй да газетнага рэпартажу пра скасаванне шлюбу, што ніяк не выяўляе калізій быцця народа. Больш цікавымі выглядаюць паасобку ўзятыя вобразы, нацыянальная тыпажнасць якіх выдатна распрацавана.

Па сведчанню самога Пэна, якое ўжо патрапіла ў мастацтвазнаўчую літаратуру, мастак болей за ўсё даражыў сваімі кампазіцыйнымі партрэтамі (6). На іх яму ўдалося стварыць цэлую галерэю нацыянальных характараў, адлюстраваць розныя бакі народнага жыцця. Рамеснікі, талмудысты, жабракі паказаны ў арганічным для іх асяроддзі, з амаль дакументальным этнаграфізмам. Адной з лепшых прац дадзенага жанру трэба лічыць "Гадзіншчыка" (1914). Ужо тут відавочна імкненне аўтара да ілюзорнасці ў перадачы рэчавых формаў, да апавядальнасці, якая раскрываецца праз насычэнне прасторы шматлікімі дробязямі. Такое шанаванне побытавых рэалій адразу сведчыць пра трываласць народных традыцый у светапоглядзе мастака, што з гадамі набывае ўсё больш акрэсленыя рысы.

Напачатку нацюрмортны рад служыць натуралістычным камертонам да вольна напісанага партрэтнага вобраза і адначасова дадатковай характарыстыкай для раскрыцця стану героя, як гэта бачна на карцінах "За газетай" (1910), "Старая з кнігай" (1900-я гг.). Потым дэталі пачынаюць дамінаваць і падпарадкоўваць сабе талент мастака. Калі творы Пэна 1900-х і 1910-х гадоў выклікаюць асацыяцыі з мастацтвам перадзвіжнікаў сваёй актуалізацыяй жанравага пачатку, публіцыстычнасцю, падкрэсленым грамадзянскім пафасам, то дзесьці з 1920-х гадоў на першы план выходзіць цікавасць да рэчавага свету, фактурнага падабенства. Асабовая характарыстыка, псіхалагізм партрэтаў саступае месца тыпажнасці, побытавае асяроддзе набывае знакавы характар, атрыбутыўнае дапаўненне персанажа. Карысна ў гэтым сэнсе параўнанне яго карцін "Гадзіншчык" 1914-га і 1920-х гадоў выканання. Калі ў першай рамеснік паказаны паглыбленым у чытанне нацыянальнай газеты, то ў апошняй герой зліваецца з акаляючымі яго рэчамі ў адзіны вобраз. Калі на першай матэрыяльны свет – гэта яшчэ асяродак, у якім жыве чалавек, то ў апошняй ён набывае самакаштоўнасць, адцягваючы ўвагу глядача сваёй ілюзорнасцю.

Карціны 1920-х гадоў дэманструюць той тып партрэта, які можна назваць саслоўным і наблізіць па стылёвых вартасцях да сармацкага, ці правінцыйнага купецкага партрэта і нават проста да рамеснай шыльды, дзе асоба выяўляецца ў дзеянні , дэманструючы від прапануемых паслуг. Яго героі пазбаўлены індывідуальнай характарыстыкі. Яны пазнаюцца як сацыяльны тып. Мастак стварае серыю карцін, якія распавядаюць пра розныя рамёствы: "Яўрэй – пекар" (1921), "Шавец – камсамолец" (1925), "Кравец" (1926), "Тынкоўшчык" (1920-я гг.) , "Швачка" (1927). Магчыма, гэтаму пераносу акцэнтаў у карцінным вобразе спрыяла палітычная сітуацыя , якая патрабавала падкрэслення сацыяльнай тэмы. Невыпадкова з'яўляецца аўтапартрэт "Сняданак" (1929), дзе Пэн намаляваў сябе ў сваёй майстэрні за місай бульбы ў шалупінні. Пасярод стала прыкметна раскладзена газета "Віцебскі пралетары", назва якой добра

прачытваецца, бо павернута як раз да глядача. Зважаючы на гэты прыём аўтахарактарыстыкі, Р.Казоўскі падкрэслівае яго функцыянальную ролю і прапануе яе як характэрную рысу віцебскай мастацкай школы (7). Увядзенне тлумачальнага тэкста ў пластычны вобраз з'яўляецца тыпалагічнай рысай народнага жывапісу, і асабліва такога жанру, як шыльда. Пэн скарыстоўваў тэкст у якасці дадатковага выразнага сродка таму, што быў чулы да народнай культуры і лёгка спалучаў яе з эстэтыкай высокага мастацтва.

З твораў 1920-х гадоў трэба адзначыць "Тлумача талмуда" (1925) і "Свата" (1926). З усіх створаных мастаком нацыянальных характараў яны найбольш збіральныя. У іх увасоблены два ментальныя тыпы: аскета, прыхільніка кніжнай вучонасці і жыццялюба, разняволенага артыста, творцы народных рытуалаў і святаў. Гэтая палярнасць асобаў яскрава выяўлена Пэнам з усёй уласцівай яму дакладнасцю мастацкай мовы. Пэн выпісвае амаль кожную зморшчынку і жылку на партрэце талмудыста, усе аксесуары адзення выбітнага свата. Пластычную мову гэтых партрэтаў ужо цяжка назваць акадэмічнай, бо яскрава праступаюць рысы народнага жывапісу: апісальнасць, залішняя дэкаратыўнасць каларыту, выпісванне другасных дробязяў.

Любоў Пэна да побытавага жанру і захапленне рэчавым светам Р.Казоўскі класіфікуе як "своеасаблівы сімвалізм" вобразнага мыслення, які быў развіты вучнямі мастака, стаў адметнасцю віцебскай мастацкай школы (8). Пазбягаючы шматслоўнай палемікі, трэба адзначыць, што "своеасаблівы сімвалізм" Пэна – гэта нішто іншае, як дамінуючыя рысы народнай культуры, набліжанасць да народнага светапогляду. Ад рамеснай шыльды праз акадэмічную штудыю і "перадзвіжніцкія" ідэалы прайшло стылёвае развіццё творчасці Ю.Пэна і сінтэзавалася ў кампазіцыйным партрэце з выразнымі прыкметамі эстэтыкі народнай культуры. У гэтым жанры ён увасобіў свой народ і свой час.

***Літаратура і крыніцы:***


1. Рывкин Михаил, Шульман Аркадий. Юдель (Юрий) Пэн (1854-1937). Художник и педагог. Витебск, 1994. С.5.
2. Горшковоз О.Д. К вопросу о конфессиональных различиях в искусстве XVIII века. Наш радавод. Кн. 4. (Частка 3). Гродна, 1992. С. 532-536.
3. Ведзянеяў М.М. Тэхніка-тэхналагічныя асаблівасці жывапісу Ю.М. Пэна. Матэрыялы да выстаўкі твораў Ю. М.Пэна. Менск, 1993. С. 26.
4. Чистяков П. Письма, записные книжки, воспоминания. М., 1953. С.396.
5. Тамсама. С.386.
6. Казовский Г. Художники Витебска. Иегуда Пэн и его ученики. М., б/д. С. 45.
7. Тамсама. С. 44.
8. Тамсама. С. 44-45.

*Клер ЛЕ ФОЛЬ*

# ВІЦЕБСКАЯ МАСТАЦКАЯ ШКОЛА: СПРОБА ДЭФІНІЦЫІ

Віцебская мастацкая школа была прадметам даследавання ў шматлікіх артыкулах, аднак да гэтага часу яшчэ не была зроблена спроба сінтэзу яе храналогіі і асноўных характарыстык.

На Захадзе цікавасць засяродзілася галоўным чынам на Шагале, мастаку выключна папулярным у Францыі, Германіі і Злучаных Штатах (1). Роля Пэна часта недаацэньвалася і нават затушоўвалася (2). Апроч таго, Віцебская школа непасрэдна сама па сабе не вывучалася, а толькі ўзгадвалася як эпізод творчай біяграфіі Марка Шагала. І толькі ізраільскія даследчыкі разгледзелі Віцебскую школу ў сваіх працах, прысвечаных мастацкаму яўрэйскаму адраджэнню ў Расіі на мяжы стагоддзяў. Першым, хто прадставіў яўрэйскі авангард у Расіі як паўнапраўны мастацкі рух, быў Абрам Кампф (3). За ім пайшлі іншыя спецыялісты, якія зацікавіліся Шагалам і Віцебскай школай у кантэксце руху яўрэйскага мастацкага адраджэння ў Расіі (4). Зіва Амішай-Майзельс настойвала на важнасці яўрэйскіх каранёў Шагала, а таксама на значнасці хасідскай культуры ў ягоным жывапісу, у той час як Міра Фрыдман і французскі спецыяліст па рускім авангардзе Жан-Клод Маркадэ шукалі вытокі творчасці мастака ў народным рускім мастацтве і авангардзе (5).

У Расіі і Беларусі па праблеме Віцебскай школы былі надрукаваны дзве невялікія кнігі-даведнікі (6), а таксама зборнік артыкулаў (7), прысвечаных розным праблемам – гістарычным, эстэтычным, філасофскім і інш. Рыгор Казоўскі, які зараз працуе ў Ізраілі, адкрыў шлях да інтэрпрэтацыі творчасці Шагала ў кантэксце руху яўрэйскага мастацкага адраджэння (8).

Такім чынам, бібліяграфія, прысвечаная Віцебскай школе, якая кожны год папаўняецца артыкуламі рускіх і беларускіх даследчыкаў, досыць багатая і разнастайная, аднак раскіданая. Яна адлюстроўвае складанасць гэтай мастацкай школы і магчымасць самых розных яе тлумачэнняў. Як вызначыць гэтую школу? Ці была яна звычайнай правінцыйнай акадэмічнай школай? Яна належыць рускаму авангарду ці з’яўляецца адной з першых школ яўрэйскага мастацтва? Пашукаем адказы на гэтыя пытанні.

Першы настаўнік Шагала часта прэзентуецца біёграфамі як нязначны правінцыйны мастак, прапітаны акадэмізмам і няздольны разгледзець творчы геній Шагала. Яго абвінавачвалі нават у тым, што ён прыгнятаў талент Шагала, на што апошні сам звяртаў увагу ў сваёй аўтабіяграфіі. Апошнія працы гісторыкаў мастацтва надаюць новыя адценні такім поглядам.

Пэн атрымаў класічную мастацкую адукацыю ў Санкт-Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў, дзе ён вучыўся з 1881 па 1886 гады і атрымаў дыплом “некласнага мастака”. Знаходзячыся ў Пецярбургу пад уплывам групы перадзвіжнікаў, Пэн любіў у сваіх партрэтах і жанравых сцэнах маляваць народ. Крыніцай натхнення для яго стаў таксама еўрапейскі жывапіс, асабліва Рэмбрандт. Адным словам, стыль Пэна быў класічным. Аднак некаторыя мастацтвазнаўцы ўгледзелі ў ім рысы прымітывізму (9). Фармальныя сродкі, якія выкарыстоўвае Пэн, характэрныя для гэтага стылю: захапленне дэталямі і спрашчэнне формаў, выкарыстанне розных маштабаў у адлюстраванні, недакладная перспектыва, схільнасць да плоскаснасці. Апроч таго, што Пэн карыстаўся знаходкамі мастакоў-шыльдачнікаў, назіраецца ўвядзенне ім у карціны тэкстаў, якія дапаўняюць адлюстраванне. Пэн стаіць бліжэй да народных матываў, чым да “цывілізаванага” і складанага мастацтва. Акадэмізм Пэна на працягу ягонага асабістага шляху, а таксама дзякуючы паходжанню напоўніўся правінцыялізмам. Так, ягоны жывапіс меў адбітак прыхільнасці да правінцыйнага жыцця і адлюстравання Віцебска. Ён часта пісаў свой горад, ягоныя звілістыя вулкі, Віцьбу, Дзвіну і рамеснікаў за працай (гадзіншчыкаў, шаўцоў). Ягоны іканаграфічны выбар быў абумоўлены ўплывам перадзвіжнікаў і рускага акадэмізму (партрэты, жанравыя сцэны), у той час, як ягоная эстэтыка была прасякнута прымітывізмам, у сваю чаргу абумоўленым сацыяльным паходжаннем і пачатковай адукацыяй шыльдачніка.

Ле Фоль Клер, аспірантка Вышэйшай школы сацыяльных навук у Парыжы (Францыя). Займаецца вывучэннем пытанняў гісторыі культуры і гісторыі яўрэяў Беларусі. З’яўляецца адным з аўтараў часопіса “Perspectives biélorussienes”. Зараз працуе над дысертацыяй “Гісторыя яўрэяў Беларусі ў XIX стагоддзі: агульныя аспекты, калектыўныя ўяўленні і міжэтнічныя адносіны”. Жыве ў Парыжы.

Пэн перадаў сваю гарачую прыхільнасць да Віцебска і правінцыйнага жыцця сваім вучням. Жывапіс Шагала таксама быў вельмі прымітывісцкі і прасякнуты правінцыялізмам. У большасці ягоных прац Віцебск прадстаўлены ў выглядзе наіўнай ідэаграмы (царква з купалам). Ён часта пісаў Віцебск і ягоных насельнікаў у народным і прымітывісцкім стылі (плоскаснасць, грубыя лініі, схематызацыя). Па сваёй эстэтыцы Віцебская школа была правінцыйнай і народнай. Большасць яе вучняў засталася прывязанай да сваіх каранёў і свайго горада, нават калі яны паралельна праводзілі авангардысцкія мастацкія эксперыменты.

Ці мела дзейнасць Віцебскай школы, як і яе стыль, толькі мясцовы характар?

Пэн адчыніў сваю студыю ў лістападзе 1897 года, як аб гэтым паведамляе архіўны дакумент (10). Ён усталяваў сваю майстэрню ў кватэры, якую прадставіў яму горад. Ягоныя вучні паходзілі з Віцебска і ваколіц. Пэн не ўжываў строгіх крытэрыяў адбору. Ён прымаў усіх жадаючых, што цікавіліся мастацтвам, незалежна ад таго, ці мелі яны чым заплаціць за ўрокі, ці не. Ён вучыў асновам малюнку і жывапісу: "Рисование геометрических тел, орнаментов и гипсовых фигур и писание красками с натуры" (11). Аднак дзейнасць студыі не абмяжоўвалася толькі ўрокамі. Пэн удзельнічаў у першай мастацкай выставе ў Віцебску ў 1899 годзе, арганізаванай на карысць Таварыства дапамогі дзецям. Такім чынам, ён быў непарыўна звязаны з культурным і сацыяльным жыццём горада. Апроч таго, Пэн і ягоныя вучні падтрымлівалі пастаянныя сувязі з мастакамі Масквы і Санкт-Пецярбурга, доказамі чаго з'яўляюцца лісты, запрашэнні і конкурсныя праграмы, дасланыя рускімі мастацкімі таварыствамі, якія былі знойдзены Я.Кічынай у прыватным архіве Пэна (12). У 1908 годзе Пэн разам з Шульманам прыняў удзел у выставе ў Санкт-Пецярбургу. У 1913-м ён выстаўляе свае карціны праз Яўрэйскае таварыства дапамогі мастакам у Петраградзе. У тым жа 1913 годзе Пэн і ягоныя вучні запрошаны да ўдзелу з працамі і дакладамі ў асветніцкай выставе, арганізаванай рускай Лігай роўнасці жанчын дзеля таго, каб садзейнічаць адукацыі жанчын. Такім чынам, дзейнасць школы выходзіла за межы Віцебска. Да таго ж, праходзіць у ёй навучанне прыязджалі жадаючыя з іншых гарадоў, і школа пастаянна падтрымлівала кантакты з рускімі сталіцамі.

А вось асабістыя імкненні Пэна за межы інтарэсаў мясцовага значэння не выходзілі. Адчыніўшы ўласную студыю, ён ажыццявіў сваю мару: быць прафесійным мастаком, паважаным майстрам і важнай асобай у горадзе. У часы Пэна школа не прэтэндавала на нешта большае, чым проста быць правінцыйнай. Аднак Шагал і рэвалюцыя надалі ёй новы размах.

З 1918 па 1923 гады Віцебская школа апынулася ў віхуры рускай рэвалюцыі і рускага авангарда. Ці можна, зыходзячы з гэтага, кваліфікаваць яе як авангардысцкую ці рэвалюцыйную? Ці садзейнічала яна стварэнню новых, "рэвалюцыйных" формаў у мастацтве? Якія былі адносіны Шагала да ўладаў і рэвалюцыйнай ідэалогіі?

Як і многія іншыя мастакі, Шагал спадзяваўся, што за палітычнай рэвалюцыяй 1917 года адбудзецца рэвалюцыя ў сферы мастацтва і што авангард, які падтрымліваюць улады,ператворыцца ў народнае мастацтва. Мы можам назіраць гэты сляпы энтузіязм у пяці ягоных артыкулах або заявах 1918-1919 гадоў, калі ён меў мандат камісара па справах мастацтваў.

Першы артыкул Шагала варты сапраўднага рэвалюцыянера-актывіста (13). Ён радуецца таму, што "рабочыя і сяляне" святкуюць першую і адну з самых выключных гадавін у гісторыі. Паводле ягоных словаў, мастацтва, як і чалавецтва, павінна прайсці праз рэвалюцыю, каб "замацаваць за сабой гістарычнае права на існаванне". Шагал спрабуе пераканаць пралетарыяў – а ён увесь час звяртаецца да рабочых і сялян – у неабходнасці існавання рэвалюцыйнага мастацтва, нават калі яны яго яшчэ не разумеюць. Ён сцвярджае права мастацтва на існаванне і свабоду. Каб дасягнуць гэтага, трэба, каб "абедзве рэвалюцыі, палітычная і духоўная, [вынішчылі] крок за крокам забабоны, што атрыманы ад мінулага". Шагал жадае таго, каб "акадэміі прафесараў" зніклі і былі заменены – таксама аўтарытарным чынам – школамі левага мастацтва, якія прышчэпвалі б рэвалюцыйнае мастацтва. Адначасова маючы веру ў будучыню гэтага мастацтва і ўсведамляючы неўспрымальнасць яго народам, Шагал гучна заяўляе: "Далоў забабоны! Апусціце перш за ўсё галаву ў рэвалюцыйнае мастацтва народа, не раздумваючы і давяраючыся яму". У гэтай сваёй захопленай прамове Шагал спрабаваў апраўдаць існаванне авангарднага мастацтва, незразумелага масам і ацэненага толькі элітай, якое, як бачым, ад самага пачатку не мела шанцаў стаць народным мастацтвам, аб чым марыў Шагал.

Другое выступленне Шагала (14) было гэткім жа захопленым і ўтрымлівала нават агрэсіўныя шпількі ў бок "акадэмікаў", але адначасова яно было і больш прагматычным, таму, што ў ім мастак прадстаўляў сваю канкрэтную працу ў Віцебску: упрыгожанне горада, расчараванне рэакцыяй "таварышаў рэвалюцыянераў", якія былі занепакоены выглядам дэкарацый. У гэтым артыкуле Шагал прадстаўляў свае праекты як камісар па справах мастацтва: цэнтралізацыя мастацкіх заказаў і мастакоў у школе,

набор выкладчыкаў са школ у залежнасці ад вартасцяў іх твораў і канцэпцый выкладання дзеля таго, каб кожны навучэнец у ягонай школе правільна засвоіў асновы малюнку. Ён заканчвае артыкул зваротам да вядомых мастакоў: "Людзей! Мастакоў! Рэвалюцыянераў-мастакоў! Сталічных у правінцыю! Да нас! Якімі абаранкамі вас завабіць?" Шагал дзейнічаў вельмі актыўна, каб рэалізаваць свой праект мастацкага выхавання народа. У гэты час яго падтрымлівалі Луначарскі і Маскоўскі аддзел выяўленчага мастацтва, які прадаставіў яму мэбляваны прыватны асабняк дзеля размяшчэння ў ім школы – факт экстраардынарны ва ўмовах грамадзянскай вайны, у час, калі Віцебск не мог прадаставіць неабходную колькасць памяшканняў пад шпіталі і казармы.

Трэці артыкул Шагала больш падобны на заклік аб дапамозе (15). У ім Шагал скардзіцца на матэрыяльныя праблемы (адсутнасць сталовай для мастакоў) і шкадуе, што правінцыйным мастацкім сілам не надаецца ніякай увагі, а ўсе сродкі выдаткоўваюцца на сталічную агітацыю. Потым ён нагадвае, што адчыніць сваю школу, якая прыме, нягледзячы ні на што, выкладчыкаў са сталіц "без урачыстасцяў і прамоў". Ён заклікае ўсіх працоўных прыйсці да яго ў майстэрню, каб пазнаёміцца з левым мастацтвам. Шагал заканчвае свой артыкул новым заклікам: "Дапамагайце ж і вы нам, хто можа, або што кажу я! – не перашкаджайце ж, у крайнім выпадку, нам працаваць, калі не заўсёды спачуванне вашае на нашым баку. Зробім што-небудзь для нашай сумнай радзімы". Здаецца, Шагал быў збянтэжаны яшчэ да афіцыйнага адкрыцця школы. Гэты артыкул, дастаткова блытаны, перадае незадаволеныя чаканні Шагала, ягоную патрэбу ў прызнанні, сумненні і расчараванні інэртнасцю жыхароў дарагога яму Віцебска, мастак зайздросціць неспакойнаму жыццю сталіц, бясконцаму энтузіязму Луначарскага.

Чацвёрты артыкул уяўляе сабой сапраўднае пасланне, мастацтвазнаўчы аналіз (16). У другі раз Шагал усхваляе рэвалюцыю, прынамсі, рэвалюцыю ў мастацтве. Пачынае ён з таго, што выкрывае бессэнсоўнасць інтэлектуальных спрэчак пра "мастацтва дзеля мастацтва" і супрацьпастаўляе іх мастацтву рэвалюцыі, якое вызначыла сваю мэту і выйшла з "зачыненых майстэрняў". Затым Шагал спрабуе даць вызначэнне пралетарскаму мастацтву. Ён дапускае, што яно можа мець "змест", аднак адмаўляецца абмяжоўваць яго "пралетарскімі" сюжэтамі, такімі, як сцэны з жыцця рабочых і сялян. У любым выпадку, пралетарскае мастацтва павінна быць простым і сціплым, без прэтэнзій і ідэалагічнага зместу. Па меркаванні Шагала, адзіным шляхам прыходу да яго з'яўляецца неабходнасць развітацца з мінулым, "вырваць апошнія прыкметы вашага мінулага жыцця", каб перастаць служыць адной толькі справе або ідэалогіі і стаць, зрэшты, вольным. Пралетарскае мастацтва – гэта мастацтва, якое ствараюць мастакі-пралетарыі, яны ж адначасова з'яўляюцца мастакамі і маюць пралетарскую свядомасць, што дае ім адчуванне прыналежнасці да калектыву. Пралетарскі мастак у параўнанні з буржуазным, перш за ўсё, не імкнецца "дагадзіць густу натоўпу", таму ён неадменна належыць да меншасці і застаецца незразумелым, прынамсі, спачатку. Шагал поўны надзеі, што "не дарэмна зямля дрыжыць". Гэты доўгі артыкул, дастаткова блытаны і дрэнна пабудаваны, паказвае, што Шагал не надта валодаў мастацтвам рыторыкі і зусім не меў дару палітычнага дзеяча і тэарэтыка мастацтва. Рэвалюцыйнае хваляванне прымусіла яго выказаць свае думкі ў абарону новага мастацтва, аднак ягоныя фармулёўкі часта нязграбныя і наіўныя, катэгарычныя і супярэчлівыя.

У апошнім артыкуле (17) Шагал з задавальненнем падводзіць вынікі працы Віцебскай школы. Ён віншуе сябе з тым, што ягоны "бедны горад" выйшаў са сваёй беднасці і летаргіі. Нам становіцца зразумелай сапраўдная мэта Шагала, якая палягае не ў сусветнай рэвалюцыі, а ў абароне Віцебска і ягоных дзяцей ад абскурантызму: "Мары аб тым, каб дзеці гарадской беднаты, якія недзе па дамах улюбёна крэмзалі паперу, далучаліся да мастацтва – здзяйсняюцца". Шагал радуецца таму, што ён выявіў "маладыя сілы Віцебска" і зрабіў з іх мастакоў. На гэты раз ён заканчвае артыкул патрабаваннем заказаў: "Дайце нам сцэны! Дайце магчымасць раскрыцца мясцовым талентам на карысць ім і вам".

Дзякуючы гэтым пяці заявам, можна вызначыць праграму Шагала – дырэктара школы. Яе можна рэзюміраваць трыма словамі: свабода, дэмакратызацыя, калектывізм. Шагал прадставіў мастакам (настаўнікам і вучням) поўную свабоду ў выбары жывапіснага стылю. У Віцебску працавалі прадстаўнікі розных плыняў: рэалізму (Пэн), імпрэсіянізму (Купрын), экспрэсіянізму (Шагал), сезанізму (Фальк), куба-футурызму (Ермалаева, Коган), супрэматызму (Малевіч, Лісіцкі, Ермалаева), канструктывізму (Пуні, Лісіцкі, Коган). Вучні маглі вольна выбіраць заняткі, якія іх цікавілі. Арганізацыя школы была дэмакратычнай. Ёю кіраваў камітэт, у які ўваходзілі выкладчыкі і вучні. Прадастаўленне заказаў адбывалася пасля конкурсу, у якім удзел маглі прымаць усе. Дэмакратызацыя, да якой так імкнуўся Шагал, ажыццяўлялася таксама праз выхаванне народа. Шагал жадаў паставіць мастакоў-пралетарыяў на службу рэвалюцыі. Ягоныя вучні паходзілі з сем'яў рабочых, сялян і служачых. Школа была сапраўды народнай, бо была бясплатнай і адчыненай для ўсіх, хто жадаў маляваць. Каб заваяваць большую папулярнасць сярод насельніцтва, Шагал "выпусціў мастацтва на вуліцу", упрыгожваючы горад

і размалёўваючы фасады і шыльды будынкаў. Зрэшты, Шагал жадаў, каб мастацтва стала калектыўнай дзейнасцю, а не індывідуальным заняткам. Заказы цэнтралізавана паступалі ў школу, і ўсе мастакі павінны былі зарэгістравацца ў падсекцыі выяўленчага мастацтва, каб атрымаць працу. Так, прынцыпы працоўнай школы выкарыстоўваліся ўнутры школы мастацкай, якая ператварылася ў "камуну", дзе "заробак дзяліўся паміж усімі пароўну" (18).

Шагал, абавязаны рэвалюцыі тым, што яна дала яму магчымасць стаць "дабрадзеем свайго горада", прыняў рэвалюцыйную мастацкую праграму. Сябры УНОВИСа таксама жадалі зрабіць мастацтва народным і служыць рэвалюцыі. Як можна было рэалізаваць лозунгі гэтых прапагандыстаў рэвалюцыі ў мастацтве?

У адпаведнасці з дырэктывамі секцыі выяўленчага мастацтва, Шагал важнае месца адводзіў прапагандзе і агітацыі. Да святкавання гадавінаў Кастрычніцкай рэвалюцыі горад упрыгожваўся арыгінальнымі транспарантамі, паходнямі, сцягамі, размаляванымі лозунгамі. У тыя дні Віцебск быў цэнтрам авангарда і прапаганды, месцам даследванняў і інавацый у сферы мастацтва масавай агітацыі. Апроч таго, РОСТА заказвала школе шмат шыльдаў, афіш і плакатаў. Група УНОВИС укладала асабліва шмат намаганняў у стварэнне і прапаганду мастацтва, якое выходзіла ў народ. Выкарыстоўваючы разнастайныя носьбіты (мэблю, будынкі, трамваі, адзенне, посуд, харчовыя карткі), УНОВИС пакідаў свой супрэматычны след у побыце віцяблянаў. Супрэматысты выпрацавалі мову, зразумелую ўсім, якая складалася з геаметрычных формаў, яркіх колераў і простых лозунгаў, напісаных жывой каліграфіяй. Шматлікія праекты трыбун і афіш Лісіцкага, Суэціна і Чашніка былі новымі і пераканаўчымі.

Нягледзячы на жаданне віцебскіх мастакоў далучыцца да рэвалюцыі, вынікі іх дзейнасці былі неадназначнымі. На самой справе, жыццё школы было абцяжарана матэрыяльнымі праблемамі. Заробак служачым падсекцыі выяўленчага мастацтва часта выплочваўся са спазненнем або зусім не выплочваўся. Недахоп фінансавых сродкаў перашкаджаў выкананню заказаў і ажыццяўленню мастацкіх праектаў. Мастакам даводзілася выкарыстоўваць матэрыялы дрэннай якасці. Змяняючыя адзін аднаго, дырэктары школы большую частку свайго часу выкарыстоўвалі на тое, каб шукаць грошы і матэрыялы. Апроч таго, Віцебская школа мела дрэнныя ўзаемаадносіны з уладамі. Таму, што арганізацыя мастакоў была вельмі цэнтралізаваная, яе ўдзельнікі страчвалі сваю творчую волю і амаль не мелі магчымасцяў выяўляць уласную ініцыятыву. Рашэнні прымаліся ў камітэтах падсекцый. Шагал пакутваў ад гэтага і нават праявіў сябе як "разбэшчаны", згодна з вызначэннем у нататцы, надрукаванай у мясцовай газеце, выказваючы нязгоду з нейкай пастановай Наркамасветы (19). Шагал уступіў у канфлікт з мясцовымі ўладамі, бо яны не надавалі дастаткова ўвагі і сродкаў мастацкім праектам і не пакідалі Шагалу належнай свабоды дзеянняў. Апроч таго, цэнтральныя ўлады ў Маскве рабіліся ўсё больш і больш патрабавальнымі. У 1921 годзе школе было загадана скласці падрабязную справаздачу аб яе рабоце, аб школьнай праграме, колькасці працоўных гадзін, спіс служачых і абсталявання, а таксама справаздачу аб колькасці заказаў. Гэтая справаздача была абавязковай умовай для прадстаўлення крэдытаў (20). Матэрыяльныя праблемы і кантроль, які ажыццяўляла дзяржава, сталі перашкодай на шляху развіцця школы.

Працу мастакоў у Віцебску закранулі таксама і праблемы іншага парадку – неразуменне і нават супрацьдзеянне публікі. Многія сучаснікі Шагала і Малевіча не разумелі іх мастацтва, аб чым сведчыць артыкул аб упрыгожванні горада ў кастрычніку 1919 года: "Калі жыхары Віцебска прачнуліся [...], іх здзіўленню не было мяжы. Будынак сабора на галоўнай плошчы горада быў зацягнуты вялізнымі размаляванымі палотнішчамі: даўгабародыя старыя на ярка-зялёных у яблычках конях імкнуліся ў неба... Што гэта павінна было азначаць? [...] Чамусьці на новых шыльдах былі намаляваны цэлыя чароды папугаяў, якія сядзелі на дрэвах, і былі размаляваны ва ўсе колеры вясёлкі... Навошта гэта было патрэбна – ніхто не разумеў" (21). Адзін мясцовы журналіст пісаў, што "вузкае і грубае мяшчанства [...] не прызнае сфінксаў і ўсё тое, што здаецца яму незразумелым, яно лічыць недарэчным, нявартым фіглярствам" (22).

Малевіч і ягоныя вучні сустракалі яшчэ большае неразуменне. Як піша Абрамскі, Малевіч быў кваліфікаваны як "паяц, цынік", які насміхаецца над віцяблянамі. Ягоная філасофія была ўсяго толькі "бессэнсоўным наборам слоў". Беззмястоўнасць ягонага мастацтва і педагогікі маглі толькі "зламаць маладыя таленты, якія яму давяраюцца" (23). Вецер мастацкай свабоды, які прайшоўся над Віцебскам, быў ацэнены толькі самімі мастакамі, якія пацярпелі паразу ў сваёй місіі зрабіць авангарднае мастацтва народным. Апроч таго, Малевіч і Шагал былі моцнымі асобамі, і паміж імі ўвесь час успыхвалі канфлікты. Іх нават абмяркоўвалі на секцыі выяўленчага мастацтва і ў школе. Шагал, надта просталінейны і ўладарны, не выносіў разбэшчанасці і існавання іншых меркаванняў у выкладчыкаў (24): "Мне не цярпелася ўбачыць, як усё працуе. Я не даваў адпачынку ні сабе, ні іншым" (25).

Віцебская школа непрацяглы час з'яўлялася асноўным цэнтрам левага мастацтва. Аднак рэвалюцыйныя мастакі былі расчараваны рэакцыяй жыхароў Віцебска, якія збянтэжыліся ад арыгінальных твораў Шагала і сяброў УНОВИСа. Такім чынам, рэвалюцыйны размах школы быў абмежаваны яе правінцыйнасцю. Нягледзячы на прыхільнасць да свайго горада, Шагал не мог вытрымаць адсутнасці густу і разважнасці ў віцяблянаў. Не зважаючы на рэвалюцыйную агітацыю, што была прынесена мастакамі са сталіц, Віцебск у часы дзейнасці народнай школы захаваў свой правінцыйны характар.

Калі Віцебск не адпавядаў вышыні рэвалюцыйных памкненняў Шагала і Малевіча, то ці можна лічыць яго галоўным цэнтрам руху яўрэйскага мастацкага адраджэння?

Адным з аргументаў, які доказвае яўрэйскі характар Віцебскай школы, з'яўляецца высокі працэнт яўрэяў у адміністрацыі, а таксама сярод педагогаў і вучняў. Пэн, заснавальнік школы, быў яўрэем, які трымаўся традыцый. Ён хадзіў у сінагогу, не працаваў у шабат і размаўляў на ідзіш. Жывапіс стаў для яго адным са спосабаў быць яўрэем. Ён разумеў мастацтва, як "форму нацыянальнага жыцця і спосаб нацыянальнай самаідэнтыфікацыі" (26). Ён лічыў сябе яўрэйскім мастаком і ўспрымаўся такім сваімі блізкімі і вучнямі. Шагал таксама быў сапраўдным яўрэйскім мастаком. Хоць ён і адыйшоў ад яўрэйскай абшчыны, аднак ніколі не адмаўляўся ад сваіх каранёў і ўсё жыццё чэрпаў натхненне ў сваім дзяцінстве, праведзеным у яўрэйскім хасідскім асяроддзі. Вучні Пэна, якія ў сваю чаргу сталі выкладчыкамі ў Віцебскай школе, мелі яўрэйскае паходжанне: Юдовін, Якерсон, Бразер. З 20 настаўнікаў, якія выкладалі з 1918 па 1923 гады, 10 былі яўрэямі. У гэты час многія выкладчыкі прыехалі са сталіц і стварылі рускую большасць унутры школы. Аднак многія засталіся тут толькі на некалькі месяцаў (Любавіна, Пуні, Багуслаўская, Цільберг, Радлаў, Лебедзева) і глыбока не паўплывалі на школу, у той час, як дзейнасць "мясцовых" настаўнікаў яўрэйскага паходжання ў Віцебску была пастаяннай і рэгулярнай. Яны былі сэрцам школы. Што ж тычыцца вучняў, то тыя набіраліся з мясцовага насельніцтва. У сувязі з тым, што Віцебск уваходзіў у рысу аселасці і колькасць яўрэяў тут у канцы XIX ст. дасягала 52%, значная частка вучняў была яўрэямі. У часы Пэна школу наведвалі амаль выключна маладыя яўрэі з беднага і традыцыяналісцкага асяроддзя, якія наведвалі сінагогу і ешыботы. Рэвалюцыйная школа, наадварот, прымала больш неяўрэяў, чым раней. Дзякуючы анкетаванню, праведзенаму ў школе ў 1921 ці 1922 гадах, мы можам шмат даведацца пра яе вучняў. Яны павінны былі запоўніць картку, указваючы сваё імя, сямейнае і сацыяльнае становішча, палітычныя погляды, майстэрню, якую наведвалі, год паступлення ў школу, а таксама свае схільнасці (27). Мы можам зрабіць выснову пра яўрэйскае паходжанне вучня на падставе ягонага імя, імя па бацьку і прозвішча. З 67 апытаных вучняў 45 былі яўрэямі. Такая перавага яўрэяў сярод вучняў школы сведчыць пра жыццёвую сілу яўрэйскай абшчыны і пра яе цікавасць да мастацтва і ўвогуле адукацыі.

Зрэшты, адміністрацыя школы была таксама ў пераважнай большасці яўрэйскай. Вывучыўшы ўліковыя карткі па аплаце і спісы "працоўных школы" (28), даводзіцца канстатаваць, што персанал набіраўся сярод яўрэйскага насельніцтва: Шэйка Фрумсан-Юдовін і Янкель Абарбанель былі сакратарамі; Якаў Бенфест, Ісак Бескін і Ісак Кабішчар – упраўляючымі; Майсей Ліазнянскі – іх памочнікам; Мордух Іцігін – бухгалтарам; Лейзер Еўзераў – кладаўшчыком; Іосіф Кубліцкі – электрыкам; Разалі Разенфельд – бібліятэкарам. Другасныя ж пасады, а таксама пасады па абслугоўванню, наадварот, займаліся рускімі або беларусамі (29). Яўрэйскае паходжанне персаналу таксама бачна з анкет: Абарбанель паведамляе, што ён вучыўся ў яўрэйскай школе, іншыя "вучыліся дома" (30). Бухгалтар Іцігін патрабуе выканання правоў, нададзеных яўрэям рэвалюцыяй, у сваім лісце ад 13 лютага 1921 г., адрасаваным дырэктару Віцебскіх вольных майстэрняў (тады Ермалаевай): "У Канстытуцыі РСФСР ёсць закон аб свабодзе сумлення, згодна з якім кожны грамадзянін мае права трымацца сваіх рэлігійных перакананняў і гэта не перашкаджае яму карыстацца ўсімі грамадзянскімі правамі і займаць Дзяржаўн. пасаду. З-за таго, што працаваць па суботах супярэчыць маім рэлігійным і нацыянальным перакананням, я прашу на падставе згаданага закона вызваліць мяне ад заняткаў па суботах, замяняючы гэты дзень нядзеляй" (31). Гэтая заява ілюструе з аднаго боку тое, як яўрэі маглі выкарыстоўваць свае новыя правы, а з другога – актуальнасць існавання яўрэйскага пытання ўнутры школы. Тое, што галоўным чынам яўрэі займалі ў школе пасады, якія патрабавалі кваліфікацыі, з'яўляецца натуральным, таму што іх культурны і адукацыйны ўзровень быў вышэйшы за ўзровень беларускага насельніцтва. Такім чынам, Віцебскай школай кіравала мясцовая яўрэйская інтэлігенцыя. Ці выяўляецца гэтая яўрэйская прыкмета ў эстэтыцы, якую развівалі мастакі школы?

Пэн імкнуўся стварыць яўрэйскі жанр, выбіраючы яўрэйскія тэмы. Ён жадаў праз свае працы адлюстраваць жыццё народных мас, жыццё нават самае банальнае і паўсядзённае, што надавала ягоным карцінам этнаграфічны і амаль "дакументальны" характар. Яўрэйскія рамеснікі, якіх ён маляваў, былі

яму блізкія; мы адчуваем, што яны разам з Пэнам належаць да адной сям'і, да адной абшчыны. Усе жанравыя сцэны Пэна ўяўляюць сабой сапраўднае ўзнаўленне традыцыйнага жыцця ў штэтле, а таксама пераменаў у гэтым жыцці. "Скасаванне шлюбу" (1907 ?) адлюстроўвае разбурэнне традыцыйных каштоўнасцяў і ўмяшанне сучаснасці ў яўрэйскі свет. "Ліст з Амерыкі" згадвае пра масавую эміграцыю яўрэяў у Амерыку ў канцы XIX стагоддзя. У творчасці Пэна можна таксама знайсці элементы, якія паходзяць са старажытнаяўрэйскай культуры. Першы элемент – Святое Пісанне (Біблія або Талмуд), вечны аб'ект, які прысутнічае на многіх палотнах ("Партрэт І.Рабіновіча", "Талмудыст", "Абед у шабат"). Другі элемент, абцяжараны сімволікай – гадзіннік, які матэрыялізуе незваротны бег часу і вечнасць яўрэйскага народа. З дапамогай шматлікіх партрэтаў Пэн стварыў свой вобраз Вечнага Жыда. Неабходна зазначыць, што Пэн маляваў яўрэяў у іх звычайных будзённых абставінах, дома або ў майстэрні. На самой справе, у іудаізме дом – гэта свяшчэннае месца, дзе абавязкова патрэбна выконваць запаветы і паводзіць сябе належным прыстойнаму яўрэю чынам, у супрацьлегласць вуліцы, дзе трэба быць проста чалавекам, а не яўрэем. Жывапіс быў для Пэна сродкам выказвання свайго пачуцця прыналежнасці да абшчыны, сям'і, бессмяротнага грамадства – яўрэйскага народа.

У сувязі з тым, што асоба Шагала была ўжо шырока асветлена ў шматлікіх артыкулах, я спынюся на гэтым вельмі коратка. Найперш, Шагал, нягледзячы на тое, што ён казаў, падпаў пад уплыў Пэна і запазычыў частку ягонай тэматыкі (яўрэі, якія моляцца, наяўнасць гадзіннікаў і тэкстаў у карцінах) (32). Аднак Шагал заўсёды трымаўся ў баку ад усялякіх мастацкіх плыняў і стварыў свой уласны мастацкі стыль, часам падпітваючыся фармальнымі знаходкамі іншых мастакоў. На сваіх ранніх палотнах Шагал адлюстраваў падзеі яўрэйскай паўсядзённасці ў прымітывісцкім і экспрэсіяністкім стылях ("Абразанне", "Нараджэнне", "Рытуальнае абмыванне", "Вяселле"). Пасля вяртання з Парыжа ён зноў вярнуўся да яўрэйскіх тэмаў і стварыў серыю партрэтаў яўрэяў ("Ацэнка", "Чырвоны яўрэй", "Яўрэй у зялёным"). Ён маляваў сцэны з побыту свайго горада на фоне вайны. Так, ён стварыў сапраўдную тыпалогію насельнікаў штэтла – рамеснікаў, гандляроў, дворнікаў, ваданосаў, музыкантаў... Ён маляваў таксама яўрэйскія рэлігійныя святы і сінагогу ("Свята Ханукі", "Свята шатроў", "Пурым", "Сінагога"). Зрэшты, у сваіх дэкарацыях для яўрэйскага тэатра ў Маскве ён падкрэсліў разнастайнасць вартасцяў яўрэйскага артыста – музыканта, танцора, акрабата і акцёра. Усе працы Шагала звязаны з хасідскай культурай, сярод якой ён вырас. Гэта можна заўважыць у святочнай атмасферы, якая характэрная для хасідызму і прысутнічае ў карцінах (33). Зіва Амішай-Майзельс расшыфравала палотны Шагала наступным чынам: многія з іх спасылаюцца на народную культуру ідзіш. Напрыклад, "Смерць" – літаральная ілюстрацыя ідыяматычнага выразу на ідзіш ("a toïte gas" – мёртвая вуліца) (34).

Па працах віцебскіх вучняў можна вызначыць з'яўленне асобнага стылю яўрэйскага характару ўнутры школы. З самага пачатку ў якасці тэмаў усе абралі партрэты яўрэяў і жыццё ў яўрэйскіх мястэчках. Так, быў створаны арыгінальны вобраз штэтла: з аднаго боку, карпатліва выпісваліся ягоныя этнаграфічныя рысы (у супрацьлегласць кіеўскім мастакам Рыбаку і Эпштэйну, якія прадстаўлялі агульнае бачанне штэтла), а з другога боку, нягледзячы на гэтую дакументальную дакладнасць, іх вобразнасць насіла фантастычны характар, дзе ўсе элементы былі няўстойлівымі і пазбаўленымі раўнавагі (35). Віцебскія мастакі апрабавалі гэты фантасмагарычны вобраз штэтла ў цёмных графічных працах, такіх прыкметных, што яны былі падхоплены іншымі мастакамі. Дзякуючы чорнаму і беламу яны здолелі стварыць яшчэ больш жудасны вобраз, дзе штэтл нагадвае пустэльны разбураны горад без неба. Гэтыя працы, якія выкарыстоўваліся ў якасці ілюстрацый да кніг, расказвалі пра галечу і беднасць яўрэяў, што жылі ў мястэчках рысы аселасці. У той жа час, віцебскія і іншыя яўрэйскія мастакі, чэрпалі натхненне таксама ў народным мастацтве і фальклоры, што быў нанова адкрыты дзякуючы этнаграфічным экспедыцыям. Тэмамі цёмных і трагічных палотнаў таксама былі могілкі і пахаванне.

Калі мы прадставілі доказы яўрэйскасці школы, то зараз мы паспрабуем удакладніць яе ролю ў руху яўрэйскага мастацкага адраджэння. Мастакі Віцебска прымалі ў ім актыўны ўдзел ці заставаліся ў баку?

Пэн падчас вучобы ў Санкт-Пецярбургу сышоўся з яўрэямі з Акадэміі мастацтваў і трымаўся рэкамендацый вядучых кіраўнікоў нацыянальнай яўрэйскай школы (Антакольскага, Стасава, Рэпіна і свайго настаўніка Чысцякова). Аднак, каб атрымаць дыплом, ён падпарадкаваўся патрабаванням Акадэміі. Ад свайго знаходжання ў сталіцы ён захаваў цікавасць да дыскусій пра яўрэйскае мастацтва і перакананасць у тым, што трэба пісаць на яўрэйскія тэмы. Аднак жыццё ў правінцыі перашкодзіла яму прыняць актыўны ўдзел у распрацоўцы праграмы яўрэйскага мастацтва, хоць ён па-ранейшаму працягваў быць у курсе дыскусій дзякуючы газеце "Ost und West". Ён падтрымліваў кантакты з яўрэйскімі мастакамі і яўрэйскімі мастацкімі коламі Пецярбурга, рэгулярна перапісваўся з Таварыствам заахвочвання мастацтваў і ўдзельнічаў у выставе 1916 года. Пэн, ад'ехаўшы ў Віцебск, у той час, калі ў

яго была магчымасць застацца ў Санкт-Пецярбургу, аддаў перавагу знаходжанню ў баку ад інтэлектуальнага хвалявання сталіц, выбраў спакойнае жыццё правінцыяла, блізкае да традыцыйнага яўрэйскага жыцця. Ён задаволіўся пасіўнай пазіцыяй у адносінах да руху яўрэйскага мастацкага адраджэння. Але яўрэйскія мастакі, што яго ведалі, былі яму вельмі ўдзячныя за ягоны ўклад у яўрэйскае мастацтва: "Вы выхавалі вялікае пакаленне яўрэйскіх мастакоў. Яўрэйскае грамадства Расіі павінна гэта ведаць і будзе гэта ведаць [...] Вашы лепшыя працы, якія характарызуюць пэўную старонку жыцця Расіі і яўрэяў, будуць сабраны ў спецыяльным месцы ў будучым музеі горада Віцебска, а некаторыя з іх адыйдуць у Цэнтральны Яўрэйскі музей, а мы, адны з Вашых першых вучняў, будзем асабліва разумець Вас. Мы не аслепнем" (36). Без тэорый і мастацкіх праграм, у баку ад дыскусій, Пэн перадаў сваім вучням уласнае адчуванне яўрэйскага мастацтва.

Адносіны Шагала да яўрэйскага мастацтва былі складанымі. Успрымаемы як ідэал сучаснага яўрэйскага мастака Рыбаком і Арансонам, ён не заўсёды прымаў гэтую ролю важака і прыкладу. Паглыблены ў яўрэйскае мастацтва ў майстэрні Пэна дзякуючы рэпрадукцыям, апублікаваным у "Ost und West", ён усведамляў сваю прыналежнасць да кола яўрэйскіх мастакоў і сваю місію ў нацыянальным мастацтве. У Віцебску, а затым у Санкт-Пецярбургу і Парыжы Шагал сустрэў шмат мастакоў яўрэйскага паходжання, а таксама мецэнатаў, якія дапамаглі яму матэрыяльна (Макс Вінавер, барон Гінцбург). Адчуваючы сябе адкінутым рускім і французскім грамадствамі, ён знайшоў прытулак у яўрэйскіх мастакоў, якія яго падтрымалі (Бакст, Дабужынскі, Соня Дэлане і Макмадзімы з парыжскага "Вулля"). Пасля вяртання з Парыжа ён бачыў сябе другім Антакольскім, сучасным яўрэйскім мастаком. Ён стаў узорам для маладых яўрэйскіх мастакоў і ўступіў у рух яўрэйскага мастацкага адраджэння. Як і ягоны супернік Натан Альтман, Шагал пачаў ілюстраваць кнігі на ідзіш (два вершы Дэр Ністэра і "Чараўніка" Пераца). Ягоны ўдзел у першай выставе ў 1916 годзе разам з Альтманам дазволіў яму ўсталяваць кантакт з яўрэйскімі мастакамі Масквы. Ён быў актыўным сябрам некалькіх мастацкіх яўрэйскіх таварыстваў (яўрэйскае Таварыства заахвочвання мастакоў у Петраградзе, Маскоўскі гурток яўрэйскіх мастакоў і пісьменнікаў, Культурліга). Эфрос і Тугендхольд у сваіх артыкулах і кнізе прадстаўлялі яго вялікім яўрэйскім мастаком. Ягоным апошнім укладам у яўрэйскае мастацтва Расіі стала выкананне дэкарацый для Маскоўскага яўрэйскага тэатра. Потым Шагал пакінуў Расію, расчараваны тым, што не атрымаў прызнання, якога чакаў ад яўрэйскіх мастакоў, і засмучаны сваёй няўдачай у Віцебску. Ягоная горыч адчуваецца ў артыкуле 1922 года на ідзіш (37). Аддаляючыся ад яўрэйскага мастацкага руху, Шагал зводзіць да мінімуму сваю ролю ў ім у пошуках яўрэйскага стылю, з іроніяй асуджае пустэчу дыскусій мастакоў "Вулля" аб сутнасці яўрэйскага мастацтва. Ён даходзіць да таго, што адмаўляе існаванне нацыянальнага мастацтва. Прадстаўляючы сябе яўрэйскім мастаком ад нараджэння, які вырас у яўрэйскай традыцыі, ён падвяргае сумненню апраўданасць дыскусій, этнаграфічных, стылістычных і тэарэтычных даследаванняў, якія прадпрымаліся яўрэямі, мяркуючы, што яўрэйскае мастацтва не можа быць прадстаўлена ў выглядзе канцэпцыі, а праяўляецца толькі ў практыцы, пад пэндзлем. Гэтае крэда, што супярэчыць ранейшым прыхільнасцям мастака, адлюстроўвае горыч Шагала, якая ўзнікла з прычыны ад'езду з Віцебска пасля непрызнання ягонага стылю і захаплення супрэматызмам Малевіча, з ягонай няўдачы ў тэатры Габіма, які ангажаваў суперніка Шагала Альтмана, з ягоных сварак з Граноўскім. Гэты артыкул, напісаны ад прыкрасці і стомленасці, у насмешлівым тоне стаў адказам Шагала на доўгае неразуменне, на гады чакання прызнання, немагчымага ў тыя часы збянтэжанасці ў рускім мастацтве. А ці былі ў іншых віцебскіх мастакоў гэткія ж двухсэнсоўныя адносіны да яўрэйскага мастацтва?

Як і Шагал, Лісіцкі да пачатку 1920-х гадоў прымаў актыўны ўдзел у яўрэйскім мастацкім руху, удзельнічаючы ў стварэнні яўрэйскіх таварыстваў і этнаграфічнай экспедыцыі Рыбака ў 1915 годзе. Ягоныя ілюстрацыі да кніг на ідзіш уяўляюць сабой значны ўклад у пошукі яўрэйскага стылю (38). На пачатку 1920-х гадоў ён парывае з Расіяй і яўрэйскай мастацкай праграмай дзеля таго, каб прысвяціць сябе авангардысцкім даследаванням у Заходняй Еўропе. Уклад Юдовіна ў яўрэйскі мастацкі рух, за выключэннем ягонага ўдзелу ў экспедыцыі Ан-скага, меў мясцовы характар. Ён быў адным з самых актыўных мастакоў у Віцебску. Юдовін актыўна ўдзельнічаў у працы яўрэйскай секцыі, створанай у Віцебску, а таксама чытаў лекцыі ў клубе імя Пераца. Іншыя яўрэйскія мастакі заставаліся ў баку ад яўрэйскай мастацкай дзейнасці сталіц і задавальняліся тым, што стваралі яўрэйскае мастацтва, не тэарэтызуючы і не патрабуючы яго. Такім чынам, Віцебская школа ў цэлым не прыняла актыўнага ўдзелу ў нацыянальным яўрэйскім руху. Яе сябры заставаліся ў баку ад інтэлектуальных спрэчак, аднак яны былі бліскучымі носьбітамі нацыянальнага духу, бо, з'яўляючыся блізкімі да традыцыйнай яўрэйскай культуры, здолелі выказаць яе ў сваім уласным стылі – па сутнасці сваёй, яўрэйскім. Як і іншыя яўрэйскія мастакі, яны знаходзіліся ў сэрцы рускага авангарда, жадаючы стварыць універсальнае

мастацтва. Выступаючы за абстракцыю Малевіча, яны ўжылі, не ўсведамляючы гэтага, праграму яўрэйскага адраджэння, выпрацаваную ў сталіцах. Як Фальк, Альтман, браты Габо і Пеўзнер, мастакі Віцебска скіраваліся да самых новых формаў мастацтва, каб быць у ягоным авангардзе. Зварот Шагала да ўсіх мастакоў сталіц, якой бы ні была іх мастацкая арыентацыя, зрабіў Віцебск цэнтрам авангарда, а не яўрэйскага мастацтва, у адрозненні ад Кіева, Масквы і Санкт-Пецярбурга, дзе канцэнтраваліся пераважна яўрэйскія мастакі. Гэта тлумачыцца, несумненна, правінцыйным характарам школы і асабліва прадузятасцю змяняючыхся дырэктараў, якія не жадалі абвяшчаць сябе школай яўрэйскага мастацтва. У адрозненні ад іншых яўрэйскіх мастакоў, мастакі Віцебска не мелі неабходнасці змагацца за права яўрэйскага мастацтва на існаванне. Яны атрымалі гэтае права без высілкаў у студыі Пэна і ў асяроддзі добразычліва скіраванай яўрэйскай інтэлігенцыі Віцебска. Яны пазбегнулі акаляючага антысемітызму і не адчувалі неабходнасці заяўляць аб сабе, як аб яўрэях, перад рускім і беларускім уціскам, якога не было ў галіне мастацтва ў Віцебску.

Зрэшты, каб завяршыць вызначэнне Віцебскай школы, неабходна ўзгадаць рускую культуру. Кіраўнікі школы выйшлі не з яўрэйскага, а з руска-яўрэйскага асяроддзя. Сумеснае пражыванне ў межах рысы аселасці славянскага і яўрэйскага насельніцтва было крыніцай узаемадзеяння яўрэйскай і неяўрэйскай культур. Працы мастакоў Віцебскай школы адрасаваліся не толькі яўрэям. На задніх планах многіх палотнаў бачна беларускае атачэнне (хаты, цэрквы, краявіды). Мастакі сумясцілі сваё яўрэйскае бачанне свету з беларускім фонам. Уплыў рускай культуры праяўляецца таксама ў стылі, якім карысталіся Пэн і ягоныя вучні. Сапраўды, мастацкая адукацыя гэтых мастакоў была непазбежна рускай і адчула на сабе ўплыў перадзвіжнікаў у выпадку з Пэнам або рускага авангарда ў выпадку з Шагалам. Апошні сам казаў: "Я вельмі люблю яўрэяў (я гэта дастаткова даказаў), але я таксама люблю рускіх і іншыя нацыі, і я прызвычаіўся пісаць сур'ёзныя рэчы для многіх нацый" (39). Ён таксама ўвёў у свае палотны неяўрэйскае атачэнне і трактаваў нават хрысціянскія жывапісныя тэмы ("Святое сямейства", 1910; "Галгофа", 1912). Творчасць Шагала ўпісвалася не толькі ў яўрэйскую хасідскую культуру, але таксама і ў рускае мастацтва – як у народнае мастацтва, так і авангард. Ягоны жывапісны свет быў сінтэзам міфічнай і паэтычнай іканаграфіі хасідызму і рускай традыцыі фантастычнага (Гогаль, лубок або "мудрагелістая" паэзія 1910-х гадоў). Мастакі Віцебска праявілі сваю яўрэйскасць з дапамогай рускай фармальнай мовы. Прымаючы рускую эстэтыку, яны, тым не менш, не адмовіліся ад сваёй уласнай ідэнтычнасці. Да рускай формы яны дадалі яўрэйскую глыбіню, пункт погляду і дух свайго народа. Характэрнай асаблівасцю культуры яўрэйскай дыяспары было яе абавязковае ўключэнне ў неяўрэйскія культуры. "Яўрэйскі дух прыстасоўваецца да любых моваў. Ён змешваецца з імі; ён вызваляе іх, калі яны паміраюць, для яго не складае цяжкасцяў перажыць іх, каб змяшацца з іншымі формамі, больш новымі" (40). Такім чынам, яўрэйскае мастацтва, створанае ў Віцебску, з'яўляецца нейкім гарманічным сінтэзам сучаснага рускага мастацтва і яўрэйскай культуры штэтла. Яўрэйскае мастацтва "было абавязана сваёй арыгінальнасцю беларускаму яўрэйскаму асяроддзю, гэта значыць, духоўнаму, рэлігійнаму, сакральнаму комплексу, які характарызаваў яўрэйскае жыццё ў межах Расійскай імперыі" (41).

Заканчваючы свой роздум, адкажам на пытанне: як вызначыць Віцебскую школу ў яе цэласнасці? Тое, што такая школа з'явілася ў гэтым горадзе, не выпадкова: тут былі ўсе ўмовы, якія спрыялі яе росквіту (нераспаўсюджанасць антысемітызму, добразычліва накіраваная яўрэйская інтэлігенцыя, правінцыйны горад, звязаны са сталіцамі). Уплыў школы не пераадолеў правінцыйнага вымярэння. Правінцыйны характар школы дазволіў ёй заставацца незалежнай, аднак таксама абмежаваў яе значнасць і росквіт. Сапраўды, Віцебск ніколі не стаў ні "другім Парыжам", ні галоўным цэнтрам рускага авангарда з-за недахопу сродкаў і асабліва па прычыне варожасці віцяблянаў у адносінах да сучаснага мастацтва. Другая найбольш характэрная рыса школы – яе паглыбленасць у яўрэйскае асяроддзе, якое было, між іншым, неадрыўным ад яго славянскай складаючай. Віцебская школа была плёнам яўрэйскай і беларускай культур. Яна была таксама вынікам звязаных паміж сабой узрушэнняў, якія адначасова трансфармавалі як рускую культуру і палітычнае жыццё, так і яўрэйскае грамадства Расійскай імперыі. Яна аказалася на перакрыжаванні трох рэвалюцый: палітычнай рускай рэвалюцыі, мастацкай рускай рэвалюцыі і руху яўрэйскага вызвалення (мастацкага і палітычнага). Зрэшты, гэтая школа была народнай, таму што ніколі не ўжывала абмежаванняў, звязаных з сацыяльным ці нацыянальным паходжаннем сваіх вучняў. Яна таксама была адчыненай для ўсіх мастацкіх стыляў. У заключэнні гэтай спробы дэфініцыі (несумненна, лакунарнай), мы можам ахарактарызаваць Віцебскую школу трыма наступнымі прыметнікамі: правінцыйная, беларуска-яўрэйская і народная.

***Пераклад з французскай мовы Вольгі Жыхаравай.***

***Літаратура і крыніцы:***


1. Асноўныя працы пра Шагала і Віцебск: Marc Chagall. Les années russes, 1907-1922. Catalogue d'exposition du Musée d'Art moderne de la ville de Paris, 1995; Marc Chagall. Die russischen Jahre 1906-1922. Frankfurt, Schirn Kunsthalle, 1991; Kamenski, Alexandre. Chagall, période russe et soviétique 1907-1922. Paris, Ed du Regard, 1988; Leneman, Léon. Un enfant de Vitebsk, Marc Chagall. Paris, Comité pour la langue et la culture yiddish en France, 1983; Meyer, Franz. Marc Chagall. Paris, Flammarion, 1995.
2. Тут варта адзначыць наступныя артыкулы: Lissov, Alexandre. Yehouda Pen, professeur du grand Maître // Chagall. Vitebsk – Saint Pétersbourg – Paris, catalogue d'exposition a la galerie Gérard Piltzer en mars 1993. P.48-55; Pourchier, Suzanne. De Vilna a Montparnasse // Plasseraud, Minczeles (dir.). Lituanie juive 1918-1940. Message d'un monde englouti. Paris, Autrement, collection Mémoires №44. P.235-254.
3. Kampf, Avram. In quest of jewish style in the era of the russian revolution // Journal of Jewish art, vol.5, 1978. P.48-75; Kampf. Jewish experience in the Art of the Twentieth Century. Massachusetts, Bergin and Garvey, 1984.
4. Rainer, Miriam. The awakening of Jewish National Art in Russia // Jewish Art, vol.16-17, 1990-1991. P.98-121; Apter-Gabriel, Ruth (éd.). Tradition and Revolution. The Jewish Renaissance in Russian Avant-Garde Art 1912-1928. Jerusalem, The Israel Museum, 1987, 262 p.
5. Friedman, Mira. Icon Painting and Russian Popular Art as Sources of some works by Chagall // Journal of Jewish Art, vol.5, 1978. P.94-107; Marcade, Jean-Claude. Chagall et l'avant-garde russe // Marc Chagall. Les années russes, 1907-1922. P.47-97; Marcade. Le context russe de l'oeuvre de Chagall // Marc Chagall. Oeuvres sur papier. Catalogue de l'exposition au Centre Georges Pompidou. Paris, 1984. P.18-25.
6. Казовский Г. Художник из Витебска. Иегуда Пен и его ученики. Москва, 77 стр. (текст на английском и русском языках); Рывкин М., Шульман А. Юдель (Юрий) Пэн (1854-1937). Художник и педагог. Витебск, 1994.
7. Шагаловский сборник. Витебск, 1996.
8. Казовский Г. Шагал и еврейская художественная программа в России // Шагаловский сборник. С.126-142; Казовский Г. Еврейское искусство в России. 1900-1948. Этапы истории // Советское искусствознание. Вып.27. Москва, 1974. С.229-245.
9. Вакар Л. К проблеме примитивизма в творчестве Юделя Пэна и Марка Шагала // Шагаловский сборник. С.64-75.
10. НГАБ, ф.1430, воп.1, спр.46377, арк.20-21.
11. Рэпрадукцыя, апублікаваная ў кн.: Рывкин М., Шульман А. Юдель (Юрий) Пэн. С.9.
12. Кичина Е. О некоторых аспектах наследия витебской художественной школы // Шагаловский сборник. С.151.
13. Шагал М. Искусство первой годовщины революции. Витебский листок. 7 ноября 1918 г.
14. Шагал М. Письмо из Витебска. Искусство Коммуны. 23 декабря 1918 г.
15. Шагал М. Художественные заметки. Витебский листок. 8 января 1919 г.
16. Шагал М. Революция в искусстве. Революционное искусство. Витебск, 1919 г. Вып.1.
17. Шагал М. О витебском народном художественном училище. Школа и революция. 16 августа 1919 г.
18. Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці (далей – ДАВВ), ф.101, воп.1, спр.3, арк.2 адв.
19. Известия Витебского Губернского Совета крестьянских, рабочих, красноармейских и батрацких депутатов. 19 августа 1919 г.
20. ДАВВ, ф.837, воп.1, спр.58, арк.168.
21. Абрамский И. Это было в Витебске. Искусство. №10, 1964. С.69.
22. Грилин Г. Право на одиночество. Витебский листок. 7 декабря 1918 г.
23. Абрамский И. Это было в Витебске. С.69.
24. Chagall, Marc. Ma vie. Paris, Stock, 1983. P.199-204.
25. Ibidem. P.201.
26. Казовский Г. Художник из Витебска. С.30.
27. ДАВВ, ф.837, воп.1, спр.1.
28. Спіс служачых школы, гл.: ДАВВ, ф.837, воп.1, спр.58, арк.142.
29. Тамсама.
30. Тамсама, арк.116-123.
31. Тамсама, арк.85.
32. Гл. наступны цікавы артыкул: Amishai-Maisels. Chagall and the jewish revival: center or periphery? // Tradition and Revolution. P.78, 80-84.
33. Лебедева Е. Витебские истоки искусства Марка Шагала // Шагаловский сборник. С.167-175.
34. Іншыя прыклады гл.: Amishai-Maisels. Chagall's jewish in-joker // Journal of Jewish Art. Vol.5, 1978. P.76-93.
35. Казовский Г. Художник из Витебска. С.62.
36. Ліст М.Шагала ад 1921 г. з нагоды 25-годдзя творчай дзейнасці Пэна (ДАВВ, ф.1947, воп.1, спр.29, арк.320).
37. Chagall M. Bletlakh // Shtrom. 1922, №1. P.44-46.
38. Аб гэтым больш дэталёва гл.: Apter-Gabriel, Ruth. El Lissuitzky's Jewish Work // Tradition and Revolution. P.101-124.
39. Ліст Шагала ад 12 лютага 1921 г., цыт. па кн.: Marc Chagall. Les années russes, 1907-1922. P.45.
40. Starobinski, Jean. Essai de définition. Цыт. у: Markish, Simon. A propos de l'histoire et de la méthodologie de l'étude de la littérature juive d'expression russe, а таксама матэрыялы круглага стала, арганізаванага A.Derczanski на тэму "Cultures juive et russe: la question de la double appartenance" // Cahiers du Monde russe et soviétique. XXVI, №2. P.147-148.
41. Marcade, Jean-Claude. Chagall et l'avant-garde russe // Marc Chagall. Les années russes, 1907-1922. P.47.

*Уладзімір СЛАБІН*

# ДА ПЫТАННЯ АБ ВЕЛІЖСКІМ ПАЎСТАННІ 1918 ГОДА НА ГАРАДОЧЧЫНЕ

Жадаючы пазнаёміцца з гісторыяй Гарадоччыны першых паслярэвалюцыйных гадоў, краязнавец-пачатковец мае клопат – мала напісана пра гэтую старонку. Ёсць нарыс-хроніка І.Дуброўскага "Да долі чалавечай" (1), дзе апавядаецца пра стварэнне даўгапольскай камуны "Чырвоны сцяг". Неяк у раёнцы з'явіўся артыкул "Кастрычніцкія дні на Гарадокшчыне" (2). Сёе-тое можна пачарпнуць у краязнаўчым музеі.

Аднак усе гэтыя крыніцы даюць аднабаковае і сухое асвятленне паслякастрычніцкіх падзей. Што хаваецца за фармулёўкамі "арыштаваны контррэвалюцыянер", "распушчаны сход", "рэквізаваная маёмасць"? Ведаем, што Гарадоцкі раён – піянер калгаснага руху на Віцебшчыне. Аднак ён цяпер далёка не першы па гаспадарчых паказчыках. Ці існуе паміж гэтым сувязь? Ці такія паслухмяныя былі людзі, калі бальшавікі праводзілі грандыёзны сацыяльна-аграрны эксперымент?

Сёння ўжо шмат што стала вядома.

За дапамогу ў падаўленні карнілаўскага мяцяжу Часовы Ўрад меў глупства аддаць бальшавікам 40 000 стрэльбаў. Нешматлікія, але апантаныя і добра арганізаваныя, тыя хутка нейтралізавалі палітычных праціўнікаў, прыручылі саюзнікаў і неўзабаве кульнулі сам Часовы Урад. Атрымаўшы на ўсенародных выбарах ва ўстаноўчы Сход 24% галасоў, бальшавікі не засмуціліся, а папросту разагналі Сход. З гэтага моманту ўсе палітычныя групоўкі сталі на шлях узброенай барацьбы. Пачыналася грамадзянская вайна.

Між тым працягвалася і Першая сусветная. У лютым-сакавіку 1918 года большая частка Беларусі апынулася пад нямецкай акупацыяй. Тады была сімвалічна абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Віцебск і Гарадок не ўваходзілі ў зону акупацыі. Тагачасныя бальшавіцкія газеты заклікалі хутчэй перамагчы не столькі знешняга агрэсара, колькі тых суайчыннікаў, якія не падзялялі ідэй камунізму. Нармальныя людзі ніяк не маглі зразумець, у імя якіх такіх ідэалаў беларус павінен страляць у беларуса, з-за чаго з мабілізацыяй былі велізарныя цяжкасці. Сапраўдным бічом стала дэзертырства – давала плён колішняя агітацыя бальшавікоў, якія выступалі за паражэнне сваёй краіны ў імперыялістычнай вайне. У газетах змяшчаліся заклікі: "Бацька! Калі твой сын – дэзертыр з Чырвонае Арміі, прымусь яго хутчэй вярнуцца. Калі ён не вернецца на працягу гэтага тыдня, літасці не будзе ні табе, ні яму!" (3)

Армію трэба было карміць, гаспадарку – аднаўляць. Грамадзянская вайна распачыналася супраць ўласнага народа і перадусім – супраць сялянства. Нехта В.Пікман пісаў у газеце "Известия Витебского губернского совета Крестьянских, Рабочих, Красноармейских и Батрацких Депутатов" за 23.11.1919 г.: "Нам патрэбны грошы, грошы і грошы... Гэта значыць: і гарадскі буржуй, і вясковы кулак павінны адкрыць свае кашалькі... Гэта значыць прымусіць гэтых крывасмокаў, што б там ні было – выканаць свае абавязкі перад Айчынай, што б там ні было – выкласці свае капшукі, каб папоўніць савецкую касу... Гарадскі буржуй, які зазнаў усе "налёты" з боку Савецкае ўлады, які ведае і адчувае моц гэтае ўлады, будзе аказваць больш-менш пасіўнае супраціўленне... Зусім іначай будзе з вясковым кулаком, які будзе ўжываць усе спосабы, каб пазбегнуць адчувальнага развітання са "сваім" кашальком" (4).

У вядомых крыніцах місіянеры савецкае ўлады на Гарадоччыне пададзены як ахвярныя героі. Але ж гэта было не так. Яны не знаходзілі ды і не маглі знайсці паразуменне са старымі кіруючымі кадрамі. Апошнія выразна бачылі, якім чынам бальшавікі прыхапілі ўладу і не маглі не супраціўляцца гэтаму. 18 лістапада 1917 года быў скасаваны апарат павятовага камісара Часовага Ўрада. 14 лютага 1918 года была ліквідавана Гарадоцкая гарадская дума (5). У ноч на 13 верасня 1918 года быў расстраляны былы

Слабін Уладзімір Канстанцінавіч, асістэнт кафедры хіміі Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П.М.Машэрава. З'яўляецца аўтарам шэрагу артыкулаў, якія тычацца падзей 1920-х-1930-х гадоў на Гарадоччыне.

земскі начальнік 1-га Гарадоцкага вучастка Мікалай Тызенгольдт "як зацяты і свядомы контррэвалюцыянер" (6).

Службоўцы старога апарату не любілі амбітных дылетантаў. Так, супрацоўнікі старога Гарадоцкага суда аб'явілі байкот новай судовай арганізацыі. Чатыры месяцы ў павеце не было ніякага суда, ніякага следства. Рабіліся злачынствы, а злачынцы заставаліся беспакаранымі. Некаторыя валасці самі выносілі смяротныя прысуды, у іншых месцах насельніцтва было блізкае да самасудаў. Толькі ў лютым 1918 года, пасля арганізацыі павятовага Савета з ягоных сяброў было выдзелена шэсць чалавек у суд – вядома, гэта былі не спецыялісты, а простыя сяляне. Пазней утварылася і следчая камісія з пяці сяброў (тае ж кваліфікацыі). Вось перліна працэсуальнага глупства з пратакола пасяджэння ЧК: "Слухалі:... Справу... грамадзяніна Зайкаўскай воласці... Патапенка Івана, затрыманага без дакументаў, за што і абвінавачваўся, а таксама за ўцёкі з-пад варты за імі... Пастанавілі:... Патапенка Івана з-пад арышту вызваліць, бо ён адбыў двухтыднёвае зняволенне і ў часе ўцёкаў здабыў свае дакументы" (7). Якой была якасць судаводства? Відаць, у іншых паветах яна была яшчэ горшай, бо калі ў жніўні сябра Віцебскага акруговага суда рэвізаваў Гарадоцкі павятовы, ён заявіў, што павет па арганізаванасці суда стаіць на першым месцы (8).

З вялікім імпэтам бальшавікі секлі сукі, на якіх сядзелі. Пасадзіўшы ў турму святара Гарадоцкага сабора Бурнукова, яны былі вымушаны неўзабаве звярнуцца да яго па дапамогу. Святар вёў кнігу з запісамі нараджэння, але зняволены, натуральна, не меў магчымасці працягваць улік. Спахапіўшыся, канфіскаваную кнігу накіравалі ў Віцебскую ЧК з просьбай даручыць Бурнукову ў турме запоўніць метрычную кнігу і падрыхтаваўшы, выслаць у натарыяльны аддзел (9).

Ва ўмовах беспакаранасці і ўсеагульнае блытаніны разбуралася сельская гаспадарка. На павятовым з'ездзе зямельных аддзелаў 22 кастрычніка 1918 года загадчык павятовага зямельнага аддзела Цімафей Дынер адзначаў: "Савецкіх гаспадарак у павеце няма, часткова таму, што распараджэнне аб пераходзе высокакультурных маёнткаў у дзяржаўны фонд атрымана параўнальна нядаўна, а галоўным чынам таму, што маёнткі былі разрабаваныя і цяпер даводзіцца рабіць усе магчымыя захады да збірання інвентару, як жывога, гэтак і мёртвага" (10).

Урэшце, у павеце быў створаны Савет і ягоны выканаўчы камітэт з аддзеламі кіравання, народнае гаспадаркі, народнае адукацыі, зямельным, харчовым, медыка-санітарным, савецкай міліцыі. Але, зважаючы на тагачаснае грамадска-палітычнае становішча, галоўным і першым нададдзелам неафіцыйна была Надзвычайная камісія па барацьбе з контррэвалюцыяй, сабатажам, спекуляцыяй і службовымі злачынствамі.

Бальшавікі фактычна рабілі, што хацелі. Яны перапісвалі маёмасць і высялялі памешчыкаў ды заможных сялян, уводзілі грабежніцкія падаткі, забіралі харч, ускрывалі паштовыя пасылкі і рабілі частыя вобшукі па падазрэнні ў спекуляцыі.

Ці ставала чэкістам калі сорамна за свае дзеянні? Мажліва, так. Вытрымка з пратакола пасяджэння павятовае ЧК: "Слухалі:... Справу Казанскай Фані, абвінавачанай у захоўванні дэнатураванага спірту... Пастанавілі:... Дэнатураваны спірт, трыманы для прымуса падаграваць малако дзіцяці і сваіх патрэбаў, вярнуць Фані Казанскай". Але тут жа: "Знойдзены пры вобшуку партабак, як срэбра, што мае каштоўнасць, канфіскаваць" (11).

Золата і срэбра забіралі заўсёды. У дырэктара Дзвінскае настаўніцкае семінарыі Аляксандра Шастова падчас вобшуку былі канфіскаваны тры срэбныя пасудзіны. Абураны настаўнік прыйшоў у кабінет да самога старшыні ЧК і патрабаваў паказаць дэкрэты, дзе напісана, што ўласныя залатыя і срэбныя рэчы падлягаюць канфіскацыі. Гэта расцанілі як пратэст і крытыку савецкае ўлады. Прыгадалі, што на настаўніцкім з'ездзе Шастоў мовіў, што савецкая ўлада расхістаная і што на гэтых арханёлах (паказваў на чырвонаармейцаў) далёка не даедзеш. Небарака быў арыштаваны і накіраваны ў Віцебскі рэвалюцыйны трыбунал (12).

Увогуле, "непрызнанне Савецкае ўлады", "кампраметацыя Савецкае ўлады", "агітацыя супраць Савецкае ўлады" і "контррэвалюцыйная агітацыя" былі найбольш пашыранымі абвінавачваннямі. З гэтымі фармулёўкамі ў Гарадоцкае турме знаходзілася безліч людзей, якія цьмяна разумелі, за што іх зняволілі. На перапоўненасць турмы Надзвычайнае камісіі неаднаразова ўказваў павятовы выканкам, прапануючы ў магчыма хутчэйшы тэрмін разбіраць справы, не трымаючы доўга ў турме (13). Вядома, указанне выканкама чэкісты маглі зразумець, як санкцыю. Пэўна, з чэрвеня 1919 года, калі ў Віцебску быў створаны першы канцэнтрацыйны лагер (14), такіх праблем не паўставала.

На падставе падазрэння ў спекуляцыі маглі забраць любую рэч, якая прыйшлася даспадобы. На адным з пасяджэнняў калегіі аддзела кіравання нават уздымалася пытанне, каб казённыя рэчы, знойдзеныя падчас вобшукаў у павеце, афіцыйна перадаваць для патрэб міліцыі (15). У прэзідыуме выканкама хапіла сумлення адхіліць прапанову – усе знойдзеныя пры вобшуках рэчы перадаваць мусіце ў Ваенны камісарыят, міліцыя атрымлівае па службе належную зарплату, а ўсе неабходныя прадметы абмундзіравання павінна набываць за свой кошт (16).

Чырвоным злодзеям трэба было сцерагчыся – усё ж у ЧК былі перакананыя камуністы, якія трохі дбалі пра аўтарытэт новае ўлады і не даравалі "праколаў". У Вобальскае воласці адзін міліцыянер з хеўрай грабежнікаў удзельнічаў у крадзяжы авечак ды коней, а падчас чарговага вобшуку выкраў гадзіннік. Злачынца быў расстраляны (17). Расстраляны былі няўрымслівыя міліцыянеры, якія ў Паташанскае воласці "праводзілі ў начны час рэквізіцыю прадуктаў і нікім на тое не былі ўпаўнаважаны" (рабавалі – *У.С.*), а да ўсяго яшчэ і напалі на памочніка начальніка міліцыі, які ім перашкодзіў (18).

Чырвонаармейцы трапляліся ў той час на крадзяжы або "самавольнае рэквізіцыі" бульбы (19). Маральнае аблічча вайскоўцаў новага рэжыму было каламутным, нездарма ў губернскіх "Известиях" з'явілася неяк інфармацыя пад назвай "Лячэнне чырвонаармейцаў-венерыкаў" (20). Традыцыйным пакараннем для іх была адпраўка на фронт (21).

Гарадоцкія бальшавікі не былі падобныя на высокаідэйных марксістаў або прынцыпова чырвоных латышскіх стралкоў. Яны каралі падначаленых, хоць не мелі на гэта маральнага права, бо самі не былі беззаганнымі. Выклікаюць пытанні тагачасныя кадравыя перастаноўкі ў ЧК. Верамей Белавусаў, напрыклад, быў прызначаны разведчыкам па Гарадку 12 жніўня, а 28 жніўня звольнены (22). Іван Нікіцін стаў начальнікам разведкі 6 жніўня, а 18 жніўня чамусьці робіцца загадчыкам кладавой (23). Што за гэтым стаіць?

Следчы Гарадоцкае ЧК Іосіф Рыбек пабіў усе рэкорды махлярства. Прыняты на пасаду 23 жніўня 1918 года (24), 28 жніўня быў звольнены, бо не адпавядаў пасадзе (25). У снежні высветлілася, што Рыбек, прымаючы грошы ад грамадзян як штраф, нелегальным чынам не здаваў іх па прыналежнасці, а збіраў у сябе і пасля звальнення знёс з сабой 4100 рублёў – на той час гэта былі немалыя грошы. Створаная камісія дала тэлеграму аб росшуку былога следчага-махляра (26), але наўрад ці той быў знойдзены.

Калі кралі чэкісты, дык што там казаць пра звычайных міліцыянераў? У памянёнай вышэй кнізе І.Дуброўскага начальнік Гарадоцкае міліцыі фігуруе як Альфрэд Лусь, але сапраўднае ягонае прозвішча – Лус. Недакладнасць магла з'явіцца ад дарэвалюцыйнага напісання "Лусъ" – тут лёгка зблытаць цвёрды і мяккі знакі... Пачаўшы са старшыні салдацкага камітэта 298-га стралковага палка, гэты чалавек сцвярджаў сябе ў рэпрэсіўнае дзейнасці. Аднак, увайшоўшы ў смак, як кажуць, "заляцеў" – прыхапіў сабе мэблю былога памешчыка Андрэя Вендта. Нехта паведаміў пра гэта кіраўнікам ЧК, якія праз два дні паехалі на млын пры пасадзе Аляксеенкі, дзе жыў Вендт, і высветлілі, што тав. Лус сапраўды ўзяў мэблю для свайго асабістага камфорту. Паводле ж цыркуляра іншагародняга аддзела, уся маёмасць заможных асобаў, якія зніклі, баючыся арышту, канфіскоўвалася або перадавалася бяднейшаму насельніцтву (27). Пастановай калегіі аддзела кіравання Лус 31 кастрычніка 1918 года быў адхілены ад свае пасады (28).

Не адставаў ад галоўнага міліцыянера Гарадоччыны ягоны веліжскі калега. Неяк увечары начальнік 1-га раёна Веліжскае павятовае міліцыі напіўся самагонкі і надумаў наводзіць парадкі сярод чырвонаармейцаў, якія ахоўвалі склады з харчам. Паспрабаваў адабраць стрэльбу ў аднаго – не атрымалася. Стрэліў з рэвальвера, але ні ў кога не патрапіў і, уцёкшы, схаваўся ў хмызняку. Калі тэрмінова сабраны гурт чырвонаармейцаў ішоў арыштоўваць п'янтоса, той стрэліў з засады і забіў чырвонаармейца, які быў наперадзе (29).

Цікава, якія адносіны былі паміж сябрамі Гарадоцкага выканкама. Загадчык аддзела народнае адукацыі паведаміў у ЧК, што некаторыя сябры выканкама былі заўважаны ім у нецвярозым стане. Па тых часах арышты за п'янства былі звычайнай практыкай, бо ніхто не касаваў уведзены ў 1914 годзе царскім урадам "сухі закон" – палітычныя абставіны былі не дужа спрыяльнымі і не след было новае ўладзе лішні раз губляць свой аўтарытэт. ЧК спусціла заяву ў выканкам, а ягоныя сябры, абмеркаваўшы, заявілі, што яна не адпавядае сапраўднасці і ёсць ні што іншае, як паклёп. Загадчыка АНА выключылі са складу выканкама (30). Чыя была праўда, цяпер высветліць цяжка, але ў любым выпадку гэты інцыдэнт не дадае павагі тагачаснае гарадоцкае ўладзе.

Камунізм камунізмам, але нехта павінен быў і працаваць. Масавая калектывізацыя адбудзецца яшчэ праз некалькі гадоў. Але бальшавікі ўжо прыступаюцца да сацыяльна-эканамічных эксперыментаў і вядуць абследванні ў Ціёсцянскае, Вышадскае, Дубакрайскае і Казьянскае валасцях. Яны знаходзяць прыдатнымі для стварэння камун маёнткі Ціёста і Палова Ціёсцянскае воласці; Вышадкі, Бярэзна і Загараны Вышадскае воласці; Дубакрай, Рудня і Лехава Дубакрайскае воласці; Казьяны, Рудня-Старыца, Роўнае і Глушыца Казьянскае воласці. Адначасова з даследваннем маёнткаў рабіліся распараджэнні аб высяленні з тых, якія былі прызнаны прыдатнымі для стварэння камун, былых уладальнікаў і арандатараў. Ім для пасялення часова адводзіўся маёнтак Шчалбова Ціёсцянскае воласці (31).

Спачатку сяляне супраціўляліся пасіўна. Цыркуляр зямельнага аддзела 16 верасня 1918 года трывожна паведамляў: "Шмат у якіх вёсках, фальварках і маёнтках засталося ўвесну сёлета шмат неўзаранае і неабсемянёнае зямлі. Гэтак і зараз пад азімыя застаецца шмат дзе зямля неўзараная і неабсемянёная, такое вядзенне сельскае гаспадаркі на месцах недапушчальнае, бо... цягне за сабой страшэнную галадоўлю для ўсяго насельніцтва Рэспублікі... У каго застаецца неўзараная зямля, тыя будуць прыцягвацца да адказнасці аж да канфіскацыі ўсяе маёмасці" (32).

Сяляне бараніліся ў найвышэйшае ступені дэмакратычным спосабам. Арганізоўваліся валасныя структуры ўлады, куды абіраліся найбольш паважаныя і, адпаведна, заможныя прадстаўнікі. На павятовым З'ездзе зямельных аддзелаў 15 жніўня 1918 года прадстаўнік ад Болецкае воласці паведаміў, што сялянскі сход зусім адмовіўся дзяліць зямлю, і ў далейшым толькі З'езд вясковых Саветаў можа пастанавіць дзяліць зямлю адпаведна колькасці едакоў. Сход у Болецку даў свайму прадстаўніку наказ заявіць, што ўзяцця хлеба на ўлік грамадзяне не дапусцяць і вывозіць куды-небудзь з воласці не дадуць. Валасны выканаўчы камітэт з'яўляецца толькі выканаўчым органам сходу і робіць тое, што сход загадвае. Слаба дзейнічаў закон аб сацыялізацыі зямлі ў тых валасцях, дзе ў валасныя выканкамы і зямельныя аддзелы прайшлі заможныя сяляне – у Дубакрайскае, Руднянскае, Стайкаўскае, Старынскае валасцях. Але наіўна было чакаць, што бальшавікі будуць паважаць волю большасці. З'езд пастанавіў зрабіць самыя энергічныя захады да недапушчэння ўдзелу ў валасных выканкамах і зямельных аддзелах прадстаўнікоў маёмных класаў (33).

У Дубакрайскае воласці пад уплывам агітацыі арганізавалася камуна з 10 сем'яў, але потым, з прычыны супраціўлення сялян бліжэйшых вёсак дапушчэнню камунараў да карыстання зямлёй, тыя адмовіліся ўступіць у карыстанне маёнткам. Прыбыўшы на месца, старшыня зямельнага аддзела не здолеў уладзіць канфлікт і камуна распалася (34).

У далейшым гвалт пачаў выклікаць актыўнае супраціўленне. 4 ліпеня 1918 года ў вёсцы Краснаполле сяляне збілі пасланых туды чырвонаармейцаў. У сувязі з гэтым выступленнем супраць улады былі арыштаваны Іван Дзешаўкоў, Павел Дольнік, Прохар Іваноў, Восіп Крупоўскі, Ягор Нямыцька, Карл Озаль, Гаўрыла Пятроў і Міхаіл Шалаеў. Яны былі, аднак, неўзабаве вызвалены пад распіску (35).

У Стайкаўскае воласці на сходзе па падзелу зямлі былі збіты сябры валаснога выканкама і камісіі па размеркаванню зямлі. Аднаму з сяброў камісіі Раманаву зламалі руку. З прычыны контррэвалюцыйных настрояў воласць была абвешчана на ваенным становішчы (36).

Напружанне расло. У лістападзе на пасяджэнні калегіі аддзела кіравання разглядалася пытанне аб контррэвалюцыйнай агітацыі ў Старынскае воласці. З пратакола пасяджэння: "Пастанавілі: 1. Перадаць у Гарадоцкую ЧК і прасіць аб тэрміновым арышце святара в.Мехавое Аляксандра Сакалова і млынара в.Бадзякіна... Напалеона Энтраурда як відавочна вядучых контррэвалюцыйную прапаганду, што пацвярджаюць сваімі паказаннямі... загадчык аддзела народнае адукацыі пры Старынскім выканкаме... і старшыня зямельнага аддзела Старынскага валаснога выканкама" (37). Наспяваў сацыяльны выбух. І ён адбыўся.

Паўстанне пачалося 9 лістапада 1918 года ва Усвяцкае ды Касплянскае валасцях Веліжскага павета. Апошняй кропляй да выступлення стала ваенная мабілізацыя грамадзян 1893-1898 гадоў нараджэння. Быў выстаўлены лозунг "Далоў Саветы!", паўстанцы патрабавалі таксама аднаўлення манархіі. Сярод удзельнікаў паўстання былі афіцэры Белай гвардыі, памешчыкі, духавенства, але асноўную частку складалі сяляне. Зброя і боепрыпасы былі ўзяты з таго, што засталося пасля расфармавання вайсковых частак 17-га корпуса. Мелася сувязь з Пскоўскай ды Смаленскай Белай гвардыяй. Ёсць падстава меркаваць, што паўстанне субсідавалася грашовымі сродкамі, пра што сведчыць захоплены генеральскі загад. Неўзабаве паўстанцы разагналі Савет у самім Веліжы. Пазней, у снежні, на пасяджэнні камітэта партыі Веліжскае арганізацыі спачувальнікаў Р.К.П.(б) з'явіцца наступная пастанова: "За ганебныя паводзіны і баязліўства ў час наступу белагвардзейскіх банд на гор.Веліж выключыць тав.Свойскага,

Лазоўскага, Румянава, Ільіна і Аляксандрава. Тав. Іофэ і ўсім жанчынам – сябрам партыі за выключэннем тав.Брын Д. і Годэс Д. вынесці асуджэнне" (38). 11 лістапада паўстанне ахапіла ўвесь Веліжскі павет.

Паўстанне распаўсюджвалася на воласці сумежных паветаў. У Гарадоцкім павеце яно пачалося ў ноч на 13 лістапада ў Дубакрайскае, Зайкаўскае, Вярэцкае валасцях, адкуль перакінулася на воласці Старынскую, Ціёсцянскую, Стайкаўскую, Горкаўскую і Вышадскую. З даклада ваеннага кіраўніка Дземідзенкі і ваеннага камісара Бескатаўскага валаснога камісарыята Нікіфарава старшыні Вышадскага Надзвычайнага штаба Сапёраву: "15 лістапада... з'явіліся ў Старынскі выканкам каля 40 чалавек, якія называлі сябе белагвардзейцамі і чэхаславакамі, быў арыштаваны старшыня выканкама, адабрана зброя ў тых, хто яе меў пры выканкаме. Забралі ў ваенным камісарыяце ўсе кнігі і справы, пасля чаго прыступілі да склікання сходу" (39). У захопленых валасцях паўстанцы абіралі новыя органы ўлады.

Пачаліся ўзброеныя выступленні ў Нова-Вазнясенскае, Аляксееўскае і Зябкінскае валасцях Невельскага павета. Смаленская газета "Западная коммуна" паведамляла, што з 11 па 17 лістапада амаль уся Віцебская губерня была ахоплена контррэвалюцыйным паўстаннем, якое выбухнула ў Веліжскім павеце і перакінулася ў іншыя месцы (40).

Чырвонымі быў арганізаваны Надзвычайны ваенна-рэвалюцыйны штаб, які тэрмінова прыняў захады да падаўлення паўстання. У Гарадку і павеце было абвешчана ваеннае становішча. Аб'ява ад 16 лістапада: "Надзвычайным ваенным штабам абвяшчаецца Вышадская воласць на ваенным становішчы. Усе грамадзяне Вышадскае воласці неадкладна павінны здаць зброю рознага кшталту ваеннаму штабу, які знаходзіцца пры Вышадскае воласці. Вышэйшая мера пакарання за непадпарадкаванне пастанове штаба – расстрэл" (41).

У Гарадку з ліку заможных жыхароў былі ўзяты 29 заложнікаў, браліся таксама і грашовыя заклады. Тут дарэчы будзе працытаваць адну рукапісную квітанцыю: "Атрымана ад гр. в. Паташня Якава Дзмітрыева Салаўёва заклад за сына Івана як заложніка контррэвалюцыйнага паўстання, усяго тры тысячы рублёў (3000 руб.). 17 лістапада 1918 года. Подпіс: Старшыня Надзвычайнага ваеннага штаба Сапёраў" (42). Цяжка сказаць, хто прыдумаў падобныя заклады, але, па сутнасці, гэта была асабліва цынічная форма марадзёрства. Зразумела, што бацька ні за якія грошы не выдасць сына, і грошы, такім чынам, ніколі не будуць вернуты.

У мяцежныя воласці Гарадоцкага павета быў накіраваны атрад чырвонаармейцаў пад кіраўніцтвам Івана Нікіціна. Баявыя дзеянні вяліся з пераменным поспехам, у залежнасці ад таго, хто з'яўляўся арганізатарам паўстання ў канкрэтнай мясцовасці – афіцэры або сяляне. З цыдулкі старшыні Гарадоцкае ЧК: "Таварыш Кундзевіч! Прашу не дастаўляць у Гарадок белагвардзейцаў, а расстрэльваць на месцы. Усе віды харчу, мяса ды іншы правіянт бязлітасна браць у кулакоў... Старшыня Мацюхоў" (43).

Сілы былі няроўныя. 17 лістапада паўстанне ў Гарадоцкім павеце было падаўлена. У выдадзенай у 1988 годзе ў Варшаве кнізе "Айцы БССР і іхны лёс" гісторык Аўген Калубовіч піша: "На сёмы дзень змагання, пасля разбіцця 3000-нага паўстанчага злучэння ў Сямічоўскім лесе пад Веліжам і коннага паўстанчага аддзела ў самім Веліжы, паўстанне было пераможана. Паводле прысудаў Выязной тройкі Віцебскага губЧК, Рэўтрыбунала 15-й арміі і штаба ЭКА (Экспедыцыйна-карны аддзел) на Пакроўскім полі за Веліжам колькі дзён і начэй расстрэльваліся паўстанцы... У Гарадоцкім павеце паўстанне ўжо канчальна здушанае. У іншых паветах ліквідуецца. У паўночнай частцы Полацкага павета, дзе паўстанцы захапілі Расоны, раззбраенне працягваецца, адабрана каля 1,500 стрэльбаў" (44).

Чырвоныя паводзілі сябе як зацятыя марадзёры. У лютым 1919 года Віцебскі рэўтрыбунал будзе разглядаць справу чырвонаармейцаў Віцебскага каравульнага батальёна Скаварады, Янушэнкі, Навічэнкі, Мягіля і Баранаўскае ЧК Дзяменцева і Іванова па іх грабежніцтву ў Веліжскім павеце. Аднак абаронца Лапіраў укажа на тое, што яго падабаронныя падаўлялі контррэвалюцыйнае паўстанне, знаходзіліся і жылі не ў мірных, спакойных абставінах, а былі на пярэднім краі грамадзянскае вайны. Трыбунал не палічыць іх грамадска-небяспечнымі людзьмі і вынесе ўмоўнае пакаранне (45).

На месцы паўстання былі расстраляны грамадзяне Горкаўскае воласці Цімафей Новікаў і Іосіф Карныш; Стайкаўскае воласці – Улас Цімафееў; Ціёсцянскае воласці – Сямён Лісіцын, браты Сяргей і Антон Балабанавы, Аляксандр Каганаў, Міхаіл Сураўнёў; Вышадскае воласці – Аляксандр Лапаценка, Арцём Кнуроў, Канстанцін Данілаў, былы суддзя вучастка Гарадоцкага павета Фёдар Гаўрыленка; грамадзяне Усвяцкае воласці Веліжскага павета Міхаіл Сінцоў і Антон Бальшухін (46).

Хто быў кіраўніком паўстання? У кнізе І.Дуброўскага ў якасці адмоўных персанажаў прыводзяцца даўгапольскі і вышадскі памешчыкі Пёра і Ясінскі, эсэр Вобальскі, паручнік Кулакоўскі, штабс-капітан Воранаў і падпалкоўнік Мілёнкін. Невядома, якія архіўныя звесткі і наколькі глыбока праглядаў аўтар, але, здаецца, Кулакоўскі – выдуманае прозвішча з яскрава адмоўнай матывацыяй. Вядома, што добра ўзброены атрад Воранава колькасцю каля 300 чалавек праз год пасля паўстання, у кастрычніку 1919 года, дзейнічаў у раёне вёсак Курына, Ліпіна, Ноўка. Але ці гэты Воранаў апісаны ў кнізе Дуброўскага і ці сапраўды ён удзельнічаў у Веліжскім паўстанні? Паводле звестак кнігі, пасля падаўлення паўстання Мілёнкін уцёк ажно ў Кіеў, Воранаў часова схаваўся ў Смалоўскім лесе, Кулакоўскі, сабраўшы новых паўстанцаў, наступаў з-пад Мяжы на Вышадкі, але на падыходзе да іх быў разбіты, пасля чаго неўзабаве быў злоўлены пад Веліжам і расстраляны. Але нарысу-хроніцы Дуброўскага не варта дужа давяраць, бо ў ёй ёсць недакладнасці. Прыкладам, старшыня ЧК Мацюхоў дзейнічае там як Мацюшоў (хіба для большай мілагучнасці?). Ды і ўвогуле пра паўстанне згадваецца як пра штосьці другараднае, у цэнтры ўвагі знаходзіцца даўгапольская камуна "Чырвоны сцяг".

З пратакола пасяджэння ЧК ад 28 лістапада 1918 года: "Слухалі: 34. Справу №417 гр. Веліжскага павета Усвяцкае воласці Сцяпана Дзмітрыева Салохіна, абвінавачанага ў паўстанні белагвардзейскіх банд у якасці кіраўніка. Пастанавілі: 34. Гр. Сцяпана Салохіна як зацятага праціўніка Савецкае ўлады і верхавода паўстання, які прымаў актыўны ўдзел... і падбухторваў грамадзян,... расстраляць" (47).

У штомесячным аглядзе "Религия и атеизм в СССР" (Мюнхен, кастрычнік 1976 г.) адным з кіраўнікоў паўстання называецца дыякан Ільінскай царквы ў Веліжы Ціхан Абрадзін. Калі ягонага дзесяцігадовага сына ЧК прымусіла капаць магілу для бацькі, а.Ціхан спяваў над сваёй магілай пахавальныя песні (48).

Захаваўся цікавы дакумент – паўстанцкі пропуск на трох чалавек, падпісаны камандзірам белай гвардыі (подпіс неразборлівы, але не падобны на прозвішча Салохін). Пропуск выпісаны на афіцыйным бланку Вышадскага валаснога Савета, дата – 2/XI-18 года (49). Ён дае падставы для роздуму, бо, паводле дакументаў чырвоных, паўстанне ў Гарадоцкім павеце пачалося толькі 14 лістапада. Паўстанцы маглі выкрасці бланкі, маглі выпісаць пропуск задняй датай (але навошта?), захапіўшы Вышадскі выканкам. Але я дазволю сабе выказаць версію, што ў Вышадскім выканкаме былі асобы, якія мелі сувязь з арганізатарамі паўстання напярэдадні ягонага пачатку.

Гэтую версію ўскосна пацвярджае пратакол пасяджэння Гарадоцкае ЧК 19 снежня 1918 года: "Слухалі: справу №413 гр.Стайкаўскае воласці в. Жабіна Рамана Іванавіча Насенкава, абвінавачанага за ўдзел у белагвардзейскае змове... Пастанавілі: справу гр.Насенкава перадаць у Гарадоцкі камітэт партыі камуністаў-бальшавікоў на рашэнне, улічваючы, што ён – член партыі" (50). Як бачым, сярод бальшавікоў былі тыя, хто не падзяляў іх задач ці метадаў і мог пры выпадку дапамагчы праціўніку.

Канчаткова паўстанне было падаўлена толькі 27 лістапада. Па ўсіх памежных паветах распачаліся арышты. Чырвоныя ніколі не паважалі дэмакратыю, а правёўшы пэўную частку жыцця ў царскіх вязніцах, разумелі і паважалі толькі сілу. У пачатку 1919 года ў Віцебскай губерні праводзіліся перавыбары валасных Саветаў. Але ў Веліжскім павеце ніякіх выбараў не адбылося, бо з меркаванняў палітычнай мэтазгоднасці было вырашана захаваць тут на працяглы час Рэвалюцыйныя камітэты (51).

Аналізуючы сітуацыю, якая папярэднічала паўстанню, прыходзіш да думкі: было б дзіўна, калі б яно не адбылося. Веліжскія паўстанцы не выстаўлялі нацыянальных лозунгаў, але кожнага з іх асабіста пакрыўдзіла, абразіла нечалавечая палітыка бальшавікоў у адносінах да сваіх кармільцаў. Рабаўнікі самі рыхтавалі паўстанне супраць сябе. Полымя сялянскага супраціўлення шуганула найперш там, дзе асабліва бязлітасна распраўляліся з сапраўднымі гаспадарамі зямлі, дзе на многія кіламетры распасціраўся гушчар, дзе людзі і ў Другую сусветную знаходзілі сабе паратунак, дзе і тады дзейнічалі знакамітыя "Віцебскія вароты".

Гэтыя людзі вартыя не асуджэння, а павагі, бо баранілі свае сем'і, сваю зямлю, сваю маёмасць. Іх паважалі нават ворагі. Гэта цяпер нашчадкі кажуць "Кастрычніцкая рэвалюцыя" і "белагвардзейскія банды". У тагачасных дакументах ужываюцца азначэнні "пераварот" і "паўстанне".

Інфармацыі па паўстанню небагата. У грамадзянскую вайну напады на валасныя выканкамы паўтараліся яшчэ шмат разоў і паперы пры гэтым маглі быць знішчаны. У Другую сусветную пацярпеў Віцебскі архіў. Мы не ведаем канкрэтна, дзе месцы колішніх галоўных узброеных сутыкненняў, баёў, засад. Якія страты панеслі чырвоныя? У якіх няпростых псіхалагічных сітуацыях апыналіся людзі, якіх звярыная ідэалогія адарвала ад сем'яў і смяротным чынам звяла на полі бою? Ці жывыя зараз сведкі тых даўніх падзей?

У пажоўклых паперах – не абстрактная рэвалюцыя, калектывізацыя, экспрапрыяцыя і класавая барацьба. З пастаноў ЧК, пратаколаў допытаў, штабных дакладаў да цябе з надзеяй звяртаюцца канкрэтныя людзі са сваімі поглядамі, патрэбамі, крыўдамі. Ужо і ўнукі іх забыліся на імёны дзедавы, а яны ж аддалі жыцці, верыўшы, што некалі іх унучкі будуць мець і хлеб, і волю, і зямельку... Каму яна цяпер патрэбная, зямля гэтая? Здзекваліся з руплівага гаспадара-працаўніка чырвоныя аб'ядалы, скеміўшы, што можна мянціць языком пра сусветную рэвалюцыю, лайдачыць і баляваць на касцях гаспадарскіх. І што цяпер маеце?

***Літаратура і крыніцы:***


1. Дуброўскі І. Да долі чалавечай. Мн., 1970.
2. Кутузаў А. Кастрычніцкія дні на Гарадокшчыне//Прамень камунізму.25.08.1987. С.3-4.
3. Известия Витебского Губернского Совета Крестьянских, Рабочих, Красноармейских и Батрацких Депутатов. 21.06.1919 (№135).
4. Известия Витебского Губернского Совета... 23.11.1918 (№254).
5. Кутузаў А. Кастрычніцкія дні на Гарадокшчыне.
6. Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці (далей – ДАВВ), ф.145, воп.1, спр.4, т.2, арк.233, 234.
7. Тамсама, арк.266.
8. Тамсама, арк.235, 236.
9. Тамсама, арк.292.
10. Тамсама, арк.280.
11. Тамсама, арк.334.
12. Тамсама, арк.336.
13. Тамсама, арк.231.
14. Известия Витебского Губернского Совета... 05.06.1919 (№120).
15. ДАВВ, ф.145, воп.1, спр.4, т.2, арк.275.
16. Тамсама, арк.274.
17. Тамсама, арк.334.
18. Тамсама, арк.262.
19. Тамсама, арк.251, 252.
20. Известия Витебского Губернского Совета... 21.06.1919 (№135).
21. ДАВВ, ф.145, воп.1, спр.4, т.2, арк.397.
22. Тамсама, арк.247, 255.
23. Тамсама, арк.247, 248.
24. Тамсама, арк.251.
25. Тамсама, арк.255.
26. Тамсама, арк.474.
27. Тамсама, арк.322.
28. Тамсама, арк.272.
29. Известия Витебского Губернского Совета... 09.07.1918 (№139).
30. Известия Витебского Губернского Совета... 20.11.1918 (№251).
31. ДАВВ, ф.145, воп.1, спр.4, т.2, арк.300.
32. Тамсама, арк.238.
33. Тамсама, т.1, арк.229.
34. ДАВВ, ф.145, воп.1, спр.2, т.1, арк.97.
35. ДАВВ, ф.145, воп.1, спр.4, т.2, арк.242.
36. Тамсама, т.1, арк.229; ф.86, воп.1, спр.37, арк.6.
37. ДАВВ, ф.145, воп.1, спр.4, т.2, арк.275.
38. ДАВВ, ф.1821, воп.1, спр.235, арк.9, 9 адв.
39. ДАВВ, ф.2280, воп.1, спр.2, т.1, арк.18.
40. Комитеты бедноты Белоруссии. Сборник документов и материалов. Мн.,1958.С.146,№119.
41. ДАВВ, ф.2280, воп.1, спр.2, т.1, арк.1.
42. Тамсама, арк.12.
43. Тамсама, арк.9.
44. Калубовіч А. Айцы БССР і іхны лёс. Варшава, 1988. С.6.
45. Известия Витебского Губернского Совета... 25.02.1918 (№44).
46. ДАВВ, ф.145, воп.1, спр.4, т.2, арк.337, 338.
47. Тамсама, арк.397.
48. Религия и атеизм в СССР. Ежемесячный обзор. Мюнхен, октябрь 1976. С.5.
49. ДАВВ, ф.2280, воп.1, спр.2, т.1, арк.5.
50. ДАВВ, ф.145, воп.1, спр.4, т.2, арк.472.
51. Известия Витебского Губернского Совета... 31.12.1918 (№286).

*Ала БУКІНА*

# МУЗЕЙ АНТОНА БРАДОЎСКАГА Ў ВІЦЕБСКУ

У канцы траўня 1919 года ў Віцебску ў адным з памяшканняў былога базыльянскага кляштара адчыніўся для наведвальнікаў губернскі музей старажытнасцяў і мастацтва. У ягоную аснову быў пакладзены збор прыватнага музея Антона Рафаілавіча Брадоўскага, які быў часткова вывезены ім у 1915 годзе з Вільні. У Віцебск тады А.Р.Брадоўскі прыбыў разам з Акруговым упраўленнем па кватэрным забеспячэнні войскаў Дзвінскай ваеннай акругі, дзе ён служыў вольнанаёмным. Пачынаючы з 1882, на працягу 37 год Брадоўскі працаваў спачатку казённым дзесятнікам на будаўніцтве Ковенскай крэпасці і Лібаўскіх ваеннага і гандлёвага портаў, а пазней – будаўнічым тэхнікам і чарцёжнікам у Інжынерным упраўленні Віленскай ваеннай акругі. Знаходзячыся ў Віцебску, у сувязі з пагаршэннем здароўя ён выйшаў у адстаўку. За доўгія гады працы Брадоўскі быў, як высокакваліфікаваны спецыяліст, узнагароджаны сямю срэбнымі і залатымі медалямі "За усердие", а таксама неаднаразова атрымліваў грашовыя ўзнагароды.

Сваю калекцыю А.Р.Брадоўскі збіраў больш паўстагоддзя, пачынаючы са школьнага ўзросту. У дакладзе, накіраваным у музейную секцыю ГубАНА ў ліпені 1919 года, ён сам згадваў, што ягонай "спецыяльнасцю было збіранне калекцый: па палеанталогіі, мінералогіі, нумізматыцы, сфрагістыцы, кераміцы, этнаграфіі, іканаграфіі, археалогіі, археаграфіі і разнастайных прадметаў мастацтва, рамёстваў, рукадзелля і інш., як: жывапісу, скульптуры, эмаліраванню, мазаіцы, разьбы па камянях, металу, косці, дрэву і іншых мастацка-слясарных, бронзавых і ювелірных працах і мастацкай вышыўцы" (1).

Адкрыццё музея адбылося па ініцыятыве Віцебскага ГубАНА, які ў кастрычніку 1918 г. ў мясцовай прэсе змясціў зварот да асобаў, якія маглі б прынесці карысць справе народнай асветы. А.Р.Брадоўскі з ахвотай адгукнуўся на гэты зварот і прапанаваў "ад жадання прынесці карысць справе асветы народных масаў увогуле і навучэнцаў у прыватнасці, прыняць у распараджэнне Віцебскага губернскага аддзела народнай адукацыі ягоны прыватны музей з мэтаю пакласці ў Віцебску пачатак губернскага музея, не патрабуючы за выкарыстанне ягонымі калекцыямі ніякага грашовага ўзнагароджання" (2).

Яшчэ падчас знаходжання ў Вільні А.Р.Брадоўскі адхіляў прывабныя прапановы аб продажы сабранай калекцыі і выказваў "жаданне, каб свой вельмі значны музей аб'яднаць на пачатках дэпазіту з Літоўскім музеем" (3). У сувязі з гэтым прапанова Віцебскага ГубАНА яго адразу зацікавіла.

Губернскі аддзел народнай адукацыі сваім распараджэннем за №3407 ад 12 кастрычніка 1918 г. пагадзіўся з прапановай Брадоўскага і вылучыў для музея памяшканне ў будынку былой духоўнай семінарыі. Былі таксама прадстаўлены сродкі на перавоз экспанатаў, якія захоўваліся ў будынку рэальнага вучылішча, і рамонт памяшкання. Антон Брадоўскі быў прызначаны загадчыкам і захавальнікам музея. Працы па прыстасаванню памяшкання, дастаўцы абсталявання і размяшчэнні экспанатаў занялі каля 6 месяцаў. Пад экспазіцыю была адведзена адна вялікая зала. Апроч таго, былі адрамантаваны пакоі для бібліятэкі, а таксама сховішча экспанатаў і абсталявання. Вітрыны і шафы вырабляліся ў розных месцах горада і збіраліся ўжо на месцы. Сёння цяжка сабе ўявіць, якой менавіта была экспазіцыя губернскага музея, бо вядомы толькі адзін яе фотаздымак, надрукаваны Б.Брэжгам у ягоным артыкуле "Віцебскія музеі" (1926 г.).

Найбольшую цікавасць выклікае склад фондаў музея. На жаль, падрыхтаваныя Брадоўскім каталогі асобных калекцый не былі надрукаваны, а рукапісы многіх з іх не захаваліся да нашых дзён. Вядомы толькі два: "Каталог монет, чеканенных для России и ее окраин" (1920 г.) і "Краткое описание иностранных монет коллекции Бродовского" (1927 г.). Кнігі паступлення экспанатаў, гэтаксама, як і інвентарныя кнігі музея, не захаваліся.

Букіна Ала Аляксандраўна, галоўны захавальнік фондаў Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. Займаецца пытаннямі гісторыі і краязнаўства Віцебшчыны.

Сціплыя звесткі пра прыватны музей Антона Брадоўскага ў Вільні ўдалося адшукаць у выданнях пачатку XX ст. У №1 за 1909 г. "Исторического вестника" быў надрукаваны артыкул, у якім згадвалася, што "музей размяшчаецца ў кватэры ягонага ўладальніка, і некалькі пакояў літаральна ад падлогі да столі завешаны разнастайнымі рэдкасцямі. Ёсць тут надзвычай багатая нумізматычная калекцыя, (...) калекцыя зброі (...) Цікавы збор гістарычных дакументаў з уласнаручнымі подпісамі імператара Мікалая I і вялікага князя Канстанціна Паўлавіча. Арыгінальны збор старадаўніх гадзіннікаў, ад вялізных вежавых курантаў, заканчваючы мініяцюрнымі, пакрытымі эмаллю, (...) гадзіннікі рускага вырабу цалкам з дрэва (...) і кішэнныя сонечныя гадзіннікі. Багатая і разнастайная калекцыя старажытных металічных абразоў, (...) ёсць некалькі "змеявікоў"-талісманаў (...) На жаль, матэрыяльныя ўмовы прымушаюць А.Р.Брадоўскага не аднойчы задумвацца аб неабходнасці перадаць сваё тварэнне ў іншыя рукі (...) Ён звяртаўся да горада ўзяць ягоны музей у сваё падпарадкаванне" (4).

У №5 часопіса за той жа год быў змешчаны артыкул А.Жыркевіча "По поводу музея Бродовского в Вильне" (5). Апісваючы змест музейнага збору, аўтар адзначаў, што ў ім быў цэлы шэраг цікавых прадметаў: мінералы, падсвечнікі, вышыўка шэрсцю па канве, люлькі, табакеркі, дваранскія шпагі, ключ камергера, ордэны і іншыя прадметы, "вартыя заняць ганаровае месца ў сапраўдным сховішчы даўніны". Жыркевіч таксама падкрэсліваў "заслугі п.Брадоўскага як энергічнага збіральніка даўніны, які выдаткаваў шмат сродкаў, працы, прынёс шмат ахвяр пры збіранні сваіх калекцый".

Усе гэтыя публікацыі, аднак, утрымліваюць фрагментарныя звесткі і не даюць поўнага ўяўлення пра багацце музея А.Р.Брадоўскага. У 1926 г. ў Варшаве быў надрукаваны артыкул Б.Брэжгі "Віцебскія музеі", у якім больш падрабязна апісваецца гэты збор (6). Аўтар прадстаўляе не толькі яго агульную характарыстыку, але і пералічвае калекцыі, на якія Брадоўскі падзяліў музейныя прадметы. Сярод іх былі наступныя:

1. Калекцыя дагістарычнага перыяду, якая складалася з невялікай колькасці прылад працы каменнага веку і курганных знаходак. Аднак вялікай навуковай вартасці гэтая калекцыя не мела, бо адсутнічалі дадзеныя аб месцы знаходак і абставінах, пры якіх яны былі выяўлены.
2. Калекцыя прыродазнаўчая: мінералы, акамянеласці, біўні і косткі мамантa, ракавіны.
3. Калекцыя нумізматыкі – найкаштоўнейшая з усяго збору. Яна ўключала грэцкія, рымскія, візантыйскія, куфічныя, а таксама вялікую колькасць манет еўрапейскіх дзяржаў і краін Азіі, Афрыкі і Амерыкі. Да гэтай калекцыі далучаўся збор медалёў.
4. Калекцыя ордэнаў і наградных медалёў Расіі, Польшчы і іншых дзяржаў.
5. Калекцыя пячатак.
6. Калекцыя гадзіннікаў.
7. Калекцыя абразоў, крыжоў, рэлігійных медалёў.
8. Калекцыя тканін і вышывак.
9. Калекцыя мазаік, інкрустацый, біжутэрыі.
10. Калекцыя жывапісных абразоў і партрэтаў, акварэляў. Асаблівай увагі сярод іх заслугоўваў партрэт імператара Аляксандра I, які прыпісваўся школе Лампі, а таксама збор партрэтаў роду Валадковічаў з Лепельскага павета і графаў Гутэн-Чапскіх з Віленшчыны.
11. Калекцыя эмаляў французскіх і рускіх.
12. Калекцыя парцэляны польскай, рускай, севрскай, нямецкай, англійскай і кітайскай.
13. Калекцыя мастацкай бронзы.
14. Калекцыя рукапісаў, планаў, малюнкаў, аўтографаў, чарцяжоў.
15. Калекцыя помнікаў яўрэйскай культуры: абрадавых кілішкаў, ханукальных сьвяцільняў, тасаў, фальшывых перлін, завушніц, жэтонаў, манет, гравюр. Гэтая каштоўная калекцыя раней уваходзіла ў склад арганізаванага Брадоўскім у Вільні музея Таварыства прыхільнікаў яўрэйскай даўніны, зачыненага на пачатку I сусветнай вайны.

У справаздачы аб працы Віцебскага губернскага музея за 1920 г., якая была складзена А.Р.Брадоўскім, прыводзіцца крыху іншая схема калекцый і, што асабліва важна, утрымліваюцца дадзеныя аб колькасці ў іх музейных прадметаў. Усяго ў зборы налічвалася амаль што 11 тысяч прадметаў, а лік калекцый дасягаў ужо чатырох дзесяткаў:

*Ганна БЕБРЫНА*

# ВІЦЕБСКАЯ КАФЛЯ

## (метадычная распрацоўка заняткаў для навучэнцаў пачатковай школы)

### ЗАНЯТАК І.

**Мэта занятку:** падрыхтаваць дзяцей да наведвання выставы "Віцебская кафля" ў Віцебскім мастацкім музеі; зацікавіць гісторыяй і культурай Віцебска.

**Задача занятку:** пазнаёміць дзяцей з асноўнымі паняццямі - печ, кафля, кафляна-маёлікавы завод Б.Я.Лісоўскага ў Віцебску.

**Метад:** чытанне казкі з выкарыстаннем дадатковага матэрыялу ў музычным суправаджэнні.

**Месца правядзення занятку:** школьны клас.

**Выкарыстоўваемы матэрыял:** графічныя рэканструкцыі печаў; кафля з кляймом завода Б.Я.Лісоўскага; альбом "Беларуская кафля" (Мн., 1995); камплект паштовак "Беларуская кафля" (Мн., 1995); касета ці пласцінка з музыкай Ф.Шапэна.

### Казка пра кафляную печку.

Гадоў сто таму ў Віцебску на высокім беразе Дзвіны стаяў прыгожы дом з чырвонай цэглы. У ім жыла сям'я – бацька, маці і іх дзеці – дачка і сын. Доўгімі зімовымі вечарамі сям'я любіла збірацца ў прасторнай гасцінай. У вялікім пакоі стаяў чорны раяль, на сценах у пазалочаных рамах віселі партрэты бацькоў, бабуляў і дзядуляў гаспадароў дома. Строга і ўважліва глядзелі яны з партрэтаў на сваіх унукаў і дзяцей. Усім даводзілася імкнуцца быць вартымі сваіх продкаў, вядомых і паважаных у Віцебску людзей. Каля адной сцяны стаяла кафляная печ, сапраўдная прыгажуня. Як каралеву, уверсе яе ўпрыгожвала карона. У цэнтры печкі знаходзіўся ляпны медальён. Яе паставу выразна падкрэсліваў рэльефны пояс з выпуклым узорам на паверхні. Ніжнюю, больш шырокую, частку з верхняй, больш вузкай, злучаў карніз. Уся вопратка печкі была зроблена з рознакаляровых рэльефных плітак – кафлі, палітай тонкім і празрыстым, як шкло, слоем палівы. Пры свяце лямпы ўбор печкі зіхацеў і пераліваўся. Маці іграла на раялі п'есы свайго любімага кампазітара Шапэна. Бацька любіў расказваць пра свае вандроўкі. Часцей за ўсё ён распавядаў пра паездку ў Парыж на Сусветную выставу. У Парыжы ён бачыў шмат усялякіх цудаў: Эйфелеву вежу, Сабор Парыжскай Божай Маці, палац каралёў Луўр, які стаў музеем. Дзеці ўважліва слухалі бацьку і кожны марыў пра сваё. Сын марыў стаць капітанам вялікага марскога судна і плаваць па марах і акіянах. Дачка жадала навучыцца іграць на раялі так добра, як маці. У печцы за чыгуннай дзверцай палаў агонь, патрэсквалі вуголлі. У гасцінай заўсёды было цёпла і ўтульна. Са зваротнага боку печкі сушыліся рукавіцы, валёнкі і шубкі, якія намакалі ад снегу пасля прагулак. Дзеці любілі грэць каля печы свае ззяблыя ногі і рукі. У непагадзь у коміне выў вецер, які прыносіў дажджы з далёкага мора, куды несла свае воды павольная Дзвіна.

Печка таксама любіла гэтыя сямейныя вечары, слухала музыку, узгадвала сваіх сясцёр, з якімі яна нарадзілася са звычайнай гліны на кафляна-маёлікавым заводзе Лісоўскага ў Віцебску, што знаходзіўся на Кафлянай вуліцы. Кожная плітка вялізнай печкі мела пячатку-пасведчанне таго, што яна нарадзілася на гэтым заводзе. Адна з сясцёр печкі з'ехала ў паўночную сталіцу Пецярбург, другая – у Варшаву. Наша печка зайздросціла ім і ўпотайкі мроіла пра Парыж.

Дзеці выраслі і разляцеліся як птушкі з роднага гнязда. Дачка стала вядомай піяністкай і ездзіла з канцэртамі па свету. Сын, як і марыў, стаў капітанам карабля далёкага плавання. Жонка гаспадара дома памерла, гаспадар састарэў. Часта адаграваў ён каля печы сваё хворае плячо ці спіну. Толькі печка заставалася ўсё такой жа маладой і прыгожай, хоць хутка ёй павінна было споўніцца сто год. Заўсёды

Бебрына Ганна Мікалаеўна, старшы навуковы супрацоўнік Віцебскага абласнога краязнаўчага музея. Займаецца пытаннямі музейнай педагогікі.

маладая прыгажуня, як і раней, трызніла пра Парыж. Ёй хацелася ўбачыць цудоўную Эйфелеву вежу, пра якую яна так многа чула ад гаспадара дома.

Дзеці наведвалі бацьку абавязкова ў дзень ягонага нараджэння, клікалі яго да сябе, да ўнукаў, але ён заставаўся адданым свайму роднаму гораду, вырашыў тут памерці і завяшчаў пахаваць сябе побач з любімай жонкай і бацькамі.

Дом заняпаў. Старому год ад году рабілася ўсё цяжэй секчы дровы для печы, хадзіць па ваду да калонкі. Прыйшоў час, калі нават гэтая праца стала яму не пад сілу. У гэты ж час пашыралі плошчу каля Дзвіны і састарэлы заняпалы дом гарадскія ўлады вырашылі не рамантаваць, а разабраць. Стары падпарадкаваўся абставінам і пераехаў у новы дом з усімі выгодамі – вадаправодам, вадзяным ацяпленнем і газам.

Прыйшлі рабочыя, разабралі сцены дома, вывезлі цэглу і смецце, але не хапіла ім духу зламаць прыгажуню-печку. Печка нават узрадавалася новым пераменам. Яна зусім не пазнала Віцебска, які бачыла праездам з коннага возу сто гадоў таму. Печка ўбачыла рэчышча Дзвіны, катэры, якія цягнулі нагружаныя баржы па рацэ, трамваі, высокую тэлевізійную вежу і нават падумала, што апынулася ў Парыжы. Яе ўбор зіхацеў і пераліваўся ўдзень на сонцы, а ноччу пры святле месяца і начных ліхтароў. Птушкі, якія жылі ў садзе каля дома, любаваліся яе прыгажосцю. Балбатлівыя сарокі разнеслі вестку пра яе ўбор па суседнім парку і адтуль прыляталі птушкі, каб паглядзець на печ. Маладыя ластаўкі нават завялі спрэчку паміж сабой за месца для гнязда пад верхнім карнізам.

Але гэта працягвалася ўсяго некалькі дзён. Аднойчы паблізу праходзіў цяжка хворы чалавек. Хвароба ягоная заключалася ў тым, што ён не заўважаў прыгажосці вакол сябе. У дзяцінстве яму ў вока патрапіў кавалак крывога люстэрка і сэрца ягонае ачарсцвела, ён стаў халодным, разліковым, але не вельмі шчаслівым у жыцці. Калі ён убачыў нашу печку, дык перш-на-перш узгадаў пра тое, што пад прыгожым уборам печка была складзена са звычайнай цэглы, прыгадаў пра свой недабудаваны ганак, у якім не хапала некалькіх цаглін. Ён прынёс тоўсты жалезны прут з завостраным канцом і, не разважаючы, ударыў ім па зіхоткай кафлі. Печка войкнула не столькі ад болю, колькі ад жалю за свой сапсаваны ўбор. Адзін востры кавалак кафлі ўпіўся ў руку няўдалага чалавека, палілася кроў і ён пайшоў, каб перавязаць рану. У гэты дзень ён больш не вяртаўся.

Крыху пазней сюды прыйшоў мастак з эцюднікам, каб напісаць з высокага берага Дзвіны заход сонца. Ён спыніўся, здзіўлены прыгажосцю кафлянай печкі, убачыў свежую рану і вырашыў выратаваць яе ад варварскага разбурэння. Мастак прынёс тонкі інструмент, акуратна, кафліну за кафлінай, здымаў пласціны і ўкладваў у скрыні, якія аднёс у сваю кватэру. Калі да яго прыходзілі сябры, ён вымаў кафлю са скрынак і паказваў гасцям.

Скрыні з кафляй займалі шмат месца ў невялічкай кватэры мастака. Ягоная жонка была незадаволена, тым больш, што іх маленькі няўрымслівы сын набіў сабе вялікі гузак, зачапіўшыся за кут адной скрынкі.

Адзін з сяброў параіў мастаку аддаць кафлю ў музей, дзе многія маглі б палюбавацца яе прыгажосцю. Мастаку было шкада развітацца з кафляй, але жонка настойвала і ён вырашыў саступіць. Мастак пайшоў да дырэктара музея і расказаў яму пра свой намер падараваць кафлю музею. Дырэктар запрасіў навуковага супрацоўніка паглядзець, ці мае гэтая кафля каштоўнасць для музея. Навуковы супрацоўнік адразу адзначыў, што яна істотна дапоўніць музейную калекцыю кафлі, таму што менавіта такая ў калекцыі музея адсутнічае.

Прыехала машына, скрынкі з кафляй пагрузілі на яе і адвезлі ў музей. Там навуковы супрацоўнік клапатліва, як малое дзіця, вымыў кожную кафліну ў цёплай вадзе з мылам, пачысціў мяккай шчоткай, абліў празрыстай вадой, абцёр чыстай анучай. Ён выпісаў кожнай кафліне дакумент – пашпарт, у якім апісаў не толькі яе прыгажосць, але і кожную драпінку, усе адмеціны часу, а таксама гісторыю кафлі – дзе і ў якім годзе яна была зроблена, дзе стаяла кафляная печка, хто падараваў кафлю музею, яе памеры. Кожная кафліна атрымала свой нумар. Потым ён расклаў кафлю ў сховішчы па паліцах.

Кожны тыдзень навуковы супрацоўнік прыходзіў у сховішча, змятаў пыл, праціраў кафлю, адзначаў у спецыяльным сшытку тэмпературу і вільготнасць паветра ў сховішчы. Іншым разам некаторыя хворыя кафлі аддаваў на лячэнне рэстаўратару.

Агледзелася печка ў сховішчы, убачыла сваіх сясцёр, з якімі нарадзілася на кафляна-маёлікавым заводзе Лісоўскага ў Віцебску. Была тут таксама кафля, зробленая і на іншых заводах Беларусі. Шмат гісторый са свайго жыцця маглі расказаць яны адзін аднаму. Іншым разам нават даходзіла да спрэчак паміж імі: хто больш прыгожы і паважаны?

Аднойчы ў музей прыехаў вядомы навуковец і высветліў, што віцебская калекцыя кафлі – адна з лепшых на Беларусі. Ён зрабіў каляровыя фотаздымкі кафлі і захаваўшыхся ў горадзе кафляных печак, напісаў пра кафлю кнігу і ўпрыгожыў яе фотаздымкамі кафлі з Віцебска.

Надыйшло чарговае свята ў горадзе. Супрацоўнікам музея захацелася чым-небудзь парадаваць і здзівіць жыхароў і гасцей Віцебска. Яны вырашылі зрабіць выставу кафлі. Колькі радасці і прыемных турботаў прынесла гэтая выстава супрацоўнікам музея! Трапіла на гэтую выставу і кафля нашай печкі. Выстава называецца "Віцебская кафля".

Запрашаем і вас на выставу!

## ЗАНЯТАК II.

**Мэта занятку:** пазнаёміць дзяцей з часткай культурна-гістарычнай спадчыны Віцебска.

**Задачы занятку:** паказаць эвалюцыю развіцця формаў кафлі, асноўныя сюжэты выяваў на кафлі. Даць паняцце пра матэрыял, тэхналогію вырабу кафлі, якасці гліны, разнастайныя формы кафлі для печак.

**Метад:** урок-экскурсія (расказ з паказам, пытанні і адказы па ходзе выкладання матэрыялу).

**Месца правядзення:** экспазіцыйныя залы выставы "Віцебская кафля" (Віцебскі мастацкі музей).

**Выкарыстоўваемы матэрыял:** кафля археалагічнай калекцыі музея, кафля завода Б.Я.Лісоўскага.

**Што зімой у холад і сцюжу абагравае ваш дом?**
*(У сучасных дамах і кватэрах памяшканні, як правіла, абагравающца з дапамогай вадзянога, электрычнага ці газавага ацяплення).*

Яшчэ зусім не так даўно дамы абагравалі печкі. Унутры печы разводзілі агонь. Дзеля гэтага выкарыстоўвалі часцей за ўсё дровы розных парод дрэваў: бярозы, сасны, асіны. Печка павольна награвалася і павольна астывала, аддаючы цяпло людзям і памяшканням, дзе яна стаяла.

Печка спрадвеку была цэнтрам дома і сям'і. У старажытныя часы каля печы давалі прысягі, заключалі пагадненні, у печы хавалі малочныя зубы дзяцей, у падпеччы жыў заступнік дома – дамавік. Нашы продкі беларусы называлі кутні стоўб печы "дзедам", лічылі яго прадстаўніком "дзядоў" – продкаў-заступнікаў.

Людзі заўсёды былі заклапочаны тым, каб печ хутчэй награвалася і грэла іх памяшканні. У той жа час ім хацелася, каб яна павольней аддавала сваё цяпло. Дзеля гэтага сцены печак рабілі тоўстымі, але гэтага было недастаткова. Старажытныя рымляне ўмуроўвалі ў сцены печы пасудзіны вусцем (адтулінай) да вогнішча, а закругленае дно выступала над паверхняй пячной сцяны. Праз адтуліну пасудзіны цяпло з печы трапляла ў памяшканне і хутка сагравала яго. З цягам часу пячную пасудзіну сталі размяшчаць адтулінай звонку, а дном да сцяны. Па прыкладзе нямецкіх гараджанаў, нашы продкі сталі называць такую пасудзіну кафляй ад нямецкага слова "kachel".

### Зала I.

#### Вітрына №1. Гаршковая і міскавая кафля з археалагічнай калекцыі.

Першая кафля на тэрыторыі Віцебска з'явілася больш за 500 гадоў таму. Аб гэтым мы даведаліся ад археолагаў, якія знайшлі невялічкія кавалкі кафлі ў Віцебску на месцы былых замкаў – Верхняга і Ніжняга. Па гэтых фрагментах рэстаўратары аднавілі форму старажытнай кафлі і ўключылі туды фрагменты чарапкоў. Старажытная кафля мела форму гаршка, таму і завецца яна гаршковай. Паступова вышыня гаршковай кафлі змяншалася і яна стала паходзіць на міску. Такая кафля атрымала назву міскавай.

Як выглядала старажытная печ, абліцаваная гаршковай кафляй, вы можаце бачыць на фотаздымку старажытнай печы ў Германіі.

**З якога матэрыялу, на вашу думку, выраблялася кафля?**
*(З сумесі гліны і пяску).*

**Паглядзіце ўважліва на фрагмент старажытнай кафлі. З якой сумесі гліны і пяску (грубай ці тонкай) выраблялася першая кафля?**
*(Першая гаршковая кафля выраблялася з грубай сумесі рачнога пяску і гліны. Гэта бачна па ўкрапінах буйназярністага пяску на паверхні старажытнага чарапка).*

**Чаму вусце (край кафлі) выканана ў выглядзе чатырохкутніка?**
*(Каб шчыльней - адна да адной - умацаваць кафлю на сцяне печы).*

Гаршковымі і міскавымі кафлінамі было складана аформіць куты печы, таму часцей за ўсё імі выкладалі толькі асноўную сцяну печы, звернутую да памяшкання.

### Вітрына №2. Кафля скрынкавай формы XVI-XVIII стагоддзяў з археалагічнай калекцыі.

Пазбавіўшыся ад недахопаў гаршковай кафлі, прыйшлі да скрынкавай формы, калі кафля складалася з гладкай ці рэльефнай пласціны і скрынкі на адваротным баку для мацавання яе з дапамогай раствору да сцяны печы.

Асноўным матэрыялам для вырабу кафлі з'яўляецца гліна, якая пры дабаўленні вады робіцца мяккай і падатнай, лёгка прымае тую форму, што мы жадаем ёй надаць. Гліна пры высыханні робіцца нетрывалай, крохкай. Каб кафля з гліны заставалася цвёрдай і трывалай нават пры судакрананні з вадой, яе абпальваюць у спецыяльных печах (горнах) пры тэмпературы да 1000°.

Кафлю і іншыя рэчы з абпаленай гліны звычайна завуць керамікай. Калі паверхня керамічных вырабаў нічым не пакрытая і мае колер прыроднай гліны, то такія рэчы завуць тэракотавымі.

Упрыгожаннем тэракотавай, нічым не пакрытай кафлі, быў рэльеф (пукаты ўзор на плоскай паверхні). Рэльеф рабілі з дапамогай спецыяльнай глінянай ці драўлянай формы. Тэракотавая кафля была непрактычнай, з-за порыстасці керамікі яна прапускала чад (дым) у памяшканне, лёгка забруджвалася і з цягам часу рабілася зусім чорнай. Каб пазбегнуць гэтых недахопаў, кафлю сталі пакрываць ахоўным слоем празрыстай шклопадобнай палівы. Спачатку з'явілася кафля, пакрытая зялёнай палівай. Зялёная паліваная кафля называлася мураўленай за падабенства з колерам травы (муравы).

Кафля, пакрытая палівай, каштавала даражэй, але карысталася большай папулярнасцю таму, што за печкай, абліцаванай паліванай кафляй, было прасцей даглядаць. Бліскучую гладкую паверхню было лёгка працерці ад пылу, пласціны не прапускалі чаду, а зялёны колер нагадваў халоднай зімой пра цёплае лета. Зялёны колер спрыяльна ўплываў на чалавека.

Склад палівы трымаўся ў вялікай тайне, а майстар, які яго ведаў, карыстаўся павагай і лічыўся лепшым сярод іншых майстроў.

Печ служыла чалавеку на працягу стагоддзяў. Таму выявы на кафлі не толькі адпавядалі ўстойлівым густам нашых продкаў, але і значна ўплывалі на іх фарміраванне. Выявы на кафлі вызначаліся вялікай разнастайнасцю. Печ стала не толькі абаграваць дом, але і ўпрыгожваць яго. Для адной печы выраблялі цэлы камплект кафлі, аб'яднанай агульным узорам.

Адным з самых улюбёных узораў быў "букет у вазе". Папулярнымі былі таксама і разеткі ў цэнтры з раслінным арнаментам па полю пліткі.

Кафля магла расказаць пра сямейныя паданні, подзвігі і славу бацькоў ды дзядоў. Гараджанам Віцебска даводзілася часта абараняць свой горад ад ворагаў. Гараджане, якія вылучыліся пры абароне горада, у ваенных паходах або на дзяржаўнай службе, атрымлівалі ад караля знак гонару – герб, які перадаваўся ад бацькі да сына з пакалення ў пакаленне. Знакамітыя гараджане часта заказвалі кафлю для печы з адлюстраваннем сямейнага спадчыннага гербу, як на гэтай тэракотавай кафлі, у цэнтры якой адлюстраваны геральдычны шчыт, а на ім знак у выглядзе падковы. Шчыт наверсе ўвянчаны каронай і па баках акантаваны лісцем. Пад шчытом стаіць год вырабу кафлі – 1740. Гэта больш, чым 250 гадоў таму.

Адным з самых распаўсюджаных гербаў нашых продкаў быў вершнік на кані з мячом і шчытом у руках.

**Як завуцца вырабы з абпаленай гліны?**
*(Кераміка).*

**Як называецца нічым не пакрытая керамічная кафля?**
*(Тэракотавая кафля).*

**Як называецца кафля, палітая зялёнай палівай?**
*(Мураўленая кафля).*

**Якія ўзоры і выявы ка кафлі асабліва любілі нашы продкі?**
*(Кветкі ў вазе, раслінныя ўзоры, разеткі, гербы, вершнік на кані).*

### Вітрына №3. Мураўленая кафля XVII стагоддзя з археалагічнай калекцыі.

Некаторыя знакамітыя гараджане заказвалі для печы вялікую плітку з геральдычнымі выявамі, якую змяшчалі ў цэнтры печы.

На вялікай па памеры мураўленай кафлі мы бачым выяву шчыта, над якім змешчаны рыцарскі шлем са страусавым пер'ем. З бакоў шчыт акантаваны зубчатым лісцем. У кутах гэтай кафлі знаходзяцца выявы літар лацінскага алфавіту. Гэта першыя літары імя, прозвішча і пасады гараджаніна, які заказаў гэтую кафлю для сваёй печкі.

### Вітрына №4. Кафля дывановага тыпу, паліхромная і галандская з археалагічнай калекцыі.

Апроч зялёнай празрыстай палівы майстры для ўпрыгожання кафлі пачалі выкарыстоўваць непразрыстыя эмалевыя рознакаляровыя фарбы (цанінныя фарбы). Кафля з узорам "Кветкі ў вазе" па рэльефе ўпрыгожана рознакаляровымі эмалевымі фарбамі. Такая кафля каштавала дорага і была даступная толькі вельмі багатым людзям. Печы, абліцаваныя такой кафляй, былі больш выразнымі і павінны былі спалучацца з багатым убраннем памяшканняў.

Іншым разам кафлю выраблялі з узорам, які нагадваў дыван. Узор кожнай новай кафліны працягваў узор папярэдняй. Такую кафлю называюць дывановай. Узор дывановай кафлі часта ўтрымліваў выявы любімых кветак нашых продкаў.

**Якія кветкі любілі нашы продкі, калі паглядзець на гэтую кафлю?**
*(Валошкі).*

Мураўленая і рознакаляровая (паліхромная) кафля каштавала даражэй за тэракотавую, таму іншым разам у мэтах эканоміі частку печы абліцоўвалі мураўленай кафляй, а нябачную частку – тэракотавай.

Па прыкладу майстроў з Галандыі, якія любілі распісваць рознакаляровымі фарбамі гладкую кафлю, нашы майстры сталі вырабляць кафлю галандскага тыпу.

**Якія выявы вы бачыце на гэтай гладкай распісной кафлі?**
*(Віцябляне любілі ўзгадваць пра былыя ваенныя паходы, вайсковую славу бацькоў. Гэтыя ўспаміны адлюстраваны ў карцінках на кафлі, якая ўпрыгожвала сцены печак гарадской ратушы).*

### Стэнд з наборам кафлі для печы, выраблена́й на заводзе Б.Я.Лісоўскага (падарунак музею ад мастака Вальнова У.М.).

У цэнтры гэтай залы знаходзіцца кафля ад прыгажуні-печы. Камплект кафлі для печы падараваў нашаму музею віцебскі мастак Вальноў Уладзімір Мікалаевіч. Шмат год назад ён выратаваў гэтую кафлю з дома, у якім пры рамонце будынку замянялі печы на сучаснае цэнтральнае вадзяное ацяпленне. Гэты камплект кафлі быў выраблены ў Віцебску на кафляна-маёлікавым заводзе Браніслава Якаўлевіча Лісоўскага, які знаходзіўся на вуліцы Кафлянай (зараз вуліца Смаленская).

Для печкі выраблялі цэлы камплект кафлі. Для абліцоўкі сцен выкарыстоўвалася сцянная кафля. Для афармлення кутоў выраблялі кутнюю кафлю. Шырокую частку печы з больш вузкай злучала карнізная кафля. Упрыгожанне на версе печкі мае назву "навершша" або "каронка" (калі яна мае зубчатую форму ў выглядзе кароны).

**Да якога тыпу можна аднесці ўзор гэтай кафлі?**
*(Узор гэтай кафлі адносіцца да дывановага тыпу, таму што кожная кафліна гэтай печы працягвае ўзор папярэдняй, а разам яны нагадваюць шыкоўны дыван).*

**Колькі колераў фарбы выкарыстана на гэтай кафліне?**
*(Пяць колераў: шэры, сіні, карычневы, зялёны і ружовы).*

Выразны дывановы ўзор, пяць колераў палівы, заглыблены ступеньчаты рэльеф, спалучэнне гладкіх паверхняў з шурпатымі, а таксама выдатная якасць складаюць сапраўднае ўпрыгожанне гэтай кафлі, выраблена́й на заводзе Б.Я.Лісоўскага ў Віцебску.

## Зала II.

### Вітрына са штампам завода Лісоўскага.

Будынкі завода Лісоўскага захаваліся да нашых дзён. Наш музейны фатограф зрабіў фотаздымкі гэтых будынкаў.

На тэрыторыі завода быў знойдзены заводскі штамп. Надпіс на адбітку можна прачытаць наступным чынам: "За усердие и труд на поприще промышленности".

Завод Лісоўскага меў магазіны ў гарадах, размешчаных за сотні і тысячы кіламетраў ад Віцебска – у Пецярбургу, Варшаве, Саратаве, Растове, Мікалаеве.

Кожная кафля са зваротнага боку мела пячатку-сведчанне, што яна была выраблена ў Віцебску на заводзе Лісоўскага. Кафля завода Лісоўскага славілася далёка за межамі нашага горада. На многіх кірмашах і выставах яна атрымлівала ўзнагароды – медалі за прыгажосць і выдатную якасць.

### Стэнд з кафляй-медальёнам.

Адной з важных дэталяў печы была яе цэнтральная частка, упрыгожанне якой называюць медальёнам. Медальён рабілі распісным, рэльефным ці ляпным.

### Стэнд з навершшам "Рог заможнасці".

Па фрагментах печак мы з вамі можам здагадвацца пра характар, густ і схільнасці гаспадароў дамоў, печкі якіх упрыгожвала гэтая кафля.

На навершшы печы мы бачым рог, які перапоўнены вінаградам і садавінай, так званы "рог заможнасці".

**Што вы можаце сказаць пра гаспадара дома, у якім стаяла печ, упрыгожаная гэтым навершшам з рогам заможнасці?**
*(Рог заможнасці спрадвеку быў сімвалам урадлівасці, багацця, дабрабыту. Гаспадар дома, дзе стаяла печ з гэтым навершшам, імкнуўся перш за ўсё да дабрабыту, багацця, быў гасцінным чалавекам).*

### Стэнд з ляпным састаўным навершшам з рыцарскім шлемам.

Некаторая кафля выраблялася па спецыяльных заказах гараджан. Напрыклад, навершша з рыцарскім шлемам са страусавым пер'ем, пад якім знаходзіцца рыцарскі шчыт, а па баках ад яго – схіленыя сцягі і зброя (мячы). На працягу многіх стагоддзяў гараджане захоўвалі паданні пра рыцарскі гонар, вайсковую славу і доблесць.

### Стэнд з кафляй у выглядзе геаметрычных фігур.

Вялікай папулярнасцю карысталася ў віцяблянаў кафля, упрыгожанне якой складалася з простых прамавугольнікаў і квадратаў.

Амаль кожны дом у Віцебску некалі ўпрыгожвала кафляная печ. Сёння такія печы захаваліся толькі ў некаторых старых дамах.

**Што б вы зрабілі, калі б убачылі кафляную печ на месцы разбуранага дома: а) прайшлі абыякава міма; б) разабралі кафлю асабіста для сябе; в) паведамілі ў музей?**

**Чаму ў наш час мы практычна не маем печак? У чым іх нязручнасць?**
*(Для печак неабходны дровы, якія патрэбна загадзя нарыхтаваць. Пры гэтым знішчаецца шмат лесу, ад спаленых дроў дым і чад забруджваюць гарадское паветра. За печкай неабходны дагляд: трэба чысціць комін, сачыць за агнём, каб не было пажару).*

Усё гэта нязручна для сучасных людзей. Таму месца для кафлі сёння ў музеі. Наш музей мае некалькі камплектаў для печак і камінаў. Мы марым зрабіць музей кафлі, які мог бы расказаць вам, вашым дзецям і ўнукам пра багатую культуру нашага горада, пра шырока некалі распаўсюджанае мастацтва кафлі, якое моцна паўплывала на фарміраванне і выхаванне густаў насельніцтва нашага горада і было добра вядома далёка за межамі Віцебска.

**Ці патрэбны нашаму гораду музей кафлі?**




Са збору музея Марка Шагала ў Віцебску.

У мінулым нумары "Віцебскага сшытка" быў змешчаны артыкул пра ўрача Карла Гібенталя (1786-1858), вынаходніка гіпсавай імабілізацыі ў медыцыне. Дом, у якім ён жыў у Віцебску на сучаснай вуліцы Талстога (былая Падзвінская), не захаваўся да нашага часу. Аднак на паштоўцы, выдадзенай на пачатку XX стагоддзя, мы можам бачыць гэты будынак (першы злева ўнізе).

